ISSN 0130 — 8068

11/2007



# ПОЛЫМЯ

...Стол для частунку, для бяседы,
А на сцяне — рог паляўнічы
І стрэльбіна старога дзеда,
І побач — з кнігамі паліца.
Я ўзяў адну, без пераплёту,
Відаць, шмат па руках хадзіла,
Відаць, чыталася з ахвотай...
«Мой родны кут, як ты мне мілы...»

Максім Танк

# ПОЛЫМЯ

**11**

**(937)**

**2007**

**лістапад**

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС**

**ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2007**

# ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь; грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»; рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



**Мікола МАЛЯЎКА**

# «ЛЮБЛЮ ЖЫЦЦЁ ВА ЎСІХ ЯГО ПРАЯВАХ...»

* * *

Збірае Колас нас, яднае нас.
З любоўю мы прыходзім да паэта,
У дом яго, жыццём яшчэ сагрэты.
Вось-вось адграніць слова, як алмаз,
Дапіша ад рукі радок ці сказ —
І спусціцца па сходках з кабінета
Да нас, на астравок зямнога свету, —
У новае жыццё, у новы час.

Паменей шуму, спеўнага ялею
І ў будны дзень і ў гонар юбілею.
Давайце засяродзімся на міг —
І ў цішыні пачуем родны голас:
Другі ўжо век, жывы сярод жывых,
На працу нас благаслаўляе Колас.

---

*__Маляўка Мікалай Аляксандравіч__ нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у Карэліі лесарубам. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні. Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка».*

*Піша для дарослых і дзяцей. Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы», «Эстакада», «Аднавякоўцы», «Зімні дождж», «Ручнічок на крыжы», «Покуць», «Сядзіба, або Хата з матчынай душою», «Старая зямля» і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

* * *

Жыццё ўставала ў сонечнай красе,
Ды іх за паўналеццяя перавалам
Вайна дагнала — і на фронт забрала.
Апошні раз адбіліся ў слязе
Нябёсы там, на згубнай паласе:
Павыбівала іх чужым металам,
Зямлёй сырой наспех пазасыпала, —
У маладосці засталіся ўсе.

Я іх, далёкіх землякоў, шкадую,
Я ў думках хату кожнаму будую
І за вясельны стол саджу на міг.
А ў вёсцы, дзе пра многіх і не чулі,
Ужо гадуюць праўнукаў сваіх
Нявесты іх — старэнькія бабулі.

* * *

Касіў за бацьку сена дзед-сусед.
Вайна ішла, а ў нас сквірчэла сала:
Яечняй мама дзеда частавала.
Як для мяне, дык царскі быў абед!
Касец, прагаладаўшыся як след,
Над скавародкай завіхаўся дбала,
Відаць было: яечні той замала, —
Падчысціць хлебам скавародку дзед.

З дакорам мама зіркала, ды ўсё-ткі
Не адыходзіў я ад скавародкі.
І дзед не даядаў усіх яец,
Садзіў мяне, малога, на калені,
З усмешкай падахвочваў: «Еш, касец!..»
А мама плакала, сышоўшы ў сені.

* * *

Марозіла ваенная зіма.
З перадавой тады, у час суровы,
І прыляцеў, як галубок паштовы,
Трохкутнічак салдацкага пісьма.
«Як наш сынок? Здаровы?.. Дроў няма —
Сячыце сад, парэжце плот на дровы...»
О, як у тыле грэлі тыя словы! —
Збярогся ліст акопны нездарма.

Даўно ўжо, адрасант і адрасатка,
Для сына вы — журботная прыгадка.
Акацыя над вамі расцвіла, —
А галубок паштовы, склаўшы крылы,
Усё яшчэ жыве ў гняздзе стала —
І сілы мне дае, ахоўнік мілы.

* * *

На фронце ад цяслярства не адвык,
І кожны старшыня ў раёне ведаў
Яго брыгаду — на веласіпедах.
Мой бацька хросны, Мікалай Кулік,
Не вёў сваіх будынінаў падлік,
На рыштаваннях часам і абедаў, —
Узвысіў годна ён занятак дзедаў,
Вясковы самародак-будаўнік.

Паданні сведчаць: у магілу вою
Нашчадкі клалі баявую зброю.
Калі б вярнуўся звычай з даўніны, —
Старога брыгадзіра цесляў, веру,
Ушанавалі б мы, паверх труны
Паклаўшы склюд — цяслярскую сякеру.

* * *

У свеце казак страшна не было.
Я вандраваў за морам-акіянам.
Падпасак, у царэўну закаханы,
Лавіў сваю жар-птушку за крыло —
І нёс я людзям волю і святло:
Змагаўся з Цудам-Юдам акаянным,
Гаіў вадой жывой на целе раны, —
Спрыяў дабру, караў у свеце зло.

Што ўпішам мы ў гісторыі скрыжалі?
Барацьбіты чыноўнікамі сталі,
Сядзяць у крэслах... І не я адзін
Пайшоў бы зноў з ахвотай у падпаскі,
Каб хоць няўзнак, на некалькі гадзін,
Вярнуцца ў свет, дзе засталіся казкі.

* * *

Ярыла едзе на кані вярхом.
На Юр'я выйшаў з міфа, як з магілы,
Зямлі вяртае прыгажосць і сілу.
Ад капытоў наўсцяж — вясёлы гром.
Пад сонцам жыватворным і дажджом
Кусціцца рунь, каб збажына ўрадзіла,
Усюды, дзе спыняецца Ярыла, —
У жніўні плён да каліўца збяром.

Вось так і брыгадзір вясной, у маі,
З каня не злазіў — дбаў аб ураджаі,
Аглядваў кожны палявы загон.
Сур'ёзны хлопец, добры, не з уломкаў, —
І мне Ярылам уяўляўся ён,
Наш брыгадзір вясковы — Юрка Сёмкаў.

* * *

Ці бачылі вы дзятла на зямлі?
Нязграбны, кволы, нейкі засмучоны,
Нібы ад нас чакае абароны.
А ў лесе працаваць пачне калі,
Каб дрэвы не скрыпелі, а гулі,
Звінелі дрэвы — ад камля да кроны, —
Прыгожы ён тады, жывы, натхнёны,
Адпачываць не любіць у галлі.

Кантрастна так, без лішніх слоў і позы,
Змяняюць і людзей метамарфозы.
Здаецца, недарэка з недарэк,
Праходзіш, не звярнуўшы ўвагі, міма,
А ўбачыш, як працуе чалавек, —
І ўжо вачэй адвесці немагчыма.

* * *

У Прыстаньцы турыстаў не відаць.
І Нёман, заламаўшы тут калена,
У цішыні дрымотнай летуценіць.
Цвіце ў затоцы цёмная вада,
Паблісквае на сонцы, як слюда.
А ў лузе збоку, на кацёлках сена,
Стаяць буслы старыя задуменна, —
Шкада зямлю такую пакідаць.

Я разумею птахаў пералётных:
Нялёгка жыць без краявідаў родных.
Хоць намалюй, хвалюючыся сам,
Дуброву, луг, стракозак над затокай,
У рамку ўстаў — і падары буслам,
Каб не тужылі ў Афрыцы далёкай.

* * *

Радня гуляла — людзі ад зямлі.
Жадалі юбіляру-аграному
Здароўя, сонца і дажджу без грому.
За кожны год, пражыты ім, пілі —
І загулі, нарэшце, як чмялі:
«Паелі з воза конікі салому,
Пара́, пара́ ўжо, госцейкі, дадому!..»
На адыход па чарцы налілі.

У небе зоркі залацяцца ярка,
Забыты коні, дзеці, гаспадарка.
Не выпадае пасядзець часцей,
Зачаравала, лучыць песня родная, —
І вывесці на вуліцу гасцей
Ніяк не можа чарка адыходная.

* * *

Спакойная і ціхая спярша,
Ты сіле рук і губ маіх здалася,
Гарыш, нібы і дня няма ў запасе.
Пяройдзена апошняя мяжа:
Усмешка, слёзы, боль і страсці жар —
Усё злілося ў незямным экстазе, —
І быццам растварыліся мы ў часе,
Ляцім да зорак як адна душа.

У зорны свет зямное прыцяжэнне
Нас адпускае толькі на імгненне.
Знясілілі крутыя віражы,
Пачуццяў апустошыла стыхія —
І на зямлю сваю мы, дзве душы,
Вяртаемся, астыўшы, як чужыя.

* * *

У нас з табой быў вечнасці запас.
І пáдалі ранеты — ноч не спала,
А тым ападам быццам чаравала,
Зблíжала ў садзе тым ападам нас.
Уздрыгваючы побач кожны раз,
Ты да мяне пяшчотна прыпадала,
Шаптала: «Заўтра Спас», — і замірала.
«Мядовы!» — я шаптаў табе ў адказ.

З табою вечарую ў адзіноце.
Няма любімай яблыні пры плоце —
Яе, старую, выкарчаваў час.
Ачнуўшыся, дарма шукаю, дзе ты, —
І толькі словы тыя «*Заўтра Спас*»
У сэрцы залацяцца, як ранеты.

* * *

На Нёмане, за вёскаю якраз,
Круглíўся астравок у вербах ніцых.
Пясок зярністы з краю залаціўся,
Каменьчык кожны ззяў, нібы алмаз.
Спрыяла лодка — у халодны час,
І ў вербах я з табою, выпускніцай,
Хаваўся ад людзей і навальніцы, —
Празвалі астраўлянінамі нас.

Я верыў шчыра, з маладым размахам,
Што стане астравок тваім пасагам.
У памяць заляцеў з вярбы лісток
І нагадаў: струхлела наша лодка,
А потым і алмазны астравок
Разлука затапіла, як паводка.

* * *

Жыццё маё, ты на якой вярсце?
Зямля прыбрана ў квецень, як да свята.
Шкадую, адцвілі мае дзяўчаты.
А над ракой чаромха зноў цвіце,
Як маладая ў вэлюме-фаце,
Хоць абдымі і, паказаўшы свату,
Вядзі хутчэй за стол вясельны ў хату, —
Няхай яна красуе на куце.

Узбунтавала ўсю душу чаромха,
Прыгожая, пяшчотная, чароўная,
Як ты калісьці... Я гляджу ў прасцяг,
Да маладых гадоў свой свет звужаю, —
І не старэеш ты ў маіх вачах,
З мінулага выходзячы, як з гаю.

* * *

Пры мне ўдавец, вясёлы дабрадзей,
Вучыў наперад хлопца маладога:
«Запомні, жонка першая — *ад Бога.*
З табой яна і ў шчасці, і ў бядзе,
Як пчолка клапатлівая, гудзе.
Асіраціць сямейная дарога —
Не падай духам, ажывеш, нябога:
Другая жонка ў лёсе — *ад людзей*».

Хацеў спытаць я: «А другой не стане?»
Ды апярэдзіў дзед маё пытанне.
«Я сам, — сказаў, — ад трэцяй жонкі ўцёк,
Як парабак, намучыўся з чацвёртай, —
І адзінцом хаджу цяпер, сынок:
Пасля другой — усе яны *ад чорта*».

* * *

Пажала лета збажыну даўно,
Сустрэла восень шчыра, з хлебам-соллю.
Красуе рунь кастрычніцкая ў полі,
Красуе рунь — зялёнае руно:
Пад снегам сілу зберажэ яно,
У стынь не вымярзаючы ніколі,
Як знак жыцця — у гербе нашай долі,
Нідзе палоскі чорнай не відно.

За светам не шукаем скарбаў рэдкіх,
Знаходзім дома, на сваіх палетках.
Даспее збажына ў шчаслівы час:
Не выб'е град, не зложаць з ветрам ліўні —
І залатым руном усцешыць нас,
Вясковых арганаўтаў, лета ў жніўні.

* * *

У храм вяла калядная зіма,
Запальваліся свечкі ў памяць продкаў.
І мы да першай зорачкі зіхоткай
Глыталі слінку дома нездарма,
Бо цешыў потым страў святочных смак:
І каўбаса, і студзень, і сялёдка,
І масла, і кісель з сытой салодкай, —
Куцця для нас і тых, каго няма.

Не замыкала свята нанач дзверы,
Не прыбірала са стала вячэру.
Казала мама: «Ляжам, дзеці, спаць, —
І продкі, Божым збуджаныя словам,
Збяруцца ў хаце нас павіншаваць
З вялікім святам — Ражаством Хрыстовым».

* * *

Як быццам прадчувала свой зыход
Суседка — цётка Маня: цераз сілу
Падгрэбла лісце ў садзе і спаліла,
Злажыла дровы, паднавіла плот,
Пераарала на зіму гарод,
Прыбрала ў хаце, вокны ўсе памыла,
Да мужа на пагост пасля схадзіла, —
І легла, каб не ўстаць пад Новы год.

На нас яна, яшчэ і не старая,
З акенца медальёна пазірае.
З малітвай правялі ў апошні шлях,
Прыгожа ўшанавалі напаследак —
За ўсё жыццё і дома, і ў гасцях
Ёй не дарылі столькі слёз і кветак.

* * *

Гранітны крыж над цёмнаю плітой.
А побач, за чыгуннай агароджай,
Бярозка паднялася з ласкі Божай.
У свеце гэтым — незямны спакой.
Панікшы, чалавек прыпаў шчакой
Да той бярозкі, стройнай і прыгожай,
І асцярожна, каб не патрывожыць,
Правёў па белым станіку рукой.

Ад сілы смутку і пяшчоты гэткай
Замёр паблізу я, міжвольны сведка.
Не знаю, хто ён, чалавек чужы,
Але дамоў, у горад свой ці вёску,
Ён панясе ў абноўленай душы
Не цень ад крыжа, а святло бярозкі.

* * *

Зімой у выраі жыву, як шпак,
Зімой у хаце роднай не бываю,
А ў хат, як і ў людзей, — душа жывая.
Забыўшыся прыгнуцца, аб касяк
Балюча стукнуся, нібыта так
Мяне старая хата дакарае:
Чаму сядзеў у горадзе да мая?..
Душа спявае, хоць на лбе гузак.

Я хату разумею, вінаваты,
І словам грубым не пакрыўджу хаты.
Сагрэю, прыбяру — і ў думках зноў
Нагаваруся вечарам уволю:
Усю, ад касяка да абразоў,
Люблю яе, самотную, да болю.

* * *

Я абіваю з чаравікаў снег,
Як Дзед Мароз, адтайваю ў парозе —
Цяпло па целе ласкай разлілося.
Чуваць, крутога ветру шквал прабег,
І дома, распрануўшыся наспех,
За тых малюся ў думках, хто ў дарозе:
Брыдзе праз снег, калее на марозе, —
Дай Божа ўсім вандроўнікам начлег.

Змяла завея з неба зоркі ясныя,
А маячок акна майго не гасне.
Не ўсе знялі цяжар з душы, з плячэй,
Не ўсе яшчэ дайшлі да роднай хаты —
І, можа, на адлегласці лягчэй
Камусьці стане ад маёй спагады.

* * *

У галалёд, гляджу, як па катку
Ляціць машына хуткай дапамогі.
Магчыма, да інфарктніка-нябогі:
Вісіць яшчэ ў яго на валаску
Апошняе зязюльчына «ку-ку».
І за вярсту чуваць сігнал трывогі —
Спыняе рух, зганяе ўсіх з дарогі,
Аж святлафоры дзівяцца ўбаку.

Хутчэй! Хутчэй! Зялёная дарога
Ад дому да бальнічнага парога.
Секундай кожнай даражыць урач, —
Каб чалавек на ногі стаў трывала
І смутак не трывожыў, як крумкач,
А зноў яму зязюля закувала.

* * *

Жаўцее з жытніх каласкоў шлячок.
Здаецца, адчуваю пах духмяны
Ад каласкоў — на полі палатняным.
Лагодзіць сэрца мне і цешыць зрок,
Бо не чужы ён, гэты ручнічок,
А свой, на кроснах мамаю сатканы,
Адбелены расою і туманам, —
Зярнятак поўны кожны каласок.

Жыццё змяняе постаць, рысы твару,
Жыццё заходзіць за нябыту хмару.
Я папрашу нашчадкаў маладых,
Каб ручнічок паклалі ў дамавіну:
Па ім пазнае мама праз гады
Мяне, свайго немаладога сына.

* * *

Не спіцца мне ў бальнічным тупіку.
Трывожыць неспакойных дум крамола:
«Відаць, ад'ездзіў, адхадзіў, Мікола».
Кальнула тупа злева, у баку.
Абмацваю кішэні ў пінжаку,
Шукаючы таблетку валідолу.
І чую: брынкнулі ключы вясёла, —
Засумавалі, мабыць, па замку.

Рука яшчэ не адшукала лекі,
А сон як мёдам змазвае павекі.
Хвароба не адлучыць ад дарог,
Не лягу пад бярозкай нерухома,
Пакуль у цішыні як абярог
Звіняць яны, мае ключы ад дома.

* * *

Заблытаны сюжэтныя хады,
Няма старонак лішніх, нецікавых
У спавядальна-шчырай кнізе явы.
Я шмат за век свой зведаў сапраўды —
Пад знакам шчасця, смутку і бяды.
Люблю жыццё ва ўсіх яго праявах —
Рабоце, горкім роздуме, забавах, —
Дапішуць лёс наступныя гады.

Не зменіш і не выкінеш нічога
Ад першага радка да эпілога.
Тут дарагое ўсё: і смех, і плач,
І ход падзей спакойных, без інтрыгі, —
Ты сам герой, і аўтар, і чытач
Жыцця свайго — дакументальнай кнігі.





**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# ВЯРТАННЕ

*(Сямейная хроніка)*

## *Частка трэцяя*

### VII

Дзванарык нешта, відаць, падазраваў. І вока, і вуха меў спрактыкаваныя. Ён, стары філёр, чуў крамолу за вярсту і не надта верыў у магчымасці цяперашняй польскай паліцыі: «Куды пшадоўніку супраць урадніка?» — часта казаў ён. Неблагі нюх (хоць з бацькам і не параўнаць) быў і ў яго сына Восіпа, які, як і Канстанты, таксама час ад часу, пад вечар, соўгаўся ля Галёнкавых вокан. Згледзеўшы яго, мужчыны бралі карты і рэзаліся ў «дурня» і пры гэтым гучна перамаўляліся. У хату Восіп не заходзіў, але ў акно адным вокам касіў. Косця, заўважыўшы гэта, стаў раіцца з дзядзькам Цімошам.

— Канстанты з паліцыяй звязаны, — сказаў пра Дзванарыка Цімоша. — Добрага ад яго не чакай, хоць ён твой бацька хрышчоны.

— Не бойся, дзядзьку! Я ведаю законы, інфармацыя платнага агента для суда не доказ! Але, з другога боку, ты маеш рацыю. Трэба недзе ў іншым месцы сабраць таварышаў! Давай думаць!

Сабраліся на млыне, якім апошнім часам запраўляў Сцяпан Сталетнік. На дварэ ліло, як з вядра, дзьмуў моцны вецер. Пачыналася асенняя слата, а тут, у сярэдзіне млына, было суха і нават цёпла. Пахла мукой і расцярушанай саломай. На млын з'язджаліся людзі, абменьваліся думкамі і мясцовымі навінамі. Гэта днём. Ноччу ж млын не працаваў, але гурткоўцы шчодра абцерусілі сябе мукой і ў поцемках выглядалі зусім белымі. Як бы толькі што малолі і ссыпалі муку ў мяшкі.

— Цёмна, хоць ты ў морду дай, — прабурчэў Ламака. — Ну і ну!

Зайшоў, ледзь скрыпнуўшы дзвярыма, Косця. Агледзеўся ў начным цемрыве, заўважыў белыя постаці.

— Правільна, таварышы! — пахваліў канспіратараў. — Разумна! Разумна прыдумалі з мукой.

— Можа, свечку запаліць? — прапанаваў Цімоша.

— Не трэба.

---

Заканчэнне. Пачатак у № 10, 2007 г.

Паселі вакол вялікай скрыні, у якую ссыпалі муку. Цяпер яна была пустая. Адчувалася ўрачыстасць моманту, нават нейкая прыўзнятасць. Яны ўспрымалі сябе членамі нейкай вялікай таемнай арганізацыі, і гэта надавала ім сур'ёзнасці і самапавагі. Гаварылі шэптам.

— Павал просіцца ў гурток. Што з ім рабіць? — заварушыўся Пятро Ламака.

— Які Павал? — спытаў Косця.

— Гальяш.

— Надта разумны, — азваўся са свайго месца Міхаль Тупчык. — Не трэба нам такі.

— Я згодзен з Міхалём, — падтрымаў Тупчыка Цімоша. — Ведаеце, што кажа Павал? Кажа, каб не пашкодзіла нам залішняя палітызацыя, вось што ён кажа.

— Палітызацыя яшчэ нікому не шкодзіла, — супакоіў прысутных Косця, — а пра пашырэнне радоў трэба думаць.

Недзе брахаў сабака. Не хапала аднаго толькі Гамона, які, відаць, пазніўся.

— Пакуль збяромся, людзі ноч разбяруць, — падаў голас Галёнка.

— Пачакаем крыху, пакуль збяруцца. Трэба было б узброеную ахову выставіць! — зазначыў Косця. — Для пэўнасці!

— Нашто? — не зразумеў Галёнка.

— Паложана так!

Галёнка прыклаў далонь да шчакі і ціха засмяяўся, успомніўшы нядаўні выпадак. Апошнім часам па вёсцы хадзіла прызначаная солтысам начная варта. Чаргу адбывалі Гамон з Пятром Ламакам. Не абышлося без казусу. Гамона воўк пакусаў. Здарылася гэта пад раніцу — цяжка паверыць — у самой вёсцы на вуліцы. Да поўначы. Пасядзелі вартаўнікі ля Шпронькавай лаўкі, скурылі па дзве цыгаркі і дамовіліся зрабіць апошні абход, каб затым разысціся па хатах. («Баба чакае», — сказаў Гамон.) У кожнага ў руцэ па добрым кіі. Пра ўсё, здаецца, перагаварылі, як потым расказваў Ламака, ішлі моўчкі, абмінулі ўраднікаву лужыну і Відэркаў двор, пратупалі ажно да Шведавага калодзежа і тут, нос у нос, сустрэліся з мацёрым, амаль сівым ад старасці ваўком, які, валюхаючыся, выбег з-за Ламакавага хлява на вуліцу, цягнучы ў зубах здаравенную авечку. Ламака заўважыў, як у ваўка, пачала ўзнімацца поўсць на загрыўку і паміж лапатак. Вартаўнікі, і адзін, і другі, спалохаліся да непрытомнасці, аднялася мова, і невядома, што было б далей, калі б Пятро не пазнаў сваю ярачку. «Мая авечка!» — мільганула ў яго галаве, і ён, не памятаючы як, з усяе сілы спляжыў кіем драпежніка паміж вушэй, ды так трапна, што ажно нешта бомкнула ў ваўчынай мазгаўні. Воўк ад нечаканасці асеў на зямлю і выпусціў з зубоў авечку. Ламака, думаючы, што ён забіў ваўка, схіліўся над авечкай, якая ляжала крыху ўбаку: можа, яшчэ жывая? Гамон жа, крыху апрытомнеўшы, са страху кінуўся наўцёкі, далей ад бяды, але паспеў зрабіць усяго толькі два ці тры крокі, як воўк падняўся і, клацнуўшы клыкамі, адным махам дагнаў яго, збіў з ног і пачаў шматаць за полы, каб дабрацца, мусіць, да жывога. У драпежніка, аказваецца, яшчэ былі сілы. Убачыўшы такое, Ламака, трэба аддаць яму належнае, не разгубіўся і стаў пляжыць ваўка сваім цяжкім кіем, а потым уссеўся на яго вярхом, схапіў за вушы і пачаў клікаць на дапамогу. Збегліся людзі. Ваўка звязалі. Ён паспеў ухапіць Гамона за вуха і пракусіць яго, таму што той, акрываўлены і плачучы (кроў залівала вочы), крычаў: «Дзе я? Ці ён мяне ўжо з'еў?»

...Гурткоўцы чакалі, і, нарэшце, дзверы адчыніліся, і на фоне начнога неба паказалася прыгорбленая Гамонава постаць. Пасля таго выпадку Гамон паспеў ужо ачуняць і цяпер сцвярджаў нават, што гэта ён сумысля гэткім чынам хацеў затрымаць ваўка, каб Ламака змог на яго сесці...

— Ну, цяпер, здаецца, усё, — парушыў маўчанне Косця. — Кворум у нас ёсць.

Ніхто не ведаў, што такое кворум, але і спытаць ніхто не рашыўся. Няёмка паказваць сваю недасведчанасць.

— Ці ўзялі з сабой карты? — пацікавіўся Гамон. — Калі што якое — у карты гуляем. Ніякі дурань не прычэпіцца…

— Цёмна! Якія карты? Ты што? — абарваў яго Цімоша.

— Нам трэба называцца, як у Расіі! — зноў вытыркнуўся Гамон, крывячы набок галаву на тонкай шыі.

— А як у Расіі? — папытаў Сцяпан Сталетнік, які ў бежанстве не быў.

— Ну, імёны інакшыя ўзяць, як у Расіі некалі, — патлумачыў Гамон. — Ён, да прыкладу, — Гамон паказаў на Косцю, — будзе Пяцельнікаў, ён, — тут Гамон ткнуў пальцам убок Цімошы, — Фролка, Ламака мог быць Каросціным… Як у Запалонным!

— А ты? — перабіў Гамона Міхаль Тупчык, таксама ўспомніўшы Запалоннае.

— Я? Я мог бы, як Таццян Чудайкін…

Тыя, хто быў у бежанстве, успомніўшы Таццянку Чудайкіна, засмяяліся, прыгадаўшы запалонаўскага дзівака.

— Цішэй, таварышы! — абсек іх Косця. — У гэтым пакуль што няма патрэбы. Давайце прыступім бліжэй к дзелу, дзеля чаго, уласна кажучы, сабраліся. Дазвольце пачаць з міжнароднага становішча.

Усе падрыхтаваліся слухаць, затаілі нават дыханне.

— Пратакола не пісаць! — як бы між іншым папярэдзіў Косця, хоць гэтага можна было і не рабіць, таму што ніхто нічога не збіраўся пісаць, не было нават паперы.

— Не паложана, — дадаў Гамон, больш за ўсіх адчуваючы незвычайнасць і важнасць гэтага пасяджэння.

— Што мы маем на сённяшні дзень, таварышы? — Косця абвёў прысутных уважлівым позіркам, заглядваючы кожнаму ў вочы. — На сённяшні дзень мы маем далейшае абвастрэнне класавай барацьбы!

Усе насцярожыліся: куды хіліць гэты Косця і што з гэтага можа быць? Месячнае святло, што пранікала скрозь шчыліны, ледзь-ледзь пазначала аблічча прысутных.

— Мы павінны гэта ўсведамляць, таварышы. Больш таго, мы павінны сабраць факты аб самавольстве польскіх акупантаў. Гэта мы часова так жывём. Пад абцасам. Яно праміне, як ліхі сон. Але трэба не спаць! У Заходняй Беларусі, як вам вядома, ужо арганізавана работніцка-сялянская Грамада, вакол якой гуртуюцца тысячы і тысячы нашых прыхільнікаў. У Вільні работніцка-сялянскай Грамадзе процістаіць хіба што толькі нешматлікая Беларуская часовая рада на чале з Паўлюкевічам. Гэта здраднікі, згоднікі і паланафілы.

Што гэта такое — «паланафілы», ніхто з прысутных не ведаў, але ніхто не хацеў паказаць сваёй недасведчанасці. Гамон на ўсякі выпадак сказаў:

— Пакорлівасці патрабуюць, а я гэтага, брат, не магу! Я свабодны!

— Таварышы, цішэй! — глянуў у яго бок дакладчык. — Уперадзе нас чакае цікавая работа, але трэба больш арганізаванасці! Тады і справы пойдуць байчэй!..

У памяшканні зноў запанавала цішыня. Падзьмуў вецер, і ў ветраку заскрыпеў верх. Заскрыпеў раз, другі.

— Нешта скрыпіць увесь — каб не перакуліўся! — устрывожыўся Цімоша.

— Ты што? — абурыўся Сцяпан. — Такога не можа быць!

Тупчык ад страху ўгнуў галаву ў плечы.

— Таварышы, — працягваў Косця, — перад намі стаяць сур'ёзныя задачы, трэба забраць зямлю ў абшарнікаў і выгнаць к чорту асаднікаў. Вось так! Карацей кажучы, трэба дарабіць тое, чаго недарабіў Скамарох. Пытанне цяпер, як будзем дзяліць панскі маёнтак: збожжа, зямлю, інвентар…

— Скаціну таксама? — запытаў Пятро Ламака.

— Дзела дзелаць трэба! — падхапіў Гамон. — Мы ўсё ж такі для народу работаем.

— Падгурскаму трэба скірду падпаліць, — прапанаваў Цімоша, азіраючыся, як на гэта адрэагуюць хаўруснікі.

— Пеўня яму ўжо нехта падпусціў! — напомніў Гамон. — Забіць бы гада!..

Усе падзівіліся з Гамонавай смеласці — гэткага ад яго не чакалі. Перайначыўся чалавек на вачах. Мусіць, пасля таго выпадку з ваўком стаў такім, ці што?

— Індывідуальны тэрор — не наш метад… — прыпыніў яго і астатніх Косця. — Гэта ўжо даказана гісторыяй.

— Калісьці Сапляк страху ім наганяў, — успомніў Сталетнік, — але цяпер нешта не чутно яго, знік.

— Паны — сволачы, — як бы падагульніў Цімоша, і ніхто не запярэчыў. У гэтым пытанні яны былі аднадушныя.

— Бачыш, Мікола Шпронька, — падаў голас Тупчык, — свае гадоўлі пан, а горш, ніж чужы! За наш кошт нажываецца! Тоўсты стаў, як свіння!

— Каб яму калаццё ў бок уперлася! — не вытрымаў Ламака, які быў сярдзіты на лавачніка, што той перад Пасхай не даў яму напавер селядца, і пасціць давялося з адной бульбай.

— Ціха! Прытрымай язык! — накінуўся Галёнка. Шпронька па-ранейшаму браў яго часам за фурмана, калі лавачніку трэба было ехаць за таварам ці па начальстве.

— Цішэй! Таварышы! Колькі можна гаварыць! — не вытрымаў Косця, які баяўся разладу паміж сваімі. Разлад у сваіх шэрагах — горш за ўсё. — Дайце скончыць думку! Ваша задача — агітацыя сярод мясцовага насельніцтва, байкот шарваркаў і падаткаў. Не плаціце падаткаў! Колькі можна!

— Проста сказаць — не плаціце. А калі секвестратар? — ціха запярэчыў Сцяпан Сталетнік. — Усё забяруць…

— Ці не ходзіць нехта? — занепакоіўся Галёнка і туды-сюды крутнуў галавой.

— Можа, чэрці?.. — не то пажартаваў, не то сказаў усур'ёз Ламака.

— Кажуць, што яны і жывуць у млынах, — азірнуўся па баках Гамон.

Косця, уздыхнуўшы, ціха пастукаў пазногцем аб стол.

— Трэба, таварышы, не забываць пра пільнасць у нашых радах. Тое, пра што мы гаворым, хай будзе паміж намі. Канспірацыя ёсць канспірацыя!

— Наверсе нехта ходзіць! — зноў занепакоіўся Галёнка, як бы пацвярджаючы толькі што выказаную перасцярогу.

— Можа, Канстанты высочвае? — падаў думку Гамон.

— Гэны можа, — згадзіўся Тупчык і яшчэ болей угнуў галаву ў плечы.

Усе прыслухаліся, але нічога падазронага не ўчулі. Млын ахутала цішыня. Толькі недзе на ўскраі вёскі, мусіць, у Паўла Гальяша, нечакана і прарэзліва, на ўсё горла, праспяваў певень: «Ку-ка-рэ-ку!»

— Скамарох некалі ім добра ўцяў, — сказаў Цімоша. — Аднойчы я яго бачыў, але, праўда, здалёк. Зброі на ім было поўна!

— Пра партызанскі рух пакуль што гаворка не ідзе, — сказаў Косця, — партызанскі рух па сутнасці згарнулі. Але прыйдзе час!

Разыходзіліся, як праспявалі трэція пеўні. Некаторыя пазяхалі, прыкрываючы рот далонню. Косця развітваўся з кожным асобна, падаваў і моцна трос руку. Разышліся па правілах канспірацыі — у розныя бакі.

Праз нейкі час у гурток былі прыняты Фэдар-японец і малады Паздзей. Аднак далёка не ўсе далучыліся да гуртка. Засталіся ўбаку Лявон, Павал Гальяш ды і многія іншыя. А неўзабаве перастаў хадзіць на пасяджэнні гуртка Аляксей Галёнка. І не дзіва: Галёнка — фурман лавачніка Міколы Шпронькі, якому ўтварэнне гуртка невядома чаму не спадабалася адразу.

Лявон заставаўся ўбаку. Ён, як і раней, быў упэўнены, што жыць трэба па-свойму, не кіравацца чужым розумам, не выстаўляцца на пярэдні план. Верх бралі характар і развага. Ён паважаў людзей і ў душы нават зайздросціў тым з іх, каму ўдавалася заставацца свабоднымі і незалежнымі. З другога боку, падступала пытанне, як палепшыць жыццё? Душылі нястачы, малазямелле. Усё больш вузелі палоскі. Але нават і тую, што была, зямлю апрацоўвалі дзедаўскім спосабам. Сплата шматлікіх падаткаў не давала селяніну магчымасці быць незалежным, развіваць і ўдасканальваць гаспадарку, бо грошай на гэта не заставалася. Заходняя Беларусь усё больш ператваралася ў панскую калонію.

Лявонам гурткоўцы былі незадаволеныя.

— Што ж гэта ён — і нашым, і вашым? — жартаваў Сцяпан Сталетнік. — Ухіляецца?

— Ну, гэта ты, можа, і дарэмна гаворыш… — не згадзіўся з ім Ламака.

Гугнява бубнеў Гамон, крывячы тонкую шыю:

— Марыканец ён! Такія нашу праўду мала разумеюць…

— Дык і я ж марыканец! — напомніў яму Косця.

— Ты — іншая справа.

— З намі Лявону не па дарозе, — падтрымаў таварыша Міхаль Тупчык, — трэба аб'явіць яму байкот.

— Лявон — стрэляны верабей, — усміхнуўся Косця і дадаў: — Чалавек ён, мне здаецца, неблагі. Пачуццё справядлівасці ў яго ёсць.

Адчуўшы, што яго ўжо не клічуць на пасяджэнні «сейма», Лявон усё зразумеў.

* * *

Пані Пакорскую Фёкла сустрэла каля Шпронькавай лаўкі. Павіталіся, і Фёкла спытала:

— Скажыце, проша пані, а як вучыцца мой сын?

— Базыль? Выдатна!

Фёкла падзякавала настаўніцы.

— Я ім вельмі задаволена! Ведаеце, з яго мог бы быць добры ксёндз! — дадала тая.

— Дык ён жа праваслаўны!

— Хіба складана перайсці ў каталіцкую веру?

Фёкла незразумела паглядзела на настаўніцу і, успомніўшы, што тая — у Прусцы не пераставалі пра гэта гаманіць — блізка сябруе з папом, сказала:

— Як для каго…

— Я яму кніжку дала Марыі Канапніцкай, — як бы пахвалілася настаўніца. — Хай чытае!

На гэтым яны развіталіся.

## VIII

Адносіны паміж Лявонам і Косцем засталіся даволі даверлівыя і па-чалавечы спагадныя. Аднойчы Лявон спытаў у яго пра Кляновіка:

— А як Андрэй?

Косця азірнуўся навокал і ўздыхнуў:

— Ну, што вам сказаць, дзядзьку — сядзіць.

Не так даўно Косця быў у Лісакоў, але пра лёс Кляновіка яны нічога не ведалі, апроч таго, што яго з Пружанскай турмы к таму часу перавялі ў Брэсцкую. На новае месца «жыхарства». Зрэшты, турма была яму добра знаёмая: у 1920-м, калі знаходзіўся ў Брэсце, сам садзіў туды польскіх вайскоўцаў і адміністрацыю, якія атабарыліся ў горадзе і не паспелі збегчы за Буг ад імклівага наступу дваццаць сёмай стралковай дывізіі. У 1915 годзе Брэст згарэў дашчэнту, але турма засталася. Яшчэ царская, яна была падобная на Пружанскую, таксама з чырвонай цэглы, толькі большая па памерах — трохпавярховая. Стаяла на беразе Мухаўца за глухой каменнай агароджай, абвітай паверсе яшчэ і калючым дротам.

...Калі ён пераступіў парог камеры і наглядчык у карычневым мундзіры грымнуў за ім дзвярыма, хтосьці з камернікаў кінуў пад ногі белы палатняны ручнік.

«Крымінальнікі!» — зразумеў Кляновік і павольна выцер аб ручнік ногі. Ён ведаў, што «новенькі», па заведзеным сярод крымінальнікаў звычаі, менавіта так далучаецца да турэмнай сям'і арыштантаў. І ён далучыўся. Сярод вязняў былі канакрады, злодзеі, самагоншчыкі, растратчыкі, але і палітычных сядзела шмат, асабліва пачынаючы з 1926 года, калі па КПЗБ быў нанесены моцны ўдар. Тады польскія ўлады арыштавалі 1354 чалавекі, сярод якіх нямала было і членаў Брэсцкай акружной арганізацыі.

Турэмныя ночы — бяссонныя. Вязні, атупелыя ад цяжкага паветра, пазіралі ў закратаванае акенца на зоркі. Нячутнымі кацінымі крокамі хадзілі па калідоры наглядальнікі і зрэдку заглядвалі ў камеру праз вочка ў дзвярах. «Вока Іуды» — празвалі гэтую дзірку з вечкам па той бок дзвярэй вязні. Праз тыдзень-другі Кляновіка, па яго настойлівым патрабаванні, перавялі ў камеру, дзе знаходзіліся палітычныя.

Кармілі ў турме слаба. Увесь час хацелася есці. Каб заглушыць адчуванне голаду, вязні дыскутавалі. У турме кожнае тваё слова заўважаецца, кожны рух навідавоку.

Кляновіку ўсё гэта было добра знаёма, і напачатку ён маўчаў, больш слухаў. Ужо колькі часу цягнулася дыскусія, ці варта камуністам змагацца за вызваленне прыгнечаных народаў. Гаманіў Пякарскі, які сядзеў на нарах, худымі рукамі абхапіўшы калені і пазіраючы ў нейкую адну кропку. Кляновік яго ведаў: Пякарскі да арышту ўзначальваў падгарадскую партарганізацыю ў Турне, побач з Брэстам.

— Ужо ёсць горкі вопыт: руская рэвалюцыя дала палякам незалежнасць, а што атрымалася? Атрымалася горш, чым думалі! Уваскросшая з мёртвых Польшча душыць рабочы рух, сама прыгнятае заваяваныя ёю народы. Майскі пераварот падтрымалі...[1]

— Пралетарыят тут не пры чым, — азваўся з кутка малады хлопец-брэстаўчанін, — ён не вінаваты.

Гэтага брэстаўчаніна Кляновік ведаў: прозвішча яго было — Саванеўскі. Блізкі быў да рэўкома яшчэ ў дваццатым. Побач з Саванеўскім сядзеў, прыхінуўшыся да сцяны, яго таварыш Іосіф Куркоўскі, таксама з Брэста.

---

[1] Маецца на ўвазе майскі пераварот 1926 г., здзейснены Пілсудскім, які падтрымала Кампартыя Польшчы.

— Усе людзі падобныя: жывуць, працуюць, пакутуюць, — загаманіў нейкі незнаёмы ў паношанай турэмнай форме, з маршчыністым непаголеным тварам.

— У Амэрыцы працуюць, але там і плацяць добра, — сказаў нехта.

Тут Кляновік не выцерпеў:

— Гэта так, — уключыўся ён у дыскусію, — жывуць, працуюць, але жывуць капіталісты, а працуе — бедната, пралетарыі. Працуе і бядуе! Там ніхто не дапаможа. Амерыку, хлопцы, я ведаю, як свае пяць пальцаў. Быў там, і не адзін год. Амерыканец плаціць падаткаў больш, чым атрымлівае.

— Як так? — не паверыў Пякарскі.

— Крэдыт бярэ ў банку і хоць такім чынам канцы з канцамі сточвае. Не паміраць жа!

— Але там дэмакратыя! — запярэчыў усё той жа голас, які хваліў амерыканскія заробкі.

Кляновік уважліва і досыць скептычна паглядзеў на свайго апанента:

— Не вучы мяне, дарагі дружа! Ведаю я тую дэмакратыю! Той жа, па сутнасці, царызм, толькі ананімны, безыменны. Цара як бы і няма, але ён ёсць! Вось у чым справа — у іншых словах. Усяго толькі!..

На момант змоўк і падумаў пра Амерыку. Пра яе ён помніў. Нават зараз туды б паехаў, калі б паслалі. Але ведаў: сёння ён там не патрэбен. Быў! Сёння там іншыя…

Крыху памаўчаўшы, аддыхаўшыся, працягваў:

— Гэтак усюды, бо кожная нацыя складаецца з двух класаў: эксплуататары і эксплуатуемыя. Цяперашняя дзяржава — з'ява класавая. І Ленін гэтак кажа. Тут дзвюх думак быць не можа. Яснае дзела. Эксплуатататары кроў вашу п'юць! Капіталіст мае з вашай працы прыбавачны кошт! Нагадавалі жываты з вашае працы! І ў Амерыцы я тое ж самае бачыў! Ведаеце, што сказаў Марк Твэн? Гэта пісацель там такі. Банкір, кажа, гэта чалавек, які пазычае табе парасон, калі свеціць сонца, і адбірае яго ў той самы момант, калі пачынаецца дождж. Камуністы, яснае дзела, змагаюцца супраць таго, каб адзін чалавек панаваў над другім. Рэвалюцыя — немінучая. Ад яе далярамі не адкупішся. Не, не адкупішся!

— З эксплуатататарамі мы цырымоніцца не будзем! Гэта не сакрэт… — перабіў яго Фама Голуб — камсамолец з Лесак (вёска пад Камянцом).

У размову ўмяшаўся Іосіф Куркоўскі, напомніўшы:

— Паны не хочуць саступіць месца.

— Саступяць! — упэўнена ўзмахнуў рукой Кляновік. — Як міленькія! Трэба браць кроўю і жалезам, што нам паложана! Запомніце гэта! — Ён раптам асекся, успомніўшы, што ў камеры могуць быць шпіёны ды правакатары. Гэтага апасаўся больш за ўсё, таму скончыў сцішаным голасам: — Я сам яшчэ спадзяюся да гэтага дажыць. І дажыву!

Аднакамернікі слухалі яго ўважліва, амаль не заглядаючы ў рот. Ён быў для іх аўтарытэтам. А Кляновік любіў бачыць перад сабой слухачоў, любіў ім расказваць пра нешта, тлумачыць, пераконваць.

— Нацыянальнае вызваленне, — зноў пачаў ён, — гэта яшчэ далёка не ўсё. Сёння нацыянальная абмежаванасць можа толькі напсаваць. Такіх прыкладаў шмат…

Ён успомніў пра Грамаду, якая зусім нядаўна ўзнікла на «крэсах усходніх» і самаўпэўнена называла сябе «работніцка-сялянскай». Апошнім часам пра яе толькі і гаварылі. Гаварылі, але што з таго! Адна назва чаго вартая: работніцка-сялянская. Спалучылі арла з чарапахай. Узнікла Грамада, праўда, без яго ўдзелу (іншыя папрацавалі), але ён усё роўна сачыў за яе дзеяннямі. Не ўсё прымаў. Многае адмаўляў. Вузка бяруць, асветнікі і толькі. Ім здаецца,

калі балота якое-небудзь асушылі ці васьмігадзіннага рабочага дня дамагліся, дык ужо немаведама чаго дасягнулі. Дзівакі! Што тычыцца сялян, то ім ён ніколі не давяраў: дробная, але буржуазія! Сёння ён дробны, а заўтра — кулак, фальварковец.

— Класавая барацьба яшчэ сябе пакажа! — зноў напомніў пра сябе Фама.

— Па-добраму, відаць, не атрымаецца, — згадзіўся з ім Куркоўскі.

— Але, — падтрымаў яго Мікалай Кулік, сімпатык з Кобрына, якога Кляновік таксама ведаў, бо не раз сустракаліся на волі.

Нехта, заснуўшы, цяжка хроп. Кляновік абвёў позіркам сяброў і загаварыў зноў, у голасе пабольшала павучальных нотак:

— Сіла разбурэння бушуе, каб абудзіць сілу тварэння. Калі знішчым гэты лад, гэтыя парадкі, паноў і падпанкаў, буржуазію ўсіх масцей, дык такое жыццё пабудуем, што і паміраць не захочацца. А з цягам часу і смерць адступіць — навука вынайдзе сродак! Чалавек будзе жыць гадоў да ста пяцідзесяці, а можа, і больш!

— Народу столькі пабіта, рэкі крыві, і ніхто нават не пакаяўся, — забубнеў, як бы наракаючы на некага, усё той жа вязень з непаголеным маршчыністым тварам.

— Дык што, ворагаў шкадаваць? — сумеўся Кляновік, незадаволена чмокнуў губамі і матлянуў галавой. — Вы ж зразумейце: у белых пальчатках рэвалюцыі не зробіш! Белякоў трэба было разбіць! Раз і назаўсёды!

— Дык што, і тут грамадзянская вайна будзе? — не суніма ўся незнаёмы. — І тут бацька з сынам змагацца пойдзе?

Але збіць Кляновіка з толку было немагчыма, ён толькі на хвіліну задумаўся і цвёрда сказаў:

— Ну, што я вам скажу? Без ахвяр нічога не даецца. Сацыялізм варты таго, каб дзеля яго ўсім ахвяраваць, нават самім жыццём!

Вязень, як заведзены, працягваў цвердзіць сваё:

— Што такое грамадзянская вайна, я добра ведаю. Мы якраз у бежанстве былі, у Мелякесе, набачыліся. Партыя на партыю! Сёння адны, заўтра — іншыя. Ледзь ўбераглiся…

— Адкуль ты? — пацікавіўся Кляновік.

— З-пад Камянца, — адказаў вязень.

— Падкупілі цябе, ці як?

— Ніхто мяне не купляў!

— А сядзіш за што?

— За падаткі.

— За падаткі? Ну, гэта робіць табе гонар.

— За што гонар?

— А за тое, што падаткаў не плаціш.

Вязень няўцямна пацiснуў плячыма, уздыхнуў.

— Дык вось, дружа, каб ты ведаў: пры сацыялізме ніякіх падаткаў не будзе, так што сядзець не давядзецца. Запомні гэта!

— Пры сацыялізме і турмаў не будзе, — упэўнена дапоўніў Кляновіка Фама.

— Леніна вось няма, — пашкадаваў Мікалай Кулік. — Надта яго шкада…

Камера напоўнілася прыцішаным гоманам:

— О-о! Ленін быў галава! — загаварылі вязні.

— Сапраўды!

— Галава!..

— Цішэй! — пачулася з-за дзвярэй. Гэта быў патрабавальны голас наглядчыка. — Чуеце? Цішэй! А то загрыміш у мяне! Карцэр пакуль што пусты!

Камера на нейкі час аціхла. Чакалі, пакуль наглядчык не зачыніцца ў сваёй каморцы.

Адміністрацыя Брэсцкай турмы забараніла на той час «бальшавіцкія» кнігі (г. зн. выдадзеныя ў СССР), а таксама забараніла вязням перадаваць адзін другому газеты. Кляновік, вядома, не мог гэтага стрываць. Жыць без газет?

— Адмаўляюся ад прагулкі! Я пратэстую! — не адкладваючы, заявіў ён. — Як гэта можна ў дваццатым стагоддзі без газет! У краіне, якая лічыць сябе цывілізаванай!

Пасля гэтага Кляновіка выклікаў у свой кабінет намеснік начальніка турмы пан Гарох. Адвялі яго да начальніка два наглядчыкі. Кабінет Гароха нагадваў турэмную камеру. Гэта, уласна кажучы, і была звычайная турэмная камера з маленькім закратаваным акенцам пад столлю, прыстасаваная пад кабінет начальства. Гаспадар, седзячы за сталом, доўга ўглядаўся ў Кляновіка нейкім не то заклапочаным, не то прыпалоханым позіркам. Вязень звярнуў увагу на гэты яго позірк, на няпэўнага колеру вочы з мутнымі зрэнкамі, маленькі і, як бульбінка, кругленькі і аблуплены нос і тое, што ніжняя палавіна яго твару — губы, рот і сківіца — была буйнейшая за верхнюю.

— Чаму вы сябе так паводзіце? — запытаў Гарох, падняўшыся з крэсла і ўспёршы рукі на стол.

— Як? — прытварыўся, што не зразумеў, Кляновік.

— Вас даўно трэба было расстраляць альбо павесіць, а мы трымаем, апранаем, кормім, можна сказаць, ахоўваем, цацкаемся з вамі…

Гарох, як і ўся адміністрацыя турмы, больш за ўсё баяўся, каб яго не западозрылі ў якім-небудзь паслабленні вязням, у лібералізме. Ён зноў сеў за стол, у сваё крэсла, вязень стаяў перад ім.

— Вы што? Хочаце галавой прабіць сцяну? — скрывіў вусны турэмшчык.

— І праб'ю.

— Камунізм — гэта толькі утопія! — у пацвярджэнне сваіх слоў Гарох няпэўна махнуў кудысьці ўдалячынь рукой.

— Калі утопія, дык чаму вы з намі змагаецеся? Чаму гэтак нас ненавідзіце? Утопія — гэта нязбытнасць. Чаго вы яе баяцеся?

— Пазбаўляю вас спацару! — не вытрымаў Гарох, перайшоўшы на крык. — Вы злачынец!

Кляновіка пазбавілі прагулак і перавялі ў адзіночку — шэсць крокаў у даўжыню, тры ў шырыню. Бетонная падлога, пакрытая асфальтам, які штодня трэба было да бляску націраць парафінам. Не карцэр, але вельмі блізка да яго. Сэрца ціснула адзінота. Начамі даймала бяссонніца, шмат думаў, успамінаў. А было што ўспомніць! Колькі змагарных дарог прайшоў! Колькі ўсяго пабачыў!

«…Расія, Амерыка, Далёкі Усход, Сібір, Масква, Петраград, Крым, Польшча… Дзе толькі ні быў! А пачыналася ўсё з Брэста, з гэтага самага Брэста, дзе калісьці, у далёкім 1904-м, сустрэўся з таварышамі. Зінаўчук і Клевэр. Наіўныя сацыял-дэмакраты. Адзін — настаўнік, другі — бухгалтар. Але бачылі далёка — паслалі ў Маскву. І ён, тады яшчэ бязвусы, рашыўся, паехаў. А потым была Амерыка. Параход. Як пакутаваў ад марской хваробы! Затое пасля папрацаваў у смак. Пазнаў чалавечую натуру! Тады і пасадзілі. Турма ў Чыкага. Зноў параход, і зноў Расія. Уладзівасток. Усё магло быць і не блага, каб лёс не паслаў яму гэтага Гадава. Перайшоў дарогу, стаў на жыццёвай сцяжыне. Дзе ён, цікава, зараз? Я ў турме, а ён, можа, ужо на тым свеце?..»

У турэмную цішу невядома адкуль даносіліся далёкія, таемныя галасы. Думкі слабелі, і ён паціху заснуў.

Неяк раніцай, калі ўжо добра развіднела, у кутку сваёй адзіночкі, пад самай столлю, ён заўважыў вялікага шэрага павука, які стаіўся ў сваім густым прадзіве, быццам абмёр. Стаміўся, відаць, і адпачываў. Вязень яшчэ раз глянуў у кут, на тыя мярэжы, што выткаў павук, і заўважыў там муху, што так недарэчы ўблыталася ў павуцінне. Адчувалася, што павук ужо ажыў, нацэліўся на муху. Зараз будзе з ёю распраўляцца. Паўзе, прыладжваецца. Узлез!

З таго боку дзвярэй ціха адкрылася засланка, і нехта заглянуў у «вока Іуды». «Бялевіч», — падумаў вязень. Бялевіч — наглядчык, у службовую кампетэнцыю якога ўваходзіла і Кляновікава адзіночка. Неяк яго разам з наглядчыкам наведаў Гарох, трымаючы ў руках згорнутую ў трубку газету.

— Ну, як жыве пан камісар? — крывячы рот усмешкай, здзекліва пачаў ён.

— Вашай ласкай…

— Для прадстаўніка Камінтэрна не хапае камфорту. Я разумею…

— Нічога! Затое будзе што ўспомніць… — нявесела пажартаваў вязень.

— І я так думаю.

Гарох працягнуў Кляновіку газету:

— На, чытай!

Гэта была газета «Polska zbrojna».

Гарох з наглядчыкам выйшлі, пакінуўшы вязня аднаго. Кляновік разгарнуў газету і пачаў з першай старонкі. «Polska zbrojna» пісала: «Польшча не павінна і не можа заставацца ў сваіх межах, а павінна імкнуцца да пашырэння на ўсход, прыкладна да межаў 1772 года…»

«О! Апетыт неблагі! — падумаў Кляновік. — Гэта ж далёка, ажно пад Смаленск!.. Зрэшты, гэтага і трэба чакаць: Польшча ўзбройваецца, сорак працэнтаў бюджэту ідзе на ўзбраенне. Гэта не жарты.

Пачуўся ціхі стук праз сцяну. Азбука Морзе. Ён прыслухаўся. З суседняй камеры нейкі таварыш паведамляў, што да БССР далучаны Гомель. Кляновік падняўся, падышоў да сцяны і, не спяшаючыся, адстукаў: «Хай жыве сусветная рэвалюцыя!» Зноў усталявалася цішыня.

Прайшоў нейкі час, і ў камеру зайшоў Бялевіч, адзін. На ім мешкавата сядзеў карычневы мундзір турэмшчыка, на руцэ матлялася звязка ключоў. Гэты чалавек чамусьці не адштурхоўваў ад сябе, як астатнія турэмшчыкі. У яго паводзінах, у адрозненне ад астатніх наглядчыкаў, не адчувалася пагрозлівай нервознасці, злосці.

— Цяжка вам аднаму, — паспачуваў Бялевіч.

— Чаму аднаму? У мяне шмат таварышаў, сяброў, знаёмых. Я дружбу люблю і сяброў паважаю.

— Нешта ж ніхто вас не наведвае.

— Чаму? Нядаўна братавая была.

Сапраўды, тыдні два назад наведала Пелагея, перадачу перадала: бохан хлеба, кавалак сала і колькі галовак цыбулі і часнаку. Пагаварылі. Але што магла сказаць Пелагея? Хатнія навіны, і толькі.

— А вы, пане, жанаты ці халасты? — пацікавіўся Бялевіч.

— А ты як думаеш? — пытаннем на пытанне адказаў Кляновік.

— Мне здаецца, што халасты, — Бялевіч кашлянуў у кулак. — Пры вашых клопатах жаніцца не выпадае. У вас, пэўна, і часу няма.

Кляновік сумна пасміхнуўся. «Не такі ты просты», — падумаў ён, а ўголас сказаў:

— Ну, вядома, мы з табой розныя людзі і думаем па-рознаму.

— Э, пане, а чым я адрозніваюся ад вас? — не згадзіўся наглядчык. — Хіба тым толькі, што хаджу сюды добраахвотна.

Кляновік уважліва пагледзеў на турэмшчыка, нібы бачыў яго ўпершыню.

— Чым вам дапамагчы, можа, што перадаць? — адвёўшы позірк убок, ціха спытаў Бялевіч.

«Сімпатык ці правакатар? — пранеслася ў Кляновікавай галаве. — Падаслалі! А можа, не? Можа, свой?»

— Пабачым, — счакаўшы, няпэўна адказаў ён, — жыццё пакажа…

Бялевіч аказаўся шчырым чалавекам. Праз колькі дзён, у сваю змену, пачаў цягаць проста ў камеру да Кляновіка лістоўкі, брашуры, нейкія запіскі. Па часе праз яго вязень атрымаў запіску ад Марыі. Пазнаў яе почырк. Прачытаўшы запіску, скамячыў яе і кінуў у рот. Папера была сухой і нясмачнай, але Кляновік гэтага не адчуваў. Ён рады быў узноўленай сувязі. «Значыць, работа ідзе, — думаў з палёгкай, — гэта — добра». Доўга жаваў паперку. Нарэшце натужыўся і пракаўтнуў турэмную ксіву.

## IX

У апошні час Косця ўладкаваўся на сталую работу — бракаўшчыком на тартак у Будзе-Пашуцкай. Гэта — у Белавежскай пушчы, за Каменюкамі. Працай «марыканец» быў, здаецца, задаволены. Прыстойна апрануты, ветлівы і спакойны, ён хутка ўвайшоў у давер як да начальства, так і да людзей, якія працавалі на тартаку. У Пруску прыязджаў часта. Ездзіў на веласіпедзе. Для веласіпеда дваццаць кіламетраў не адлегласць. Аднойчы прыехаў у канцы верасня, калі прускаўцы цешыліся бабіным летам. На сходку сабраліся ўсё ў тым жа Каленікавым млыне. Косця быў настроены рашуча:

— Рабіць трэба нешта! А то паны канчаткова на галаву ўзлезуць, — сказаў ён, агледзеўшы запыленых мукой прускаўскіх канспіратараў.

— У куток нас загналі, — падтрымаў пляменніка Цімоша і нервова пацёр аброслыя шэрым шчаціннем шчокі.

Косця працягваў:

— Ёсць, хлопцы, такая арганізацыя — МОПР. Міжнародная арганізацыя помачы рэвалюцыянерам. Яна па ўсім свеце існуе. Трэба і з нашага боку ёй дапамагаць. Калі дапаможам, дык яна ў свой час і нас падтрымае. Пралетарская салідарнасць гэта называецца.

Гурткоўцы, як зачараваныя, глядзелі на свайго лідэра, які гаварыў, крыху задзіраючы ўверх галаву і трасучы цемнаватай, спадаючай на лоб чупрынай:

— Хлопцы, нам трэба шчыльней гуртавацца, каб усе як адно цэлае былі, — працягваў «марыканец». — Я вось тут прыкінуў спіс, — Косця расшпіліў пінжак і з нутраной кішэні дастаў паперу, згорнутую ў чатыры столкі, разгарнуў.

— А калі ў паліцыю той спіс трапіць? — занепакоіўся Сцяпан Сталетнік і заклапочана пачухаў за вухам.

— Не трапіць!

— А раптам?

Косця стаяў на сваім:

— Трэба ўсё зрабіць, каб не трапіў! Каб дэфензіўшчыкі не здагадаліся! Трэба іх перахітрыць!

— А як? — наіўна развёў рукамі Ламака, яго тоўстыя, вялыя вусны скрывіліся ў няпэўнай усмешцы.

— А канспірацыя нашто? — парыраваў Косця. — Мы кожнаму псеўданім прыдумаем! Псеўданім! — ён узняў угору палец.

— Я ж казаў — засакрэціцца трэба! — узрадаваўся Гамон. — Як у Расіі! Ты б, Косця, Пяцельнікавым мог быць! А што? Цімоша — Фролка, Ламака — Каросцін, Мікіта — Мішка Касякін…

— А ты? — перабіў таварыша Ламака.

— Я? — Гамон здзіўлена азірнуўся на Ламаку. Выраз яго твару гаварыў: «Дзівак ты, чалавеча, не першы дзень з табой знаёмыя, а не ведаеш, хто такі Гамон і на што ён здольны». Уголас Гамон сказаў: — Я мог бы быць, як Чудайкін. Слаўны быў таварыш, і камунар слаўны!

Тыя, хто ведаў запалонаўскага Таццяна Чудайкіна, — Ламака, Галёнка, Міхаль Тупчык ды і сам Гамон — заўсміхаліся.

— І я шмат добрых людзей ведаў, — сказаў Косця. — У Амэрыцы іх таксама шмат: Сміт, Джонсан, Клінтан… Можна было б узяць і амерыканскія псеўданімы.

— Марыканскіх не трэба — сваіх хапае, — кашлянуў у кулак Міхаль Тупчык, які добра адчуваў агульны настрой.

Калі яны сабраліся ў наступны раз, Косця прынёс спіс і агледзеў гурткоўцаў патрабавальным позіркам.

— Трэба, каб кожны напроціў свайго псеўданіма распісаўся, — загадным тонам прамовіў ён, — каб адказнасць нейкая была! Каб кожны ведаў!

Гурткоўцы паслухмяна распісаліся. Пятро Ламака як непісьменны паставіў крыжык.

Косця, крыху счакаўшы, падняў яшчэ адно пытанне:

— Варта было б, таварышы, і ў нас тройку стварыць.

— Якую тройку? — няўцямна загаманілі гурткоўцы.

— Неяк жа трэба бараніцца!..

— Ад каго бараніцца? Ад паноў? — паспрабаваў удакладніць Гамон.

— Ад правакатараў! — накінуўся на яго «марыканец» і пачаў тлумачыць: — Члены ячэйкі абавязаны назіраць за паводзінамі таварышаў і пры ўзнікненні падазрэння адносна каго-небудзь павінны рашаць усё на месцы. Жалезная дысцыпліна — гэта галоўнае. Чырвоныя часці ўжо на што былі сазнацельныя і адданыя, а заградатрады дзейнічалі. Надзейна дзейнічалі!

Толькі цяпер да свядомасці гурткоўцаў пачаў даходзіць сэнс прапановы «марыканца», а Косця між тым працягваў:

— Трэба ж, каб крыху і баяліся. Пачуццё страху ў нашай справе не лішняе, і сыск — рэч карысная. Клас, таварышы, мае права караць! Мы не можам даваць тым, хто зняверыўся.

Для слухачоў гэта сталася поўнай нечаканасцю. Бачачы іх стан, «марыканец» дадаў:

— Гэта я між іншым, для інфармацыі. На будучае.

Пасля гэтага гаварылі аб распаўсюджванні лістовак. На развітанне Косця падняў сціснуты кулак і прыглушана сказаў:

— Сустрэнемся на барыкадах!

Гурткоўцы ад хвалявання закашлялі і, не ведаючы, што адказаць, прамаўчалі.

— Помніце: мы на баявым пасту! — напомніў «марыканец».

— Цяпер мы ячэешныя людзі, — як бы падвёў вынік таму, што адбылося, Гамон. — Гэта табе не жартачкі.

На Пакроў нехта раскідаў ля царквы лістоўкі. Адну з паперак падабраў Шпронька, вяртаючыся ад айца Гіпаліта, з якім звычайна гуляў у карты і дзюбаў гарэлку. Не заходзячы ў лаўку, Шпронька накіраваўся да Канстантага, паказаў паперку. Той узяў лістоўку, пакруціў перад вачыма, чмыхнуў:

— Лістоўка! — як старой знаёмай узрадаваўся ён, і палез шукаць акуляры, але патрэбы ў іх не было: тэкст, набраны буйнымі друкарскімі літарамі, чытаўся выразна:

«Таварышы!

Уступайце ў рады Работніцка-Сялянскай Грамады, каб актыўней бараніць інтарэсы працоўных мас на крэсах!

Няхай жыве родзіна пралетарыяў усяго свету С.С.С.Р.!
На акупанта!»

Канстанты прачытаў, і яго лупатыя вочы палезлі на лоб:

— Ну я вам далажу! — пахітаў ён галавой.

— Што ж гэта такое, Канстанцін Цярэнцьевіч? Хто гэта? — не пераставаў дзівіцца лавачнік. — Такога, я вам скажу, яшчэ не было!

— Хто б гэта мог зрабіць? — паўтарыў Шпронькава пытанне Канстанты.

Ніжняя губа Канстантага грэбліва адвісла, ён яшчэ раз агледзеў лістоўку варожым позіркам.

Шпронька выказаў здагадку:

— Прускаўцы, хто быў у нядзелю ў Камянцы, расказвалі, што на базары выступаў нейкі агітатар. Па ўсім, відаць, камуніст, але хто — невядома. З барадой, вусамі.

— Прыклееныя — не інакш! — крыва ўсміхнуўся Канстанты.

— Дык, можа, гэта ён?

— Баюся, што шукаць трэба бліжэй!

— Дзе?

— Надрукавана на шапірографе, — адзначыў Канстанты, круцячы ў руках лістоўку. — Значыць, недзе ў яго прыхаваны шапірограф.

— Надрукавана! — пацвердзіў Шпронька.

Гэта асабліва насцярожыла прафесійны нюх былога ўрадніка. Ён адразу падумаў на Косцю: «Марыканец» — хто ж яшчэ? Ён! У «камуну» палез. Падумаць толькі! Яго ж у мой гонар назвалі — Канстанцін! Хрэснік мой — а што робіць! Паліцікай займаецца, каб і тут быў саўдэп. У Канстантавай галаве пачалі снавацца думкі — здагадкі: ён жа не адзін, нехта ім кіруе, дае грошы…

На наступны дзень Канстанты сустрэў Лявона. Яны ветліва павіталіся. Былы ўраднік меў падкрэслена бесклапотны, крыху насмешлівы выраз твару.

— Мяркуючы па ўсім, з яго добры аболтус выйшаў! — загаварыў ён.

Словы Канстантага гучалі даволі загадкава, але Кужаль адразу зразумеў іх сэнс: «Гэта ён пра Косцю. Гэта яго, Ганнінага сына, ён называе аболтусам». Лявон ніколі не забываў, што Косця — Ганнін сын. Самой Ганны, на жаль, ужо даўно не было на свеце.

— Камуністы яго падкупілі! — дадаў Канстанты. Насмешлівасць пераходзіла ў злосць. Ён быў яўна незадаволены, нават абураны.

— Адкуль гэта вам вядома? — усумніўся Лявон.

— Я, брат, бачу ўсё. Саўдэп! На адлегласці чую! Нос у мяне яшчэ той!

Цяпер ужо ў Лявонавых словах прагучала прыхаваная насмешка:

— Вы паліцэйскі — пасада патрабуе…

— Балаўство гэта! — засіпеў і матлянуў галавою Канстанты.

Лявон прамаўчаў. «Кожнаму — сваё, — падумаў ён, — табе адно, яму — другое, мне — трэцяе. І, мусіць, кожны свайго павінен пільнавацца...», — але ўслых нічога не сказаў.

— Я гэтым дзелам азабочуся, — як бы самому сабе паабяцаў Канстанты, — я гэта так не астаўлю.

* * *

Шапірограф у Косці быў прыхаваны на канспіратыўнай кватэры ў Камянцы. Працуючы ў Будзе-Пашуцкай, ён часта наведваў мястэчка і бліжэйшыя прыпушчанскія вёскі, выязджаў на сустрэчы з актывістамі. Знаёміўся з вёскамі. Розныя тут, на Камянеччыне, вёскі, асабліва па ўзроўні палітычнай свядомасці. Вось, возьмем, Лескі. Невялікая, глухая, можна сказаць, сярод лесу вёска, а па палітычнай адукаванасці пакінула ззаду і сам Камянец. А што Ка-

мянец? Мястэчка, ды і толькі. Паліцэйскі пастарунак і нічога больш. Ларкі ды магазінчык. Ну яшчэ млын. Адзінае хіба, што ў нядзелю на базар шмат народу збіраецца. Лёгка ўбачыць патрэбнага чалавека. Ад чыгункі Камянец далекавата. Каб на цягнік сесці, трэба ў Жабінку ехаць або ў Брэст.

Ездіў «марыканец» шмат. Цікавіла яго ўсё: і ўстановы, і вайсковыя аддзелы, і тое, куды і што вязуць цягнікі. Гэтыя звесткі таксама былі патрэбныя. У Цэнтры іх цанілі не менш, чым іншае.

Здзівіла прускаўцаў, што Цімоша раптам ні з таго, ні з сяго прадаў карову. Потым стала вядома, што гэта Косця ўгаварыў дзядзьку прадаць карову, таму што для паездак патрэбны былі грошы. Больш за ўсіх незадаволены быў Трахім. Пра сына ён ведаў, мусіць, усё, і толькі скрыпеў зубамі і матляў галавой. Аднойчы справа ледзь да бойкі не дайшла:

— На халеру табе тая рэвалюцыя?! І без яе можна жыць неблага! Думаеш, я не бачу?

Сын прыкідваўся блазнам:

— Пра што вы, тато?

— Што — пра што? Злыдзень! Усіх пад манастыр падвядзеш!

— Пад які манастыр? Вы што?

— А тое!

— Што?

Трахім падступаў усё бліжэй:

— А пра паліцыю не ведаеш?

— Пра якую паліцыю?

— Ты за каго мяне лічыш? — сумеўся Трахім, вылупіўшы на сына круглыя жоўтыя вочы і адтапырыўшы тоўстую ніжнюю губу. — За дурня?

У сені зайшоў Цімоша. Косця змоўк і з пакрыўджаным выглядам стаў скручваць цыгарку. На гэтым іх размова скончылася.

Паліцыя і сапраўды цікавілася падзеямі ў Прусцы. Ведала яна і пра лістоўкі.

У чацвер, калі Лявон быў у Камянцы і стаяў у чарзе да млына, ён нават не заўважыў, як да воза падышоў паліцыянт і загадаў:

— Ідзі за мной!

Вымушаны быў пайсці, пакінуўшы каня з возам на знаёмых з Бучамля. Паліцыянт, ідучы на пару крокаў паперадзе, вёў яго ў пастарунак, які знаходзіўся непадалёк, у цэнтры мястэчка. Знаёмы дамок! Не першы раз даводзілася ў ім бываць. На бляшанай чырвонай шыльдзе па-ранейшаму тапырыў белыя крылы па-местачковаму дзябёлы арол.

Паліцыянт далажыў аб затрыманым, і Лявона адразу ж паклікалі да каменданта. Гэта быў усё той жа пшадоўнік Шчука ў новым балотнага колеру мундзіры, на якім побач з крыжыкам целяпаўся свежы медалёк на шэрай істужцы. У руцэ дымілася запаленая папяроса.

— Добры дзень! — выціснуў з сябе Лявон, увайшоўшы ў кабінет.

— Добры дзень пану, пане Леон! — адказаў камендант, тыцнуўшы недакураную папяросу ў попельніцу і ўважліва паглядзеўшы на ўвайшоўшага Лявона, наставіўшы на яго з-пад ілба маленькія ўчэпістыя вочкі. Запрасіў сесці насупраць сябе, пачаў гаворку:

— Н-ну, як у цябе справы? Што новага?

«Бачыш які — здаля пачынае! — падумаў прускавец. — Прылюдным хоча прыкінуцца!..»

— А што ў нас можа быць новага? Жывём, дзякаваць Богу… Вёска…

Шчука зняважліва скрывіў вусны, як бы хацеў пасміхнуцца, адвёў позірк убок і раптам запытаў:

— А што табе пра Грамаду вядома?

Лявон пачуў, як ёкнула і хутчэй забілася сэрца: «Няўжо пра Косцю што ведаюць? Можа, хто данёс?»

— Пра якую грамаду?

— Ну, не прыкідвайся!

— Не, пра грамаду я не чуў.

— Не чуў? — твар Шчукі і вочы пачырванелі. — А паперу аб вызваленні бунтаўшчыкоў, якія асуджаны і сядзяць у турме, падпісваў?

— І пра паперу не чуў.

— І пра паперу не чуў? Co to za cholera?[1] — руды вожык над нізкім ілбом Шчукі нястрымна папоўз уверх. — Дык ты, напэўна, добра законспіраваны камуніст?

— Не.

— Лжэш?

— Нашто мне лгаць, я кажу праўду.

— Калі не камуніст, дык сімпатык![2] Я вас ведаю…

Кужаль адмоўна пакруціў галавой. Пшадоўнік падняўся з-за стала і зрабіў колькі крокаў уздоўж сцяны, гучна рыпнуўшы крачамі.

— Вы, беларусы, дрэнна адносіцеся да палякаў! Дазвольце запытаць: чаму? У вас няма для гэтага аніякіх падстаў. — Шчука развёў рукамі. — Хіба не палякі прынеслі вам сапраўдную культуру? Якая няўдзячнасць!

— Я думаю, што беларусы адносяцца да палякаў гэтаксама, як і яны да беларусаў. Гэта, я думаю, нармальна.

Крыху счакаўшы, Шчука зноў вярнуўся да ранейшай гаворкі:

— А як паводзіць сябе той, што прыехаў з Амерыкі, — Хлябіч Канстанты?

— Ён уладкаваўся на працу, і ў Прусцы я яго не бачу.

— А ўначы хто да цябе прыходзіць?

«Уначы? — пранеслася ў галаве. — Хто ж прыходзіць уначы? — Адразу ж успомніўся Кляновік, але ж ён ужо даўно не наведваўся. — На пушку ты мяне бярэш, пан Шчука! Ужо даўно ніхто не прыходзіць…» Услых ён, аднак, сказаў, пацёршы лоб:

— Ёсць такі пан — Кузёмка. Здараецца, што заходзіць і нават начуе ў нас. Пан камендант не яго мае на ўвазе?

— Tego włoczegu? Tego durnia?[3]

— Пан так лічыць? — Лявон неўразумела развёў рукамі. — Ну, калі так…

Шчука ўдарыў кулаком па стале, не даўшы пруская ўцу скончыць:

— Прашу пана падумаць над пытаннямі, якія я сёння задаў! Гэта вельмі важна для нас! — крыклівым голасам працягваў ён. — Думаю, што не толькі для нас, але і для вас, пан Леон, калі вы хочаце спакойна працаваць! На сёння размова скончана, да наступнай сустрэчы! Do widzenia!

— Do widzenia! — уздыхнуў паддоследны і выйшаў з кабінета.

Дома сустрэла Фёкла, але, каб не хваляваць яе, пра выклік у пастарунак нічога не сказаў. Трэба было неяк папярэдзіць «марыканца», расказаць пра выклік у паліцыю. Убачыўшы Косцю і пагаварыўшы крыху пра надвор'е (сталі ўжо снежаньскія халады), Лявон завёў яго ў клуню і без намёкаў і хітрыкаў паведаміў:

— Ведаеш, Канстанцін, па-мойму, табой цікавіцца паліцыя.

---

[1] Што за халера?

[2] «Сімпатыкамі» ў буржуазнай Польшчы называлі тых, хто дапамагаў падпольшчыкам, не з'яўляючыся членам Кампартыі.

[3] Гэтага валацугу? Гэтага дурня?

— А хіба я, дзядзьку, не ведаю? — засмяяўся «марыканец». — Яна ўсімі цікавіцца. Вамі, думаеце, не цікавіцца?

Лявон прамаўчаў. Косця прысеў каля шула і стаў скручваць цыгарку, чыркнуў запальнічкай, прыкурыў.

— Закурыце, дзядзьку?

— Не, я ў клуні не куру.

— На тое яна і паліцыя, — зноў загаманіў Косця, пыхнуўшы дымам, — ад яе дабра не чакай! Але ж, дзядзьку, ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць? Правільна кажу?

— Так то яно так, але асцярожнасць не пашкодзіць.

— Ну, гэта зразумела!

— А пра Кляновіка што чутно? — запытаў Лявон.

— Я ж вам казаў, дзядзьку. У мяне ад вас сакрэтаў няма.

— Яшчэ не выйшаў?

— Сядзіць.

— Можа, амністыю якую дадуць?

Косця хіхікнуў:

— Дадуць, дагоняць і яшчэ раз дадуць.

— А раптам?

— Цяжка сказаць…

Размова хутка выдыхнулася. Больш гаварыць як бы не было пра што. Косця, не дакурыўшы цыгарку, шпурнуў яе на ток і расціснуў ботам. Потым, развітаўшыся, пакінуў клуню.

* * *

Якаў Пац дапамог і на гэты раз. Вадзіў ён знаёмства не толькі з судом, але і з паліцыяй, з самім Шчукам быў знаёмы, нават выпіваў. Таму яму не складала вялікай цяжкасці наведаць пастарунак. Павітаўшыся са Шчукам за руку, Якаў Арыстархавіч спытаў:

— Пане камендантце, скажыце, калі не сакрэт, за што арыштоўваўся пан Кужаль з вёскі Пруска? Наколькі я ведаю, чалавек ён салідны. Ці няма тут якой памылкі? А можа, непаразуменне?

Шчука нейкі час засяроджана думаў, адвёўшы позірк убок, мусіць, успамінаў. Нарэшце сказаў, развёўшы рукамі:

— За панам Кужалем цягнуцца хвасты з бальшавіцкай Расіі! У нас ёсць звесткі, што яго жонка — бальшавічка!

— Не думаю, бо я і яго, і яе добра ведаю. Прыстойныя людзі.

— А потым, проша пана, гэтая Грамада. Нам вядома, што гурток ёсць і ў Прусцы, дзе жыве Кужаль.

— Гэта — бяскрыўдная рэч!

— Пан так думае?

— Так!

Квадратны вугрысты твар пшадоўніка пачырванеў:

— Бяскрыўдная? Грамада, калі хочаце ведаць, крэатура кампартыі! І ў вёсцы Пруска нехта раскідаў улёткі.

— Гэта не ён — Кужаль на такое не здольны. Можа, хто іншы.

— Ён у спісе неправамысльных!

— Гэта памылка. За Кужаля я ручаюся.

Пан камендант засоп і абяцаў падумаць. Пасля гэтага Якаў Арыстархавіч меў гаворку з Лявонам.

— Да іх толькі пападзі, а ўжо за што прыдрацца яны нойдуць, — сказаў фальварковец. — Дэфензіва жартаваць не любіць.

## X

Доўжылася, не спяшалася развітвацца сцюдзёная зіма 1927 года. Трывалі маразы, хоць паводле календара быў ужо сакавік. Пруская̆цы няўцямна назіралі, як галёкала завіруха, уздымаючы цэлыя хмары белага, як малако, снегу. Пасля яе, пад цяжарам снегавых футраў, нерухома стаялі дрэвы.

У хаце ў Кужалёў цёпла і светла ад белых снежных водсветаў. Фёкла растапіла печ. У дзежцы падыходзіла цеста. Падкінула ў печ палена, другое і спынілася, пазіраючы на агонь, які абвіваў дровы, прагна хапаўся за сухое дрэва.

Бразнула клямка, рыпнулі дзверы, і ў хату зайшоў Лявон, трымаючы ў руцэ шэры канверт.

— Фяклуша! Табе пісямцо! З Запалоннага!

— Ад Домны? Чытай! Што яна там піша?

Фёкла выцерла фартухом рукі, прысела на столак, падрыхтавалася слухаць. Лявон надарваў канверт, з яго выпала фотакартка. Фёкла адразу пазнала сястру, побач з Домнай сядзеў маленькі хлопчык, а ззаду стаяў малады мужчына. Фёкла доўга не аднімала фотакартку ад вачэй. Па шчацэ пралілася сляза, сляза радасці. Лявон пачаў чытаць, не адразу разбіраючы некаторыя словы: «Дарагая сястрыца, пляменнік і вы, Лявонцій Міхайлавіч! Як вы там пажываеце? Як здароўіца? Мы жывём добра, у магазіне ўсяго хапае. Мануфактура, праўда, дарагаватая. Адзенне і абутак — таксама. Затое сельхозпрадукты вельмі дзяшовыя. А тады, помніш, калі вы яшчэ былі тут, ніхто не думаў, не спадзяваўся, што некалі хлеба дасыта пакушаем. У нас многа чаго новага. У цэркаў ходзяць толькі старыкі, моладзь — у нардом. Маладыя весяляцца. Вучым палітграмату, збіраемся на сабранія, на праработкі. У нас на Пасху везлі праз сяло цялегу, а на ёй цар з каронаю, поп ды кулак. Пераадзетыя. А цялегу цягнулі людзі, на грудзях надпісы: падкулачнік, ныцік, быўшы, лішэнец. А потым быў міцінг. Выступаў брат Міша, крытыкаваў за самагонаварэніе, хаця па большай часці варацьбражку. Міша паспеў ужо нарабіць многа глупасцеў, пра якія нет как пісаць. Дзякуй Богу, усё абышлося.

Асабліва дастаецца быўшым. Гэта значыць, хто яшчэ застаўся з дваран, купцоў, чыноўнікаў, буржуазіі. Дарога аднаму пралетарыяту. Пралетарыят адчувае сябе свабодна. П'юць бражку аднакава. Каравулку тую, дзе некалі жылі вашы бежанцы, разабралі на драва як напамінанне пра цяжолае прошлае. Многія раз'ехаліся хто куда. Я выйшла замуж за Рэпіна Нікалая, у нас ужо сынок Ваня. Пасылаю табе фатаграфію, на якой мы ўсе ўтраіх…»

Фёкла яшчэ раз з замілаваннем паглядзела на фотакартку, на родныя аблічча. Лявон працягваў: «…Закончылася асенняя пасяўная кампанія, усходы добрыя…»

Лявон падняў вочы ад ліста:

— Дык калі ж яна пісала — яшчэ восенню? Доўга ішло!..

— Доўга! — пагадзілася Фёкла.

«…Вельмі спадзяемся на індустрыялізацыю. Тады будзем мець машыны і зажывем як след. Індустрыялізацыя праводзіцца надзвычай хуткімі тэмпамі. Многія едуць у гарады, на Урал будаваць заводы. А яшчэ табе саабшчаю, што памёр Іван Старшых, каторы кагда-та састаяў у камуне. Цяпер усе зноў жывуць паасобку. У доме твайго свёкра цяпер размяшчаецца школа. Дом, як ты помніш, вялікі і з добрага дрэва.

На гэтым заканчваем. Цалуем вас усіх, дарагія сродственікі, і моцна абдымаем, дай вам Бог здароўя.

Ваша Домна Касякіна. 8. 11. 1927».

— Сваім прозвішчам падпісалася, — заўважыла Фёкла.

Лявон склаў ліст і зірнуў на жонку. Вочы Фёклы затуманіліся тужліваю смугою. Нешта яна ўспамінала, потым пасміхнулася ўзрадавана:

— Замуж выйшла!

— Нешта не помню я таго Мікалая Рэпіна.

— Герасіма Рэпіна сын. Ціхі такі, непрыкметны.

— А на якія гэта праработкі яны збіраюцца? — спытаў Лявон.

— Гэта, мусіць, на пасядзелкі. На пасядзелкі прыходзяць у чыю-небудзь ізбу!

— Будзем адпісваць — дык запытаем.

Ражком хусцінкі Фёкла выцерла вочы.

— Хаця б краем вока пабачыць, як яны там. Лёня, прачытай яшчэ раз. Яшчэ раз хачу паслухаць.

Лявон паднёс да вачэй і яшчэ раз прачытаў Домнін ліст. Фёкла праслухала, і яе ахапіў сум па родных мясцінах, па ўсім тым, што пакінула там, у Запалонным, на далёкай радзіме.

— І ўсё-такі ні разу не напісала, каб вярталіся, — зазначыў Лявон.

— І не запрашае нават.

Фёкла ўздыхнула:

— Відаць, не соладка ім там пры бальшавіках.

— Відаць, што так.

Яны колькі часу маўчалі, успамінаючы перажытае ў бежанстве.

— Адпісаць нада, Лёня, — сказала Фёкла.

— Адпішам.

У нядзелю, прыйшоўшы з царквы і паабедаўшы, Лявон сеў пісаць адказ у Запалоннае. Вася для такога выпадку адшкадаваў пару лістоў з вучнёўскага сшытка.

— Дарагая сястрыца Домна! — прадыктавала Фёкла і заплакала.

Лявон пачаў пісаць, жонка спакваля супакоілася, і яны сталі сачыняць ліст разам.

«Дарагая сястрыца Домна! Атрымалі ад цябе пісьмо. Шчырае дзякуй за тое, што не забываеш. Дзякуй, што прыслала фотакартку. Мы вельмі радыя за цябе, за ўсю вашу дружную сям’ю, за Мікалая і маленькага Ванюшку. Мы пакуль што, слава Богу, таксама жывыя і здаровыя, чаго і вам жадаем. Залоўкі Фядора з Варкай выйшлі замуж, цяпер жывуць сваімі сем’ямі. Сын Вася пасе кароўку і ходзіць у школу. Скора споўніцца яму ўжо дванаццаць гадкоў. Мы з мужам Лявонціем Міхайлавічам трудзімся па хазяйству і жывём не плоха. Імеем лошадзь, кароўку, пару свіней, куры, збіраемся завесці авечак. Без авечак у нас нельзя, бо на зіму патрэбен кажух, воўна.

Дарагая сястрыца Домна! Прыязджай да нас у госці ўсёй сям’ёй, пасмотрыш, як мы жывём.

Аднаго толькі мы не зразумелі: на якія гэта вы праработкі збіраецеся? Колькі не спрабавалі раскумекаць, так і не нашлі атвета.

Дарагая сястрыца! Ты і ўявіць не можаш, як хочацца туды, да вас. Здаецца, хаця б адным вокам зірнуць. Я вот нават січас слышу, як плешчацца возле берага Самарка і шуміць ў пойме тал. Ці давядзецца калі-нібудзь свідзецца? Хто яго ведае! Аднак Бог міласцівы, будзем спадзявацца на добрае.

Вася табе прывітанне перадае. Фядора з Варкай таксама. Будзьце здаровы. А яшчэ кланяюцца знаёмыя табе бежанцы Аляксей Галёнка, Пятро Ламака і іншыя. Пішы болей. Мы чакаем. Моцна абдымаем і цалуем цябе і ўсіх тваіх сямейнікаў — Фёкла і Лявон.

Твая сястра».

Ліст ад Домны Лявон чытаў Аляксею Галёнку і Пятру Ламаку. Былыя бежанцы ўспаміналі Запалоннае і спрабавалі зразумець, што ж там адбываецца сёння, якія «праработкі».

Але болей усё ж такі турбавала сваё. І было аб чым турбавацца. Гурток у Прусцы не паспеў аформіцца, як пачалося знішчэнне Грамады. Санацыйная Варшава ўзмацняла рэпрэсіі. Падзеі наплывалі адна на другую. У студзені 1927 года ў Брэсце адбыўся суд над Верай Харужай і іншымі арыштаванымі — усяго 31 чалавек. Праўда, Вера Харужая да Грамады не мела адносін — арыштавалі яе яшчэ ў 1925 годзе, аднак судзілі на хвалі рэпрэсій супраць Грамады, якую ўлады аб'явілі падрыўной арганізацыяй. Прысуд — восем гадоў турэмнага зняволення.

Дайшло да таго, што ў студзені 1927-га арыштавалі дэпутатаў сейма Тарашкевіча, Рак-Міхайлаўскага, Валошына. Дзень 15 студзеня 1927 года стаў апошнім для Грамады. За адну ноч у засценкі дэфензівы трапілі тысячы людзей. Дзікая радасць з гэтай прычыны ахапіла прэсу, якая захаплялася дзейнасцю і рашучасцю ўрада.

Абстаноўка такім чынам склалася надта няпэўная, і нават пагрозлівая. Гурткоўцы гэта адчувалі. Па некалькі разоў на тыдзень у Пруску наведвалася паліцыя. Перш за ўсё заходзілі да солтыса і пра нешта гаманілі, выпытвалі. Дзейнічала начная варта. Чакалі пажару ці яшчэ чаго-небудзь дрэннага. Косцю Хлябіча ў Прусцы амаль не бачылі. Ён па-ранейшаму працаваў у Камянцы — дарожным майстрам. Стаяла, праўда, зіма, і дарожныя работы не вяліся, але трэба было складаць планы на вясну. Завітаўшы аднойчы апоўдні ў Пруску, Косця расказваў, што па ўсёй краіне ствараліся камітэты абароны Грамады і што становішча далёка не безнадзейнае.

Пад вясну ў Пруску дайшлі чуткі пра косаўскія падзеі. У лютым там, на базарнай плошчы, адбыўся мітынг і дэманстрацыя сялян з навакольных вёсак. Сабралася паўтары тысячы. Патрабавалі вызваліць беларускіх паслоў — арыштаваных дэпутатаў сейма. Паліцыя сустрэла дэманстрантаў кулямётным і вінтовачным агнём. Шэсць чалавек было забіта, некалькі дзесяткаў паранена.

Гэтую вестку таксама прывёз Косця.

— Яны стаптаць нас хочуць — як бы біфштэкс адбіць, каб потым з'есці смачней! — з абурэннем гаварыў ён сваім ячэйкаўцам.

Зрэшты, тыя ўжо як бы і не лічылі сябе ячэйкаўцамі. Той сход на млыне стаў апошнім. Пасля яго прускаўская ячэйка прыпыніла свае сходкі, і сталася так, як бы яе і не было.

Насельніцтва ўсёй Заходняй Беларусі рэзка падзялілася на «сваіх» і «здраднікаў». Жылі ў насцярожанасці, нічога добрага ўжо не чакалі.

Мікола Шпронька выпісваў газету «Dziennik Brzeski» і першы даведаўся пра незвычайную навіну.

— Савецкага пасла забілі ў Варшаве!.. — абвясціў ён, выйшаўшы з лаўкі і трасучы газетай.

— Каго? — не паверылі мужчыны, што сабраліся непадалёку.

— Пятра Войкава.

— Пятра? — перапытаў Гамон, быццам бы ён таго Войкава ведаў асабіста, і нават не аднаго Войкава, а некага яшчэ.

— Табе ж кажуць: Пятра! — сыкнуў на яго Галёнка.

— Можа, вайна пачнецца? — пахітаў галавой Сцяпан Сталетнік.

— З-за пасла! — падказаў Павал Гальяш. — Можа пачацца!..

— Хай Бог крые! — перажагнаўся Оргій Відэрка.

— Хто ж гэта? — паціскалі плячыма прускаўцы.

— Нейкі рускі. Тут і прозвішча яго ёсць! Кавярда. Барыс Кавярда! — падняў ад газеты галаву лавачнік.

— Рускі рускага?

— Выходзіць, што так. Пішуць пра яго, што таксама ў бежанцах быў, жыў у Самары, а ў дваццатым годзе ў Вільню вярнуўся.

— Чаго ж яму трэба было ад таго пасла? — абазваўся і Лявон, які ўважліва слухаў размову. — Хіба нацкаваў хто…

— Падвучылі! — упэўнена сказаў Аляксей Галёнка.

Падышоў Канстанты, але ў абмеркаванні не ўдзельнічаў, адно толькі, насупіўшыся, слухаў.

Кавярду потым, як дазналіся прускаўцы, судзілі. Працэс быў надзвычай драматычны. Прысудзілі да пажыццёвага турэмнага зняволення, але ў сярэдзіне 30-х гадоў выпусцілі па амністыі. Памёр Барыс Кавярда ў 1986 годзе ў Амерыцы.

Вясною 1928 года, у красавіку, у Беластоку пачаўся нарэшце судовы працэс над 133 дзеячамі і радавымі ўдзельнікамі грамадаўскага руху. Беласток — горад знакаміты. Пяць гадоў назад, вясною 1923 года, тут судзілі паўстанцаў Скамароха. Як тады, так і зараз водгукі працэсу над грамадаўцамі дасягалі і Прускі.

— Калі падумаць, — каменціраваў Павал Гальяш, — дык людзі ўсяго толькі патрабавалі чалавечых правоў.

Як і раней, збіраліся каля Шпронькавай лаўкі.

— Камуністы напсавалі, — смяяўся Канстанты, які пачуў размову і выйшаў з лаўкі, дзе яны са Шпронькам нешта абмяркоўвалі.

— Чаму вы так думаеце? — пацікавіўся заінтрыгаваны Цімоша Хлябіч.

— А таму! — строга зірнуў на яго былы ўраднік і ціха мацюкнуўся.

— Эх, доля ты наша, доля! — па звычцы зацягнуў Пятро Ламака, глыбей насоўваючы на галаву шапку-кучомку. — Не даюць разагнуцца!

У час аднаго з рэдкіх з'яўленняў у Прусцы Косця надта шкадаваў аб тым, што адбылося, крыху нават як бы завінаваціўся перад былымі ячэйкаўцамі, а на завяршэнне сказаў:

— Цяпер Польшча стала аўтарытарнай.

— А што гэта? — запытаў Сцяпан Сталетнік.

— Пілсудскі ўсё пад сябе падмяў. Дыктатар. Суду нічога не дакажаш, бо суд на яго баку. Вось грамадаўцаў судзяць, а яны ж ні ў чым не вінаватыя, правоў чалавечых хацелі, толькі і ўсяго!

У гаворку ўмяшаўся Аляксей Галёнка, у якога была на гэты конт нейкая інфармацыя, відаць, ад Шпронькі:

— А сведкам на судзе выступае, кажуць, нейкі Гурын і што быццам бы ён камуніст.

— Які ён камуніст? — напудзіўся на Галёнку Косця. — Гэта рэнегат! Такім адна дарога — на той свет! А што вы думалі!

— Ого! — здзівіўся Павал Гальяш.

Прускаўскія мужчыны паапускалі галовы.

Суд над Грамадой закончыўся ў маі 1928 года. Галоўныя абвінавачаныя, найперш Браніслаў Тарашкевіч, атрымалі па дванаццаць гадоў турмы, астатнія ад трох да васьмі. Некаторых, па розных прычынах, адпусцілі. А Гурын-Маразоўскі, які выступаў на судзе сведкам абвінавачання і якога згадаў Аляксей Галёнка, быў забіты яшчэ да заканчэння суда, 11 сакавіка 1928 года, членам КПЗБ Сяргеем Клінцэвічам як правакатар. Гэта адбылося якраз у той час, калі ў Прусцы зноў здарыўся пажар: згарэў Аляксееў вятрак, у якім яшчэ колькі месяцаў назад па начах збіраліся ячэйкаўцы. Хто там збіраецца, ніхто толкам не ведаў. Магчыма, пагэтаму ў наваколлі пачалі хадзіць чуткі, што на тым Аляксеевым млыне атабарыліся чэрці. Часам уночы, здаралася, так разгуляюцца, што чуваць было і ў вёсцы, асабліва калі выйсці за клуні

і прыслухацца. Млынам зацікавіўся быў фальварковец Якаў Пац. Хацеў купіць і перавезці да сябе за раку, але не старгаваліся. Аляксей зашмат прасіў. Не дзіва: вятрак усё яшчэ даваў сякі-такі прыбытак і гарнуў да Прускі навакольны люд. Сяляне, што збіраліся з усёй акругі, стаялі каля сваіх падвод, курылі, гутарылі, чакалі чаргі зтружаць мяшкі. Часам раздаваліся і незадаволеныя галасы:

— Меле, а пытляваць не пытлюе — у Камянец трэба ехаць, — бурчэў Трахім Хлябіч.

— І чарга вялікая! — звычайна далучаўся да яго Гамон. — Сваім — каб без чаргі!

Аляксей Каленік застрахаваў свой вятрак, каб, калі што якое, атрымаць грошы. І вось у адну ноч ён згарэў. Агонь пайшоў скакаць па крылах, і, невядома ад чаго, яны пачалі круціцца. Не зразумець было: ці просіць вятрак аб паратунку, ці ўжо навекі развітваецца. Збегліся людзі. Апошнім прыбег Аляксей, але асабліва вялікай заклапочанасці не выказваў. «Хто ж гэта яму чырвонага пеўня пусціў?» — не маглі дадумацца прускаўцы. Патушыць ахінутую полымем хароміну ўжо не было аніякай магчымасці. Проста стаялі і глядзелі. Гарэў вятрак усю ноч. Дагарэў пад раніцу, пакінуўшы пасля сябе невысветленае пытанне аб прычыне пажару. Трахім быццам бачыў, як перад гэтым Аляксей насіў туды з поля салому. Але так гэта ці не, дакладна ніхто сказаць не мог. Страхоўку Аляксей, хоць і не без цяжкасцей, атрымаў.

І яшчэ адно здарэнне. Памёр Фёдар Мамчук — той самы, які пастухаваў разам з Васем і які да позняй старасці захаваў белыя і здаровыя, як часнок, зубы. Памёр нечакана. Сеў есці і падавіўся картапляным блінам.

## XI

Кляновік сядзеў па-ранейшаму ў Брэсцкай турме. Патрымаўшы ў адзіночцы два месяцы, яго зноў вярнулі ў агульную камеру, да таварышаў. Сувязь з воляй падтрымлівалася праз наглядчыка Бялевіча, які перадаваў сякую-такую літаратуру: улётку, адозву або нават брашуру. Апекавалася палітвязнямі неўтаймоўная Марыя Лісак. Кляновік прасіў яе лішне не захапляцца гэтым і перадаў (праз таварыша, які сядзеў з Кляновікам і адбыў свой тэрмін) указанне ўладкавацца на працу ў Брэсцкай крэпасці і праводзіць тлумачальную работу сярод салдат гарнізона.

У турме Кляновік узяўся пераплятаць кнігі турэмнай бібліятэкі. Быў неблагім пераплётчыкам і не мог утрымацца, каб у кнігу царкоўнага зместу не ўплесці якую-небудзь улётку ці адозву, а то нават і брашуру. Хутчэй за ўсё дзеля гэтага і пераплятаў. Хай чытаюць, хай варушаць дрымучымі галовамі!

Вестка пра разгром Грамады дайшла і ў турму.

— Аказваецца, і камуністы мала што могуць, — уздыхнуў, сумна махнуўшы рукой, вязень з-пад Камянца, які сядзеў за падаткі. Ціхмяны, бледны чалавек з сіняватымі вуснамі.

Кляновік паспрабаваў тлумачыць, паводзячы падсівелымі ўжо вусамі:

— Ну, што ж, сапраўды на гэты раз не ўдалося. Законы класавай барацьбы — суровыя. Не атрымалася на гэты раз — атрымаецца на наступны.

— Па ўсім свеце мітынгі, — падбадзёрваў таварышаў Саванеўскі, — і ў Германіі, і ў Чэхаславакіі, і ў Аўстрыі! Гэта — факт!

Хтосьці дадаў:

— І ў Бразіліі!

Але настрой у камеры рэзка ўпаў, галасы амаль сціхлі, прыдушаныя сценамі. Кляновік гэта бачыў і адчуваў, што трэба нешта рабіць. Ён зноў спрабаваў пераконваць:

— Некалі ўспомніце мяне!

Вязні маўчалі, адно толькі дзівячыся ягонай нястомнасці:

— Настане, хлопцы, час, калі ўсе мы, уся рабочая і сялянская моладзь Польшчы, пройдзем праз трупы правакатараў, буржуяў і паноў са сцягамі рэвалюцыі і вызвалення!..

Сказаў і таксама змоўк: відаць, і сам усведамляў недастатковасць і непераканаўчасць сваіх слоў. Пасівелыя, як бы злінялыя, вусы, здавалася, яшчэ ніжэй апусціліся на вусны, закрылі рот…

Між тым набліжалася 1 Мая 1927 года. Момант, што і казаць, вельмі адказны. Тут спаць у шапку нельга, трэба заявіць аб сабе на поўную сілу. У Кляновікавай галаве саспеў план, якім ён падзяліўся з турэмным камітэтам. Таварышы з туркома, асабліва Саванеўскі з Пякарскім і Фама Голуб, падтрымалі: трэба недзе знайсці кавалак чырвонага матэрыялу. Выручыў Бялевіч. Прынёс цэлы метр чырвонага шоўку, перададзены з волі, ад Марыі. Яго схавалі, а ноччу парвалі на тонкія пасачкі, каб хапіла на ўсіх, у тым ліку і таварышам з суседніх камер. І вось той дзень надышоў — святочны, хвалюючы, барацьбяны. З раніцы яны прымацавалі чырвоныя стужачкі да грудзей і прыставілі табурэткі да сцяны, пад вокнамі. Ва ўмоўлены час усталі на табурэткі і скрозь аконныя краты закрычалі — у далёкі небны блакіт:

— Няхай жыве 1 Мая!

Закрычалі і раз, і два, і тры — і з кожным разам усё грамчэй:

— Няхай жыве 1 Мая — свята працоўных усяго свету!

Азваліся суседзі:

— Нех жые Звёнзэк Радзецкі!

— Прэч з жондэм фашыстоўскім!

— Далоў паліцэйскі тэрор!

Крычалі ўсе разам. Крычалі і па-тутэйшаму, і па-беларуску, і па-польску, і па-руску.

Потым загучаў спеў. Турма адгукнулася «Інтэрнацыяналам». Спявалі нават крымінальнікі. Крымінальнікі лічыліся сацыяльна блізкімі. Сярод іх часам трапляліся і камсамольцы, асуджаныя за непалітычныя справы па крымінальных артыкулах.

Начальнік турмы не адразу зразумеў, што спяваюць у яго ўстанове, — падумаў, што гэта недзе ў горадзе. Як бы адгукнуўся Вялікі базар, які амаль на беразе Мухаўца.

— Няхай жыве дзень смотра нашых сіл! — неслася за акном начальніцкага кабінета.

Па сківаіцах пана начальніка забегалі жалезныя жаўлакі. Ён падняўся і выскачыў у калідор.

— Далоў фашыстоўскую дыктатуру! — грымела навокал. — Мы патрабуем свабоды палітычным вязням! Далоў тэрор!

Паляцелі істэрычныя каманды і распараджэнні. І пачалося. Па турэмных калідорах загрукалі боты турэмшчыкаў, якія ўжо валаклі пажарныя шлангі і напраўлялі іх праз расчыненыя дзверы ў камеры. Магутныя струмені прыціскалі вязняў да сцен і валілі на дол, скрозь заліты вадой. Наглядчыкі ўрываліся у камеры, узброеныя гумавымі дубінкамі. Градам пасыпаліся ўдары. Пачуліся стогны і енкі.

— Не біць! — падняў моцна сашчэплены кулак Кляновік.

— Не біць! — падхапілі члены туркома, але гэта толькі яшчэ больш ярыла турэмшчыкаў.

— Не біць! Не біць! Не біць! — скандзіравалі вязні, угінаючы галовы і спрабуючы засланіцца рукамі.

Кляновіка аддзялілі ад астатніх і запхнулі ў карцэр.

— Лібералізм скончыўся, цяпер мы з вас скуру будзем здымаць! — сказаў хтосьці з турэмшчыкаў.

Бразнулі дзверы, пстрыкнуў замок, і ён апынуўся у непрагляднай цемені, якая, аднак, не давала аніякага супакаення. Прыслухаўся. Сцены, здавалася, стагналі ад людскога болю, і гэта балюча дзейнічала на нервы. «Лоўка б'юць, — падумаў, — натрэніраваліся гады на нашых спінах ды галовах...» Успомніў Маскву, Уладзівасток, куды калісьці прыплыў на караблі з Амерыкі. Паспрабаваў уявіць, як адбываюцца першамайскія дэманстрацыі ў Савецкім Саюзе. Новы дзень ідзе ад Уладзівастока да Масквы, людзі прымацоўваюць да грудзей чырвоныя банты, бяруць сцягі і ідуць на плошчы і вуліцы. Чырвонае мора сцягоў! Пралетарскі гонар і годнасць! Абдымкі і віншаванні! А ён тут, у гэтым заплеснявелым карцэры, у турэмнай нары! Ну, што ж, камусьці трэба быць і тут, на пярэднім краі, твар у твар з ворагам. Лакаматыў рэвалюцыі сам не пакоціцца, асабліва калі пад гару. Трэба падставіць плячо, штурхнуць трэба!..

Есці прынеслі толькі назаўтра. Бляшаную міску баланды, кавалак хлеба і кубак жалудовай кавы. Праз колькі дзён вярнулі ўсё ж такі ў агульную камеру. Першамайская дэманстрацыя далася ў знакі ўсім. Вязні абмацвалі галовы, плечы, спіны. Уся камера была пакарана «цвёрдым ложам» на цэлы тыдзень — спалі без коўдраў і матрацаў, на голых дошках.

Крыху ачуняўшы, Кляновік пачаў суцяшаць таварышаў:

— Гэтыя дубінкі яшчэ можна цярпець, а вось у Амэрыцы — як ушпарыць, дык ушпарыць! Там дубінкі гумовыя, але ў сярэдзіне жалеззе!

— Супраць жалеззя трываць цяжка, — згадзіўся Фама Голуб. — Супраць дрэва яшчэ можна, а супраць жалеззя цяжка.

— Цяжка, але трэба, — азваўся худы і надта змарнелы вязень з густой барадой, які да гэтага маўкліва, не падаючы голасу, сядзеў у кутку, успёршыся плячыма на сцяну і ўнурыўшы галаву.

Увага пераключылася на яго. Чалавек з барадой паводзіў сябе спакойна і ўраўнаважана, трымаўся асабняком. Некаторыя яго ведалі, але не прызнаваліся ў гэтым па існаваўшых у падполлі этычных меркаваннях. Рабілі выгляд, што незнаёмыя. Гэта быў Карл Мельперт — стары рэвалюцыянер, «апостал», якому ўжо было пад пяцьдзесят. Па Брэсцкім працэсе яго асудзілі на восем гадоў зняволення. Цікавы чалавек. З турмаў амаль не выходзіў. Кляновік ведаў, што да турмы прывыкнуць нельга, а Мельперт як бы абвяргаў гэтую старую, вядомую вязням ісціну. Бачыў у зняволенні неад'емную ўласцівасць барацьбы, няўмольную праяву лёсу рэвалюцыянера. Сядзеў яшчэ пры царызме. Твар яго за гады турэмнага зняволення набыў шэры колер і хаваўся ў вялізнай, да вачэй, і такой жа шэрай барадзе. Лысая, як більярдны шар, галава ільснілася дробнымі кропелькамі поту. Энергію ўнутранага пратэсту і непрыняцця турэмнага зняволення Мельперт схітраўся пераключаць на развіццё тэарэтычнай думкі, на асэнсаванне рэвалюцыйных шляхоў пралетарыяту. Імкнуўся адгарнуць заслону часу і зазірнуць у будучыню, прадказаць ход падзей.

— Вопыт гісторыі паказвае, што праўду схаваць ці знішчыць немагчыма, — павольна працягваў «апостал», крыху аддыхаўшыся. — Для іх, — ён паказаў пальцам, плоскім, з пукатым пазногцем, на дзверы, — наша праўда, як для чорта крыж. Каб маглі, дык бы і тут жа задушылі. Нічога! Усё адно мы ў выйгрышным становішчы. Чым больш рэпрэсій, тым большай будзе нянавісць пралетарыяту. Мы, рэвалюцыянеры, павінны ненавідзець ворагаў. Днём і ноччу — ненавідзець!

Ён пачаў гаварыць марудна і крыху заікаючыся:

— Я стары рэвалюцыянер! Я, браце, калі ненавіджу, дык да смерці! Я ўдзячны ворагам за гэту нянавісць. Яна дае адчуванне моцы!

«Апосталаў» у падполлі паважалі — тэарэтыкі, майстры думкі, мудрацы. Іх паслухаеш, дык сам паразумнееш. Карыфеі! І «апосталы» адчувалі гэтую павагу, размаўлялі прапаведніцкім тонам, павучальна, з адчуваннем заслужанага аўтарытэту. Карл Мельперт любіў выкладаць свой прадмет, які называў «Азбукай камунізму». Слухалі яго заўсёды сцішыўшыся, баючыся што-небудзь прапусціць.

— Гэта, — тлумачыў выкладчык, — рэч строгая. Тут, ведаеце, пра ўсё трэба забыць, нават пра бацьку з маткай…

«Апостал» закашляўся, затросся ўсёй сваёй нахіленай постаццю. Яму часта дакучаў кашаль, але «апостал» цярпеў, бадзёрыўся.

— Кашаль што — раматуз даймае, халера на яго, — вінавата паскардзіўся, пазіраючы на Кляновіка слязлівымі, з чырвонымі крывяністымі пражылкамі вачыма. — Хваробаў у мяне, браце, калі прызнацца, цэлы букет, усе, што ёсць на свеце.

Кляновік і ўсе, хто знаходзіўся ў камеры, бачылі, што, апроч таго, у «апостала» расстроілася харчаванне і балеў страўнік, але ён хваробам не даваўся. Адчувалася, што ён здольны многае вышерпець, адолець. Спакой і разважлівасць, здавалася, былі яго галоўнымі рысамі, але ўжо ў турме «апостал» меў слабасць ажаніцца з маладой. Яна з'яўлялася такой жа зняволенай, як і ён, толькі што маладзейшая ў два разы. Надта яго любіла за нескароны дух і адданасць рэвалюцыі, за смелыя прамовы ў судзе. У суд і з суда іх вазілі ў абшарпаным турэмным аўтобусе. Там, відаць, і надарыўся момант для інтымнай блізкасці. Рукі — у кайданках, але прырода ўзяла сваё. Нарадзілася дзіця. У турэмным шпіталі. Цяпер гэта пяцігадовая дачка жыве недзе ў Брэсце, у родзічаў. З жонкай «апостал» сустракаецца рэдка, толькі на прагулках, і неахвотна. «Няма часу! — тлумачыў неяк Кляновіку, якога адразу вылучыў з аднакамернікаў на першае месца. — Я ўсё ж такі павінен думаць над пытаннямі стратэгіі!» У душы Кляновік быў з ім згодзен. Любоў да рэвалюцыі, што ні кажы, вышэй любові да нейкай жанчыны, нават да жонкі. Тут і размовы не можа быць.

Пасля заканчэння працэсу над Грамадой камера пачала абмяркоўваць, хто з грамадоўцаў на які тэрмін асуджаны. Саванеўскі падлічыў нават агульны тэрмін зняволення. Аказалася, што ўсе разам атрымалі 376 гадоў. Трэцяя частка тысячагоддзя, нават больш!

— Шмат! — азваўся асцярожны Мікалай Кулік.

— Няшмат! — абсек яго «апостал», сурова агледзеўшы прысутных. — Жыццё — гэта барба, а ў барбе здараецца ўсякае. — Ён падняў руку і пагразіў камусьці сваім плоскім, з крывым пазногцем пальцам.

— А хто вы па нацыянальнасці, дзядзьку? — рашыўся на «вучонае» пытанне Фама Голуб.

— А гэта не мае значэння. Ну, калі хочаце, я паляк, — «апостал» засмяяўся, паказаўшы цёмны рот і шчарбатыя зубы, але смех перайшоў у кашаль. Адкашляўшыся, патлумачыў: — Пры камунізме нацыянальных адрозненняў не будзе. Людзі забудуць, хто ёсць хто. Усе будуць роўныя і аднальковыя.

Сказаў чамусьці не «аднолькавыя», а «аднальковыя», перанёсшы націск з другога на трэці склад.

— І крыўдаў не будзе! — гэта дадаў ужо Кляновік.

— Мы прыйдзем да шчасця — хацеў бы хто гэтага ці не! — як бы напомніў прысутным «апостал». Гэта было яго любімае выслоўе.

У камеры на нейкі момант запанавала цішыня.

— Нязбытачна гэта! — парушыў маўчанне Кулік. Вочы яго выказвалі недавер.

«Апостал» незадаволена пахітаў галавой, уздыхнуў:

— Дзівак-чалавек! Ты паслухай мяне. Капіталізм асуджаны, ён загіне, знікне! Гэта, браце, даўно даказана марксістамі. Марксісты, каб ты ведаў, будуюць свае перакананні на ведах, на навуцы, якую даў пралетарыяту Карл Маркс. А гэта, павер мне, вялікі чалавек. Можа, самы вялікі, што калі-небудзь жыў!..

— Ды яснае дзела! Пераможа сусветная рэвалюцыя, — падтрымаў сябра Кляновік, якога, здаецца, ніколі не пакідала гэтая думка. — Сусветная рэвалюцыя і камунізм! Нам яшчэ пры камунізме давядзецца жыць, успомніце маё слова!

— Але над гэтым працаваць трэба! — зноў загаманіў «апостал». — Камунізм сам сабой не прыйдзе. Трэба шмат працаваць, каб камунізм прыйшоў.

— Вядомая справа! — адгукнуўся са свайго месца Фама Голуб. — У СССР працуюць свабодна, не так, як мы.

«Апостал» незадаволена глянуў убок Фамы, які перабіў яго выступленне, і працягваў:

— Трэба, таварышы, узнімаць свядомасць кожнага чалавека, — крыху прыўзняўся, адарваў плечы ад сцяны і пачаў разважаць як бы сам з сабой: — Тут шмат цяжкасцей. Чалавек — усяго толькі чалавек. Ён — як ікрынка ў вялікім жыцейскім моры. Туды-сюды, шукае месца. Індывідуальную свядомасць, на жаль, фарміруюць не толькі аб'ектыўныя абставіны, але і асабісты вопыт чалавека. А ён, як вам вядома, не заўсёды супадае з грамадскай свядомасцю класавай масы. А трэба, каб усё супала да міліметра! Гэта цяжка, я не кажу, што гэта лёгка. Але ўсё адно мы пераможам! Рэвалюцыянеры, як зоркі, асвятляюць ноч. Дзень ужо блізка! — «Апостал» стаў кашляць, прыпыніў свой маналог, а потым, адкашляўшыся, дадаў: — У 1920 годзе Ленін казаў пра дзесяць-дваццаць гадоў, якія аддзяляюць Расію ад камунізму. Усяго толькі! Дзесяць-дваццаць гадоў!

— К таму часу будзем ужо на волі, — азваўся Пякарскі.

— Трэба жалезная дысцыпліна! — напомніў Кляновік. Яго падбародак заставаўся спакойным і валявым, і ўвесь выгляд — строгі і засяроджаны.

— Рэвалюцыйную барацьбу трэба любіць больш за жыццё, — павучальна, не ўзвышаючы голасу, як бы папраравіў яго «апостал», — змаганне нараджае герояў. А што вы думалі? За ідэю часам трэба і памерці. Такая вось мая філасофія.

У словах старога вязня гучала зацятасць.

— Філасофія — гэта аснаўное, — глыбакадумна ўздыхнуў Іосіф Куркоўскі. — Гэта грунт. Якая філасофія, такое і ўсё.

— Філасофія — дзела добрае, — пагадзіўся Кляновік, як бы падводзячы вынік размове. — Асабліва калі за ёю навука стаіць. Навука многае можа! Яна і пракорміць, і апране, і сагрэе. Але гэта будзе пры камунізме, не раней.

Мікалай Кулік уважліва слухаў усё, што казаў «апостал» і іншыя таварышы, а калі яны скончылі, раптам спытаў:

— А што будзе далей, за камунізмам? Дасягнуць камунізму, а далей што?

«Апостал» доўга маўчаў, гладзіў рукой бараду. Відаць, пытанне сталася нечаканым нават для яго.

— Хто ж яго ведае, — паспрабаваў дапамагчы «апосталу» Саванеўскі, які ўважліва слухаў усю «гавэнду», што вялася ў камеры. — Паглядзім.

— За камунізмам? — перапытаў «апостал» і ціха пасміхнуўся. — Справа ў тым, што людзі нічога лепшага за камунізм не знайшлі. Можа, што і прыдумаюць з цягам часу, але, — ён скептычна пахітаў галавой, — мусіць, не. Нічога лепшага за камунізм быць не можа.

Вязні аціхлі і больш не вярталіся да гэтай гаворкі, кожны думаў пра сваё.

Апошнім часам хворы «апостал» больш ляжаў, чым сядзеў. Ігнараваў нават прагулкі. Не то ленаваўся, не то эканоміў сілы, якіх у яго заставалася няшмат. Неяк пасля «шпацыру», вярнуўшыся ў камеру, яны, па прапанове туркома, асудзілі антысавецкую вылазку трацкістаў у Маскве, у 10-ю гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі. «Апостал» на гэты конт нічога не сказаў, змаўчаў, потым адвярнуўся да сцяны, ні з кім не ўступаючы ў размовы.

— Нешта «бацька» ўжо і ўставаць не хоча, — шапнулі Кляновіку Саванеўскі з Куліком, маючы на ўвазе старога рэвалюцыянера.

— Занядужаў стары.

Па часе той, здавалася, зусім страціў бадзёрасць, стаў да ўсяго абыякавы. Не ўступаў ужо і ў дыскусіі. Ён як бы акалеў у халодных, неадчэпных абдымках турмы.

— Схуднеў ты, таварыш, — паспачуваў яму Кляновік, — зусім з цела спаў.

Гэта было як бы нават і не спачуванне (яны баяліся і пазбягалі прынізіцца да гэтага), а проста канстатацыя таго, што адбывалася. «Апостал» толькі ціха пасміхнуўся з Кляновікавай заўвагі:

— А нашто тое цела? Грувасткае дужа ды і непатрэбнае. Патрэбна вось што! — «апостал» патыркаў сябе пальцам у галаву, крыху вышэй вуха, намякаючы, мусіць, на розум ці назапашаны вопыт змагання. Турма і сапраўды выпарыла з яго ўсё тое, што лічыў неістотным, лішнім, і працягвала выпарваць далей.

Ён змоўк, прыслухаўся, кашлянуў і сказаў:

— Адсюль я, мусіць, ужо не выйду…

— Выйдзеш, таварыш! Ды, можа, яшчэ і чырвоны наш сцяг узнімеш на першамайскай дэманстрацыі.

— Але нічога! Дачку я нарадзіў. Для будучага нарадзіў! Там жанчыне будзе добра. Жанчына не будзе губляць час каля пліты — будуць пабудаваны фабрыкі-кухні, для ўсіх разам. Хочаш есці — калі ласка… — Ён зрабіў паўзу. — Не толькі жанчыне — усім будзе добра. Не будзе ні бедных, ні багатых, ні галодных, ні хворых, ні тоўстых, ні тонкіх, не будзе войнаў, а будзе згода, мір і праца. Але не трэба забываць, што будучыня немагчыма без барацьбы.

Пэўны час «апостал» і Кляновік маўчалі, падкрэсліваючы тым самым, што яны добра разумеюць адзін аднаго і без слоў. Потым «апостал» ціха спытаў:

— А сапраўднае маё прозвішча ведаеш?

Кляновік памаўчаў, а потым пакруціў галавой:

— Не.

«Апостал», мусіць, хацеў назваць гэта сапраўднае прозвішча, але таварыш перапыніў яго:

— Не трэба, бо ты і майго не ведаеш.

— Вось гэта правільна, дружа, — заківаў галавой хворы і дадаў: — Галоўнае, што мы людзі, што ў нас жыве агонь змагання.

Кляновік кіўнуў у адказ. Да іх бліжэй падсунуліся Кулік, Пякарскі, Саванеўскі, Куркоўскі, Фама, нехта яшчэ… «Апостал» агледзеў прысутных і набраў у грудзі паветра:

— Таварышы! — ціха раскінулася па камеры. — Памятайце, што наша справа…

Фраза аказалася занадта доўгай для яго рана пастарэўшых у турме лёгкіх, і ён папярхнуўся, не скончыўшы яе, перавёў дыханне, але працягваць не стаў. Шчыльней абапёрся на сцяну і ўжо зусім ціха папрасіў:

— Хлопцы, заспявайце мне «Мы красные кавалеристы», заспявайце!

Вязні пераглянуліся і паціху, як бы змаўляючыся, пачалі:

Мы красные кавалеристы,
И про нас
Былинники речистые
Ведут рассказ…

Да песні далучыў голас і Кляновік:

Пускай пожар кругом —
Кругом пожар!
С нами Ворошилов —
Первый офице-ер!..

«Апостал» на момант ажыў і ціха загрукаў па цэментнай падлозе пукатымі, цвёрдымі, як жалуды, пазногцямі, адбіваючы рытм.

Пускай пожар кругом —
Кругом пожа-ар!..

— ціха падтрымаў ён спевакоў, апусціўшы свае цёмныя, крыху прыпухлыя павекі.

Кляновік зірнуў на хворага і падумаў: «Вочы заплюшчаны, а пажар бачыць. Відушчы!» Але «апостал» у песню больш не ўступаў, а хутка і зусім аціх. Даспявалі песню без яго. Ноччу ён памёр.

Пасля таго, як цела вязня вынеслі з камеры, Кляновік шмат думаў пра памерлага, які не дачакаўся перамогі, таго вялікага моманту, калі ўсе таварышы па барацьбе выйдуць на вуліцы з чырвонымі сцягамі, калі дэманстрантаў будзе вітаць рэўком і прамчацца з узнятымі шаблямі чырвоныя коннікі.

«Дзеля гэтага трэба змагацца. Змагацца, змагацца і яшчэ раз змагацца. Ні ў чым не саступаць. Быць апосталам рэвалюцыі — гэтага, таварыш мілы, мала. Трэба быць яшчэ і дэманам. Дэман — гэта справа, дзеянне. Апостал — усяго толькі пасланец. Ён на слова абапіраецца, а слова яшчэ не ўсё, трэба арганізацыя, нязломная воля партыі…»

## XII

Апошнім часам чуткі пра падпольшчыкаў як бы аціхлі, але аднойчы пад раніцу прускаўцы пачулі стрэл. Фёкла ў гэты час якраз падаіла карову і прыйшла разбудзіць Васю, пара было выганяць Ланьку на пашу.

— Дзе гэта — на гасцінцы? — насцярожыліся адначасова і Вася, і Лявон і, апрануўшыся, не змаўляючыся, кінуліся на вуліцу.

Па вуліцы ўбок гасцінца ўжо беглі людзі. На гасцінцы ляжаў чалавек, стагнаў, дзёр пазногцямі дарожны пыл, нешта хацеў сказаць, але не мог. З рота струменіўся пасачак крыві. Прускаўцам — тым, хто прыбег і стаў сведкам гэтага відовішча, — ажно заняло дых.

Выйшаў зірнуць і Косця. Незнаёмы перастаў ужо стагнаць і не падаваў прыкмет жыцця. Цімоша з Пятром Ламакам павярнулі яго на спіну, і ўсе ўбачылі, што кашуля спераду была ўся ў крыві, да якой наліп пясок. Твар забітага пасінеў, ашклянелыя вочы глядзелі ў неба, пасачак белых зубоў нагадваў здзіўленую ўсмешку. На барадзе застыў струменьчык крыві.

— Малады яшчэ, — зазначыў Оргій Відэрка, які прыбег адным з першых (блізка жыў).

— Хай Бог крые! — сказала якаясьці з жанчын. — Ай-яй! Такога яшчэ не было!

— Аднака, — баязліва павёў галавой Гамон.

— Набрала сілу санацыя... — адрэагаваў і Косця, уважліва ўглядаючыся ў аблічча забітага.

Пад вечар прыехала паліцыя, пачаліся допыты, але ніхто нічога не мог сказаць. Забітага ніхто не ведаў, апроч Косці, які пазнаў у ім інструктара з Брэста Вацака. Сустракаліся нядаўна на канспіратыўнай кватэры ў Камянцы. Для Косці было зразумела, што Вацака падстрэліла паліцыя. «Падстрэлілі, сволачы, і кінулі на дарозе. Застрашыць хочуць», — падумаў ён.

Цела забітага паліцыя забрала ў Камянец, быццам бы для апазнання. Адвёз па загадзе солтыса Гамон, які надта не хацеў, бо баяўся нябожчыкаў, але загад ёсць загад — давялося везці.

На тым месцы, на абочыне гасцінца, дзе ляжаў, сплываючы крывёю, Вацак, людзі насыпалі магілу. Хто канкрэтна гэта зрабіў — ніхто не ведаў. Відаць, моладзь, але пра гэта гаварыць не даводзілася. Паліцыя не забывала пра Пруску, час ад часу наведвалася, і кожны раз на гэта былі якіясьці прычыны. Аднойчы заявіліся нават у школу, якая па-ранейшаму месцілася ў «чвураку». Вася, вярнуўшыся з заняткаў, растлумачыў бацькам:

— Яны шукаюць таго, хто замазаў сажай партрэт Пілсудскага.

Лявон насцярожыўся:

— Ну і ці знайшлі?

— Не.

«Ці не Косціна гэта работа?» — падумаў тады Лявон. Апошнім часам «марыканец» неяк больш павярнуўся да моладзі. Летам выязджаў разам з моладдзю ў начное. На тым самым Сівым, якога некалі з дзядзькам Цімошам пафарбавалі ў чырвоны колер. Ледзьве тады адмылі тую, разведзеную на алеі чырвоную фарбу. Цяпер Сівы зноў стаў сівым, вярнуўшы сабе ранейшы, натуральны колер.

Разам з усімі стаў вадзіць каня ў начное і Вася.

Пад'ехаўшы да лесу, хлопцы саскоквалі з коней, путалі іх і адыходзілі ўбок збіраць дровы і разводзіць касцёр.

З'явіўся і яшчэ адзін начлежнік — Гамон.

— Добры вечар! — павітаўся ён, злазячы з каня і здымаючы з яго спіны сяннік, набіты саломай, на якім Гамон звычайна спаў. Дзяцей у Гамона не было, дапамогі чакаць няма ад каго, і ён вымушаны быў завіхацца адзін, калі не лічыць таго, што пры ім знаходзілася Матрона.

— І вам таксама! — адказаў Сяргей Сталетнік, які больш за ўсіх любіў пажартаваць над дзіваком.

Гамону неяк не шанцавала ў жыцці, не шанцавала ні на што. Вось і апошнім часам з ім здарылася ідыёцкая гісторыя з казой, якую Гамон купіў у Берасці і хацеў нейкім чынам даставіць у Пруску. (Карова, якую ён узяў некалі ў Шведа да трэцяга цяляці, так і не ацялілася, і яе давялося вяртаць назад — гаспадару.) Пра казу ўжо ведала ўсё наваколле. Над гэтым выпадкам дужа смяяліся.

Хлопцы прынеслі дровы і пачалі разводзіць касцёр. З агнём дапамог Косця — чыркнуў запалкай, запаліў сухія трэскі, ламачча, і вогнішча занялося. Пачалася гамана. Як ні прасілі Гамона расказаць пра казу, як ні ўгаворвалі, ён наадрэз адмаўляўся і згадзіўся толькі тады, калі Косця паабяцаў сала.

— Ну, купіў я яе ў Берасці, на Вялікім базары, каля Мухаўца, — пачаў Гамон, — у нейкага мешчанчука. Не дорага заплаціў — паўзлотага. Прыгожае нават, я вам скажу, стварэнне, толькі што з барадой. Вось тут! — расказчык ткнуў пальцам у сваю худую скрыўленую шыю. Але як яе даставіць у Пруску? Я адзін, без каня, без воза. Сяду з ёю, думаю, у поезд, даедзем да Лышчыцаў, а там, рукой падаць, Пруска. Датэпаем як-небудзь. Ну, узяў я за павадок, і падаліся мы з ёю на Граеўку, на вакзал. Ідзём праз увесь горад, па Дамброўска-

га. Паліцыя пару разоў спыняла. «Куды гэта, пан, з kozą?» — пытаюцца. «Як куды — на станцыю. А там да Лышчыцаў!» Не разумею, чым яна магла ім не спадабацца. Паглядзець — разумная, як чалавек, толькі што не гаворыць, а мэкае. Дабраліся мы да Граеўкі…

— А як вы на пешаходны мост падняліся? — запытаў Крсця. — Там жа ступенькі!

— Па ступеньках. Яна на заднія ногі ўстала і — чык-чык-чык — пайшла! Паперадзе мяне!

— Ну і ну! — хмыкнуў у вусы Косця.

Начлежнікі стрымана зарагаталі, не дазваляючы большага, каб не спыніць крыўдлівага расказчыка. Можа, пакрыўдзіцца, тады не дапросішся, каб працягнуў свой аповед.

— Я, натуральна, у касу, узяў білет і кіруюся да вагона. Ну, сустракае праваднік. «А на kozu білет ёсць?»

Я развёў рукамі. Дзе гэта бачна, каб на казу браць білет. Каза — яна і ёсць каза.

А ён строга гэтак: «Каза пах дае!» «Каб табе ў бок дало, — думаю, — нягоднік ты!» Каза, бедная, жаласна так затрэсла барадой, пазірае мне ў вочы, мэкае, нібы нешта сказаць хоча ці даведацца пра што. Мне, ведаеце, гэтак шкада яе стала, што я, яшчэ б трохі, і заплакаў бы. Што ж, думаю, рабіць? Не пакідаць жа казу на станцыі, на гэтым запляваным бруку. Ішоў міма нейкі хлюст і кажа: «А прывяжы яе ззаду да поезда, нікуды не дзенецца, будзе бегчы!» Сказаў гэтак і пайшоў сабе далей, ухмыляючыся. «А можа? — падумаў я. — Лышчыцы ж не так і далёка. Няўжо не дабяжыць?» А тут ужо і адпраўленне аб'яўляюць. Я за казу — і ў канец поезда, а яна, бедная, усё мэкае. Прывязаў за павадок да апошняга вагона за буфер. Торгнуў павадок — моцны, не абарвецца. Каза яшчэ раз працягла мэкнула. «Ну вось, усё ў парадку, як трэба», — падумаў я і пабег у свой вагон. Поезд ужо скрануўся з месца, я залез, сеў, азірнуўся па баках. Народу не так і шмат. Падпанкі ўсё, добра апранутыя, пшэкаюць. Нашага брата, прыстойнага чалавека, і не відаць. За Адамковам пачалася гайданка, вагон на вагон лезе, наскоквае, усё дрыжыць і трасецца. Нават падпанкі прымоўклі. Раптам чую, як калёсы выбіваюць тахт, нібы з рэйкамі перамаўляюцца: «Дзе каза? Дзе каза? Дзе каза?..» Ну, урэшце, і я затрывожыўся: «Дзе ж яна, бедная, як яна там? Бяжыць, мусіць, з усіх сіл. Каб жа хоць усё было добра…» Хацеў адчыніць акно, каб азірнуцца назад, на маю козачку, падбадзёрыць яе, але нейкі таўстун на суседняй лаўцы залямантаваў: «Не адчыняй, бо скразняк! Прастудзіш, пся маць!» А сам — тоўсты: мундзір на ім па швах трашчыць і шчокі на каўнер паабвальваліся. «Эх, — думаю, — будзь, што будзе! Няўжо Бог дапусціць, каб з казою што дрэннае здарылася. Гэта ж такое бязвіннае стварэнне, што грэх і пакрыўдзіць…»

У гэтым месцы Гамон прыпыніўся, хлюпнуў носам:

— Пад'язджаючы да Лышчыцаў, цягнік загудзеў, ды так прарэзліва, нібы нешта здарылася, потым, як звычайна, замарудзіў ход, спыніўся. Я, не марудзячы, адразу ў дзверы кінуўся, бягу, пра казу думаю. Дабягаю да задняга вагона, а яе няма! Павадочак толькі на буферы матляецца. «Ну, — думаю, — вось дык купіў! Што ж цяпер Матрона скажа? Яна ў мяне калі злая, забіць можа. Як не ў сабе робіцца». Мяне, ведаеце, у пот кінула…

— Ну, а дзе ж каза? — спытаў Ламакаў Оргій, падкладаючы ў касцёр ламачча.

— У Берасці, мусіць, засталася! — зарагатаў Сяргей Сталетнік. — У горадзе!

— Адстала! — вырашыў Апанас Хомка, які ўсё заўсёды ўспрымаў надта сур'ёзна, але разам з тым і наіўна.

— Можа, хто адвязаў ды сабе забраў, — прамармытаў Грышка Латушка, з якім згадзіўся і Паздзей.

— Не, — сумна пахітаў галавой Гамон, — я па рэйках кінуўся назад, кіламетраў, мусіць, з дзесяць прабег і толькі, ведаеце, галаву знайшоў. З рагамі. Ляжала паміж рэек.

Першым, як бы ад задавальнення, засмяяўся Грышка Латушка. Не ўтрымаўся ад смеху і Косця. Тут ужо і ўся грамада выбухнула нястрымным рогатам. Асабліва гучна смяяўся Сяргей Сталетнік.

— Пасмяяўся гаршчок з катла, — не вытрымаў, сярдзіта глянуў на яго Гамон.

— Ты, Гамон, мусіць блёкату наеўся. Хто прывязвае казу да поезда? — працягваў рагатаць Сталетнік.

— Гэта, хлопча, можа, у цябе не ўсе дома! — агрызнуўся пакрыўджаны Гамон.

— Не, мае ўсе дома! — як бы пахваліўся Сталетнік.

— Не шанцуе мне, — адгукаючыся на Сталетнікавы словы, задумліва сказаў Гамон. — Такі, відаць, лёс.

— Рэбры ад смеху баляць, — паскардзіўся, абмацваючы бакі, Косця.

— Ну і Гамон! — пацяшаўся Мішка Галёнка. — Дзядзьку! — звярнуўся ён да Косці. — А нашто вы тады каня пафарбавалі?

Мішку падтрымалі іншыя:

— Сапраўды, нашто?

— Нашто? — засмяяўся «марыканец», бліснуўшы ў сутонні белымі зубамі. — Хацелася нешта зрабіць такое, каб людзі прачнуліся, іншымі вачыма на жыццё паглядзелі, а то сон усіх адолеў. Вось я і пафарбаваў!

Вакол клубіўся, завіваючыся доўгімі языкамі, туман, па якім коўзаліся, то ўзнікаючы, то зноў прападаючы, водсветы кастра і няпэўныя цені начлежнікаў. Пара было паглядзець, ці на месцы коні, ці не забрылі куды-небудзь у шкоду. Такое здаралася часта, тады пападала ад гаспадароў, ад чаляднікаў Падгурскага, урэшце і ад бацькоў. Калі начлежнікі вярнуліся, Косця зацягнуў песню:

Наверх вы, товарищи, все по местам!
Последний парад наступает…

Хлопцы падхапілі — у Прусцы любілі гэтую песню. Калі начлежнікі скончылі «Варяга», Косця сказаў, страсянуўшы рудой чупрынай:

— Гэта, хлопцы, старая песня, ёсць новыя. Новыя больш бяруць за сэрца!

І ён пачаў ціха, ледзьве чутна:

Там вдали за рекой
Загора-ались огни-и,
В небе ясном заря догорала-а.
Сотня юных бойцов из будённовских войск
На разведку в поля поскакала-а…

У «марыканца» быў, аказваецца, неблагі голас, нягучны, але прыемны барытон. Начлежнікі прымоўклі, слухаючы песню пра смерць маладога камсамольца ў адкрытым баі з ворагам.

Ты, конёк вороной,
Передай дорогой,
Что я честно погиб за рабочих…

Песня клалася на сэрца, чаравала, узнімала пачуцці.

— Гэтую песню, хлопцы, добра пад гітару спяваць, — сказаў Косця.

Хвядзюшка Шпунт запытаў:

— Дзядзьку Косця! А вось кажуць — камунізм, камуністы. А што гэта такое?

— А колькі табе гадоў?

— Пятнаццаць.

— І чый ты?

— Шпунтаў сын. Бацька яшчэ з той вайны не прыйшоў.

— З імперыялістычнай?

— Ну, мусіць. Якую цар Мікалашка распачаў.

Хвядзюшка так і заставаўся калантыром, не хапала, відаць, харчоў, каб крыху падрасці ды расправіць плечы. Рос зацятым, тоячы на кагосьці крыўду.

— Наконт камунізму, браце, даведаешся, калі падрасцеш.

— Я ўжо вялікі. Гэтак і маці кажа.

На «марыканца» няўцямна і разам з тым недаверліва глядзелі Хвядзюшкавы бясколерныя вочы. Потым па патрэбе яны крыху адышліся ад вогнішча.

— У вас у школе, я бачыў, вісіць партрэт Пілсудскага? — як бы між іншым пацікавіўся Косця.

— Ну, вісіць.

Косця ціха засмяяўся:

— Вазьмі сажы ды замаж!

— Гвазда баюся.

— Не бойся. Стары дурань, як і ўсе.

* * *

Набліжаліся выбары ў сейм. Выбарамі кіравала гміна, але Косця вёў сваю агітацыю.

— Наш спіс нумар трынаццаць. Гэта спіс працоўнага народа — сялянства і рабочых, — тлумачыў ён прускаўцам. — Запомніце: не за першы нумар галасуйце, а за трынаццаты! Першы спіс, хоць ён і называецца «ББ» — беспартыйны блок, — гэта партыя Пілсудскага.

На лаўцы Міколы Шпронькі вісела прыклееная кімсьці папера з надпісам чырвонай фарбай: «Галасуйце за спіс «Рабоча-сялянскае адзінства — № 13». Павесіў, мяркуючы па ўсім, Косця, прывёзшы паперу з Берасця.

Паліцыя за «марыканцам» усё ж такі сачыла і даволі пільна. Косця гэта адчуваў, прыпыніў нават работу, але аднойчы не ўтрымаўся і раскідаў каля Шпронькавай лаўкі пачку прывезеных з Камянца перадвыбарчых улётак. Але гэтага паказалася мала, і ён вырашыў кінуць трохі каля царквы. Назаўтра меліся святкаваць Іаана Багуслава, чакалася шмат народу. «Марыканец» пералез праз каменную агароджу і аказаўся ў царкоўным двары, хацеў узлезці на ганак. І тут раптам пачуў суровы вокрык:

— Рэнцэ догуры!

«Што рабіць? Спыніцца, ці ўцякаць, ці не звяртаць увагі?» Пачуліся стрэлы. «Высачылі!» Ён шпурнуў рэшту ўлётак у глыб царкоўнага двара, дзе, зліваючыся з цемраю ночы, абы-як рос нікім не дагледжаны бэз, і павярнуўся да тых, хто, відаць, сачыў за ім і цяпер пералазіў праз агароджу. Крыкнуў, каб паказаць, што ён нікога не баіцца:

— Што такое? У чым справа? Хто тут?

— Ну вось, бачыш, рэвалюцыя скончана! — пачулася з цемры.

Косця пазнаў каменданта камянецкай паліцыі пшадоўніка Шчуку, які подбегам набліжаўся, шастаючы апалым лісцем. У яго руцэ можна было заўважыць пісталет.

— Усё, рэвалюцыя скончана! — бязладна размахваючы зброяй, абвясціў Шчука, аднак Косця не разгубіўся:

— Не, яна толькі пачынаецца!

— Што?!

— Не, гад, яна толькі пачынаецца! — паўтарыў Косця і з сілай ткнуў пшадоўніку прамымі пальцамі ў вочы — той падаўся назад і закрычаў дурным голасам. Аднекуль, з-за Шчукавай спіны, выскачылі паліцыянты і тут жа надзелі на «марыканца» наручнікі.

— Вось табе, хаме!

— Кепскіх сабак маеце, пане камендансе!

— Мундзіра прашу не зневажаць!!!

— Я не зневажаю, бо тыя сабакі, пра якіх я гавару, у цывільным адзенні!

«Марыканец», трымаючы скаваныя рукі перад сабой, павярнуўся і пайшоў да брамы, блытаючыся ў шырокіх полах свайго плашча. За ім подбегам кінуліся паліцыянты.

## XIII

У Камянцы, у пастарунку, пасля непрацяглага допыту — хто, адкуль, чым займаецца — яго штурхнулі ў пусты падвал. Зняможаны, прытуліўся да сцяны і паволі апусціўся на цэментную падлогу, абмацаў нос. З носа цякла кроў. Змяркалася, і ў падвале было ўжо зусім цёмна. Прайшло колькі часу. Бразнуў нарэшце дзвярны замок. Дзверы прыадчыніліся, і ў праёме з'явілася постаць паліцыянта. Прынёс сухар і нешта ў кубку, паставіў ля ўвахода на падлогу. Вязень узяў сухар, панюхаў, але есці не стаў, адклаў убок. У кубку была кава. Кавы, хоць яна аказалася без прыкмет якога-небудзь смаку, крыху выпіў, бо хацелася піць. Прыгадаў першы допыт. Нічога лішняга, здаецца, не сказаў. Пасадзілі на зэдлік і пачалі з высвятлення асобы.

— Імя, прозвішча? — спытаў Шчука, нават не зірнуўшы на арыштаванага.

— Канстанты Хлябіч.

— Адкуль прыехаў?

— З Амерыкі.

Шчука чмыхнуў носам і нешта пазначыў алоўкам у сваіх паперах.

— Хто перадаў табе ўлёткі?

— Я іх знайшоў, — не міргнуўшы вокам, адказаў арыштаваны. — Лістоўкі на тым месцы ляжалі даўно. Я іх там і раней бачыў, а потым думаю: дай пагляджу, што за паперы.

— Знайшоў, кажаш?

— Так.

Шчука падышоў да Косці амаль упрытык і, не замахваючыся, спрытна ўдарыў па твары. Удар быў хлёсткі і нечаканы, Косця не ўтрымаўся на стульчаку і паваліўся на падлогу, але тут жа, узлаваны, у ярасці ўскочыў, кінуўся на свайго крыўдзіцеля і паваліў Шчуку на падлогу, зубамі шукаючы яго глотку, але дабраўся толькі да вуха. Раздаўся дзікі крык. Прыбеглі паліцыянты — ажно ўтрох.

— Клубок! — у істэрыцы зароў Шчука, абедзвюма рукамі трымаючыся за вуха.

Далоні і запясці ў арыштаванага абматалі мокрымі анучамі і тут жа зашчамілі іх у наручнікі. Звязалі ногі і паміж рукамі і нагамі прасунулі лом. Дзейнічалі паліцыянты ўпэўнена і з веданнем справы. Косця і не згледзеў, як, апроч усяго, у нос увялі два тонкія шлангі. «Няўжо і Кляновіка гэтак жа

каталі?» — адзінае, пра што паспеў падумаць, адчуўшы ў носе смярдзючы пах газы.

Ачуняў ужо ў падвале. Ледзь дыхаў і ўвесь прапах газай.

Назаўтра зноў выклікалі на допыт. Перад ім сядзеў ужо не камендант Шчука, а следчы ў паліцэйскім мундзіры. Гэта быў добра ўкормлены, паўнашчокі вусаты мужчына з мутнымі вачыма ў крывяністых пражылках. Убаку, ля закратаванага акна, на дубовым стале ляжалі скураныя плёткі, гумовыя палкі, ружэйныя шомпалы, тут жа стаялі бутэлькі і вядро з нейкай вадкасцю. Косцю ён паказаў рукой на прыгатаваны стул, што стаяў насупраць. Арыштаваны сеў.

— Дык, кажаш, з Амерыкі прыехаў?

— З Амерыкі.

— Дык, можа, ты і праўда амерыканец? — крыва пасміхнуўся следчы.

Косця нічога не адказаў.

— Ну, як, будзем гаварыць?

Арыштаваны, апусціўшы галаву, маўчаў.

— Я да вас звяртаюся, «таварыш амерыканец». На які дзень было прызначана паўстанне? Скажы, і мы цябе адпусцім! Нашто ты нам? На якую халеру?

— Прашу прабачэння, якое паўстанне? На гэты конт мне нічога невядома.

Косця, між іншым, сказаў шчырую праўду: курс на паўстанне даўно быў адменены, і з таго часу ні пра якія тэрміны гаворкі не ішло.

— Ты што, лічыш нас за дурняў? Думаеш, мы нічога не ведаем?

Твар следчага пачырванеў: «Абмануць? Мяне? Я ж зубы ўжо з'еў, змагаючыся з такімі, як ты!» — гаварыў яго погляд.

— Выкладвай яўкі, паролі! — тут грубы голас следчага крыху палагоднеў: — Назаві прозвішчы, і адпусцім. Ну, падумай сам, які сэнс цябе трымаць?

— Не ведаю, чаго вы хочаце.

— Не ведаеш? — сумысля здзівіўся следчы і гучна паклікаў: — Заглоба!

Увайшоў мажнога выгляду паліцыянт з вялікім, распіраючым папругу жыватом і расстаўленымі ўбакі рукамі, з-пад носа і з носа ў яго, як мятла, тырчэлі няпэўнага колеру вусы, і стаў за спіной у Косці. Выглядам сваім ён і сапраўды надта нагадваў вядомага героя Сянкевічавай трылогіі блазнаватага шляхціца Заглобу. Следчы ледзь улоўным кіўком галавы паказаў на арыштаванага, і Косця ў тое ж імгненне адчуў, як страшэнны ўдар ззаду абрушыўся на яго галаву, і ўжо не заўважыў, як грымнуўся на падлогу.

Наступіла цішыня. Відаць было, што арыштаваны страціў прытомнасць, ляжаў на падлозе без руху. Заглоба адліў яго вадой і зноў усцягнуў на стул. Косця сеў, апусціў галаву і стаў зацята глядзець уніз, у нейкую адну кропку.

— А гэта што? — следчы дастаў з шуфляды шматок паперы і здалёк паказаў арыштаванаму. — Глядзі сюды!

Косця падняў галаву, глянуў і спачатку ўбачыў пальцы следчага, аброслыя зверху густымі чорнымі валасамі, потым угледзеў паперку. Гэта быў нейкі спіс. Косця паўзіраўся і разабраў прозвішчы прускаўскіх гурткоўцаў: Хлябіч Цімафей, Пятро Ламака, Агамемнан Гальяш, Мікіта...

«Як гэта магло трапіць у рукі паліцыі?» — падумаў ён і пацiснуў плячыма.

— Дэфензіва ведае ўсё!

— Калі ведае, дык чаго вы да мяне прычапіліся?

— Прычапіліся? Вы абвінавачваецеся ў прыналежнасці да змовы пад назвай КПЗБ! — следчы падняў свае мутныя, у крывяністых пражылках вочы на арыштаванага. — Мэта змовы ёсць падрыхтоўка антыдзяржаўнага пера-

вароту і замах на цэласнасць тэрыторыі Рэчы Паспалітай. У дадатак яшчэ і шпіянаж на карысць суседняй дзяржавы.

Арыштаваны адвёў позірк убок. Абвінавачанне было сур'ёзным.

— А мог бы і супрацоўнічаць!

— З кім?

— З намі, — следчы зрабіў паўзу. — Ты халасты?

— Халасты.

— Падпішы паперку, і мы адчэпімся! Будуць грошы, гарэлка, жанчыны, вясёлае жыццё!.. Згаджайся!

У акне за кратамі вецер гнаў хмары. Хваляю паласнулі па шкле кроплі дажджу. На супрацьлеглым баку плошчы ў зацішку нерухома стаялі ахопленыя залацістым полымем бярозы і клёны. Праз колькі дзён пад дажджом і ветрам лісце з дрэў ападзе, і галіны аголяцца, дрэвы падрыхтуюцца да зімы. Косця ўспомніў, што такія ж дрэвы можна было бачыць з вокан мінскай школы. Праўда, там, пад Мінскам, раслі яшчэ і яліны — школа знаходзілася ў лесе. Цікава жылі, адчувалі сябе не такімі, як усе. Ён успомніў хлопцаў-слухачоў з той школы, з якімі разам вучыўся. Пастаянная напружанасць была нормай. Рыхтаваліся да барацьбы — выканаць вышэйшы загад гісторыі. Так, загад партыі з'яўляўся адначасова і загадам гісторыі. У гэтым ніхто не сумняваўся. Успомніў Верку і яе словы: «Не вытрымаеш — пракляну!» Харужая была аўтарытэтам і мела сілу над усімі. Адчуў, як па скронях і па шыі пабеглі халодныя дрыжыкі.

— Не.

— Падпішы, перастанем, — следчы паварушыў вусамі.

«Катаваннямі пагражае», — зразумеў Косця і паўтарыў:

— Не.

— Мы ведаем усю вашу дзейнасць. Porywa się pan z motyką na słońcę![1] — як бы падвёў вынік іхняе размовы следчы, пстрыкнуў запальнічкай і закурыў цыгарэту. Зацягнуўся і дыхнуў блакітным дымам.

Арыштаваны таксама прымоўк. Сцяўся, не чакаючы нічога добрага.

— А ці ўмее пан гуляць у футбол? — спытаў следчы, колцамі выпускаючы з рота блакітны дым. Тыцнуўшы недакураную цыгарэту ў попельніцу, зноў паклікаў: — Заглоба!

З'явіўся той самы таўстун Заглоба.

— Дай пану піць!

Заглоба гукнуў такіх жа мацакоў, як і сам, і яны зноў скруцілі беднага Косцю. Адзін з паліцыянтаў узяў са стала бутэльку з нейкай вадкасцю, рыльцам сунуў яе яму ў нос. Гэта быў нашатыр — рэзкая і непрыемная па паху вадкасць, якая, здавалася, раздзірала ўсю насаглотку, пякла нутро.

— Заглоба, ешчэ воды! — падахвочваў следчы, здзекліва называючы нашатыр вадою.

Арыштаваны траціў прытомнасць, тады каты рабілі паслабленне, каб потым зноў усё паўтарыць спачатку. Невыказна цяжка было ўсё гэта вытрымаць, але праз колькі дзён допыты спыніліся, і яго перавялі ў агульную камеру. Усё цела было чорным, пабітым. Ныла сярэдзіна. У галаве раіліся бязладныя думкі. Авалодала апатыя, абыякавасць да ўсяго. Хацелася крыўдаваць на некага за тое, што яму не шанцуе ў жыцці. Чамусьці прыгадалася пружаўская настаўніца Пакорская. «Чаго гэта я яе раптам успомніў? — падумаў ён. — Прыгожая? Не надта. Бачыў і прыгажэйшых. Ці, можа, што з папом сышлася? Гэта ж рэдкі выпадак. Прырода ўсё ж такі бярэ сваё. Але што мне пра іх думаць? Яна — паненка, ён — поп. Вось толькі што на волі яны, а я…»

---

[1] Замахваецца пан матыкай на сонца.

Судзіў Косцю Пінскі акруговы суд. Таварышы, якія сачылі за лёсам арыштаванага, паклапаціліся пра адваката. Наглядчык адвёў Косцю ў пакой, у якім сядзеў добра апрануты і яшчэ не стары мужчына з фацэтнай лясачкай у руцэ.

— Адвакат Крыніцкі, — адрэкамендаваўся ён, глянуўшы на свайго падабароннага, на яго змардаваны, з цёмнымі сінякамі твар.

Косця не надта ахвотна адказваў на пытанні адваката. «Абараняе за грошы, служыць таму, хто больш плаціць. Пан».

— Яны лічаць, што вы член Камянецкага міжраённага камітэта КПЗБ, — сказаў адвакат.

— Хлусня! Ніякага камітэта я не ведаю. Ужо ўсё гатовы павесіць — мох і балота. Арыштавалі ні за што, яшчэ і здзекуюцца…

— Што вы быццам бы перадаеце нейкія важныя звесткі дзяржаўнага значэння…

— А што я магу перадаць? Якія сакрэты? Колькі вазоў Падгурскі на поле гною вывез, ці што? Каго гэта цікавіць?

— А хто такі Падгурскі? — запытаў адвакат.

— Мясцовы пан.

— А лістоўкі?

— Я іх знайшоў. Падсунулі іх мне.

— Малайчына, што вы ні ў чым не прызналіся, — пахваліў нарэшце адвакат.

Косця нічога не адказаў.

Суд аб'явіў тры гады турэмнага зняволення, і трэба было іх адседзець. У Пінску мелася, так сказаць, і свая турма, але Косцю цягніком, у закратаваным вагоне, павезлі на захад. Спыніліся ў сталіцы Палескага ваяводства — у Брэсце. Тут, у ваяводскай турме, яму і прызначана было адбываць тэрмін.

Пакуль пісар выконваў розныя фармальнасці, Косця агледзеў памяшканне, краты на вокнах, усміхнуўся ў вусы.

— Малады яшчэ, загубіш сябе ў турме, — пахітаў галавой пісар.

У камеру суправаджаў наглядчык з вузкай, казлінай, ужо добра пасівелай барадой. У руках трымаў картку з прозвішчам арыштаванага, годам нараджэння і арышту. Турма ўжо прачнулася. Пасля ранішняга свістка каліфактары панеслі апаражняць парашу. Звінелі ключамі наглядчыкі, перадаючы змену.

Каля адной з камер яны спыніліся, наглядчык адчыніў дзверы і ўпхнуў туды новага вязня. Косця агледзеўся. Камера як камера. Сцены пафарбаваныя ў зялёна-жоўты, амаль карычневы колер. Да сцяны прымацавана паліца для місак, конавак, лыжак. Над дзвярыма ля столі электрычная лямпачка з выключальнікам у калідоры. У дзвярах — акенца з вочкам, каб з калідора можна было бачыць, што робіцца ў камеры. У кутку драўляная скрыня з накрыўкай, пад якой стаяла вядро-параша. Пасярэдзіне камеры — нары. На нарах — вязні. Пазіраюць цікаўнымі вачыма на навічка.

Першым, з кім пазнаёміўся, быў Мірон Крыштафорык — рослы хлопец з Пружаншчыны. Негаваркі, але Косця тое-сёе пра яго даведаўся. Мірон хацеў падняць сцяг над вярбою пры дарозе каля сваёй вёскі. Яго высачылі і схапілі. Атрымаў два гады.

Даседжваў свой тэрмін Саванеўскі.

— Люра праклятая! — ганіў ён турэмную баланду. — Толькі пячайка ад яе.

Мільгануў Юрка Пружанскі — шэф заходнебеларускага камсамола. Прабыў у камеры ўсяго два тыдні і знік у невядомым кірунку. Кажуць, узялі на абмен палітычнымі вязнямі з СССР.

У глыбіні душы Косця спадзяваўся, што, можа, сустрэне тут Кляновіка, але не застаў. Куды падзеўся — невядома.

Разам з палітычнымі адбывалі зняволенне крымінальнікі. Неспакойныя і мітуслівыя людзі. Асабліва вылучаўся адзін — з прозвішчам ці мянушкай Цвілік. Колькі яму было гадоў, невядома, але яшчэ не стары. Рукавы турэмнай робы закасаныя, грудзіна расхрыстаная, жывот — голы. Жывога месца на чалавеку не знайсці — настолькі ўвесь быў распісаны і аздоблены самымі разнастайнымі і нечаканымі наколкамі. Тут былі чыесьці партрэты і надпісы на рускай і польскай мовах. Косця прачытаў: «Не забуду мать родную». Побач па-польску: «Pamętaj i czekaj»[1]. Пад вокам у Цвіліка цямнеў «ліхтар».

— Красавец! — сказаў пра Цвіліка Саванеўскі, зрабіўшы націск на апошнім складзе.

«Красавец» неспакойна хадзіў па камеры — ад дзвярэй да акна — туды-сюды, як бы яму чагосьці не ставала.

— Ну што ты ўсё ходзіш? Думаеш, калі ходзіш, то не сядзіш? — укалоў яго Мірон.

Цвілік усміхнуўся, бліснуўшы залатой фіксай:

— Табе не зразумець! А можа, мяне на волі дзеўка чакае?

— Давайце заспяваем, — прапанаваў Саванеўскі і напаўголаса пачаў песню:

> Смяюцца над намі багатыя людзі.
> Здаецца, панамі іх зваць.
> Мы доўга цярпелі, цярпець больш не будзем
> І пойдзем мы долі шукаць.

Вязні ледзь чутна, амаль што шэптам, падхапілі:

> Мы доўга цярпелі, цярпець больш не будзем,
> І пойдзем мы долі шукаць.

— Добрая песня, — пахваліў Косця, калі яны скончылі спяваць.

— Я яе ў Радванічах чуў, — сказаў Саванеўскі, — гэта тут недалёка, хлопцы спявалі. Надта цікавы чалавек там жыве — Феадосій Чараўко. Мудры!

— Цікавых людзей шмат, — азваўся хтосьці з крымінальнікаў.

— У Расіі ваяваў, у грамадзянскую!

— Такіх шмат! У мяне дзядзька ваяваў.

Паступова Косця прывыкаў да турэмнага жыцця і побыту, да аднастайных дзён і начэй. Але сядзець зусім без справы, нічога не робячы, не мог. Не ў яго характары!

— Ёсць такая арганізацыя — МОПР, — сказаў аднойчы Мірону. — Дапамагае ў нашым становішчы. Кумекаеш?

— Чаму ж не?

Пра існаванне МОПРа ведалі і Мірон, і Саванеўскі. Дазналіся пра адрас МОПРа ў Варшаве і напісалі туды ліст, намякнуўшы на гаротнасць свайго становішча. Прыйшло восем злотых ад Стэфаніі Сэмпалоўскай — прадстаўніцы Савецкага Чырвонага Крыжа ў Польшчы. Праз наглядчыка Бялевіча купілі хлеба і тлушчу.

Марыў сустрэць Кляновіка, але дарэмна. І сувязі з воляй не было.

* * *

Больш за ўсіх перажывала арышт Косці старая Васіліха — Ганніна маці. Жыла яна цяжка, ледзь зводзіла канцы з канцамі. Убачыўшы неяк Лявона, заплакала, прыклала ражок хусцінкі да носа. Міма праходзіў Трахім, спыніўся

---

[1] Памятай і чакай.

каля іх, ашчэрыўся, паказаўшы зіхоткія, белыя, як часнок, зубы. Твар сухі і загарэлы, абцягнены карычневай, пасечанай дробнымі маршчынкамі скурай. Над жоўтымі кашачымі вачыма навісалі яшчэ больш калматыя, крыху ўжо выцвілыя, рудыя бровы.

— Ну што, Трахімка, сядзіць наш Косця? Ой-ёй-ёй… — завойкала, выціраючы вочы ўсё тым жа ражком хусцінкі, Васіліха.

— Пасядзіць, то, можа, паразумнее, — азваўся Трахім, адкапыліўшы тоўстую ніжнюю губу. — Можа, розуму прыбавіцца.

Гэты чалавек па-ранейшаму заставаўся, што называецца, самім сабою — усе тым жа непапраўным эгаістам. Стараўся дзеля свайго ўласнага прыбытку — астатняе мала цікавіла. Да Васіліхі, былой сваёй цешчы, Трахім апошнім часам і не заходзіў. Не было, мусіць, патрэбы.

— Добра было б, каб як дапамагчы! — паспачуваў Лявон. — Можа, з харчам што?

— Нічога яму надта не пагражае, — хмыкнуў у вусы Трахім і нахмурыў калматыя бровы.

— Ой, у турме цяжка! — бедавала жанчына.

— Падумаеш, тры гады! Гэта — як тры дні!

— Ой-ой…

— Жаніцца б яму, а ён у паліціку пайшоў! Дурань! Каму гэта трэба? — сыкнуў на яе Трахім.

— Хоць бы ты, Лявонка, як дапамог… — Васіліха, плачучы, пайшла ў хату.

— Пастуха прагнаў! — абурана засоп Трахім. — Казюсіка! На Надзю маю стаў заглядацца! — Ён плюнуў і мацюкнуўся.

За пастуха быў у Трахіма Мішка Казюсік. Гадоў пяць пасвіў яго кароў. Восенню, калі трэба было расплачвацца з пастухом, Трахім абвінаваціў Казюсіка, што нібыта ён заляцаецца да яго жонкі, і выгнаў хлопца з хаты, не заплаціўшы нічога. Хлапчыне таму, Казюсіку, было гадоў пятнаццаць, а Надзі — пад сорак.

Трахім памаўчаў, а потым, адвёўшы Лявона ўбок, пачаў гаварыць:

— Паліцыя прыязджала!

— Паліцыя?

— Вобыск быў, на покуце кніжачка ляжала — «Вырошчванне хмелю». Першыя дзве старонкі мы з Цімошам скурылі, скурылі б усю, каб Косця не схаваў. Паліцыянт знайшоў. «Што, пытае, панове, хмель вырошчваеце?» Я сумеўся! Усярэдзіне, у той брашуры, — пра палітыку! А першыя старонкі — для блізіру.

— А можа, усё ж такі якое прашэнне напішам? — прапанаваў Лявон. — Малады, маўляў, памыліўся, выправіцца. Можа, на парукі ўзяць?

Трахім махнуў рукой:

— Напішам — то і нас, чаго добрага, павалакуць…

Лявон ведаў Трахімаў характар, таму не здзівіўся.

— Нічога, у турму — не пад камень, — дадаў Трахім, — павінен вылузацца!

— Яно то так… — разважыў Лявон, на што Трахім сказаў ужо нешта зусім нечаканае:

— А можа, чалавек дзеля таго і жыве, каб калі-небудзь трапіць у турму?..

— Ну ты і скажаш!

— А што? Не заракайся!





**Соф'я ШАХ**

# ВЫСЬ

*Вянок санетаў*

**1**

І толькі высь адчаяцца не дасць
ў жыцці, напэўна, першым і апошнім,
не бедным, ды, аднак, і не заможным, —
канцы з канцамі звычна ўжо злучаць.

Але іспыты сталі нарастаць.
Яны ўтварылі цэлы фронт аблoжны
і болей падціскаюць з годам кожным,
і ўжо на іх не можна не зважаць.

Не панікую, — роздумам дзялюся
ў звычайнай распачлівасці сваёй.
Што здолею яе, я спадзяюся, —
абаранюся неяк вышынёй.

Вось гэтай, сэрцу любаснай, якая
малітву прыме, як пагляд прымае.

**2**

Малітву прыме, як пагляд прымае,
калі я накіроўваю яго
як для прычасця іншы раз таго,
што болі ўсе душэўныя здымае.

---

***Шах Соф'я Мікалаеўна*** *нарадзілася 29 лістапада 1947 года ў вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Дзіцячыя і школьныя гады прайшлі ў г. п. Азарычы таго ж раёна. Скончыла факультэт пачатковых класаў Мазырскага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай (1969), завочны дэфекталагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (1980). Працавала настаўніцай пачатковай школы ў вёсцы Гажын Нараўлянскага раёна, у вёсцы Цідаў, у пасёлку Азарычы Калінкавіцкага раёна, лагапедам у школе-інтэрнаце ў Светлагорску.*

*Аўтар паэтычных кніг «І не пакіне спадзяванне», «Пад высокай лагодай нябёс», кніг вянкоў вянкоў санетаў «Адухаўленне», «Прысвячэнне», «Прызначэнне», «Увасабленне», «Спасціжэнне», зборніка вянкоў санетаў «На ўсё дабро ў адказ» і інш.*

І што грахі як быццам адпускае
жыцця-быцця таропкага майго...
Ці мала шчэ сакрэтнага чаго
вачамі там прашу і там шукаю.

Няма больш дзе шукаць і дзе прасіць, —
ні даль, ні шыр такой не маюць сілы:
і веру апантаную ўнушыць,
і дух узняць разгублена-панылы.

А высь якраз патрэбную і мае,—
на лепшае надзею падтрымае.

### 3

На лепшае надзею падтрымае.
Так пранікнёна ззяе нездарма ж
па-над маім усім жыццём наўсцяж.
А велічны абсяг які займае!

А ўлада-то якая нутраная!
Вось дзе не пройдзе ні мана, ні фальш,
ні бруд, ні паказушны антураж,—
усё і ўсіх дарэшты распазнае.

Ах, вышыня! Высвечвае наскрозь, —
не затаіць ні шчасця, ані гора.
Здаецца, растваруся я вось-вось
ў яе струменна-стромістых прасторах.

А стану надта моцна гараваць —
і не адмовіцца паспагадаць.

### 4

І не адмовіцца паспагадаць,
калі пераканаю, як глыбока
ў адчайнасці сваёй клапотна-горкай
працягваю яе абагаўляць.

І паспрыяе, — як не паспрыяць,
калі так шчыра і калі так звонка
аб ёй спяваю, вечнай ды высокай.
Як, жывучы пад ёй, ды не спяваць!

Адтуль святло, хоць і адтуль цямнота.
Адтуль цяпло, хоць і мароз адтуль.
Адтуль мой лёс і ўся яго шчадрота,
што кімсьці пасылаецца дасюль.

Караць умее, можа ратаваць
блакітная, разгорнутая гладзь.

### 5

Блакітная, разгорнутая гладзь,
парой ажно да слепкае сінечы...

Як замірае дух мой, як трапеча,
калі спрабую ў слепкасць пазіраць

і ўсёй сабою колер успрымаць,
здаецца, і агучаны, і вешчы...
У час такі натхнення не пазбегчы,
сябе ўжо з выссю не размежаваць.

З-за гэтай распрамененая прывабы
забыць, што цела поўнае заган...
З-за гэтай неймаверна яснай фарбы
не помніць сівы лёсавы туман...

Навідавоку ява векавая,
па-за якой нязмеранасць жывая.

### 6

Па-за якой нязмеранасць жывая,
сама аснова тонкага быцця.
Я перад ёй пакуль яшчэ дзіця
і гэтую дзіцячасць не хаваю.

Таму за колер не пераступаю
вачамі і ўзрушэннем пачуцця.
Ён — як мяжа, як грань майго жыцця,
але ўжо, відавочна, незямная.

З зямлі зачаравана я сачу, —
то з роўнядзі дарожнай, то з ухабін.
Я Нешта Вышняе ўявіць хачу,
наколькі можна, намаганнем храбрым,

як тое Нешта, што Сусвет яднае,
сябе ў парадку стройным раскрывае.

### 7

Сябе ў парадку стройным раскрывае,
ступенямі свядомасці зіхціць, —
працягвае далей сябе вяршыць
энергія таемна-трапяткая.

І поспехаў, канешне, дасягае,
і зноў не супыняецца служыць
ідэі той, дзеля якое жыць
яна прызваная, амаль святая.

А там яшчэ, яшчэ за крокам крок,
яшчэ, яшчэ прыступка за прыступкай,
а там і тонкай вечнасці выток,
урэшце, стане явай, хоць няхутка.

Там гэткае святло, што не назваць,
і ясна воблік Богавы відаць.

### 8

І ясна воблік Богавы відаць...
Даруй, Усюдыісны, мне за смеласць,
што я такую здолела адлегласць,
Цябе пасмела думкамі спаткаць.

Я тут, я на зямлі, дзе не звяртаць
увагі ўсё цяжэй на непазбежнасць,
што стала для мяне, бы небяспечнасць,
якую ні мінуць, ні ўтаймаваць.

Як Ты высока, міласэрны Божа!
Якая высь бясконцая Твая!..
А я вось падышла да раздарожжа, —
чамусьці з дзвюх — адна ўжо каляя.

Аднак зусім, зусім не ад знямогі
ўздымаю вочы і малю падмогі.

### 9

Ўздымаю вочы і малю падмогі —
усю ахопленую зрокам высь.
Я на любы ўжо згодна кампраміс, —
на самы неспагадлівы і строгі.

На самы надакучлівы і доўгі,
падобны праяўленнем на капрыз,
але каб толькі — не назад, не ўніз,
а ўверх, наперад рухацца патрохі.

Я дзеля гэтага як ёсць прыму
умовы ўсе, што і мяне датычаць, —
я ўпадабаю спёку і зіму,
абы, абы магла свядома дыхаць.

Які густы блакіт на гэты раз, —
у мой дарэшты ўстурбаваны час...

### 10

У мой дарэшты ўстурбаваны час...
А сапраўды, які блакіт надзіва, —
насычаны сягоння асабліва,
бы на жаданне на маё ў адказ.

Стараюся, імкну, а пераказ
у параўнанні з колерам цнатлівым
хаця і карпатлівы, і праўдзівы,
а ўсё адно як быццам бы прыгас.

Блакітная нябесная пяшчота
душу запаланіла, заняла...
Ну дзе ты там хаваешся, бядота?!
Няўжо ўстаіш між гэткага святла?!

І я спынюся з-за тваёй аблогі,
палову не прайшоўшы ўсёй дарогі?

### 11

Палову не прайшоўшы ўсёй дарогі,
прыпынак непрадбачаны рабіць?
А гэта значыць, тэмп і рытм згубіць,
ды з-за цябе, такой вось пералогі?!

Але ж мяне шчэ так трымаюць ногі,
так прагнуць вочы далеч ахапіць,
так хоча слых высокае ўлавіць,
а ў сэрцы стук зусім, зусім не ўбогі!

І ты тут са сваім ліхім ярмом...
Ну не спыняй, нахабная пралаза!
Ну згодна я: сядзі сабе цішком,
а хочаш, — то пайшлі са мною разам.

Адзін хтось уступіць павінен з нас,
згубіўшы зноў бадзёрасці запас.

### 12

Згубіўшы зноў бадзёрасці запас,
ёй уступаю я, — ну так выходзіць...
Але іду, але спяшаю крочыць,
каб Нейчы ясны выканаць наказ.

Бо ёсць жа воля нада мной Чыясь.
Яна мяне па-светламу няволіць,
яна ж — на тое спадзяюся — помніць
маю няўтольную да руху страсць.

І я абранай моваю санета,
і цела слухаючы, і душу,
прыпятая і змушаная, гэта
цяпер нібы на споведзі кажу.

Пра самае галоўнае, — што трэба...
І слухае мяне святое неба.

### 13

І слухае мяне святое неба
ва ўсталяванай раптам цішыні,
у гэтым вось амаль бясконцым дні,
калі прашу я дапамогі нема,

калі пражыць магу я і без хлеба,
калі я выстаю без цеплыні
і нават без шырокай светлыні,
хаця і ў іх — мая заўжды патрэба.

Калі здалею скрухі і няверы,
не апушчу ў іспытах галаву,

але без руху, без хады наперад,
канешне, доўга я не пражыву.

...Вось небу памалілася няўцерпна —
і родная ізноў трымае глеба.

### 14

І родная ізноў трымае глеба,
і зноў палёгка, сонечны прасвет.
І хочацца на ўвесь на белы свет
усклікнуць і не глуха, і не слепа:

не трэба мне ні золата, ні срэбра,
ні вабных страў, ні дарагіх сает,
адно — каб заставацца і між бед
заўсёды знітаванаю з паветрам.

Гляджу з надзеяй тайнай у блакіт,
і зноў ён пераконвае адкрыта,
што ад яго залежыць дабрабыт
і ўвогуле уся мая планіда.

Не ўспомніць шыр, даль перастане дбаць —
і толькі высь адчаяцца не дасць.

### 15

І толькі высь адчаяцца не дасць, —
малітву прыме, як пагляд прымае,
на лепшае надзею падтрымае
і не адмовіцца паспагадаць.

Блакітная, разгорнутая гладзь,
па-за якой нязмеранасць жывая
сябе ў парадку стройным раскрывае —
і ясна воблік Богавы відаць.

Ўздымаю вочы і малю падмогі
у мой дарэшты ўстурбаваны час,
палову не прайшоўшы ўсёй дарогі,
згубіўшы зноў бадзёрасці запас.

І слухае мяне святое неба —
і родная ізноў трымае глеба.



*ПРОЗА*

**Таццяна ГАРЭЛІКАВА**



# НАВУЧЫ МЯНЕ ЗНОЎ ЛЮБІЦЬ

*Апавяданне*

## I

Ён быў, як і яна, малады, і да таго ж паглядны, і яшчэ, падалося, выхаваны, а апрануты густоўна, па-юнацку, не чынна, і ў Юлі падкацілася пад грудзі нейкае цяпло, прыемна і радасна зрабілася на душы. Узяла ў яго за шыццё грошы, падала ў рукі складзеную ў вялікі поліэтыленавы пакет куртку з новай «маланкай»:

— Вазьміце, калі ласка, — і ўсміхнулася.

— Ага, дзякуй, — сказаў ён, пазіраючы на яе сваімі чорнымі смяшлівымі вачыма.

І Юля заружавелася. Ён зноў неяк пільна паглядзеў на яе, быццам вырашаў нешта, а потым раптам наблізіўся, абхапіў вольнай рукой за плечы і пацалаваў у вусны. І, усмешлівы, пайшоў. Юля, ашаломленая, бухнулася ў крэсла. Не, такога яшчэ не было з ёю тут, у яе атэлье. Во нахабнік! Сядзела, быццам здранцвелая, нейкая незразумелая сама сабе, не ведаючы, што і думаць. Але дзверы адчыніліся, зайшла новая заказчыца, пачалася размова, і бура ў Юлінай душы памалу аціхла. І пад вечар, уся ў руху, у размовах з людзьмі, што прыходзілі ў атэлье, — ці то што заказаць пашыць, ці ўжо забраць пашытае, — пад вечар яна ўжо і забылася пра таго хлопца.

Успомніўся ён Юлі назаўтра раніцай, калі збіралася на працу, стаяла на кухні, рабіла сабе сняданак. Заўсміхалася. Было прыемна ўспомніць яго ўсяго, які ён тады ўбачыўся: прыгожы, дужы, метр восемдзесят. І з дому выходзіла, дык усё думала пра яго — ужо, вядома ж, не ўбачыцца з ім ніколі, але... прыемна. Хоць і нахабнік ён. Цёпла было на душы. І толькі калі выйшла

---

*Гарэлікава Таццяна Іванаўна* нарадзілася 28 лістапада 1947 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1970) і Мінскую Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ (1985). Працавала на Міншчыне бібліятэкарам, арганізатарам пазакласнай і пазашкольнай работы, дырэктарам сярэдняй школы, у райана, намеснікам загадчыка аддзела, сакратаром Мінскага райкама КПБ, у рэдакцыі часопіса «Полымя».

*Выдала кнігі прозы «Дзе лес шуміць» (1978), «Пры святле расстанняў» (1985).*

з аўтобуса ды пакіравала да свайго атэлье — яно свяцілася па вечарах неонавай шыльдай «У Юлі», — згадкі пра таго хлопца незаўважна адышлі, яна ізноў убілася ў свой штодзённны клопат: будзе шмат на гэтым тыдні работы — у атэлье шыюць усё, нават футры, і нанеслі столькі заказаў, што хопіць не толькі дзяўчатам, што ў яе робяць, траім, але і ёй. Калі будзе, вядома, такая магчымасць — самой сесці за швейную машынку. Звычайна Юля прымае ды выдае заказы. Гэту работу нікому з дзяўчат не даверала — гэта дачыненні з заказчыкам. Трэба, каб чалавек, пашыўшы тут што-небудзь адзін раз, калі-небудзь прыйшоў яшчэ. Трэба разумець чалавека і любіць яго. Гэтае Юля, здавалася ёй, умела — з дзяцінства навучыў бацька, дырэктар школы...

Быў жнівень, першая яго палова. З раніцы ўгадваўся ціхі цёплы сонечны дзень, тлумны, з крыкамі дзяцей у дварах. Ужо шмат папрыязджала малых з лагераў ды з вёсак, і ўдзень яны з крыкамі ганялі мячык на стадыёне, каталіся на каруселях ды тусаваліся каля пад'ездаў. Тут, у гэтым мікрараёне, дзе тулілася Юліна атэлье, — тут было, даўно заўважыла, і наогул шмат людскага тлуму, моладзі шмат. І Юля любіла ўбіцца ў гэты людскі тлум, асабліва ў чародку дзяцей, ісці між іх, ці міма іх, і слухаць іх птушынае шчабятанне. Тады, здаецца, быццам у вёску трапіла, да бацькоў, у школу вясковую, што каля самай іхняе хаты...

Не, ужо ніколі не вернецца школа. І не вернецца яе першае каханне. Рома таксама паехаў вучыцца, ужо недзе закончыў сельгасакадэмію ды працуе ў якой-небудзь далёкай ад сталіцы вёсцы. Казала неяк мама, быццам і нявесту ўжо да бацькоў прывозіў... У Юлі за плячыма эканамічны універсітэт, ужо стала атабарылася ў горадзе, адсюль яна — нікуды... Тут у яе ўсё. Спярша, пасля універсітэта, было, помніцца, вельмі цяжка: амаль тры гады жыла на прыватнай кватэры, а гаспадыня была — гаваркая-гаваркая. Пра ўсё ўвечары раскажа: і што ў магазіне сёння купіла, і па якім кошце, і што зварыла, і ці смачна было, і што на вуліцы бачыла, і што суседка сказала... Ой, гэта невыносна было — выслухоўваць усё гэта, пустое, доўга і штовечар... І Юля кожную нядзелю, свой выхадны, ехала да бацькоў — у невялікую вёсачку за Асіповічамі, там было збавенне ад затузанасці і бегатні...

А цяпер яна мае сваю кватэру. Купіла аднапакаёўку, праўда, не без дапамогі бацькоў, найбольш іхнія грошы, але і сваіх ужо трохі «зялёных» зарабіла. Цяпер новае жыццё пайшло. Вось толькі... Ідучы, зноў згадала таго ўчарашняга чорнагаловага хлопца...

— Юля, даруйце, вы помніце мяне? — раптам спыніла яе і яе думкі высокая жанчына ў светлых строях.

— Помню, — паўзіраўшыся ў твар жанчыне, сказала Юля. — Вы шылі ў мяне блузку.

— Юлечка, мне трэба тэрмінова пашыць выхадны касцюм — ну, за дзень-два, вы зможаце?

— За дзень-два? Складана будзе. Але прыносьце! Пастараемся. Жанну пасаджу — яна робіць і хутка, і добра. Прыносьце!

— Дзякуй вам, Юлечка, мілая, дзякуй! Сёння ж увечары прынясу. Мне да выхадных каб гатова было. Ну, так трэба! — шырока ўсміхнулася. — Да сватоў едзем!

— Во як! — усміхнулася і Юля. — Прыносьце!

— Я добра заплачу. Але хутка і добра пашыйце.

— Будзе. Прыносьце.

Жанчына пайшла, і Юля ўсміхнулася сама сабе: так зарабляюцца грошы.

Яна любіла размаўляць з людзьмі. І помніла ўсё. Калі шыла даме штаны, то помніла, што паўгода таму дама была надта шырокая ў таліі. «Гэта вы так пахудзелі?» — дзівілася, і дама ў сваю чаргу таксама дзівілася: «Гэта вы так усё помніце?» І, канечне ж, праз нейкі час яна зноў прыйдзе шыць да Юлі...

Дзень быў як дзень. Ішлі людзі. Розныя людзі. І кожнага заказчыка варта адразу і зразумець, і сказаць тое, што трэба. Пад вечар сядзела затлумленая, і ўсё не выходзіла з галавы сівая жанчына з ціхім голасам, што прынесла шыць сабе спадніцу. Кажа, адна была спадніца і тая знасілася. Жыве з хворым мужам — бадай, усю яго пенсію ў аптэцы пакідае... І ўсё пыталася, колькі ж гэта будзе каштаваць ёй — пашыць спадніцу...

— Я вам танна пашыю, — сказала з цеплынёй у сэрцы Юля, і потым было радасна, што жанчына пайшла ад яе хоць трохі ўсцешаная.

І так жывуць людзі...

Пакуль нікога не было, Юля намерылася ісці ў другі пакой да дзяўчат, каб і самой на нейкі час сесці за машынку — яна добра шыла, гэтаму навучыла мама, дома ў іх старая, яшчэ бабуліна швейная машынка, нажная, «Зінгер», і мама, колькі Юля помніць, шыла ўсё: і штаны, і сукенкі, і куртачкі... Так што Юля займалася гэтым з дзяцінства, мала таго — пайшла яшчэ на курсы крою і шыцця, і цяпер гэты занятак прывычны і ў асалоду. І дзяўчаты ў атэлье падабраліся харошыя: і старанныя, і ўмелыя. Усе трое такія — і Жанна, і Каця, і Вера. Таксама маладыя, як і яна, — усім да дваццаці пяці. Праўда, ёй, Юлі, праз месяц будзе ўжо дваццаць шэсць...

Адчыніліся дзверы.

— Прыйшоў! — стаяў у дзвярах учарашні малады чалавек. Стаяў, прыхінуўшыся да вушака, глядзеў на Юлю і ўсміхаўся. Быў у беласнежным лёгкім світэры, што надавала яму, чорнагаловаму, нейкай святочнасці.

— Ну заходзьце, — усміхнулася і Юля, і на твары ярка ўспыхнуў нейкі радасны агеньчык. — Будзем нешта шыць?

— Я проста так. Пастаяць, паглядзець, — сказаў ён і не адводзіў ад дзяўчыны чорных смяшлівых вачэй.

— Проста так? Можна і проста так, — Юлі было нязвыкла і радасна.

— Так добра ўшылі «маланку», што я прыйшоў яшчэ раз сказаць «дзякуй», — блазнаваў малады чалавек. Плёў яшчэ нейкую несусвеціцу, шырока ўсміхаючыся, быццам казаў: «Вось я які. Ты мяне разумееш?»

І Юля падтрымлівала гэтую жартоўную гамонку, усміхалася.

— А чаму ў Юлі няма на правай руцэ пярсцёнка? — неяк насцярожана запытаўся ён.

— Яшчэ не дажыла да гэтага, — адказала дзяўчына, і абаіх узняла нейкая цёплая хваля.

— А ў колькі ў вас усё гэта заканчваецца?

— Што?

— Ну, зачыняцца ў колькі будзеце?

— У восем.

— Я буду ў восем, — і ён паважліва раскланяўся.

А пасля васьмі яны гулялі па вуліцах. Было ветрана, але вецёр быў такі ласкавы і цёплы. Потым і сцямнела, але навошта святло, калі і так усё відаць. Было лёгка і шчасліва. Свет быў агромністы, у вясёлкавым ззянні вулічных ліхтароў і вокан акаляючых дамоў.

Ён пачаў прыходзіць штовечар у восем. Яны падоўгу блукалі па вуліцах, гаварылі, смяяліся і цалаваліся.

— Гэта лёс, — казаў ён, — я так доўга шукаў цябе, — гаварыў, цалуючы яе, — я марыў пра цябе, такую...

Беглі, ляцелі дні, і штодзень — ён, ён, ён... Андрэй студэнт яшчэ. У яго пяты курс лінгвістычнага універсітэта.

Аднойчы позна ўвечары яны апынуліся ў яе ў кватэры. Была ноч, і ў тую ноч Юля горача шаптала:

— У нас будзе двое дзетак... Двое... Ты згодзен?

— Ну, хай двое... Гэта ж нашы...

Раніцай сказаў:

— Толькі ты. Больш ніхто. На ўсё жыццё, — паўтараў, як заклінанне, ушыўшыся ёй тварам у валасы.

І сказала яму такое ж і яна.

І пайшоў новы адлік часу. Праз два дні яны аднеслі заяву ў ЗАГС, настройваючыся на новыя, прыемныя і нязвычныя клопаты.

## II

Юля была дома адна, на кухні, пасля работы, збіралася павячэраць, мо яшчэ паглядзець трохі тэлевізар, прыняць душ ды легчы спаць. У Андрэя залік — ён увесь у вучобе, і сёння яго ў яе не будзе.

Званок у дзверы. Сэрца радасна ёкнула: а раптам Андрэй? Падляцела да дзвярэй, адчыніла.

— Даруйце, — стаяла Аліна, сяброўка яе суседкі з чацвёртага (у Юлі пяты) паверха. — У вас Валі выпадкам няма? Званю — ніхто не адчыняе.

— Не, няма... Вы зайдзіце да мяне, пасядзіце, можа, яна пазней будзе. Калі да бацькоў не паехала ды не заначавала там... Зайдзіце.

Аліна пераступіла парог. Гэта была высокая, шырокая ў клубах, з чорнымі кароткімі валасамі і чорнымі вачыма, тоўстымі чырвонымі губамі маладая жанчына. Юля колькі разоў бачыла яе ў Валі, свае суседкі з чацвёртага паверха, але размоў між імі ніякіх дагэтуль не было, так, «добры дзень» ды «ўсяго добрага». Запомнілася, як у Валі яна сядзела на кухні, нага на нагу, паліла і піла з вялікага кубка каву.

— Зайдзіце. Мы зараз з вамі кавы nап'ём. Можа, Валя пазней прыйдзе.

Аліна неяк звыкла, быццам не першы раз тут, зайшла, зняла ў вітальні туфлі, ружовую лёгкую куртачку павесіла на вешалку. Юля падсунула ёй тапкі, і абедзве апынуліся на кухні. Хутка яны пілі каву, і Аліна патроху-памалу расказвала пра сябе — Юля ўмела слухаць людзей, звычайна заахвочваючы іх да размовы (бацькаў характар).

— На прыватнай жыву. З мужам развялася, ён з маці ў трохпакаёўцы застаўся, хутка суд будзе — пакой сабе адсудзіць хачу... А пакуль на прыватнай. Цяжка. У гаспадароў трое дзяцей, адно інвалід, крыклівае, там такая гамэрня заўсёды — уцякаю ў выхадныя куды толькі можна: ці да сяброў еду, ці проста па горадзе бryndaю. У Валі часта начую...

Юля слухала і спачувала ёй: сама яшчэ нядаўна жыла на прыватнай і знае, што гэта за шчасце...

— А родам вы адкуль?

— Здалёк. З Ялты. Сюды замуж выйшла, ды во і засталася тут, працую бухгалтаркай у кафэ, — яна, спакойная, нейкая, размераная, глытнула кавы, памаўчала. — Спадзяюся, можа, за якога бізнесмена замуж выйду, каб з кватэрай...

— А Валю адкуль знаеце?

— Яна ў Ялце адпачывала, у маёй старэйшай сястры пакойчык здымала. І я якраз з Мінска прыехала...

Яна дастала з чорнай сумачкі, якая была пры ёй і на кухні, пачак цыгарэт, і, калі даставала цыгарэты, на падлогу выпала калода карт. Юля заўважыла гэта, у ёй мільганула нейкая цікаўнасць, але Аліна хуценька схавала тыя карты назад у сумачку.

— У карты гуляеце? — папытала Юля так проста, абы запытацца, падтрымаць сякую-такую гаворку.

— Не, я не гуляю, — спакойна, засяроджаная на нечым сваім, сказала Аліна. — Я варажу.

Запаліла, зацягнулася. Запіла глытком кавы. І Юля больш нічога не папыталася ні пра карты, ні пра тую варажбу — картамі яна аніколі не цікавілася і ў ніякую варажбу не верыла.

Гаварылі зноў мірна, спакойна, пра ўсё і пра нішто — трэба было прабавіць час.

Потым, недзе праз гадзіну, Аліна, падзякаваўшы, пайшла — можа, Валя ўжо дома, а Юля, ветліва запрасіўшы Аліну, калі трэба будзе, заходзіць яшчэ, адразу ж зачыніла за ёй дзверы, забылася пра яе, прыбрала са стала ды пайшла пад душ, а потым спаць, спаць... Выспацца, заўтра, як заўсёды, шмат клопатаў на рабоце.

Назаўтра раніцай, калі Юля ўжо апраналася, каб ісці з дому, у дзверы пазваніла Валя — у яе нечакана прас перагарэў, папрасіла на хвілінку яго ў Юлі.

Валя амаль Юліна аднагодка, ну, можа, на які год-два маладзейшая, робіць выхавацелькай у дзіцячым садку ды завочна заканчвае педуніверсітэт. Бацька ў яе дырэктар завода, купіў, расказвала неяк, гэту кватэру, і яна жыве ў ёй адна. Яшчэ не замужам. Юля колькі разоў заходзіла да яе — адметнасць Валі ў тым, што ў яе дома ніколі, здаецца, не змаўкаў тэлефон, абзываўся, дальбог, праз кожныя пяць мінут, і Юля толькі дзівілася: гэта столькі мець сяброў і знаёмых! І нейкая міжвольная павага да Валі была — у яе, мінчанкі, сваё жыццё, і яно рознілася нечым няўлоўным і будзе розніцца ад яе, Юлінага, звычайнай вясковай дзяўчыны, а цяпер таксама гараджанкі... Гэта нават па кватэрах іхніх відаць — нібыта аднолькавыя, а абстаўлена ў іх так усё па-рознаму: у Юлі звычайная, з магазіна, мэбля, нічога лішняга, а ў Валі ўсё адмысловае, зроблена па заказе, і ў пакоі, і на кухні, і вітальня ўся ў люстрах ды шафках, і палічкі паўсюль розныя, асабліва ў ванным пакоі, а на тых палічках... там што заўгодна ўбачыш...

Валя стаяла перад ёю, як амаль заўсёды, у светлых штанах, акуляры на буйным носе, пруткія светлыя валасы.

— Цябе Аліна ўчора чакала доўга. У мяне сядзела. Не дачакалася?

— А-а... — неяк не дужа прыязна працягнула Валя. — Я ў бацькоў доўга была. Што я — абавязана дзеля яе дома сядзець? — сказала неяк нават пагардліва, і Юля адразу адчула гэта і, хоць не ведала прычыну такіх Валіных паводзін, пашкадавала Аліну — у яе ні радні няма блізка, ні кватэры ў горадзе...

Валя між тым паскардзілася:

— Са мной нешта незразумелае робіцца. І не муціць, і не круціць, а тэмпература ўжо два тыдні трыццаць сем і два... Нідзе нічога не баліць, і кашлю ніякага, толькі раздражнёнай стала — гэта я, з маім сталёвым характарам... Пайду сёння да знаёмага тэрапеўта.

Яна заўсёды так казала: пайду да знаёмага — у яе ўсе ўсюды знаёмыя...

## III

У нядзелю ў Юлі быў дзень нараджэння.

У суботу ўвечары яна ішла дадому з ружамі — дзяўчаты ў атэлье віншавалі. Столькі нагаварылі ўсяго прыемнага, і вясёлага, і жартаўлівага... Добрыя ў яе падабраліся швачкі — разумеюць з паўслова, ніколі не бывае між імі і ёй ніякіх сварак, напругі, трэба, дык і да паўночы пасядзяць за машынкай (рэдка, але і такое здаралася).

У салоне аўтобуса стаяла сярод людзей, і той-сёй паглядваў іншы раз на яе свежыя пахкія ружы ды усміхаўся міжволі, і Юля тады таксама ўсміхалася.

Падумала: гэта мой самы шчаслівы за ўсе апошнія гады дзень нараджэння — у мяне ўсё ёсць: свая справа, свая кватэра і — каханне! Андрэй! Гэта Нябёсы падаравалі ёй такога хлопца. Яна чакала яго ўсе апошнія гады. Марыла пра прынца — і вось ён, прынц! І дзіўна: неяк самі па сабе зніклі пакутлівыя, бязладныя думкі пра сэнс жыцця. Быў у яе такі перыяд, вядома ж, да Андрэя, калі іншы раз сумна думалася: навошта гэта ўсё? І атэлье гэта (а столькі папабегала, пакуль арганізавала яго!), і кватэра гэта (так збіраліся грошы, столькі надзей было...) І вось усё ёсць, але ж... Нечага ўвесь час не хапала... А цяпер.. Цяпер Юля ведае, што такое шчасце. Цяпер яна пра сэнс жыцця ніколі і не задумваецца — можа, таму, што ён, гэты сэнс, з'явіўся?..

Яна зайшла ў ліфт, але не паспела націснуць на кнопку — зайшла ўслед Аліна. Павіталіся, паехалі.

— Свята ў цябе? — коса паглядзела засяроджаная Аліна на ружы.

Юля таксама паглядзела на кветкі, заўсміхалася, шчаслівая.

— Дзень нараджэння заўтра.

Аліна неяк дзіўна ўстрапянулася і тут жа, але нібыта затойваючы ў сабе нейкую думку, спытала:

— Зайсці павіншаваць можна?

Юля сцепанулася: ці не нахабна гэта? Колькі яна мяне знае? І тут жа мільганула прымірэнчае: ну, што ты ёй скажаш — няможна?

— Ну, заходзь. Пад вечар. Толькі нічога не нясі. Чуеш, нічога не нясі. Будзе Андрэй, і ты зайдзі. Ніякай кампаніі. Па-сямейнаму.

Аліна пазваніла ў дзверы, як і дамовіліся. Зайшла, коса павёўшы па ўсёй вітальні сваімі чорнымі вачыма. Зняла куртку. Неяк не дужа ўпэўнена, трымаючы ў сабе нейкія таемныя думкі, выставіла з жоўтага пакета на стол у кухні слоік з накрыўкаю. Потым бутэльку.

— Гэта будзе закуска, — сказала. — А гэта — выпіць. Толькі бутэлька адкаркаваная, — насцярожана дадала, быццам чакаючы, што Юля пачне супраціўляцца. — Гарэлка, пад каньяк падфарбаваная. А гэта — падарунак, — падала Юлі шкатулку, нічога больш не сказаўшы.

Юля заўважыла гэтую яе ненатуральнасць, нават насцярожанасць, недагаворанасць нейкую, але тут жа пра гэта забылася.

— Я ж казала: нічога не нясі, — бесклапотна паўшчувала яе, але не вельмі: ну, як ты адрынеш чалавечыя старанні? Аліна ж старалася, і Юля нават пахваліла яе:

— Добра. Усё да месца.

Пайшлі ў пакой. Там на шырокім часопісным століку стаялі розныя стравы, бутэлькі. Пасярод стала ў вазе кусціліся жоўтыя хрызантэмы — любімыя Юліны кветкі, Андрэй ужо гэта ведаў. Яны ў вазе на стале — быццам сонейка ў пакоі.

— Кветкі восені. Я нарадзілася ўвосень, — сказала Юля, заўважыўшы Алінін позірк.

Выйшаў з ваннага пакоя Андрэй, павітаўся з Алінаю. Ён быў у чырвонай моднай маечцы, у сініх джынсах. Ах, які харошы!

— Ялцінскае фірменнае? — перапытаў, заўсміхаўся, сядаючы разам з усімі за шырокі часопісны стол. — Зараз мы ўсё гэтае смакоцце і пакаштуем, — і лёгка адкаркаваў Алініну пляшку з падфарбаванай гарэлкаю.

— А я свайго не хачу, — сказала раптам Аліна, закрываючы сваю чарку далонню. — Вы піце гэта, а мне вунь з той бутэлькі.

— Ну, давай, — весела згадзіўся Андрэй.

Ды і Юля не была супраць гэтага — якая розніца, што піць? Такі яна тут дэгустатар... Адно знала: калі і піць, дык заўсёды ў меру — яе ніколі не вабіла спіртное. І Андрэй, дзякуй Богу, такі.

Выпілі. Узяліся каштаваць Аліціну «закуску» — нейкая салата, але зашмат часнаку, ды Юля і выгляду не падала, што нясмачна. Налівалі час ад часу, падымалі тосты, елі, на стале хапала ўсяго. Нешта нязначнае гаварылі, жартавалі, смяяліся. Ужо і Аліна паводзіла сябе як дома.

Хутка Юля, адчуўшы раптоўную стомленасць, якісьці перабой у сабе, прылегла на канапе. Працаваў тэлевізар, ішло нейкае кіно, яна час ад часу кідала вокам на экран, не надта ўнікаючы, што там адбываецца. Апанавала стомленасць, і нічога не хацелася. Унутры як замлела ўсё.

А Аліна па-гаспадарску час ад часу налівала са «свае» бутэлькі ў кілішак Андрэю. Яны размаўлялі. Пра што? Юля не слухала. Яна адчувала, што нешта ў ёй быццам перагарэла, утульнае цяпло знікла. Прысак у душы, і той ужо халодны.

Нарэшце Андрэй сказаў:

— Хопіць, — і прыкрыў далонню сваю чарку. Аліціна бутэлька была амаль пустой.

Аліна неяк хутка развіталася і пайшла.

— Я ніколі не п’янею, а тут... — зморшчыўся, тручы рукою лоб, Андрэй, калі яна знікла за дзвярыма.

Юля нічога не сказала. На стале быў вэрхал, трэба падняцца ды прыбраць усё. Але на яе navалілася нейкая такая незразумелая стома, нейкае невытлумачальнае раўнадушша, і яна заўпарцілася. Андрэй выключыў тэлевізар, пайшоў на кухню, чуваць было, як лілася вада з крана. Потым прыйшоў і сказаў, глянуўшы на стол:

— Прыбіраць будзем? — ён гатовы быў дапамагчы ёй.

— Заўтра, — сказала, не здольная сябе пераадолець, Юля. — Давай спаць.

Яна адчувала сябе не так, як заўсёды, і не магла вытлумачыць гэта. Не перапіла ж — што тыя няпоўныя тры чаркі? Закусвала ж...

Яна так і не прыбрала ў той вечар на стале. І зрабіліся яны з Андрэем упершыню быццам нейкія іншыя. І раніцай было ў абаіх жаданне хутчэй разысціся. Юля завіхалася ля непрыбранага стала. Андрэй пайшоў, сказаўшы ад дзвярэй «пакуль», і не пацалаваў яе, як заўсёды, на развітанне.

## IV

Нешта здарылася. Неяк непрыкметна, але пайшло нейкае новае жыццё. У Юлі, здалося, зусім знікла радасць. Сэрца патухла. Адчувала ў сабе незразумелую няпэўнасць, разбэрсанасць, ненапоўненасць, з’явілася раздражнёнасць, чаго не было дагэтуль, здаецца, ніколі. Усё было, толькі не раздражнёнасць.

Пачалі раздражняць усе, хто трапляўся пад руку.

Зайшла раніцай у ліфт — там стаіць Марына Ісаеўна з дзевятага паверха, інтэлігентная сталага веку жанчына, пры сустрэчы яны заўсёды перакідваліся цёплым словам, і цяпер Юля, зайшоўшы, павіталася. Знала, што некалькі дзён таму Марына Ісаеўна пахавала мужа, і трэба было б выказаць ёй спачуванне — Юля разумела гэта, але чамусь упарта маўчала. Ліфт спыніўся недзе на трэцім паверсе — у яго забеглі дзве галасістыя школьніцы, і Юля чамусь раззлавалася, што яны зайшлі і гучна балбочуць, смеючыся, бесперастанку, так і карцела на іх прыкрыкнуць: ды сціхніце вы! Каля пад’езда, моўчкі разышліся з Марынай Ісаеўнай.

Потым цягнулася да прыпынку і злавалася, што не апранула цёплы світэр — сёння скуголіць вецер, холадна... Доўга, здалося, не было аўтобуса — і гэта нервавала. Падышоў, нарэшце, яе нумар. Але які аўтобус! Старая абшарпаная каламажка, аж непрыемна заходзіць у яго, ён будзе рыпець і кала-

ціцца на любой дарожнай выбоіне, і будуць рэзаць вушы віскдявыя тармазы на прыпынках.

Прыехала на працу нейкая напружаная, няўцешная і нават злосная. І ў атэлье апошні час неразбярыха. Яе пачалі раздражняць дзяўчаты-швачкі. То яны, здавалася, былі надта маруднымі — заказаў, як заўсёды, процьма, і трэба ўсё ў час зрабіць, і Юля пачынала іх падганяць, вінаваціць у ляноце, то яны здаваліся ёй балбатлівымі, і яна загадвала ім сціхнуць.

І вось дачакалася — звальняецца Жанна, класная швачка.

— Ты што, лепшае што знайшла? — папытала Юля, калі яна падышла раніцай і паведаміла пра гэта.

Жанна памарудзіла, быццам не жадаючы размаўляць, і потым, падцяўшы вусны, коратка сказала:

— Яшчэ не.

І Юля зразумела, што ўжо не ўтрымае дзяўчыну — Жанна ўсё адно, што б ні казала ёй цяпер, сыдзе... Прычыны? Проста няўтульна ў атэлье зрабілася, гэтак падумала, уздыхнуўшы, Юля. Яна — іншая, не такая, як была дагэтуль... Ёй і самой часам хочацца кінуць усё ды пайсці ў белы свет, невядома куды пайсці, невядома што рабіць...

Але ж галоўнае было не гэта. Самае кепскае — у яе пачаўся разлад з Андрэем. Яны пачалі сварыцца. Ён днямі не прыходзіў. Учора ўвечары пазваніў у дзверы, позна, яна і не чакала ўжо. Адчыніла і нават заўсміхалася яму, нешта ўскалыхнулася ў ёй, быццам зноў нешта шчаслівае пачалося, але... Але ён быў нейкі нядобры, нейкі змучаны, і пры вітанні Юля не пацалавала яго, як заўсёды. Андрэй хадзіў па кватэры нераспрануты, у куртцы, той, у якую ўшылі новую «маланку», нешта сам сабе пераЖываючы, нешта недагаворваючы, і яна, пазіраючы на яго, упапад-неўпапад нешта гаварыла, усё было так бязладна... І праз нейкі час ён апынуўся ля дзвярэй. Прыхінуўся да сцяны, апусціў галаву, рукі трымаў у кішэнях расшпіленай курткі. Потым загаварыў, адчайна гледзячы ёй у твар:

— Я не магу забыцца пра тое шчасце, якое абрынулася на мяне, калі я ўпершыню сустрэў цябе... Гэта я не забуду ніколі. Большага шчасця ў мяне ў жыцці не было... Але што робіцца цяпер? Калі мяне няма тут — я рвуся сюды, гатовы кінуць усё і пабегчы, прыйду — як падмяняе хто: я злуюся...

Дык і з ёю, Юляй, тое ж самае! Няма Андрэя — у яе заміраe сэрца, яна думае пра яго, чакае яго. А вось прыйшоў...

— І я не той, і ты не тая... Што з намі робіцца? — папытаўся Андрэй быццам у самога сябе. — Я так ляцеў сюды... Ну, прыбег... І што? — ён сціх, апусціў галаву, сцяў вусны, і яна маўчала, таксама схіліўшы ўніз галаву. Сказаў раптам:

— Гэта Аліна вінаватая. Да яе ў нас усё шчасліва было, — вымавіў і быццам чакаў, што і Юля нешта пра гэта скажа, і яна нешта ведае, і тады...

— Пры чым тут Аліна? — не задумваючыся, не імкнучыся ўнікнуць, што-небудзь зразумець, запярэчыла Юля. Проста каб запярэчыць, запярэчыла. Ужо нешта незразумелае абуджалася ў ёй, абрывала ўсе душэўныя памкненні — нешта незгаворлівае, злоснае, і во ўжо адчула ў сабе жаданне: хай Андрэй сёння ідзе адсюль, бо зараз яна будзе з ім сварыцца... Не сказала яму нічога такога, але ён нешта адчуў і, больш не вымавіўшы ні слова, нават без «пабачэння» пайшоў. Узбуджаны, злосны, непрымірымы. Ляпнуў дзвярыма. Юля праводзіла яго пустым позіркам і, разумеючы, што між імі адбываецца нешта дужа кепскае, але і не могучы суняць сябе, і ў гэтую хвіліну ўжо нават быццам і не шкадуючы ні аб чым... Прымірылася? Так бывае, калі раптам разаб'ецца што-небудзь на друзачкі, і ты, хоць і шкадуеш, але ўжо разумееш, што не склеіш яе, махнеш рукой: а-а, хай, новую купляць трэба...

Аднекуль знутры ў Юлі падымалася нейкая ўпартая сіла-злосць, злосць, зусім не ўласцівая ёй, якой да нядаўняга часу ў яе не было, гэтая злосць рвала душу, пераварочвала ўсю Юлю, і яна ніяк не магла вытлумачыць што-небудзь... Потым злосць змянілася поўным раўнадушшам да ўсяго на свеце... «Што гэта такое?» — жахнулася яна.

Ноччу і спала, і не спала, было няпэўна, трывожна і нешчасліва.

А яны ж зусім яшчэ нядаўна збіраліся з Андрэем ехаць да бацькоў — спярша да яе, а потым і да яго...

## V

І тады яна ўхапілася за саломінку.

Назаўтра ўвечары пайшла да суседкі, да Валі.

— У цябе Аліны сёння не будзе? — было першае пытанне.

— Не знаю. Можа, і прыйдзе, — зморшчылася Валя. — Не званіла, — абыякава дадала: — Яна табе трэба? — неяк нядобра чмыхнула. — Магу даць нумар тэлефона, — і пайшла з кухні ў пакой, напісала лічбы на паперцы, вярнулася, падала Юлі.

І пра Аліну яна тут жа забылася. Булькатала на пліце варыва ў невялікай белай каструлі, Валя зменшыла газ, застаўся слабенькі агеньчык. Паскардзілася:

— Нічога пэўнага мне пра маю тэмпературу знаёмая тэрапеўт не сказала. Усе аналізы паздавала, пахадзіла па ўсіх дактарах, вузкіх спецыялістах, — і ніхто нічога не знайшоў. Што ж гэта такое?

Юля таксама ў гэтым не цяміла і таму нічога не параіла заклапочанай Валі. Пастаялі, пагаварылі, не надта шчыра і чамусь без асаблівага жадання. У Валі, канечне, зазваніў тэлефон, Юля развіталася і пайшла.

Назаўтра яна патэлефанавала Аліне на працу, і тая ўвечары была ў яе. Елі бутэрброды з паляндвічкаю і пілі каву на кухні, чамусь стоячы, быццам спяшаючыся, быццам ці Юлі, ці Аліне трэба зараз жа некуды ісці.

Аліна нічога не пыталася ў Юлі, а Юлі прагнула выказацца.

— Ой, Аліна... — паставіўшы на стол кубак з недапітай кавай і паклаўшы бутэрброд, сцялася яна сэрцам. — Не знаю, што са мной. З Андрэем разлад — мы сварымся і сварымся. Ён ужо амаль не заходзіць.

Аліну гэта паведамленне, здалося, ніяк не ўразіла. Спакойная, яна коса павяла сваімі чорнымі вачыма, не гледзячы на Юлю, а неяк у самую сябе, нешта падумала, быццам адзначыла (і гэта змецiла Юля), і моўчкі глыткамі дапіла каву, здавалася, быццам і не збіраючыся спачуваць Юлі.

— Ты ўмееш варажыць. Можа, ты мне паварожыш?

— Магу, — спакойна, неяк звыкла, сказала Аліна, утрымліваючы ў сабе свае не вядомыя Юлі думкі.

Пайшлі ў пакой, і Аліна, сеўшы на канапу, выняла з сумачкі карты. Пачала моўчкі тасаваць. Потым паклала калоду на крэсла і сказала Юлі сесці на яе. Юля села. Сядзела, маўчалі.

— Загадай жаданне, — бясстрасна сказала Аліна.

У Юлі было адно жаданне — памірыцца з Андрэем. Тады ўсё стане на сваё месца.

— Ну, хопіць, — сказала Аліна, і Юля паднялася з крэсла. Аліна ўзяла карты, зноў патасавала і, трымаючы калоду на далоні, сказала Юлі:

— Цягні карту.

Юля паслухмяна зрабіла і гэта. Аліна адчувала сябе як дома, а Юля, чакаючы невядома чаго, стаяла каля яе, як школьніца. Варажбітка была ўладная, засяроджаная. Пачала дзяліць карты на часткі, раскладвала іх на канапе.

Нешта ці то лічыла, ці то шаптала, не разабраць было, уся наструненая, перакідвала карты з аднаго месца на другое, групавала іх, зноў раскідвала. І ўрэшце сказала:

— У цябе ёсць перашкода.

— Якая?

— Не знаю, але перашкода.

І Аліна, не гледзячы на Юлю, неяк зусім не зважаючы на яе, моўчкі сабрала карты, паклала ў сумачку.

— Ну, перашкода дык перашкода, — сумна ўздыхнула Юля і тут жа паспавядалася сама сабе: можа, гэта перашкода мінецца — і ўсё ў яе з Андрэем зноў наладзіцца? Яна ўжо гэтай варажбе і верыла і не верыла.

— А хто цябе навучыў варажыць? — пацікавілася.

Аліна маўчала, пакуль запальвала цыгарэту, моцна, з прагнасцю зацягнулася, потым, выдыхваючы струмень дыму, сур'ёзная ў твары, сказала:

— У мяне бабуля знахаркай была. Яе ўся Ялта ведала. Яна памерла, але паспела мне многае перадаць.

І Юля аціхла, не ведаючы, што і думаць.

Зазваніў тэлефон, Юля пайшла ў вітальню — мама. Папытала пра справы. Юля, вядома ж, сказала, што ўсё добра — яшчэ нічога да канца не вырашана з Андрэем, і што маме ўводзіць у вушы гэтую неразбярыху? Толькі нервавацца будзе...

— Дачка, бульбу трэба капаць. Каб ты прыехала ў нядзелю. Можа, я каго яшчэ паклічу — мы б і выбралі за адзін дзень.

— Прыеду, мама, — паабяцала Юля, і яны развіталіся. Аліна ўвесь час, пакуль Юля размаўляла па тэлефоне, сядзела ў пакоі, закінуўшы нагу на нагу, паліла.

— Бульбу мама кліча капаць. Хоча за адзін дзень управіцца. Калі, кажа, хто яшчэ дапаможа.

Аліна раптам прапанавала:

— Магу я памагчы. Мне ўсё адно ў выхадныя няма чаго рабіць.

Юля была сцепанулася, але тут жа і згадзілася:

— Паехалі!

Ужо было позна, і Юля прапанавала Аліне:

— Начуй у мяне. — І дадала: — Па-мойму, Валя цябе не вельмі шануе... — Юля ні з кім ніколі не зводзіла ніякія звады, не любіла іх, а тут раптам ні з таго ні з сяго такое Аліне сказалася. І яна падумала: не, са мной нешта незразумелае робіцца. Я не кантралюю сябе.

Аліна на Юліны словы ўспыхнула, потым зморшчылася, запаліла новую цыгарэту. І сказала:

— Я знаю. Я на злосць злосцю адказваю.

І больш нічога не растлумачыла здзіўленай Юлі.

Юлю апанавала яшчэ неўсвядомленая да канца насцярожанасць, але ўсё ж перасіліла сябе і паслала Аліне на крэсле-ложку. Сама лягла на канапе і доўга не спала.

Было неспакойна на душы.

## VI

Дзень быў ветраны. Вецер паўднёвы, не халодны, але такі моцны, што прадзімаў наскрозь. Кудлаціў усім валасы на галовах. І свяціла верасвеўскае сонца. Добра яшчэ свяціла, але ўжо не грэла так, як улетку. Восень.

Восень адчувалася ва ўсім. І ў пажухлай каля плота траве, і ў скошаным бульбоўніку, і ў апусцелым садзе. Юля з Алінаю пераапрануліся ў рабочае

адзенне — мама зняла ў сенцах з цвіка нейкія старыя бацькавы курткі, Аліне бацькавы гумовікі падышлі (у яе, аказваецца, вялікая нага, саракавы памер), а Юля дык узяла пад паветкай свае даўнія, студэнцкія яшчэ, з кароткімі халяўкамі боцікі. Прыйшоў сусед — цераз тры хаты жыве, — малады, гадоў пад трыццаць мужчына, яго клікалі ўсе ў вёсцы Пецькам. Праехаў у вароты цераз двор з канём (трымае свайго каня), трэба ж было ўзараць барозны. Пецька быў у кірзавых ботах, у шэрай, добра выцвілай апратцы, шырокі ў плячах, няголены.

— Распіўся, — паківала галавой мама, калі ён паехаў з двара ў агарод. — Жонка кінула, пайшла з дзіцем да свае маткі, у Арэхавічы, — чаго яны там пасварыліся? — а ён, бачыш... Што заробіць у людзей — цяперака сама заробкі, усе бульбу капаюць, і ўсюды конь патрэбен, — дык ён што заробіць, тое і прап'е... А шчэ ж такі малады...

Юля слухала маму і згадвала, яна тады была школьніцай, таго гарластага, задзірыстага Пецьку, які прыйшоў з войска, і на падпітку, цягаўся з хлопцамі па вуліцы... І яна ўсё гэтае маміна шкадаванне разумела.

Аліна была нечаканым госцем, менавіта госцем — у мамы ў хаце ўсе незнаёмыя людзі былі гасцямі, — і да яе звярталіся, і мама, і бацька, на «вы», ды мама ўсё падкладвала ёй раніцай на талерку скварку, ды падлівала ў кубак сырадою — каб жа пад'ела добра, не саромелася... А Аліна і не саромелася нічога. Яна ці то дужа прывыкла заўсёды быць у чужым, новым ёй асяродку, ці то характар такі...

Пакуль разворваліся барозны, павыходзілі ўжо ўсе з хаты — і мама, і бацька, і суседка цётка Галя, і, вядома ж, Юля ды Аліна, стаялі ў агародзе з пустымі вёдрамі ды кошыкамі ў руках, прагнучы пачынаць... Пецька разагнаў паўзагона. Аліна выняла з кішэні штаноў курава, падпаліла пры ўсіх, зацягнулася, і на яе не дужа прыхільна паглядзелі і мама, і бацька, і цётка Галя. Але ніхто ўслых нічога не сказаў. Аліна спакойна дапаліла цыгарэту, прыціснула нагой недапалак.

Неўзабаве ўсе пасталі на барозны. Пецька завёў на недалёкі, за хатай, лужок каня і таксама ўзяў пустое вядро ды пачаў шчыраваць на загоне. Стараліся ўсе. І Аліна, хоць і не дужа спрытна, але выбірала ў кошык бульбу не разгінаючыся, разграбала адной рукой зямлю, хоць і казала перад гэтым, што яна, гараджанка, упершыню паспрабавала капаць бульбу, толькі калі вучылася на бухгалтарскіх курсах, калі іх, навучэнцаў, на тыдзень вывезлі ў недалёкую ад горада гаспадарку...

Да абеду добра папрацавалі. Вецер неяк незаўважна сціх, ласкава грэла сонца. Паздымалі курткі. Спаважныя ўсе, маўклівыя, амаль без слоў мылі ў двары па чарзе рукі. Заходзілі ў хату, сядалі за стол.

Юля ў гэты прыезд дадому адчувала ў сабе нешта новае, сталае, яна не была ўжо тут бесклапотнай дзяўчынкаю, дачушкаю-пястушкаю, — з ёю быў і зараз Андрэй, яна не выпускала яго з душы. Кінуць усё і бегчы да яго, абхапіць рукамі за шыю, забыцца пра ўсё нядобрае, цалаваць, гаварыць ласкавыя словы... І ўжо нейкім новым, быццам староннім вокам, назірала яна за ўсім, што адбываецца ў хаце.

Аліна за сталом апынулася побач з Пецькам і спакойна, не зважаючы ні на кога, нібы яна гаспадыня тут, абхаджвала яго — усё падкладвала яму на талерку тае ці іншае стравы, не забываючыся і пра сябе. Карацей, Аліна ўжо была як дома. І мама, бачачы гэта, перастала гасцёўнічаць з ёю. Потым Аліна адкрыта паліла, усмешлівая, нешта казала да Пецькі. І той стаяў з ёю, гаварылі. Добра грэла ў спіны сонца.

А гадзінам к пяці вечара, калі бульба была выкапаная, зноў селі за стол, налілі па чарцы, і ўсе расслабіліся. Папілі, гаманкія, паелі, і праз нейкі час

мама ўжо круцілася па гаспадарцы, бацька нешта парадчыў у хляве — туды збіраўся зносіць з агарода мяхі з бульбай, цётка Галя пайшла дахаты, а Аліна некуды знікла з Пецькам. Гэта заўважылася не адразу, але мама першай сказала ў хаце:

— Пайшла твая сяброўка... Пецька дамоў павёў... Заўтра будзе гаварыць уся вёска, — нядобра павяла галавой. — Дзе ты, Юля, знайшла яе, такую? І курыць, як не кожны мужык, і вочы ў яе дужа нядобрыя — я прыгледзелася, як за сталом сядзелі. Не, дачка, нядобрыя ў яе вочы...

— Ай, мама... Вечна табе здаецца што-небудзь, — адмахнулася ад гэтае гаворкі Юля, хоць і самой было ніякавата, што Аліна гэтак спакойна пайшла да Пецькі — ну, хто ёй можа быць гэты Пецька? Вернецца яго жонка — у Пецькі сям'я...

Аліна зайшла ў хату, калі добра звечарэла і Юля ўжо склала сумкі, і сабе, і Аліне — мама назбірала сяго-таго. Аліна зайшла рухавая, круцячы шырокімі клубамі, расслабленая, дужа спакойна ўсміхалася сваімі надта ж нейкімі чырвонымі губамі. Спакойна пераапранулася — яна хадзіла да Пецькі ў той самай апратцы, у якой выбірала бульбу, — запаліла. «Яна паліць і паліць», — падумала, зморшчыўшы лоб, Юля. І ёй ужо не ўдавалася быць у гаворцы шчырай з Алінаю. Аліна была тут, у яе бацькоў, хоць і першы раз, але настолькі самастойнай, неяк адасобленай ад усіх, настолькі яна не ўпісвалася ў агульнае быццё, дзе адно з адным абыходлівыя, паважлівыя, чуйныя, што ў Юлі адпала неяк, нібы восеньскае лісце з дрэў — прыйшоў час! — і шкадаванне да яе — у яе ж у горадзе нікога няма, і прытулку ніякага, Юля так і маме сказала, — але цяпер, калі Аліна спакойная, упэўненая, вярнулася ад Пецькі, штось непрыемнае было ў ёй, і ранейшае пачуццё да яе ў Юлі знікла.

А бацька да іх дык і зусім не падыходзіў — усё зносіў з агарода мяхі з бульбай, шчыраваў па гаспадарцы.

І да аўтобуса па вёсцы нейкія вельмі розныя ішлі яны, Юля з Алінаю. І не гаварылі нічога, і не сварыліся, даехалі да электрычкі моўчкі. А ў электрычцы было дужа шмат людзей — вёска выбірала бульбу, ехала ў выхадны з недалёкага горада дапамога, дакладней, ужо вярталася ў горад, і яны сядзелі — удалося сесці — у людскім гэтым тлуме моўчкі. Юлі не хацелася гаварыць з Алінаю. Не хацелася — без ніякіх сабе тлумачэнняў. Апала восеньскае лісце з дрэў.

Толькі ўспыхвалі ў памяці маміны словы: «Вочы ў яе нядобрыя...»

І Юля, калі выходзілі з электрычкі, на тлумным вакзале, на падыходзе да метро ўжо не запрасіла Аліну да сябе, а толькі сказала, апусціўшы галаву, гледзячы долу:

— Ну, усё... Дзякуй за дапамогу. Усяго добрага.

Аліна пакрыўдзілася, што Юля не запрасіла яе з сабой, але ў Юлі з'явілася нешта ўпартае, зацятае, і яна не зважала на Алініну крыўду. І калі засталася адна, здалося, быццам павальнела ёй.

А з мамай, у сумятні, у клопатах, у занятасці, так і не пагаварылі ні пра што. Як ты пагаворыш, калі чужыя людзі ў хаце. Быў, праўда, момант, засталіся з мамай удзвюх у сенцах, і Юля, унікаючы ўсялякіх падрабязнасцей, прызналася: пасварылася з Андрэем. І так замаркоцілася мама...

Але ж у роднай хаце, у дамашняй ціхамірнасці, чысціні і светлыні дум і спраў, да Юлі, адчула, прыйшло быццам і нейкае адхланнё. Ці толькі надоўга.

## VII

Ненадоўга. Увесь наступны тыдзень яна была як сама не свая. Двойчы на тыдзень, у панядзелак і чацвер, заходзіла Аліна — Юля не запрашала, але яна званіла ў дзверы пад вечар: «Можна, я пабуду ў цябе?» Хіба адмовіш? Зноў прыносіла сваю «фірменную» — фу! — салату з часнаком, а ў чацвер флягу нейкага чырвонага морсу, і зноў Юля, хоць і без ахвоты (лепш еш маё, чым я буду тваё, да таго ж і нясмачнае), але не адчапіцца ж, каштавала тую салату і піла той морс. І яшчэ аднойчы Аліна варажыла ёй. Сказала тое ж, што і пры першай варажбе: «Ёсць перашкода». Якая перашкода? Хто ці што перашкаджае ім з Андрэем? Загадка, якую не адгадаць.

Жыццё пайшло няроўнае, нервовае. Пачалося нейкае бязрадаснае існаванне.

Звольнілася Жанна. Дзяўчаты, Вера з Кацяй, засталіся ўдзвюх, работы ім прыбавілася, яны не паспявалі ўсё зрабіць у час. Юля злавалася, хоць і разумела, што трэба хутчэй браць трэцюю швачку, ды нават і чацвёртая некалі планавалася. Але нікога на прыкмеце не было, і яна дала аб'яву ў рэкламную газету. Чакала — выйдзе ў сераду газета, пачнуцца званкі, хутка возьме каго-небудзь...

Усё непатрэбна і нецікава. У суботу ўвечары, яшчэ было гадзіны дзве да васьмі, пасадзіла на прыём заказаў Веру, а сама, адчуваючы ў сабе і нейкую стомленасць, і абыякавасць, паехала дадому. Дачакалася свайго аўтобуса, зайшла, села ў сярэдзіне салона. За спінай аказаліся дзве гаваркія кабеты. Яны размаўлялі голасна, нястрымна, бесперастанку, гэта раздражняла, і яна паднялася, пайшла па салоне наперад, да кабіны вадзіцеля, там было вольнае месца, села. Сама ехалі з працы людзі — гадзіна «пік». Хутка ў аўтобусе было цесна, усе месцы занятыя, людзі стаялі ўшчыльную, і на кожным прыпынку яшчэ плішчыліся пасажыры. Уціснулася ў пярэднія дзверы маладая мама з крыклівай дзяўчынкай у чырвонай куртачцы, і Юля вымушана была ўступіць ім месца, але ўспыхнула злосць нейкая і на маладую маму, і на крыклівую малую, і на ўсіх, хто стаяў побач. Было нязручна стаяць, было змрочна на душы, усе і ўсё раздражняла. Неяк дачакалася свайго прыпынку, выйшла, пайшла, сцятая, няўцешная, дадому.

Учора ўвечары ў атэлье прыходзіў Андрэй. Спыніўся ў дзвярах, прыхінуўся да вушака — якраз так, як у першае знаёмства. У яго неяк нязвыкла блішчэлі вочы, ён пазіраў на Юлю, усміхаўся, намерваючыся нешта сказаць.

— Ну вось... Гэта я... Ты не чакала? Не чакаеш мяне?

І Юля зразумела, што ён добра п'яны. Зайшла, абмінуўшы яго ў дзвярах, заказчыца, дзелавая, вёрткая жанчына, забіраць гатовае адзенне. Юля механічна складвала яго, засоўвала ў вялікі пакет, разлічвалася з ёю, увесь гэты час ні на хвіліну не забываючыся пра Андрэя. Той па-ранейшаму стаяў у дзвярах, але нейкі стомлены, бязрадасны, квола ўсміхаўся.

— Вось. Я прыйшоў, — сказаў, калі засталіся ўдваіх.

Юля падышла да яго, стаяла, пазірала ў твар, нейкая бясстрасная і таксама няўцешная — што яму скажаш, калі ён п'яны?

Андрэй пахітаўся перад ёю з рукамі ў кішэнях курткі і глядзеў ужо неяк злосна, калюча.

— Ты мяне не кахаеш? — сказаў-запытаўся, без аніякае надзеі, што пачуе адваротнае.

— Кахаю, — сказала, абы толькі сказаць. У яе знік усялякі настрой.

— Не, не кахаеш. Я бачу, — і Андрэй тут жа завярнуўся і, хістаючыся, пайшоў.

Юля зразумела, што ён прыйшоў з гатовымі думкамі і выказаў іх.

«А ты мяне — кахаеш?» — хацелася закрычаць.

Учарашняя роспач апанавала яе, калі падыходзіла да свайго дома.

Каля пад'езда стаялі дзве знаёмыя маладыя жанчыны, адна з дзіцем у калясцы, размаўлялі. Звычайна Юля з кожнай з іх віталася, перакідвалася словамі, але цяпер ёй было ўсё абыякавае, толькі стомлена мільганула думка, што і ім не да яе, яны заняты сваёй гаворкаю, і моўчкі мінула іх, але ўжо амаль наўздагон адна з іх сказала «добры дзень» ёй, і Юля спынілася, азірнулася, прамовіла кароткае вітанне і тут жа пайшла ў пад'езд. Не было жадання з кім-небудзь гаварыць, і, здалося, і не было чаго гаварыць.

Дома было няўтульна. І холадна, і пуста. Яна павячэрала. Потым, не ведаючы, чым заняцца, уключыла ў пакоі тэлевізар, спадзеючыся невядома на што, села ў крэсла. Ішла крыклівая рэклама, і яна раздражняла. Хацелася паглядзець што-небудзь спакойнае, цёплае. Узяла з палічкі кнігу, вершы, разгарнула — не, не чыталася, дакладней, чыталася, але не ўспрымалася. Пайшла ў ванны пакой, убачыла сябе, самотную, у люстэрку, прычасалася. Зноў вярнулася ў пакой, села ў крэсла. Затрэнькаў мабільнік. Юля алёкнула, нейкая сцішаная і змучаная, і спярша ніхто не абазваўся, але яна чула нейчае дыханне, і той нехта быццам раздумваў, гаварыць што ці не гаварыць. Нарэшце голас:

— Ну, чым ты займаешся?

Гэта быў Андрэй.

— Я? — ад нечаканасці ў Юлі забілася сэрца. Кашлянула, выраўняла голас. І раптам запаланіла крыўда: — А табе што? — сказала, гатовая расплакацца.

— Мне? — неяк дзікавата засмяяўся Андрэй. — Мне — нічога. Проста набраў нумар.

Яна завагалася, не разумеючы сябе, адчуваючы толькі нейкімі шматкамі свядомасці, што трэба сказаць нешта добрае, шчырае, прымірэнчае, але крыўдлівасць перасіліла і сказалася зусім не тое:

— Дык нашто набіраў?

— Ну, тады будзь здарова, — коратка кінуў Андрэй, і голас знік.

Госпадзе, дзе мая галава? Навошта я так з ім? Я ж так чакала яго. Думала пра яго. Юля зноў схапілася за мабільнік — пераразваніць, павінавацiцца, папрасіць прыехаць, — але дзе ў яго ў інтэрнаце тэлефон? Апусцілася на крэсла і заплакала, адчайна, наўзрыд, апынуўшыся ў поўнай безвыходнасці.

Потым, можа, праз гадзіну, можа, праз дзве, ёй пазванілі ў дзверы. Андрэй? Сэрца забілася, і ў ёй нешта цёплае ўскінулася, перамаглося злое, яна заўсміхалася і адчыніла дзверы.

Стаяла Аліна.

Юля пазмрачнела, але адказала на прывітанне і, аціхлая, упусціла яе ў кватэру. Зайшлі на кухню.

Аліна была на ўздыме, рухавая, усмешлівая, гаваркая, але, відаць, хутка заўважыла Юліну маркоту і, падумаўшы штось, прыціхшы, сказала:

— Я па справе. Ты мне заўтра на гадзінку кватэру не ўступіш? Я з сябрам хачу зайсці — няма нам куды дзецца. Ты, можа, куды пойдзеш? Дык мы тады...

— Ой, не, Аліна... Знаеш, не магу... У мяне немач нейкая, я дома сядзець буду... Кепска мне, хварэю, — зірнуўшы на яе, сказала цвёрда.

Аліна знiякавела — Юліна адмова для яе была, відаць, нечаканасцю. Яна пазмрачнела ў твары, а потым раптам сказала:

— Я памыю рукі,— і пайшла са сваёй чорнай сумачкай у ванны пакой, зачыніла за сабой дзверы. Аліна не выходзіла доўга — што яна там робіць? Нарэшце выйшла, пакіравала да дзвярэй, стала на выхадзе спінаю да Юлі,

нейкая засяроджаная ўся, адасобленая ад усяго на свеце, — стаяла, быццам адна яна тут, у кватэры. І Юля быццам і не гаспадыня была ўжо. І так, стоячы спінаю да Юлі, Аліна сказала бясстрасным голасам:

— Ну, тады — усяго табе!

І пайшла, не зірнуўшы на Юлю.

Юля зачыніла за ёй дзверы, і адразу перахапіла дыханне. Аж млосна зрабілася. Неяк выцягнулася ўся, пераадольваючы ўсёю сабою гэтую млоснасць... І толькі, калі выпіла гарачую моцную гарбату, у яе патроху выраўнялася дыханне.

## VIII

Ноччу амаль не спала. Сярод ночы паднімалася, ішла на кухню, глядзела на гадзіннік, блытаючыся ў часе: здавалася, што ўжо ранне, гадзін шэсць зараз, а стрэлкі паказвалі толькі другую гадзіну ночы. Глынула халоднай вады на кухні. Пайшла, лягла. Было млосна пад коўдрай, зноў паднялася, пасядзела, апусціўшы на дыван ногі, потым зноў лягла.

Прачнулася позна, нейкая пакамечаная, невядома на што злосная. Была нядзеля. Яна хадзіла па кватэры, не могучы нідзе затрымацца, не ведаючы, куды прыкласці рукі. Хацелася чамусь гаварыць — гаварыць і гаварыць. Пайшла ў вітальню, села каля тэлефона.

Доўга сядзела з тэлефоннаю трубкаю ў руцэ (мабільнік не чапала, па мабільніку дорага), абзваніла многіх сяброўак і знаёмых, і ўсё гаварыла і гаварыла, шмат і бязладна, пустое, словы сыпаліся і сыпаліся, пераскоквалася з аднае тэмы да другое... Разумеючы, што ўжо надакучвае сваёй балбатнёй, развітвалася, клала трубку. І зноў набірала новы нумар. Ёй здавалася, што трэба выгаварыцца... Нарэшце паднялася з крэсла. Узяла ў руку ключы, зачыніла кватэру, спусцілася на чацвёрты паверх да Валі — хацелася гаварыць з кім-небудзь твар у твар. Валі не было дома. Успомнілася Марына Ісаеўна з дзевятага паверха, памяркоўная, разважлівая Марына Ісаеўна — але ж згадалася і апошняя з ёю сустрэча ў ліфце, і Юля не пайшла да яе, здаровы сэнс перасіліў. Вярнулася да сябе ў кватэру і моўчкі села ў вітальні на крэсла, зноў ля тэлефона. Толькі ўжо не здымала трубку, не набірала ніякіх лічбаў. «Што ж гэта са мною робіцца?» — пакутліва падумала, седзячы ў нейкім нервовым здранцвенні. Яна прымусіла сябе перабраць у памяці ўсе апошнія падзеі, шукаючы нейкага тлумачэння таму, што з ёю адбываецца. Успамінала ўсё, што можна было ўспомніць. Сядзела ў крэсле, паднімалася, заходзіла ў пакой, з пакоя ішла на кухню, стаяла там, пазірала ў акно, потым зноў вітальня, ванны пакой, дакраналася рукой да нейкіх рэчаў, клала іх назад — хадзіла і хадзіла па кватэры, а ў галаве круціліся падзеі апошніх месяцаў, тыдняў, дзён... Успаміналася ўсё, што было з ёю і з Андрэем, і зачапілася думкамі за свой дзень нараджэння... Яны пілі Алінін напой — чаму яна прынесла бутэльку гарэлкі, звычайнай гарэлкі, але адкаркаваную? І што гэта была за салата з часнаком? І ёй, і Андрэю — ці не ў першыню тады? — у той позні вечар, пасля шчаслівага дня, што правялі разам, — упершыню зрабілася не па сабе неяк, нешта няўлоўнае ўпершыню тады раз'яднала іх... А на гэтым тыдні зноў гэтая салата з часнаком і гэты морс — і зноў кепска так...

Аліна! Гэта яна... І Андрэй казаў... І мама вунь...

І Юлі ўсё раптам так выразна ўбачылася — тое, што адбывалася з імі, з ёй і Андрэем, пасля дня нараджэння... Гэта Аліна! У яе бабуля... І ўнучка зелле знае... У яе вочы — у іх няма цяпла... Яна і Валю збаёдала — дактары не даюць рады... Чорная зайздрасць... Ці звычка так абыходзіцца з людзьмі...

У галаве была поўная яснасць. І поўная безабароннасць. Юля забегала па кватэры ў немым адчаі, ёй захацелася крычаць, клікаць кагосьці на дапамогу...

Што рабіць? Папытацца ў каго-небудзь, бо сама яна ў гэтым нічога не цяміла... Схапіла з шафы пустую шкатулку — тую, прынесеную Алінай на дзень нараджэння, яна так і стаяла ў «сценцы» пустая, — выбегла з кватэры, выкінула яе ў смеццеправод. Зноў кідалася па кватэры — туды-сюды, туды-сюды. Потым хуценька апранулася, выйшла за дзверы, шчоўкнула замком. Ліфт быў заняты, і яна пабегла ўніз па лесвіцы. Выйшла з пад'езда. «Да мамы паеду! Ёй раскажу!» Прыбегла на прыпынак. Дачакалася аўтобуса. Даехала да метро. На вакзал, да мамы, да бацькі, да іх цяпла і спагады. Не было холадна і не было горача. Было адчайна...

Стаяла ў метро нейкая ўзвінчаная, не адчуваючы самую сябе, сярод спакойных людзей — такія, адзначыла сабе, спакойныя навокал людзі!.. Ехала ў вагоне стоячы, трымаючыся моцна рукой за більца. І раптам падумала: а што будзе ў вёсцы? Яна будзе сядзець у хаце, і мама будзе ўгаворваць... Угаворваць. А бацька будзе казаць, што трэба разумець людзей і абы з кім не знацца. І што — гэта паможа?

На бліжэйшай станцыі яна выскачыла з вагона і пайшла ў роўным натоўпе па пероне, на выхад, узвінчаная і бязмэтная, проста ішла, не могучы стрымаць сябе, спыніцца і што-небудзь падумаць. Хутка была на вуліцы. Апынулася каля ГУМа. Была наўкола людская мітусня, але ціхамірная і спакойная. Пабегла некуды за ГУМ, з праспекта, у цішэйшую вуліцу, дзе менш шчаслівых і бесклапотных людзей, бо ціснула на сэрца: яны ўсе не такія, не такія, як яна... Ішла не спыняючыся, не могучы спыніцца... Узбуджаная, напружаная, перабегла на зялёнае святло вуліцу — на скрыжаванні. Ішла шпаркім крокам, быццам хто падганяў яе. Ці спазнялася куды. Дзьмуў у твар і джыгаў па каленях нейкі дужа халодны вецер. Ці гэта ёй здавалася, што ён такі халодны? Затуляючы твар, павярнула галаву направа — і ўбачыла на тым баку вуліцы белы храм. Ускінула вочы — залаціліся ў небе купалы яго. Яна быццам пахіснулася. Хістанулася — чаму так? Спынілася, быццам спатыкнулася. Перахода цераз шырокую вуліцу нідзе блізка не было, і яна, перачакаўшы лавіну машын, дабегла да сярэдзіны шашы. З другога боку таксама ішла лавіна легкавікоў, яна нецярпліва перачакала і гэтую лавіну... Пустая шаша — і яна пабегла, памчалася з нейкай зацятай думкаю, быццам зусім звіхнулася...

Апынулася ля высокага белага храма. І тады варухнуліся вусны: «Госпадзе, навучы мяне зноў любіць — і чалавека, і пташку, і дрэва...» Білася сэрца. Яна наблізілася да самай царквы. Спынілася, перахрысцілася і адчыніла вялікія цяжкія дзверы. Зайшла. Людзей нідзе не было. Шмат дзе ля абразоў дагаралі свечкі. Яна адчыніла другія дзверы. Там убачыла невысокага чалавека ў царкоўным адзенні.

— Усё на сёння. Ранішняя служба закончана, — сказаў ёй чалавек. — Увечары прыходзьце.

— Паклічце святара... Святара! Калі ласка, — неяк ненатуральна гучна, разумеючы, што так гучна нельга тут, але не могучы перасіліць сваю немач, папрасіла Юля. — Мне святара...

Царкоўны служка момант паўзіраўся ў яе. Сказаў:

— Зараз. Я пайду скажу яму.

Яна стаяла ў храме адна, і паўсюль, на ўсіх сценах і калонах, віселі абразы Хрыста, Божай Маці і ўсіх Святых. Паўсюдна ля іх гарэлі, найбольш дагаралі свечкі. Пахла ладанам. Яна павяла вачыма ўправа, улева, потым спыніла позірк перад сабой — перад ёю была вялікая выява Хрыста.

— Госпадзе!.. — выдыхнула яна, узіраючыся ў абраз, і перахрысцілася. З яе выррваўся міжвольны крык і пакаціліся па шчоках слёзы. Нешта цяжкое, што рвала душу, быццам адхлынула ад яе.

Да яе падышоў у чорных рызах святар.



## Адам ГРЫНКЕВІЧ

Больш за 45 гадоў прысвяціў педагагічнай працы Адам Вікенцьевіч Грынкевіч. І ўвесь гэты час навучаў дзяцей беларускай мове і літаратуры, быў і застаецца яе адданым прапагандыстам. Ганаровае прызванне — настаўнік роднай мовы і літаратуры!

Але і сам ён аказаўся адным з абраннікаў паэтычнай музы. З першымі вершамі выступіў у друку юнаком, калі вучыўся ў Слуцкім педвучылішчы. Пасля службы ў войску настаўнічаў у Старадарожскім раёне. У 1963 годзе завочна закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта і разам з сям'ёй пераехаў на Стаўбцоўшчыну, у вёску Вялікі Двор. З таго часу да выхаду на пенсію працаваў настаўнікам Наваеёскаўскай сярэдняй школы.

Выкладчыцкая праца стала яго лёсам, але ж і паэтычная муза Адама Вікенцьевіча не страціла свайго голасу.

*Ала Канапелька*

### МОЙ РОДНЫ КРАЙ

Абшар лясоў, калоссяў гоман,
На золку песні салаўя.
Нясе дары празрысты Нёман
Табе, Стаўбцоўшчына мая.

Быў неаднойчы лёс гняўлівы,
Шмат адбывалася падзей.
Цвітуць і родзяць шчодра нівы
З вялікай ласкай да людзей.

Славуты край! Якія людзі
Ў вяках народжаны табой!
Магутны Колас вечна будзе
Свяціцца зоркай залатой.

Блакітам неба зачаруе,
Запахне свежая ралля.
І вам хай шчасце падаруе
Стаўбцоўскі край — мая зямля!

## ІМГНЕННІ

Мінаюць гады і вякі,
Змяняюцца часу ступені.
Чаму ж, як святла маякі,
Вядуць праз жыццё нас імгненні?

Упэўнены, кожнага з вас
І сёння той момант хвалюе,
Калі прагучала ў адказ:
«Цябе ўсёй душою люблю я…»

І дотык пяшчотны рукі
У памяці ўміг застанецца,
Калі з паднябеснай ракі
Струменьчык у сэрца пральецца.

Пражытым заўжды даражы.
На змену ідуць пакаленні.
А ў кожнага з нас у душы
Свае застаюцца імгненні.

## ЧАЛАВЕКУ ЎЛАСЦІВА ЗДЗІЎЛЯЦЦА

Залюбуюся пчолкамі ў працы,
Як рупліва шчыруе іх рой,
Вось бы нам гэткі рытм і настрой, —
Чалавеку ўласціва здзіўляцца!

Прыпадае касец да крыніцы,
Хоча смагу вадой наталіць,
А струмень прахалодны іскрыцца —
Ён і ўзімку і ўлетку журчыць…

Безліч цудаў! Я мушу прызнацца:
На зямлі, у паветры, вадзе
Шмат чаму ёсць на свеце здзіўляцца,
Калі сэрцам відушчым глядзець.





## Аляксей БРУЙ

# ШКЛЯНАЯ ТРУНА

*Апавяданне*

Здавалася, што гэты дзень не скончыцца ніколі. «Ну што яму падараваць? Што? Божа, хоць Ты падкажы!» — з булькатаннем і шыпеннем вывальвалася з-пад яго густой, павольна сцякаючай на грудзі барады. Гэтаму старому сапраўды не пазайздросціш: што якраз сёння быў дзень народзінаў у малодшага ўнука, у яго зусім выпырхнула з памяці. Даўно мінуў ужо час, калі гэты дзень павінен быў саступіць месца начной прахалодзе, але стары ўсё ніяк не хацеў захутацца ў халат і сысці з балкона, на якім праводзіў большасць жыцця, у свой велізарны каменны дом. Усё нешта булькаючы сабе пад нос, ён упарта працягваў, звесіўшы ногі, сядзець на мармуровым чорным парапеце балкона.

На ім не было адзення, але на яго так ніхто і не мог паглядзець адтуль, знізу — гэтак ярка ззяла яго вечна тлеючае цела. Ад самых медных кіпцюроў на нагах яго і па грудзях, і па твары прамяністым — нібыта густы напой для нечых бяссмяротных вуснаў, разліваўся па ім агонь. Старэчае цела, здавалася, набрыняла наскрозь гэтым асляпляльным полымем, якое, падобнае на пот, прасочвалася праз скуру і рассыпала наўкола безліч гарачых сонечных промняў. І толькі маленькія чорныя вочы, выпіленыя, відаць, з таго ж самага каменю, што і гэты дом, былі халоднымі і мёртвымі: вакол іх па твары распаўзаліся толькі кругі сівога попелу, вакол іх расступаўся нават агонь. І нос, і шчокі вогненнымі змеямі сцякалі на грудзі старога, раствараючыся ў кіпячай яго барадзе, што павольным густым вадаспадам спаўзала з галавы на распаленае цела... Такі пачварны быў выгляд уладара святла, але ніводнаму не хапіла яшчэ сіл, каб разгледзець гэтую жудасць за яго залатым асляпляльным ззяннем.

Трохпавярховы дом са змрочнага чорнага мармуру стаяў на невялікім пагорку, на самым краі велізарнага, вечна квітнеючага райскага саду, куды назаўжды заносіліся маленькімі анёламі ўсе нераздзейсненыя мары. Такія сумныя светлячкі, незлічоныя цені іх луналі зараз між сакавітых траў і пяшчотнай квеценню маладых вішань, і было іх так многа, што часам старому здавалася, нібы гэта нехта вымыў ад зорак начное неба, а брудную ад срэбра ваду выліў у сад...

---

*Бруй Аляксей Уладзіміравіч* нарадзіўся ў 1988 годзе ў горадзе Мінску. Скончыў школу № 137. Друкаваўся ў рэспубліканскіх выданнях. Цяпер — студэнт факультэта журналістыкі БДУ.

Увесь час у дом нехта прылятаў і адлятаў ужо праз лічаныя хвілі, спяшаючыся саступіць месца наступнаму жадаючаму павіншаваць маленькага імянінніка.

«Што ж яму сёння падараваць? — ужо невядома які раз прашыпела барада, і яе ўладар са звонам і скрыгатам правёў меднымі распаленымі кіпцюрамі па мармуры парапета, на якім сядзеў. — Мала мне было клопату, дык яшчэ гэтае... О-о! І так уставаць кожную раніцу ды ўзбірацца сюды, каб асвятляць дзень над гэтым пачварным садам... Я павінен аддаваць святло сваё гэтым казюлькам, а яны на мяне нават і глядзець не хочуць! Але што я хачу... Самыя нецвярозыя пачвары, што імкнуцца заняць месца Бога, трапляюць у пекла, а іх мары — настолькі нават жудасныя — сюды, пад мой нагляд. Яны ж не віноўныя ў тым, што такімі нарадзіліся, і ў той жа час усе яны пакутнікі, таму што ад самога з'яўлення ўжо асуджаны існаваць без сэнсу і будучыні. Ім так цяжка паміраць нявздзейсненымі... Магчыма, таму так мала тут мар светлых і чыстых... А ў мяне няма часу, каб урэшце прыдумаць хоць што-небудзь... Так мала часу... Яго звычайна столькі, але, як трэба, ніколі не хапае... Час... Час! Ух, дзякуй табе, Божа! Ну, канешне, час! Як гэта я! А хацця... Можа, і нявартa... Але не, не, нічога, сыдзе».

Напаткаўшы раптам нейкую доўгачаканую думку, вогненны стары ўрэшце з палёгкаю зразумеў, што з чыстым сумленнем можа дазволіць сабе з'явіцца на свята. Даволі жвава для сваіх незлічоных мільёнаў год ён, перакінуўшы ногі, саскочыў з парапета і, з глухім шкрабаннем перастаўляючы іх па каменнай падлозе, падаўся ў кут да старой заіржаўленай вешалкі, што трымала на сабе цяжэрны, запэцканы копаццю халат свайго гаспадара. Гэты халат быў адзіным збаўленнем для наваколля ад нясцерпнага жару старэчага цела — падобнае на бліскучую рыбіну скуру, скляпаную з тысяч чыгунных лускавінак, адзенне гэтае хоць і скрозь дымілася, але ўсё ж здольнае было ўтаймаваць да наступнай раніцы вольналюбівыя пякучыя промні. Набыўшы такім чынам прыстойны гаспадарскі выгляд, сонечны бог накіраваўся ў дом, пакінуты сад тут жа па самыя вяршаліны затапіла ліпкая туманная цемра.

Два змрочныя няўтульныя калідоры і каменная лесвіца, што вяла ў верхні невялікі пакойчык, — асвятляючы шлях сабе нязгаснай барадою, стары даволі хутка гэткім няхітрым шляхам дабраўся да маленькіх крывых белых дзвярэй. Магло падацца, што не толькі за імі знаходзіўся дзіцячы пакойчык, але і яны самі былі створаны дзіцячымі ручкамі... Вось толькі першае і, на жаль, апошняе, што сёння ў гэтым пакоі кідалася ў вочы, быў велізарны насып з цацак, што ўзнімаўся пад самую столь і падпіраў сваімі схіламі сцены — адчыніўшы дзверы, убачыць можна было толькі гэта і болей нічога.

— А-а, дзядуля! Глядзі, што мне падаравалі сёння! — пачуўся звонкі дзіцячы галасок, і аднекуль з-за гэтай незлічонасці каробак і пакункаў перад халоднымі каменнымі вачамі старога з'явілася маленькае стварэнне. Срэбнаскурае, бязмерна шчаслівае і, відаць, ужо ў чаканні чарговага падарунка, яно з хітрай усмешкай і бліскучымі вачанятамі глядзела на дзеда, з нецярпення мусолячы ножкай па падлозе кончыкі сваіх даўжэзных срэбных валасоў.

— Ну давай, маленькі, расказвай, што тут у цябе сёння! Відаць, свята нейкае, ці што?

— А ў мяне дзень нараджэння! — як мага болей урачыста і сур'ёзна адказаў хлопчык, ужо пачынаючы крыху хваляваццa, што дзед забыў пра самае галоўнае.

— О, і колькі ж табе гэта ўжо?

— Шэсць мільярдаў!

— У-у, такі дарослы, а ў цацкі яшчэ гуляешся?! Хе-хе... Ведаеш, у мяне таксама для цябе нешта ёсць! — загадкава булькнула расцягнутая ўсмешкай барада. — Хадзем.

І пад радасныя крыкі прамяністага хлопчыка, невядома якім чынам да гэтага часу яшчэ не заблытанага выпадкам ва ўласных валасах, абодва яны падаліся ўніз. Нібыта тоўсты залаты хрушч і маленькі срэбны светлячок, дзед з унукам, разграбаючы сваім ззяннем адзін перад адным цемру, па змрочных лесвіцах спусціліся ў падзямелле. Каменныя шырокія калідоры з абкуранай гаспадарскім халатам за многія тысячагоддзі столлю прывялі іх да магутных, абкаваных жалезам і меддзю дзвярэй глыбокага пограба.

— Дзядуля, ты хочаш забраць сабе мае цацкі, а мяне зачыніць тут і ніколі не выпусціць? — відаць, усур'ёз хвалюючыся, запытаў маленькі.

— І як гэта ты здагадаўся? — ледзь стрымліваючы смех, адказаў стары і, выцягнуўшы з кішэні цэлую вязанку бліскучых аскаленых ключоў, жвава крутануў адным з іх у велізарным іржавым замку. Той з незадаволеным енкам усё ж дазволіў пакалупацца ў сваім нутры і, тры разы глуха грымнуўшы нечым, нібы спрабуючы запусціць сваё даўно ўжо нікім не чапанае сэрца, са скрыгатаннем выпусціў з абдымкаў халодную клямку.

Стары і малы ступілі ў пограб. Ад старога адразу ўзнесліся да столі малочныя слупы пары, але ўжо на ляту змярзаючыся і падаючы пад ногі скрыпучым інеем, — гэтак холадна было ў гэтай змрочнай каменнай магіле. Каламутна-белы лёд распаўзаўся крыштальнай цвіллю па яе чорных сценах, а са столі па кутах, нібы спячы лівень, цэлымі гронкамі навісалі магутныя ледзяшы. Нібыта асуджаная вечная зіма тут адбывала пажыццёвае зняволенне...

Абклееная зіхоткімі крупінкамі інею была і ўся жалезная паліца ўдоўж сцяны, спрэс застаўленая нейкімі шклянкамі і слоікамі, ды яшчэ бескарысная цьмяная лямпачка, высвечваючы іх іржавым святлом, у адзіноце боўталася пад столлю пад калючым подыхам скразняку. Што гэта за шклянкі, разгледзець было вельмі цяжка, але на кожнай мацаваўся кавалачак скуры з нейкім пэўным надпісам, і стары адразу ж, нараджаючы над сабою цэлае воблака пары, накіраваўся да гэтай паліцы. Вось з краю стаіць запатнелая колба. Разгледзець можна, як пырхае там маленькі залаты матылёк, з тонкім звонам кранаючыся крыльцамі сценак. Вакол на паліцы вялікая расталая пляма, перад якой бяссільны, відаць, нават холад падзямелля. І надпіс на колбе: «Шчасце». Побач прытуліўся невялічкі слоік, да самых краёў поўны сівога пушыстага пылу, і на ім можна прачытаць «Мір». Стаіць тут і велізарная, асыпаная інеем бутля. Надпіс на ёй — «Бяссмерце», і стаіць у яе за сценкамі густая чорная нафта — кроў прыроды, дзіця падземнага свету. На другім канцы паліцы затаілася яшчэ адна шклянка, прамерзлая, відаць, зусім наскрозь. Падобная яна была на чарадзейнае дрэва, што пусціла ў жалеза паліцы сваё льдзяное карэнне. І заінелая была настолькі, што немагчыма разгледзець, што хавала яна ў сваім шкляным целе. Але надпіс падказваў: «Збаўленне». А колба побач і наогул пустая. Панавала ў ёй такая крыштальная пустэча, што, здавалася, нават паветра высыпалі адтуль, але слова «Чысціня» прачытаць можна было на трохвугольнай скуранай бірцы, прымацаванай да разбухлага корка. І шмат яшчэ там якіх стаяла слоікаў і пасудзін, так старанна і шчыльна закрытых, каб нішто не магло ні ўцячы, ні высыпацца, ні праліцца скрозь іх спрадвечныя шкляныя краты.

— Гм, дзе ж гэта ён? — буркнуў стары і пачаў, з шыпеннем кранаючыся палымянымі пальцамі сасудаў, перастаўляць іх з месца на месца, нешта сярод іх шукаючы. Зазірнуў і ў самы дальні кут — туды нават падслепаваты погляд абмарожанай лямпачкі трапляў толькі зрэдку. Бясконцы нудны скразняк, матляючы яе туды-сюды, адхіляў увесь час на некалькі імгненняў яе пузатае вока далей убок, каб дапамагчы зазірнуць сюды, за зледзянелыя нагрувашчванні шкла — у цёмны кут, які гэткім чынам то высвечваўся са столі дробнымі рыжымі промнямі, то ахінаўся змрокам. І вось у гэтым самым куце, адсунуўшы крыху ўбок пустую ўжо бутэльку з-пад «Свабоды», стары ўрэшце знайшоў, што

шукаў. — Няўжо знайшоўся? Ну, ты скажы, хто ж яго гэтак далёка засунуў? — і з гэтымі словамі ён, ледзь дацягнуўшыся, дастаў адтуль невялічкі пясочны гадзіннік. — Вось, гэта табе, мой хлопчык! З днём нараджэння! — і працягнуў яго крыху здзіўленаму і зусім раптам засмучанаму ўнуку. Той, аднак, адразу ж прыняўся разглядаць падарунак: што ж, звычайны гадзіннік з блакітнага шкла, знутры якога павольна перасыпаліся каляровыя пясчынкі; сам ён з лёгкасцю мог змясціцца ў срэбнай дзіцячай далоні, а да сярэдзіннай часткі прывязана была ўсё такая ж скураная бірка. І напісана было на ёй: «Людзі».

— Дзякуй табе, дзядуля, — без асобага настрою прагаварыў малы. — І гэта ўсё?

— О, ты, напэўна, не заўважыў: гэта чарадзейны гадзіннік! Павер, такога больш няма ні ў кога, ён адзіны такі ў Сусвеце, і я дарую яго табе! Вось прыглядзься, прыглядзься ўважлівей, што там адбываецца ў ім! — загадкава адказаў стары і паднёс рукі хлопчыка з гадзіннікам да самых яго срэбных вачанят.

І сапраўды, рабілася ў гэтых блакітных сценках нешта незвычайнае: дробненькія зялёныя, чырвоныя, сінія, жоўтыя, белыя пясчынкі напаўнялі верхнюю частку, але, як толькі праскоквалі яны праз адтуліну ў звужаным перашыйку, у той самы момант нейкім незвычайным чынам ператвараліся яны ў калматы попел і павольна асядалі сівой горкай на самым дне. Чым болей ішоў час, тым меней у гадзінніку заставалася каляровых пясчынак і тым болей ён запаўняўся мёртвым попелам.

— Дзядуля, а чаму гэта так? — зацікаўлена спытаў малы.

— М-м, ды ніхто не ведае, у гэтым уся і справа! Нават я не ведаю, чаму так робіцца, але, можа, табе калі-небудзь гэта пашчасціць зразумець. Раскажу ж я тое толькі, што вядома самому мне. Ну, разумееш, у гэтым гадзінніку жывуць людзі...

— А хто гэта такія?

— Эх, як жа растлумачыць табе? Гэта такія пясчынкі, якія здольныя адчуваць... Я... я разумею, табе вельмі дзіўна гэта чуць, але такія бываюць, павер мне. У іх там сваё жыццё, свае дзіўныя законы і парадкі, якія, на шчасце, існуюць толькі ў гэтых блакітных сценках. Іх нават не трэба карміць ці даглядаць за імі — яны самі кормяцца адно адным і, душачы адно аднаго, раскрышваюцца на новыя пясчынкі. Гэта дзіўны свет, але асуджаны на існаванне ён толькі ў гэтых шкляных сценах і больш нідзе. Ды і сцены гадзінніка — гэта ўсё тыя ж пясчынкі, пераплаўленыя некалі ў шкло... Разумееш, мой маленькі, людзі таксама маюць вочы, але нічога не бачаць далей гэтых блакітных шкляных схілаў над сабою. Нават тыя маленькія крупінкі інею, якімі абмёрз іх свет, дасягальнымі становяцца незлічоным іх поглядам толькі часамі — на фоне чорнай каменнай сцяны, калі святло танцуючай са скразняком лямпачкі на імгненні саступае ў іх куце месца ценю... Ты сам бачыш: іх жыццё — гэта вечны рух, але іх рух — гэта блакітны калідор, які вядзе ў будучыню, сцены якога выплаўлены з мінулага. Гэта сцены іх свету, праз якія можа пераступіць святло, але не могуць яны. І нават думы іх і жаданні, іх самыя запаветныя мары акружаюць гэтыя сцены, адлітыя са смерці, адлітыя са светапоглядаў і забабонаў іх продкаў, адлітыя з саміх продкаў — з маленькіх каляровых пясчынак, што некалі застылі ў перадсмяротнай сутарзе ў абдымках адно аднаго шкляным целам гадзінніка. На гэтым і трымаецца іх маленькі дзівосны свет... — але тут стары, зусім захоплены сваім аповедам, урэшце заўважыў, што ўнук ужо даўно стаяў, сонна мусолячы ножкай па халоднай падлозе; вочкі яго нецярпліва бегалі па ўсім пограбе, і, відаць, у думках ён ужо зноў поркаўся ў сваім цацачным насыпе. Тэрмінова трэба было распавесці пра нешта больш цікавае, і, булькнуўшы штосьці нязвязнае ў густую, як тлеючая каша, бараду, стары вырашыў пахваліць свой падарунак з крыху іншага боку: — А вось ты ўяві толькі, што было б, калі б людзі маглі нас

бачыць адтуль? А што, калі б маглі яны выбірацца вонкі са свайго сляпога скрыжальнага сасуда? Табе, можа, і не страшна... Ды толькі нікога не выпускае гэты гадзіннік! І ў сябе нічога не прапускае адсюль: ні пахаў, ні гукаў, нават холад з цяплом амаль не прабіраюцца праз шкляны мёртвы заслон. Сценкі настолькі тоўстыя, што скрозь іх не праслізгваюць ні колеры, ні нашыя вобразы — праз іх усё недасяжнае скажаецца да ўзроўню нерэальнага. Вось як надзенеш бабуліны акуляры, адразу ж зразумееш, што гэта такое.

— Во! А сапраўды, няўжо і зараз яны нас не чуюць?

— Ну, хто-небудзь, можа, і чуе...

— Цікава!

«Уф, няўжо ён сказаў *цікава*?» — з палёгкаю падумаў сонечны бог і працягваў:

— Але ўяві, што ты цяпер станеш іх гаспадаром! Кожны дзень над сабою яны будуць бачыць толькі тваё ззянне, кожную ноч будуць любавацца толькі тваім срэбным святлом, баяцца цябе, маліцца табе... Ты станеш для іх усім, разумееш? Ты ператворышся ў іх сэнс існавання, таму што з гэтага часу лёс іх крохкага свету ў тваіх руках, мой хлопчык! Толькі адна мая табе парада: ніколі не пераварочвай гадзінніка. Калі хочаш, каб ён у цябе быў, павер, не трэба, не рабі гэтага... Што ж, ты ўжо даволі падрос, каб пачаць вучыцца ўладарыць.

— Ух ты-ы! У мяне ўласны маленькі свет!!! Дзядулечка, ты лепшы! — радасна празвінеў, ззяючы шчасцем малы і светлячком мільгануўшы скрозь дзверы, ледзь кранаючыся падлогі сваімі даўжэзнымі срэбнымі валасамі, панёсся з падарункам некуды наверх.

— Няўжо ўгадзіў? Ну, ты скажы... І чаго толькі не зробіш для гэтых маленькіх! — з палёгкаю падумаў стары. Яшчэ раз пералічыў усе шклянкі і слоікі, што туліліся на паліцы, абцёр ад інею ўжо даўно паміраючую лямпачку пад столлю і хутчэй паспяшаў пакінуць гэты сыры пограб, дзе ад яго прысутнасці па сценах ужо цуркаталі ручайкі, а ледзяшы, абняўшыся, слёзна развітваліся з жыццём.

У доме тым часам панавала глыбокая ноч. Тут, на краі раю, ночы заўсёды былі нейкімі асабліва цёмнымі і безжыццёвымі. Госці з нябёсаў даўно ўжо разляцеліся да сябе, велізарныя каменныя залы стаялі пустымі. Высокія, ледзь не да самай столі вокны занавесіліся тканымі з павуціння палотнамі, каб нават зорнае святло суседскіх акенцаў не падала з неба ў ціхі, утульны змрок спячага дома. Зусім толькі не спалася сёння маленькаму ўладару людзей. Ён сядзеў за сваім пісьмовым столікам, падпёршы ручкамі галаву, і проста глядзеў на свой пясочны гадзіннік, ахінаючы і яго, і столік перад сабою мяккім серабрыстым ззяннем свайго твару. І пад поглядам ягоным цьмяна пераліваліся ў адказ пясчынкі, усё гэтак жа нязменна працягваючы слізгаць пад шклом ніжэй і ніжэй, усё гэтак жа адказна працягваючы адлічваць час. «Яны гэта робяць для мяне, таму што я іх Бог!» — думаў хлопчык. І гэты час усё ішоў і ішоў, а ён усё сядзеў і глядзеў на гэтую сваю новую цацку, і нейкія таемныя думкі ўсё не давалі яму спакою... Вось адарвалася адна пясчынка і, нібыта сняжынка, блёклая і сумная, павольна апусцілася на попельную гурбу гэтакіх жа сняжынак на дне гадзінніка. Пясчынкі зверху... Попел знізу... А паміж імі — блакітнае мёртвае шкло... О, вось яшчэ адна: закружылася і, адляцеўшы крыху ўбок, апусцілася на тое ж самае дно. Пасля яшчэ... І яшчэ... Каляровым пясчынкам было так цесна, так душна ў гэтых скрыжальных невыносных сценах. Некаторыя пакорліва заставаліся на сваіх месцах без спробы нешта змяніць, іншыя ж пачыналі шукаць выйсця, запаветных дзвярэй са сваёй шкляной клеткі. Вось толькі чым болей яны мітусіліся ў пошуках неіснуючага, тым усё ніжэй саслізгвалі ў сваім пясчаным свеце — ніжэй, усё ніжэй... Куды яшчэ мог прывесці іх гэты пошук, як не на самы ніз сыпучага царства? Але менавіта тут, пад нагамі астатніх, яны знаходзілі раптам той доўгачаканы праём у ненавіснай сцяне, адзінае акно сваёй сумнай абрыдлай турмы.

І, узрадаваныя і заспакоеныя, без развагі кідаліся ў яго, і ляцелі, і адчувалі свабоду, і згаралі, нібыта падаючыя зоркі... Толькі няўжо перад спакусаю палёту так лёгка забыцца, што жыццё тваё — гэта гадзіннік?.. Яны проста правальваліся ў яго ніжнюю частку, на самае дно, уздоўж якога, як гэта ні дзіўна, уздымаліся ўсё тыя ж нязносныя сцены... Усё тыя ж сцены... Цвёрдыя, гладкія... Па іх так лёгка саслізнуць, але так цяжка ўзабрацца... Асабліва попелу з яго абгарэлымі пальцамі, з яго расплаўленым розумам... Але гэта было дно. Тут забываліся, што такое колеры. Тут немагчыма знайсці было хаця б два непадобныя між сабою твары, і таму ніхто не глядзеўся ў люстэркі. Тут ніколі ніхто не ведаў, што такое выбар, як не ведаў і шляху да яго — туды, назад, на падаконнік таго высокага-высокага акна, з якога ўсё працягвалі высыпацца асеплыя ва ўласным полымі пясчынкі... Ім таксама ў свой час на імгненні пашчасціла забыцца, што жыццё іх — гэта гадзіннік, які нельга пераварочваць... І яны ўсё падалі... Яны падалі... Толькі ці знойдзецца такі, хто спачуваў бы іх шчасцю?

Хлопчык раптам устаў, абхапіў гадзіннік сваімі срэбнымі пальчыкамі, уважліва паглядзеў на яго яшчэ раз і, размахнуўшыся, з усяе сілы, якую толькі маглі дазволіць слабыя кароткія ручкі, ударыў ім аб падлогу. З аглушальным звонам з гадзінніка скалоўся тоўсты кавалак шкла і адляцеў некуды ў кут. Блакітнае цела пясчанага сасуда разадралі безнадзейныя халодныя трэшчыны. І тады хлопчык наступіў на яго нагой, і гадзіннік, крышачыся, разламаўся напалам...

— Энке, ты што нарабіў? — раптам пачулася ў яго за спінаю. Малы так заўзята дабіваў ножкай крэсла свой учарашні падарунак, што і не заўважыў, як у дзвярах ужо сабраліся ўсе жыхары дома, абуджаныя несупынным звонам і грукатам у яго пакоі. І тут, распіхваючы сінякрылых і чырвонавалосых дзядзькоў і цётак, а таксама нічога не разумеючых сонных бацькоў, у пакойчык валіўся сонцабароды гаспадар. У толькі-толькі накінутым чугунным халаце, не паспеўшым яшчэ раскурыцца, сурова варочаючы ў попельных вачніцах сваімі халоднымі чорнымі яблыкамі, ён, нічога не запытаўшы, усім сваім выглядам чакаў адказу.

— А-а, дзядуля! — кінуўся да яго хлопчык. — Я зразумеў! У гэтых сценах без волі і цяпла яны не маюць шчасця! Залаты матылёк ніколі не прыляціць да іх, ты разумееш? Іх блакітныя сцены не пусцяць яго. І вось тады пясчынкі, у якіх памірае надзея, пачынаюць ператварацца ў попел: таму што так лягчэй, таму што попел не гарыць, як і не тлее, і не плавіцца... Так лягчэй, калі шчасце недасяжнае... Але ўсё! Гадзінніка больш няма! Яго няма!!! — узрадавана закрычаў маленькі. — І цяпер... цяпер яны ўсе шчаслівыя... Людзі шчаслівыя! Я зрабіў іх свабоднымі ад іх сцен, і яны ўсе зноў зараз ператворацца ў каляровыя пясчынкі і палюбяць мяне за гэта яшчэ болей, як ніколі мяне ніхто не любіў!

Зразумеўшы, што нічога жудаснага не адбылося, сонна перастаўляючы нагамі, прабуджанае сямейства пачало расцягвацца па сваіх пакоях. За імі падаўся і стары. Але перад тым, як прычыніць за сабою дзверы, стомленым голасам прашыпеў:

— Ведаеш, мой сябелюбівы хлопчык, нават мне ад такога б шчасця стала сумна, калі б я стаў, як і яны ўсе зараз, такім жа адзінокім...

У пакоі зноў апусцела. Усё гэтак жа ў куце цямнела гара падарункаў, усё гэтак жа паблісквалі на падлозе кавалкі разбітага гадзінніка. Недзе па завуголлях і між халодных камянёў падлогі ў брудзе і пыле ляжалі і плакалі адзінокія свабодныя людзі.

***2007***





**Яўген ГУЧОК**

# «І НАД НАМІ ЗІХЦІЦЬ ВЯСЁЛКА...»

* * *

Паэт тады да нас прыходзіць,
Калі ў душы у нас
Жыве паэт уласны.

* * *

Бы сонца ў небе,
А ў яйку жаўток,
У вершы метафара месціцца.

* * *

Талент сонца і талент вады...
І над намі зіхціць
Вясёлка.

* * *

Каб не скрывіць уласнае жыццё,
Не трэба выпрамляць
Здаровую прыроду.

* * *

Ад найвялікшай таямніцы
Плыве у небе залаты замок...
А нам і вокам да яго не дакрануцца.

* * *

Усё пад зямлёю жыве ўсляпую,
І тым не менш —
Па законах сонца.

* * *

У зорнае неба гляджу
І адчуваю: штосьці
Павінна адбыцца з маёю душой.

* * *

На кожным лісціку травы,
Нібы на клавішах,
Ляжаць паветра пальцы.

* * *

Ярчэй любых агнёў
Гарыць вада
На сонцы.

* * *

Дарогі, дарогі, дарогі —
Пэндзаль Творцы Сусвету
Пакінуў сляды на зямлі.

---

***Гучок Яўген Сяргеевіч*** *нарадзіўся 4 мая 1941 года ў Слуцку. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1968) і аспірантуру пры ім. Працаваў у школе, выдавецтве «Народная асвета».*

*Аўтар паэтычных кніг «Блакітныя чмялі», «Сэрцам і думкай», «Формула травы», «На патрэбу душы» і інш.*

* * *

Да Сонца ляціць — не згарае,
На Зямлю ападзе — не разаб'ецца...
Такі вось ён, гэты вецер.

* * *

У садзе, полі, лесе — ўсюль
Так многа восень золата
Намыла.

* * *

Нібы апоўзень той,
Ноч наплывае на зямлю мільярды год,
Але ж і сонца не спазняецца ніколі.

* * *

О почырк маланкі!
Вось так бы бліскуча
Вершы паэтам пісаць.

* * *

Раса —
Салаўіная песня,
На пацеркі разабраная.

* * *

Зрабіла травінка глыбокі ўздых —
І кропля расы
Нарадзілася.

* * *

Якая прыгажосць!
Дождж з ручаінай
Ў бурбалкі гуляе.

* * *

І ў кропляў дажджавых свая няроўнасць:
Каму на кветкі падаць,
А каму — і на асфальт.

* * *

Не знішчаюць траву камяні,
Яны самі трапляюць
У палон да яе.

* * *

Зламаная бяроза —
Зямлі зламанае
Крыло.

* * *

На выпас, на лекі і на каханне —
На ўсё і ўсім
Хапае травы.

* * *

Чырванее зіма дзяннiцай,
Снегірамі,
Дзявочымі шчочкамі.

* * *

У моры зялёным
Ветразь вясёлы —
Бяроза у полі стаіць.

* * *

На студзеньскіх шыбах
Жыве не мароз,
А кветак вясновых душы.

* * *

Шчэ болей прыгажэе птушка,
Як толькі ўздымецца
У неба.

# ДА КАЛЫСКІ КОЛАСА

На Стаўбцоўшчыне, радзіме Якуба Коласа, якую народны паэт Беларусі бязмежна любіў і з вялікім замілаваннем апеў у сваіх творах, 15 верасня адбылося Рэспубліканскае свята паэзіі, прысвечанае 125-годдзю класіка нацыянальнай літаратуры. У ім прынялі ўдзел Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, Стаўбцоўскі раённы выканаўчы камітэт, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Цітовіча, Нацыянальны акадэмічны аркестр Рэспублікі Беларусь імя Жыновіча, эстрадныя беларускія выканаўцы, артысты нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, Мінскага абласнога драматычнага тэатра, аматарскіх тэатраў. Гасцей урачыста віталі народныя ансамблі «Кругліца», «Святлана», «Славяначка», «Жавароначкі» Стаўбцоўскай дзіцячай школы мастацтваў.

Вельмі сур'ёзна падрыхтаваліся да правядзення свята ў раёне. Шмат зроблена па добраўпарадкаванні коласаўскага заказніка. Мясцінамі, дзе нарадзіўся і жыў Якуб Колас, вельмі ганарацца землякі, а для калектыву мясцовага вопытнага лясгаса яны дарагія яшчэ і тым, што некалі бацька паэта, Міхаіл Казіміравіч Міцкевіч, таксама служыў лесніком. З году ў год аглядаў ён гэтыя поўныя хараства лясныя масівы, зарабляў на хлеб сям'і і знаходзіў душэўнае збавенне ад нягод.

Коласаў шлях для лесаводаў — прадмет асаблівай увагі. За ім пастаянна замацаваны Міхаіл Козел. Вопытны ляснік блізкі да Коласавай радні і таму адчувае асаблівую адказнасць за гэты ўчастак, пастаянна рупіцца, каб ён быў належным чынам дагледжаны.



*Хлеб-соль удзельнікам свята.*

Рыхтуючыся да сустрэчы 125-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа, у добраўпарадкаванні прымалі ўдзел літаральна ўсе лясніцтвы. Лесаводы акультурылі экскурсійныя дарогі ў Ласток і Альбуць, расшырылі лясны праезд ва ўрочышча Бервянец, вядомае ў народзе як Дубы. Менавіта тут звычайна ладзіцца асноўная праграма рэспубліканскага свята паэзіі. Шматлікім удзельнікам яго, гасцям з усёй Беларусі і мясцоваму люду, цяпер ужо можна лёгка размінуцца і раз'ехацца на сваіх аўто. Пасвятлеў і лес, што пяшчотна атуляе дарогу Акінчыцы—Мікалаеўшчына. Ён ачышчаны ад сухастойных дрэў, прыбраліся ўзбочыны. Брус, які выдзеліў лягсас, выкарыстаны для абнаўлення Альбуцкай крынічкі — своеасаблівага музейнага аб'екта, што заўжды прыцягвае да сябе мноства турыстаў. З матэрыялу, выробленага лесаводамі, у Альбуці ўзняўся і новы стылізаваны пад старажытнасць паркан. Для зручнасці і экзатычнасці коласаўскія мясціны аздоблены прыгожымі альтанкамі, лавачкамі.

Асабліва непаўторную аўру тутэйшаму ландшафту надалі драўляныя скульптуры. Звыш 40 іх размешчаны ўздоўж дарог, якія звязваюць мемарыяльныя сядзібы і ў якіх з лёгкасцю пазнаюцца героі коласаўскіх твораў: Міхал, дзядзька Антось і іншыя. Між тым гэта адзіны ў рэспубліцы мастацка-мемарыяльны комплекс, створаны самадзейнымі мастакамі-разьбярамі з розных куткоў Беларусі.

Незабыўныя, хвалюючыя ўражанні атрымаў кожны з удзельнікаў Рэспубліканскага свята паэзіі, прысвечанага 125-годдзю Якуба Коласа, да радзіме вялікага песняра. Пачынаецца ён з Акінчыц. Зараз былы хутар уключаны ў тэрыторыю Стаўбцоў. Сядзіба адноўлена ў такім выглядзе, які яна мела, калі тут 3 лістапада 1892 года ў сям'і Міцкевічаў нарадзіўся трэці сын Кастусь — будучы народны паэт Беларусі Якуб Колас.

Пры шляху шырокім,
Дзе стаіць камора,
Я на свет радзіўся
Пад глухі шум бору...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ў розныя старонкі
Каля той каморы
Распаўзліся сцежак
Шэрыя узоры...

*(«На раздарожжы»)*

Альбуць — свет дзяцінства і юнацтва паэта, яго творчая калыска. Тут будучы паэт навучыўся чытаць, адсюль хадзіў у Мікалаеўшчынскае народнае вучылішча, адсюль паехаў вучыцца ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Альбуцкія ўражанні мы знаходзім найперш у паэме «Новая зямля», дзе гэта ўрочышча апета пад назваю Парэчча. У сваёй аўтабіяграфіі Якуб Колас адзначае: «Лоўля рыбы, збіранне ягад і грыбоў, работы каля дому, на полі і на лузе — усё гэта надавала багаты змест жыццю ў Альбуці».

І сёння, мінуўшы мост праз крынічку, ступіўшы на запаветную зямлю, залюбуешся непаўторнай прыгажосцю, апетай у «Новай зямлі» і многіх вершах.

Вось як цяпер, перада мною
Устае куточак той прыгожа,
Крынічкі вузенькае ложа
І елка ў пары з хваіною,
Абняўшысь цесна над вадою,
Як маладыя ў час кахання,
Ў апошні вечар расставання.

*(«Новая зямля»)*

На водшыбе Мікалаеўшчыны размешчана Смольня. З гэтай мясцінай, дзе жыла сям'я Міцкевічаў з 1910 года, звязаны многія важныя падзеі ў жыцці народнага песняра. Тут працягваў ён працу над «Новай зямлёй», пачатую яшчэ ў

мінскім астрозе, тут стала ажыццяўляцца задума «Сымона-музыкі». Тут 95 гадоў таму, у жніўні 1912 года, адбылася першая сустрэча Якуба Коласа з Янкам Купалам. Сюды прыязджаў Канстанцін Міхайлавіч і ў апошнюю вясну 1956 года...

О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у свеце божым
Гэтых светлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары-лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць...

*(«Сымон-музыка»)*

У Смольні гасцей сустрэлі мемарыяльная сядзіба і музейны будынак, дзе размешчана багатая літаратурна-дакументальная экспазіцыя, прысвечаная жыццю і творчасці Якуба Коласа. Нядаўна адзначана 40-годдзе з дня заснавання філіяла музея Якуба Коласа. Старшым навуковым супрацоўнікам у ім з'яўляецца пісьменнік Алесь Камароўскі. Чалавек ён надзвычай дасведчаны, зямляк народнага песняра, лічыць сваім святым абавязкам ведаць пра яго як мага больш. Камароўскі вельмі цікава і захапляюча на фоне экспанатаў расказваў гасцям пра малавядомыя старонкі, звязаныя з жыццём Коласа.

У Мікалаеўшчыне будучы паэт адчуў веліч і прыгажосць роднай зямлі, пераймаў народную мудрасць ад простых і працавітых людзей. У Мікалаеўшчынскай пачатковай школе Кастусь вучыўся, а ў 1906 годзе быў сярод арганізатараў нелегальнага настаўніцкага з'езда.

І ў сталыя гады любоў песняра да мясцін свайго маленства, мілага яго сэрцу кутка не згасне. Паэт пастаянна клапаціўся пра землякоў, родную вёску. Дзякуючы яго намаганням у пасляваенны час быў узведзены будынак сярэдняй школы, якая носіць імя Якуба Коласа і доўгі час лічылася лепшай у вобласці.



*Выступае паэт Уладзімір Скарынкін.*



*Цуды-вырабы коласаўскага краю.*

Удзельнікі свята ўсклалі жывыя кветкі да бюста песняра ў цэнтры Мікалаеўшчыны.

На музейных сядзібах народнага паэта Беларусі выступілі дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і Мастацтва» Алесь Карлюкевіч, дырэктар інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Валерый Максімовіч, дырэктар Літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская, прачыталі вершы, спецыяльна напісаныя да святочнага дня, паэты Яўген Хвалей, Мікалай Астахаў (Санкт-Пецярбург), сакратар Мінскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт Георгій Сакалоўскі.

Сапраўдную ўрачыстасць стваралі ў радзімых кутках Якуба Коласа мастацкія кампазіцыі ў выкананні дзіцячых фальклорных калектываў раёна, ураджвалі ганчарныя вырабы народных умельцаў, карціны самадзейных мастакоў, якія выстаўляліся пад адкрытым небам. У Альбуці шчыра і сардэчна запрашалі гаспадыня і дзяўчынкі-гаспадынькі да шыкоўнага святочнага стала, частавалі мёдам, квасам, яблыкамі, пірагамі і шмат чым яшчэ. Кожны, хто да гэтага стала прыспадобіўся, неахвотна яго пакідаў — да таго было ўсё смачным на зямлі Стаўбцоўскай.

Святу, на жаль, не спрыяла надвор'е. Спорны дождж не даў сабрацца, як планавалі і рыхтаваліся, на адкрытай пляцоўцы ў Бервянцы, дзе павінен быў адбыцца вялікі канцэрт. Яго давялося ў спешным парадку «пераадрасаваць» у Новасвержанскі Палац культуры. Шкада, што палац не змог умясціць усіх жадаючых яго глядзець і слухаць, бо прайшоў ён, аднак жа, не зважаючы, што не на прыродзе, на сапраўдным святочным уздыме. Песні, танцы, музычныя весялухі, кампазіцыйныя суправаджэнні на вершы Якуба Коласа ў выкананні як прафесійных, так і самадзейных артыстаў захапілі гледачоў. Вялікую цікавасць выклікалі і выступленні аўтарытэтных удзельнікаў свята.

***Старшыня Стаўбцоўскага раённага выканаўчага камітэта Уладзімір МІСЬКО:***

— Паважаныя жыхары і госці раёна, удзельнікі свята паэзіі!

Стаўбцоўшчына — маляўнічы куток Наднямоння, з якім звязаны лёс многіх выдатных асоб беларускай зямлі. Але бессмяротнасць нашаму краю прынесла

імя Якуба Коласа, які разам з магутнай плеядай беларускіх пісьменнікаў заклаў трывалы падмурак беларускай класічнай літаратуры, тую духоўную аснову, на якой і сёння трымаецца наша беларуская культура. Ён належыць да ліку паэтаў і асветнікаў, якія пакінулі значны след у духоўным жыцці Беларусі.

У айчынную гісторыю пясняр увайшоў перш за ўсё як паэт-грамадзянін, роданачальнік сучаснай беларускай літаратуры, якая дзякуючы яго творчасці набыла сусветную славу і прызнанне. Уся літаратурная дзейнасць Коласа спрыяла таму, што беларусы сцвердзілі сябе як нацыю, стварылі аснову для пабудовы самастойнай незалежнай дзяржавы.

Усё сваё жыццё ён прысвяціў беларускай зямлі, росквіту беларускага грамадства, захаванню, развіццю і ўдасканаленню роднай мовы. Яго светлыя прарочыя думкі, паэтычныя радкі, яго яркія вобразы па-ранейшаму здольныя запаліць сэрцы нашчадкаў гарачай любоўю да роднай Беларусі.

«Благаслаўлёна будзь, зямля!..» Вось ужо колькі дзесяцігоддзяў гэтыя крылатыя радкі хвалююць душы беларусаў.

Але асаблівую моц яны набываюць тут, у родных мясцінах паэта, 125 гадоў з дня нараджэння якога мы сёлета адзначаем.

Акінчыцы, Ласток, Альбуць, Смольня, Мікалаеўшчына — гэта родныя мясціны Якуба Коласа, калыханка яго натхнення. Адкуль толькі ні прыязджаюць сюды людзі рознага ўзросту, розных прафесій! Але нязменнай застаецца іх любоў і пашана да памяці песняра, да гэтых запаветных краявідаў. Сюды прыходзяць, каб сэрцам адчуць прастату і веліч незабыўнага песняра.

Прыгожая, таленавітая моладзь штогод прыязджае на слаўную Коласаву зямлю, каб прыняць удзел у традыцыйным фестывалі юных музыкантаў «Сымон-музыка», пленэры юных мастакоў, літаратурным свяце «Каласавіны».

Якуб Колас адзначаў, што толькі той, хто сапраўды пачуе голас зямлі, голас народа, прасякнецца яго паэзіяй, зможа адчуць сябе часцінкай свайго краю. У гэтых словах яскрава адлюстроўваецца ўся мудрасць, дабрыня песняра, яго глыбокае разуменне чалавечай душы, яго тонкае адчуванне прыгажосці жыцця, прыроды, любоў да людзей, яго непарыўнае зліццё з народнымі вытокамі, з мілай Стаўбцоўшчынай.

Усе музейныя аб'екты коласаўскага шляху з'яўляюцца сведкамі гісторыі нашага раёна, важнейшым элементам нашай рэгіянальнай культуры. Пра тое, што экскурсанты пакідаюць гэтыя мясціны з незабыўнымі ўражаннямі, сведчыць мноства запісаў у кнігах наведвальнікаў.

Хочацца спадзявацца, што колькасць наведвальнікаў сюды будзе расці, што наша коласаўская зямля дасць новыя ўсходы, новых паэтаў і пісьменнікаў, якія ўздымуць нашу нацыянальную літаратуру яшчэ вышэй.

Беларускі пясняр на працягу ўсяго свайго творчага шляху жыў і тварыў з верай у заўтрашні дзень, у шчаслівую долю беларускага народа. Думаецца, што сённяшняя суверэнная Беларусь з дастаткова высокім узроўнем эканамічнага і культурнага развіцця з'яўляецца ўвасабленнем яго мар. Святая коласаўская зямля сёння збірае людзей, якія па-сапраўднаму разумеюць прыгожае, клапоцяцца аб росквіце беларускай нацыянальнай культуры. Няхай словы нашага песняра сеюць у душы кожнага спагаду і дабрыню, любоў і пашану да свайго народа, да нашай беларускай зямлі.

***Намеснік Міністра культуры Рэспублікі Беларусь Валерый ГЕДРОЙЦ:***

— Шаноўныя землякі славутага песняра беларускага народа! Творчасць Якуба Коласа — выдатная старонка ў гісторыі беларускай літаратуры. Паэт, як ніхто іншы, здолеў пранікнуць у таямніцы народнай душы і перадаць прыгажосць роднага краю. Крыніцай творчасці Якуба Коласа сталі глыбінныя праявы менталітэту беларусаў. Наша спрадвечная, багатая нацыянальная культура, адкуль ён чэрпаў натхненне, крупінкі мудрасці і жыццёвай сілы, магутны прыродны талент, незвычайная працавітасць і неадольная прага літаратурнага самаўдасканалення зрабілі Коласа волатам мастацкага слова, вывелі ў першыя рады дзеячаў айчыннай культуры. Кола-

са па праве лічаць заснавальнікам беларускай прозы, аднак яго паэтычныя творы належаць да лепшых узораў беларускай паэзіі. Так, эпічная паэма «Новая зямля» стала філасофскім асэнсаваннем цэлай эпохі ў жыцці беларускага народа, пазначанай пакутлівым пошукам шляху нацыянальнага самаўсведамлення. Колас выразна вызначае асноўную ідэю свайго твора як ідэю агульнанацыянальную: быць гаспадаром можна толькі на ўласнай зямлі. Драматычны, а часам і трагічны лёс таленту стаў тэмай велічнай і сімвалічнай паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка». Па вялікім рахунку, гэта твор аб духоўным адраджэнні нацыі, аб асаблівасці нацыянальнага шляху Беларусі, якая воляй лёсу апынулася на перакрыжаванні розных культур, рэлігійных канфесій. Якуб Колас быў не толькі мастаком слова. Актыўную творчую працу паэт спалучаў з асветніцкай і плённай навуковай дзейнасцю. З моманту заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі ў 1902 годзе і да апошніх дзён свайго жыцця Колас пачэсна нёс высокае званне настаўніка. І сёння Беларусь шануе свайго таленавітага сына не толькі за тое, што ён стаў яе духоўным прарзорцам, але і за ўклад паэта, грамадзяніна ў развіццё і станаўленне нацыянальнай педагогікі. Яго «Другое чытанне для дзяцей» — адзін з першых паўнавартасных падручнікаў па роднай літаратуры для маленькіх дзяцей. Каштоўнасць гэтага выдання велізарная, бо на мяжы XIX і XX стагоддзяў кнігі падобнага кшталту былі адзінай крыніцай пазнання роднага краю.

На працягу 35 гадоў Колас стаяў ля вытокаў беларускай навукі. У тым ліку на працягу 28 гадоў быў нязменным віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі. Яго галоўная думка аб развіцці навукі ў Беларусі надзвычай актуальная і сёння. Навука не павінна адрывацца ад жыцця, ад галоўных патрэб рэспублікі.

Колас застаўся ў гісторыі Беларусі і як мудры, спрактыкаваны палітык, гуманіст высокага кшталту, чыя дзейнасць мела водгук на міжнароднай арэне. У пераліку грамадскіх пасад паэта — дэпутат Вярхоўнага Савета СССР і дэпутат Вярхоўнага Савета БССР некалькіх скліканняў, прадстаўнік рэспубліканскага Камітэта прыхільнікаў міру і Усеславянскага Камітэта абароны міру, член праўлення Саюза пісьменнікаў СССР і БССР.

Народны паэт Беларусі, заслужаны дзеяч навукі БССР, двойчы лаўрэат Дзяржаўных прэмій — так за шматгадовую творчую і навуковую дзейнасць краіна ўганаравала Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча, любімага народам Коласа. Выдадзена 242 найменні кніг агульным накладам больш як 6 мільёнаў асобнікаў. Вершы, паэмы, празаічныя творы Якуба Коласа перакладзены на 41 мову свету. Яны данеслі каларыт беларускай народнай культуры, архетыпы нацыянальных вобразаў да многіх жыхароў зямлі — немцаў і іспанцаў, італьянцаў і сербаў, чэхаў і жыхароў Усходу. Колас гучаў на мовах усіх народаў СССР. Імем Коласа названы Паліграфкамбінат, Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр у Віцебску, Інстытут мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук, бібліятэкі, калгасы, сярэднія школы, цеплаход, плошча і вуліцы ў 63 населеных пунктах нашай краіны. Вось і ў гэтым годзе ў адным з гарадоў Польшчы да юбілею паэта з'явілася новая вуліца яго імя.

Творчасць Якуба Коласа не траціць сваёй надзённасці і ў XXI стагоддзі. Аб гэтым яскрава сведчаць святкаванні да 125-годдзя з дня нараджэння народнага песняра Беларусі. Інстытут літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі рыхтуе 20-томнае выданне Поўнага збору твораў паэта. Выйшлі з друку ўжо 2 тамы. У першым, напрыклад, сабраны вершы 1898—1910 гадоў на 622 старонках. Творчая эліта зноў і зноў звяртаецца да багатай спадчыны песняра, як да крыніцы высокага мастацтва, духоўнага багацця і спасціжэння нацыянальнага характару. Таму на сцэнах тэатраў пастаўлены новыя спектаклі па творах Коласа, напісаны новыя песні на яго вершы, створаны музейныя экспазіцыі, праведзены навуковыя даследаванні, а самае галоўнае — беларускія чытачы, ад маленькіх да сталых грамадзян, з захапленнем перагортваюць старонкі бессмяротных твораў Коласа, знаходзячы ў іх адказы на спрадвечныя пытанні, што хвалююць чалавека, сапраўдную асалоду ад сустрэч з выдатнымі ўзорамі айчыннай літаратуры. Я ўпэўнены, што мы і надалей будзем беражліва захоўваць творчую спадчыну Якуба Коласа як непаўторную з'яву беларускай культуры, унікальны сімвал нашай беларускай нацыі.

***Паўнамоцны Пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Ігар ЛІХАВЫ:***

— Паважаныя сябры, я маю гонар звярнуцца да вас з віншаваннем з нагоды свята Якуба Коласа — вялікага песняра беларускага і славянскага. Ідучы на свята, я захапіў з сабой падарункі, як павінна быць паміж сябрамі блізкімі па крыві і духу. Мне прыемна паведаміць, што і на Украіне адзначаюць свята Якуба Коласа. У Кіеве тыражом 5 тысяч асобнікаў выйшаў пераклад з беларускай мовы на ўкраінскую паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Зрабіў яго вядомы беларускі і ўкраінскі паэт Валерый Стралко з дакладным увасабленнем моўнай прыгажосці, з усведамленнем генія Якуба Коласа.

Я вітаю вас, дарагія сябры, з тым, што ў вас ёсць Якуб Колас. З такімі песнярамі можна смела ісці ў свет і не быць там беднымі родзічамі.

Хачу падараваць вам «Новую зямлю» на ўкраінскай мове, глыбіня якой несумненная. І яшчэ я прынёс сюды творы Шаўчэнкі, які такі ж бацька для нас, як для вас Колас. Існуе закон справядлівасці. Калі на Украіне шырока адзначалася 125-годдзе Тараса Шаўчэнкі, то тады прысутнічала на гэтым свяце і дэлегацыя беларускіх пісьменікаў. У складзе яе былі Янка Купала і Якуб Колас. Пасля яны спрыялі выданню твораў Тараса Шаўчэнкі тыражамі ў 20—30 тысяч экземпляраў. Жадаю беларусам зберагчы сваю незалежную дзяржаву, адбудаваць яе. Гэты цудоўны край, які я бачыў сёння, мае тысячы і тысячы турыстаў. І іх колькасць, я ўпэўнены, штогод будзе расці. Шчыра дзякую. Квітней, Беларусь!

Свае вершы, прысвечаныя песняру, прачыталі паэты Навум Гальпяровіч, Мікола Маляўка, Віктар Шніп.

Вялікая заслуга, што свята ўдалося, мясцовых улад, работнікаў мемарыяльных сядзіб, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, многіх удзельнікаў святкавання. Кожны, хто далучыўся да яго, надоўга запомніць гэты дзень, захавае ў памяці хараство, веліч і святасць коласаўскіх мясцін і яшчэ больш усвядоміць значнасць і патрэбу яго творчасці ў сваім жыцці.

* * *

Рэдакцыя часопіса «Полымя» звярнулася да навукоўцаў з просьбай расказаць пра даследаванне спадчыны Якуба Коласа на сучасным этапе.

***Доктар філалагічных навук, в. а. дырэктара Інстытута літаратуры НАН Беларусі, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Валеры МАКСІМОВІЧ:***

— Сёння мне хацелася б паразважаць пра творчасць класікаў, у прыватнасці Якуба Коласа, у нязвыклым ракурсе. Навуковаму аналізу твораў Коласа я прысвяціў некалькі прац, асобныя з іх друкаваліся на старонках «Полымя». І ўсё ж кожны навуковец успрымае літаратурны твор не толькі як прафесіянал, але і як чалавек. Лепшыя творы айчыннай літаратуры фарміруюць светапогляд кожнага чытача, а многім дапамагаюць развіць уласныя здольнасці, раскрыць, як кажуць, унутраны патэнцыял.

Класічная паэзія нарадзіла ўва мне жаданне спяваць. З часам песня стала арганічнай часцінкай майго жыцця. Больш таго, мне падаецца, што і сам я — часцінка песні, часцінка нейкага нябачнага мне сусветнага аркестра, сусветнай музыкі, якія ўва мне і са мною заўсёды і паўсюдна.

Яшчэ з дзяцінства засталося незабыўнае ўражанне ад выканання народных песень, якія даводзілася чуць ад вясковых кабет. Гэта моцна хвалявала маю дзіцячую душу, абуджала тады яшчэ не ўсвядомленае, на ўзроўні пачуцця, эмоцыі, замілаванне да роднага слова, роднай песні. Думаю, што менавіта само гучанне, сам спеў, сама мелодыя — у любых праявах і ракурсах — падштурхнулі мяне да ўласнага — не верша-, а хутчэй песнепісання.

За доўгі час песень сабралася шмат. Адну з іх — «Спявай, душа мая, спявай!» — запісалі «Песняры». Да 125-годдзя Купалы і Коласа таксама напісаў песню. У мяне ёсць і мелодыя для яе, якую я спяваю, спяваюць мае сябры і знаёмыя. Маю вялікае спадзяванне на тое, што тэкстам зацікавіцца прафесійны кампазітар.

**ПЕСНЯРАМ**

Купала і Колас — пяснярскага слова прадвесне.
Купала і Колас — няскутая думка і песня,
Што ўвысь узлятае, кружляе над родным прасторам,
Імкне у нябёсы, да месяца, сонца і зораў.

*Прыпеў:*

Льецца ад сэрца да сэрца
Спеў аксамітны, балесны, —
Жыве і жыцьме у свеце
Купалы і Коласа песня.

Малюся я сэрцам, малюся распетай душою, —
Купалавым словам жыву, і кахаю, і мрою,
А Коласа слова вядзе між разлогаў вячыстых
На бераг высокі, да Нёмана хваляў празрыстых.

*Прыпеў.*

Красуйся, радзіма, жыві, беларускае слова, —
Наш скарб запаветны — Купалы і Коласа мова!
І ў святы, і ў будні — нястомна, высока, раздольна —
Хай песня лунае над небам над краем прывольным!

*Прыпеў.*

Восень — любімая пара Коласа. І не толькі таму, што нарадзіўся Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч у лістападзе. Яго творчасць, шырокі эпічны ахоп жыцця, увага да побытавых дэталяў, багатыя апісанні псіхалагічна асацыіруюцца са спеласцю, з парой збору ўраджаю.

І чытачы, і навукоўцы, і паэты, дакранаючыся да твораў класікаў, часам імкнуцца разгадаць таямніцу нараджэння верша альбо музычнага твора. Бо ў рэшце рэшт менавіта ў ёй заключана сама загадка геніяльнасці. Як узнікае задума, як яна афармляецца? Узнікае твор адразу альбо аўтар доўга выношвае задуму, нарошчвае вобразы на нейкі цэнтральны стрыжань. А адбываецца гэта па-рознаму. У кожнага творцы свой метад, свая сістэма. Адзін піша толькі ў імгненні натхнення, другі працуе рэгулярна і планамерна.

Колас, як мы ведаем, працаваў планамерна і настойліва, штодня сядаў пісаць. Ён узважваў многа варыянтаў для кожнага радка, кожнага слова, шукаючы найбольш адпаведны, самы дакладны. Між імгненнем творчага азарэння і стварэннем канчатковай версіі твора існуе вельмі доўгая складаная работа. Дарэчы, Якуб Колас, бадай што, самы плённы з беларускіх пісьменнікаў. Ён напісаў надзвычай многа, працаваў у многіх жанрах і ў кожным дасягаў поспеху.

Літаратуразнаўства — навука амаль бязмежная, бо колькі творцаў, столькі і творчых падыходаў, колькі характараў, столькі ж і ідэй, праблем і іх вырашэнняў. І кожны новы пісьменнік, паэт ці празаік, які нараджаецца на нашай зямлі, упісваецца ў агульную літаратурную парадыгму, уваходзіць у яе са сваім лёсам, сваім характарам, сваім поглядам на творчасць. Таму ніколі не састарэюць класікі. Мы ўсе — ад класікаў. Сфарміраваныя іх творчасцю і самі фарміруем новыя погляды на іх творчаць, новыя ракурсы яе вывучэння.

Верагодна, таямніца творчага натхнення, закладзеная ў чалавеку Богам, ніколі не будзе спасцігнута да канца. Але і крыніца гэтага самага натхнення ніколі не знікне. Яна будзе толькі ўзбагачацца, шырэць, набываць новыя адценні і плыні.

***Доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт НАН Беларусі, прафесар Міхась МУШЫНСКІ:***

— Ужо склалася пэўная традыцыя, паводле якой вывучэнне і прапаганда творчасці Якуба Коласа прыкметна актывізуецца ў сувязі з юбілейнымі датамі. Тады і рознага роду грамадскіх мерапрыемстваў праводзіцца больш, і на беларускім радыё і тэлебачанні можна пачуць і ўбачыць выступленні, прысвечаныя паэту. Хацелася б, канешне, каб увага да асобы Коласа была не эпізадычнай, не кароткачасовай і каб даследаванне яго творчасці вялося планамерна, сістэматычна. На жаль, і да гэтага часу ў акадэмічным інстытуце літаратуры адсутнічае такое падраздзяленне, як цэнтр або аддзел па вывучэнні двух волатаў айчыннай літаратуры, нашых нацыянальных класікаў. Там мэтазгодна сканцэнтраваць асноўныя даследчыя сілы купала- і коласазнаўцаў, якія б агульнымі намаганнямі распрацавалі доўгатэрміновую праграму вывучэння і прапаганды творчасці народных паэтаў, вызначылі б стратэгію навуковых пошукаў. Там жа ажыццяўлялася б каардынацыя дзейнасці вучоных не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі, меў бы месца рэгулярны абмен вопытам, вынікамі навуковых дасягненняў. Дарэчы, да гэтага часу не прааналізавана і не ацэнена з навуковых пазіцый коласаніяна блізкага і далёкага замежжа.

На сённяшнім этапе развіцця літаратуразнаўства неабходна пашыраць абсягі вывучэння асобы і творчасці Якуба Коласа, як і Янкі Купалы. Назаву хаця б асобныя аспекты, якія патрабуюць глыбокага даследавання: «Творчасць беларускіх класікаў у кантэксце славянскіх літаратур», «Традыцыі Купалы і Коласа ў сучаснай еўрапейскай літаратуры», «Колас, Купала і сучасная літаратурная і сацыякультурная сітуацыя ў Беларусі», «Колас, Купала і традыцыі еўрапейскага гуманізму».

Надзвычай важнай праблемай з'яўляецца і пераклад твораў Коласа на мовы народаў свету. На жаль, колькасцю яго перакладзеных на іншыя мовы твораў мы пакуль не можам пахваліцца. Пэўным выключэннем могуць быць хіба што пераклады на рускую мову, сабраныя ў 4-томным Зборы твораў, які выйшаў у 1982 годзе. Аднак і там якасць перакладу, узровень перакладчыцкага майстэрства маглі быць лепшымі. Асабліва гэта тычыцца паэм «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Даводзіцца з горыччу адзначаць, што першыя пераклады паэмы «Новая зямля» на польскую і ўкраінскую мовы адбыліся праз восемдзесят гадоў пасля яе выхаду на мове арыгінала (перакладчыкі — адпаведна Ч. Сэнюх і В. Стралко). А паэма «Сымон-музыка» да гэтага часу чакае перакладу хаця б на мовы бліжэйшых суседзяў. Многія вершы і апавяданні Коласа таксама чамусьці засталіся па-за ўвагай перакладчыкаў, нягледзячы на тое, што ў плане мастацкай дасканаласці яны застаюцца неперaўзыдзенымі.

І гэта далёка не ўсе праблемы, якія тычацца коласазнаўства і прапаганды творчасці класіка. Так, даўно чакае з'яўлення на свет энцыклапедычны даведнік па творчасці Коласа. Трэба вітаць ініцыятыву музея, які, хоць і са спазненнем, прысвяціў адну з чарговых канферэнцый абмеркаванню тэмы «Якуб Колас і яго акружэнне». Гэта — удалы пачатак падрыхтоўкі ўзгаданай энцыклапедыі.

Прыхільнікі творчасці Коласа ўжо не адно дзесяцігоддзе чакаюць, каб у рэшце рэшт была створана кніга пра паэта ў серыі «Жыццё славутых людзей». Раман-эсэ А. Лойкі «Як агонь, як вада» — яскравы ўзор і прыклад паспяховага вырашэння гэтай праблемы ў адносінах жыццяпісу Янкі Купалы.

Трэба адзначыць, што коласазнаўства на сённяшні дзень мае значныя напрацоўкі. Амаль кожны беларускі даследчык-філолаг звяртаўся так ці інакш да творчасці Коласа. Сярод набыткаў апошніх гадоў я хацеў бы звярнуць увагу на матэрыялы канферэнцыі, якая праходзіць рэгулярна, штогод 3 лістапада, у дзень народзінаў Якуба Коласа. Матэрыялы канферэнцыі змяшчаюцца ў зборніку «Каласавіны». Каштоўнасць «Каласавін» у тым, што даследчыкі не толькі імкнуцца па-новаму прачытаць творы Коласа, але і ставяць новыя праблемы, падкрэсліваюць шляхі далейшай працы. Прагартаўшы гэтыя зборнікі, звяртаеш увагу на тое, колькі новых пытанняў узнята. Склалася пэўная кагорта навукоўцаў, якія рэгулярна ўдзельнічаюць у «Каласавінах».

Грунтоўна і markup рознабакова разгледжаны, у прыватнасці, такія актуальныя пытанні, як маральна-этычнае напаўненне твораў Коласа, псіхалагізм Коласа, функцыя і роля пейзажу, каларыстыка, пытанні перакладу і кампаратывістыкі. Вялікая цікавасць навукоўцаў сканцэнтравана сёння на вывучэнні акружэння Якуба Коласа. Мы, паўтараю, правялі ўжо дзве канферэнцыі, прысвечаныя гэтай тэматыцы. Сапраўды, тэма цікавая: як Колас уплываў на фарміраванне тагачаснага беларускага грамадства, і як грамадства ўплывала на фарміраванне Коласа. Гэта ўзаемны ўплыў. Мы бяром не толькі літаратурнае акружэнне, але і палітычныя колы, знаёмствы сярод дзяржаўных дзеячаў, выдаўцоў, перакладчыкаў. Паўстае надзвычай цікавы малюнак. Якімі багатымі былі сувязі Якуба Коласа! Яго сустрэчы з маладымі паэтамі, студэнтамі, вучнямі, настаўнікамі, прыхільнікамі яго творчасці дэманструюць, што роля Коласа ў фарміраванні грамадскай свядомасці значна большая, чым мы ўяўлялі.

Другі накірунак працы, які выцякае з папярэдняга, — практычны. Я казаў, што нам патрэбна грунтоўная энцыклапедыя па творчасці Коласа. Гэтая праца немагчымая без удзелу работнікаў архіва, бібліятэк. Яны вельмі дапамагаюць у пошуку новых матэрыялаў, якія тычацца жыцця, творчасці Коласа. Цікавай крыніцай могуць быць самыя розныя матэрыялы. Напрыклад, дарчыя надпісы на кнігах. Яны, дарэчы, вельмі дакладна выяўляюць адносіны пісьменніка да таго чалавека, каму ён падпісвае кнігу. Гэта новая, мала вывучаная грань коласазнаўства. Даследчыца Клаўдзія Казыра сур'ёзна займаецца дадзенай тэматыкай.

На жаль, творчасць Якуба Коласа пакуль што займае недастатковае месца ў школьных праграмах. Трэба памятаць, што літаратура — прадмет інтэгральны, ён убірае ў сябе шэраг дысцыплін: эстэтыку, філасофію, чалавеказнаўства, прыродазнаўства, псіхалогію, ідэалогію і шмат іншых. Беларускай мове і літаратуры трэба аддаваць належнае, у тым ліку і ролі іх у працэсе навучання, фарміравання падрастаючых пакаленняў.

Не толькі творы Коласа, іх змест і праблематыка, але і сама асоба творцы ўплывае на сённяшняе грамадскае жыццё, на працэс выхавання ў моладзі пачуцця патрыятызму, пашаны да нацыянальнай культуры. Чытацкая аўдыторыя заўсёды канкрэтызуе агульнае паняцце «пісьменнік», яна хоча ведаць, кім быў аўтар у жыцці, хто ён па прафесіі, адкуль родам, дзе вучыўся і працаваў, з кім сябраваў. Невыпадкова ж праблема вызначэння аўтарства ананімных твораў, тых жа паэм «Тарас на Парнасе», «Энеіда навыварат», «Сказ пра Лысую гару», выклікае вострую зацікаўленасць збоку не толькі гісторыкаў літаратуры, але і простага чытача. Вось тут якраз і патрэбен даследчык, які валодае талентам псіхолага і здольны паказаць творцу ва ўсёй яго значнасці, у арганічнай сувязі з нацыянальна-культурным асяроддзем, у якім творца жыў, працаваў, чэрпаў натхненне.

Зразумела, не проста падрыхтаваць паўнавартасную кнігу пра творчасць і асобу пісьменніка. Сёння такую грунтоўную працу замяняе «Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа», але гэтая кніга першы і апошні раз выйшла ў свет у 1982 годзе і патрабуе значнага абнаўлення, дапаўнення за кошт матэрыялаў, якія выяўлены музейнымі і архіўнымі работнікамі амаль за чвэрць стагоддзя.

Немалая праца чакае таксама тэатральных рэжысёраў, кінематаграфістаў, тэлевізіёншчыкаў. На жаль, многія цікавыя, драматычныя па сваім змесце творы Коласа не трапілі на сцэну, на экран. Магчыма, няўдалы вопыт інсцэнізацыі і экранізацыі трылогіі «На ростанях» адбіў у кінарэжысёраў і пастаноўшчыкаў жаданне працаваць у гэтым кірунку.

Хацелася б спадзявацца, што 125-годдзе Якуба Коласа не стане абмежаванай пэўнымі храналагічнымі рамкамі кампаніяй па ўшанаванні памяці, а дасць штуршок да якасна новага, больш высокага ўзроўню вывучэння і прапаганды Коласавай літаратурна-мастацкай спадчыны, якая з'яўляецца магутным фактарам працэсу дзяржаўна-культурнага будаўніцтва на сучасным этапе развіцця беларускага грамадства.

***Тэкстолаг, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры НАН Беларусі Вольга Карачун:***

— Новае выданне Збору твораў Якуба Коласа ў 20 тамах ажыццяўляецца Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы. Да юбілею народнага паэта Беларусі выйшлі першыя два тамы.

У дадзены момант мы рыхтуем да здачы ў выдавецтва «Беларуская навука» трэці том, які ахоплівае перыяд з 1939 па 1945 год. Новае выданне значна пашырана ў параўнанні з папярэднімі. Мы ведаем, што было прыжыццёвае выданне 1952 года ў сямі тамах і два пасмяротныя выданні: першае ў 12 тамах, якое выходзіла з 1961 па 1964 год, і другое ў 14 тамах, яно выходзіла ў 1972—1978 гадах. Сённяшняе выданне твораў Якуба Коласа пашырылася змястоўна, бо ў яго ўключаецца шмат новых вершаў, выданне значна ўзбагацілася каментарыямі, іншымі рэдакцыямі і варыянтамі вершаў.

Прывяду цікавыя лічбы. У параўнанні з першым прыжыццёвым выданнем Збору твораў Якуба Коласа, новае выданне папоўнілася 75 вершамі. У параўнанні са Зборам твораў у 12 тамах — 49 вершамі. Калі мы параўнаем выданне з 14-томным, то заўважым, што яно ўзбагацілася на 30 вершаў. Дадзены том будзе налічваць 170 вершаў. З названых 170 вершаў 23 упершыню ўключаны ў Збор твораў. Гэта вершы, якія раней выходзілі толькі ў перыядычных выданнях. А з гэтых 23 вершаў 14 былі выяўлены ў архівах і будуць увогуле друкавацца ўпершыню.

Менавіта гэтая лічба — 14 вершаў — гаворыць пра тое, што была праведзена немалая работа па росшуку невядомых твораў, твораў, якія да гэтага часу заставаліся ненадрукаванымі, недасягальнымі як для шырокай чытацкай аўдыторыі, так і для даследчыкаў.

Трэба сказаць, што ў дадзены том будуць уключаны і вершы, якія не ўваходзілі ў пасмяротныя выданні Якуба Коласа паводле цэнзурных меркаванняў. Так, у выданні 1961—1964 і 1972—1978 гадоў не трапілі вершы, якія, напрыклад, былі прысвечаны Сталіну, Леніну. Таксама ў пасмяротных выданнях Коласа былі зменены пэўныя радкі і строфы, дзе згадвалася прозвішча Сталіна. У новым зборы твораў, пра які мы вядзём гаворку, азначаныя творы будуць пададзены ў тым выглядзе, у якім яны друкаваліся пры жыцці паэта, у Зборы твораў 1952 года.

За асноўны тэкст новага Збору твораў у 20 тамах прымаецца прыжыццёвы Збор твораў Якуба Коласа ў 7 тамах. Асноўная ўвага складальнікаў скіравана на тое, каб падаць літаратурна-мастацкую спадчыну народнага песняра найбольш поўна. Што маецца на ўвазе? Зразумела, што апроч саміх твораў тут будуць змешчаны тэксталагічны, гісторыка-літаратурны, рэальны каментарыі і варыянты. У іх падаюцца тлумачэнні невядомых слоў, паняццяў, звесткі пра гістарычных асоб, расшыфроўваюцца прыхаваныя цытаты.

Вельмі цікавым падаецца раздзел «Іншыя рэдакцыі і варыянты». Ён будзе займаць каля 200 старонак, бо варыянтаў шмат, асабліва ў тых вершах, што захаваліся ў прыватным архіве нашчадкаў пісьменніка. Дзякуючы гэтым варыянтам, можна назіраць, як паступова ствараўся кожны верш. Фактычна чытач трапляе ў творчую лабараторыю паэта. Ён можа выявіць першапачатковую задуму, прасачыць за тым, як шліфаваўся стыль пісьменніка.

Архіў Коласа мае надзвычайную каштоўнасць, бо, дзякуючы лёсу і ўвазе нашчадкаў, добра захаваўся. У сваёй працы мы выкарыстоўвалі як матэрыялы, што зберагаюцца ў мемарыяльным архіве-музеі, так і аўтографы з архіва сям'і пісьменніка.

Як вядома, Вялікую Айчынную вайну Якуб Колас правёў у эвакуацыі. Чарнавікі 1941—1945 гадоў захаваліся амаль цалкам. Яны раскіданыя па розных вопісах, агульная іх колькасць перасягае тысячу адзінак. Захаваліся, дарэчы, не толькі аўтографы, але і машынапісы чыставых варыянтаў вершаў. Вывучаючы гэты матэрыял, можна знайсці для кожнага аўтографа сваё адпаведнае месца. У працэсе даследавання складзены звод варыян-

таў, які мы і ўключылі ў кнігу. Гэтая праца ўяўляецца вельмі важнай не толькі з навуковага пункту гледжання, яна раскрывае асобу Коласа, яго эмацыянальны настрой у момант напісання таго ці іншага верша, перажыванні на фоне пэўных падзей грамадскага жыцця. Такім чынам, знаёмства з варыянтамі вершаў дае чытачу магчымасць уявіць асобу класіка больш поўна.

Колас меў сваю сістэму працы. Спачатку ён занатоўваў думкі, якія прыходзілі яму ў сувязі з той ці іншай падзеяй, тым ці іншым эмацыянальным перажываннем. Ён, што называецца, думаў з алоўкам у руках. Разглядаючы аўтографы Коласа, можна сустрэць самую розную інфармацыю на тым жа аркушы паперы, на якім занатаваны верш. Скажам, на адным аўтографе мы знаходзім і фрагмент артыкула, і радкі верша, і ўрывак з паэмы. Тут жа сустракаюцца і ўрыўкі з паведамленняў Інфармбюро. Колас слухаў радыё і занатоўваў тыя звесткі, якія прыцягнулі яго ўвагу, здаваліся яму найбольш важнымі. Колас быў вельмі ашчадны да паперы, таму амаль кожная старонка з чарнавікоў была шчыльна спісана з двух бакоў.

Часта верш ствараўся не адразу, ад пачатку да канца, а праходзіў некалькі стадый на шляху да канчатковага афармлення. Здаралася так, што першыя з напісаных Я. Коласам радкоў у выніку аказваліся ў сярэдзіне або ў канцы верша. Часцей за ўсё ў працэсе працы ён не пазначаў назвы верша. Нам давялося вывучыць усе архіўныя матэрыялы для таго, каб аднесці той ці іншы радок, страфу, фрагмент, урывак да канкрэтнага твора.

Даты і назвы аўтарам ставіліся толькі на чыставых варыянтах, але не заўсёды. Наяўнасць назвы сведчыла пра тое, што Колас скончыў працу над дадзеным вершам, што перад намі — яго канчатковы варыянт.

Трэба сказаць таксама некалькі слоў пра рукапісныя сшыткі Коласа. Яны носяць выгляд чыставых варыянтаў вершаў, сабраных разам. Пералік вершаў, якія ўвайшлі ў кожны сшытак, таксама будуць змешчаны ў новым выданні. Дарэчы, нумарацыя старонак сшыткаў і назвы вершаў будуць пазначаны так, як пазначыў іх Колас. Скажам, асобныя вершы ў сшытках пазначаны лічбамі, іншыя не пазначаны. Сістэма падачы старонак парушана, Колас не нумараваў старонкі так, як гэта робіцца ў кнігах, і ў выданні новага збору твораў усё гэта будзе адлюстравана. Таксама будзе прыводзіцца апісанне саміх сшыткаў, напрыклад, колер вокладкі, выкарыстанае чарніла, наяўнасць закрэсленняў. Дарэчы, у сшыткі Коласа ўваходзяць і паэмы.

Усе названыя моманты ўлічаны складальнікамі Збору твораў Коласа, які рыхтуецца да друку. Гэта выданне, узбагачанае новымі вершамі, падрабязнымі каментарыямі, дапаможа новаму, сучаснаму, больш цэласнаму ўспрыняццю творчасці нашага нацыянальнага класіка.

***Падрыхтавалі***
***Марыя Шамякіна***
***і Пятро Сабіна.***



**Анатоль ЗЭКАЎ**

# «СТАЦЬ МАЯ ХАТА МІЖ ХВОЙ КУЧАРАВЫХ...»

**25** студзеня 1969 года буда-кашалёўская раённая газета «Авангард» выйшла з чарговай літаратурнай старонкай «Зарніцы». На ёй былі змешчаны вершы мясцовых паэтаў Міколы Літвінава, Анатоля Мільячэнкі, Міхася Ражкова і Уладзіміра Бабкова. Апошні як старшыня літаб'яднання, створанага пры рэдакцыі, выступіў яшчэ і з аглядам вершаў, дасланых у газету. Упершыню ў той агляд трапіў і я. «У малым артыкуле, — пісаў Ул. Бабкоў, — нельга падрабязна спыніцца на вершах вучня з Патапаўкі Анатоля Зэкава. Але хочацца параіць Анатолю больш назіраць за жыццём. Не прыдумляць сабе позу, як ён зрабіў у вершы «Все можно сделать в жизни», а больш працаваць над рытмам верша, бо кожная страфа ў яго вершы «Зімой» напісана рознымі памерамі. Рыфма то парная, то сумежная. Анатолю трэба заняцца тэорыяй літаратуры і чытаць творы класікаў больш удумліва. Вучыцца ў іх вобразнасці, пявучасці твораў».

У тым жа годзе газета «Піянер Беларусі» апублікавала мой першы верш, пачалі з'яўляцца яны і на старонках раённай газеты. Аднак па-ранейшаму з розных выданняў атрымліваў я і адмоўныя адказы: мне пісалі Анатоль Сербантовіч, Сымон Блатун, Сяргей Грахоўскі, Міхась Даніленка. У пераважнай большасці з іх, як бы па ўзаемнай дамоўленасці, была парада вучыцца ў класікаў. Класікамі мае рэцэнзенты называлі двух пісьменнікаў: Янку Купалу і Якуба Коласа.

Я тады яшчэ і падумаць не мог, што пройдуць дзесяцігоддзі — і ўжо ў Мінску Алесь Пісьмянкоў пазнаёміць мяне з унучкай вялікага песняра Марыяй Міцкевіч, а потым мне пашчасціць пазнаёміцца і нават выступаць на адных мера-



прыемствах, прысвечаных Якубу Коласу, з яе бацькам і малодшым сынам класіка, у якога мне раілі вучыцца паэтычнаму майстэрству, Міхасём Канстанцінавічам. А яшчэ — неаднойчы бываць у доме, дзе апошнія 12 гадоў жыў і працаваў народны паэт.

Цяпер гэта — Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. Створаны ён быў у адпаведнасці з прынятай пасля смерці пісьменніка ў 1956 годзе пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР. Свае дзверы для наведвальнікаў расчыніў у 1959 годзе. Першым яго дырэктарам стаў сын Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч. І кіраваў ім аж да 1982 года. Потым у музеі дырэктарстваваў Георгій Андрэевіч Ткацэвіч, а з 1986 года ля руля Коласавай музейнай справы знаходзіцца энергічная і нястомная Зінаіда Мікалаеўна Камароўская. Усяго тры дырэктары за амаль паўвекавое існаванне музея. Ці не яскравы паказчык гэта, што на чале справы тут стаяць людзі неабыякавыя, людзі, для якіх зберажэнне спадчыны Якуба Коласа — не проста праца, а сэнс жыцця? Тое ж можна сказаць і пра кожнага супрацоўніка музея, многія з якіх і насамрэч прысвяцілі яму ўсё сваё працоўнае жыццё.

...Двухпавярховы цагляны дом, дзе цяпер знаходзіцца Коласаўскі музей, быў узведзены да 70-годдзя пісьменніка. А дагэтуль на яго месцы стаяла драўляная хата, у якую сям'я Міцкевічаў пасялілася ў 1944 годзе, калі Мінск вызвалілі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На той час Якуб Колас заставаўся яшчэ ў Маскве і толькі ў маі 1945 года пасля смерці жонкі Марыі Дзмітрыеўны канчаткова вярнуўся ў Мінск, дзе і правёў астатак сваіх гадоў.

Хата, а потым і прасторны дом, дзе жыў пісьменнік з сынамі Данілам і Міхасём, туліліся ў зацішным двары Акадэміі навук. Так што і месца жыхарства, і месца працы былі побач. З цягам часу на сядзібе прыбудавалі пуню, прыгрэбнік, лазню, гараж. У двары развінаў голле пладовы сад, цешылі вока дэкаратыўныя дрэвы і кусты. Прычыніўся да іх і Якуб Колас: у гонар жонкі пасадзіў бярозку, а сябе і трох сыноў, адзін з якіх, Юрка, загінуў на фронце, сімвалізаваў у дубках.

У вершы «З майго летапісу» пісьменнік так апявае свой родны мінскі куток:

Стаіць мая хата між хвой кучаравых,
І купіна жыта на клумбе пры ёй.
Свая ў мяне пожня, і дрэўцы, і травы,
Пляцоўка, і двор свой, і я сабе свой.

Выходжу з хаціны, спынюся спачатку,
Ды вокам акіну скляпенне нябёс:
А можа, там вецер пагнаў сваё статка,
Дажджлівыя хмары ў маланках панёс?

У гэтым доме Якуб Колас закончыў трылогію «На ростанях» і паэму «Рыбакова хата», працягваў працу над завяршэннем паэмы «На шляхах волі», з-пад яго пяра нарадзіліся многія публіцыстычныя і крытычныя артыкулы. Тут, у рабочым кабінеце, 13 жніўня 1956 года скончыўся і зямны шлях пісьменніка.

За час існавання музея змянілася не адна экспазіцыя, яго наведалі многія тысячы экскурсантаў з усяго былога Савецкага Саюза і замежных краін, у сценах дома прайшлі сотні літаратурных вечарын, сустрэч і прэзентацый.

А гасцінны дом Якуба Коласа, дзе многія экспанаты помняць жывога песняра, і сягоння рады гасцям. Як і мемарыяльныя мясціны, звязаныя з пачаткам жыцця вялікага паэта, класіка беларускай літаратуры.

# Візітныя карткі мемарыяльных мясцін

## Акінчыцы

Гэтае невялікае лясное ўрочышча непадалёк ад сяла Мікалаеўшчына цяперашняга Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці хоць і ўвайшло трыццаць гадоў таму ў межы г. Стоўбцы, назаўсёды засталося на літаратурнай карце Беларусі. Менавіта тут 22 кастрычніка (па старым стылі) 1882 года ў сям'і Міхаіла Казіміравіча, які служыў у князя Радзівіла лесніком, і Ганны Юр'еўны Міцкевічаў нарадзіўся хлапчук, названы імем Кастусь, вядомы як народны паэт Беларусі Якуб Колас.



У Акінчыцах сям'я Міцкевічаў жыла роўна два гады: з 1 красавіка 1881 да 1 красавіка 1883 года.

Колішняя сядзіба лесніка-каморніка ў Акінчыцах была адноўлена ў 1982 годзе — да 100-гадовага юбілею пісьменніка. У той жа год, 30 кастрычніка, яна прыняла і першых наведвальнікаў. Сярод экспанатаў, што склалі экспазіцыю сядзібы, — аналагі рэчаў, якімі карысталіся Міцкевічы, побытавыя сялянскія прадметы таго часу. На хаце — мемарыяльная дошка, якая сведчыць, што тут нарадзіўся Якуб Колас.

## Ласток

У 1885 годзе, пакінуўшы Мікалаеўскую лясную камору, сям'я Міцкевічаў перабралася за 10 кіламетраў ад яе ў Ласток. Акружаная яловым лесам сядзіба стала трэцім месцам жыхарства бацькоў Якуба Коласа (а жыла тут сям'я да красавіка 1890 года). У Ластку прайшлі першыя дзіцячыя гады будучага пісьменніка, пра якія ён потым згадваў так: «Гэта было глухое месца — поле, навокал лес ды адна толькі сяліба лесніка — хата, гумно, хлеў... Часамі да нас заходзіў хто з сваякоў з Мікалаеўшчыны, адкуль былі родам бацькі, і заставаліся на некалькі дзён... Таксама часта бывалі ў нас і леснікі, аб'ездчыкі і розныя паны з лясніцтва. Многа было гутарак аб лесніковым побыце, аб праявах службовага характару, аб адносінах паноў да лесніка. У гэтых адносінах было многа крыўднага і несправядлівага да лесніка, і ў мяне з самага ранняга дзяцінства закідалася ў душу варожае пачуццё да паноў, а за часам яно яшчэ больш узмацнілася».



У адрозненне ад пабудоў у Акінчыцах, Альбуці і Смольні, узноўленых і адрэстаўраваных па архіўных матэрыялах, ластоцкая сядзіба захавала свой першапачатковы выгляд — ва ўсялякім разе пабудава-

ныя ў 1885 годзе хата і гумно. Мемарыяльная дошка нагадвае: «У гэтай хаце ў 1885—1890 гг. жыў пясняр беларускага народа Якуб Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч)».

## *Альбуць*

У Альбуці — чацвёртым месцы службы бацькі Якуба Коласа — Міцкевічы жылі з 1890 да 1904 года. Паводле архіўных дакументаў хата палясоўшчыка была пабудавана ў 1873 годзе, а праз год жыцця Міцкевічаў тут, 30 сакавіка 1891 года, яна згарэла датла. Тым жа годам зладзілі новае жытло: «на каменным падмурку, з абчасаных хваёвых брусоў, у гладкі вугал, накрыты гонтай, з дашчанай падфутроўкай пад дахам, з двума шчытамі з дошак».



У Альбуці будучы пісьменнік навучыўся чытаць і пісаць, адсюль хадзіў у народнае вучылішча ў Мікалаеўшчыну, тут склаў свой першы верш. Адсюль накіраваўся вучыцца і ў настаўніцкую семінарыю ў Нясвіж. Зазіраў у гэтыя мясціны і падчас настаўніцкай працы на Палессі.

Зрэшты, у Альбуці нарадзіліся малодшыя браты і сёстры Кастуся: Юзя (1891), Алена (1893), Юзік (1895), Міхась (1897) і Маня (1900). З Альбуццю звязана і жалобная падзея ў сям'і Міцкевічаў: 8 лютага 1902 года памёр, так і не прыдбаўшы ўласнай зямлі, гаспадар — Міхаіл Казіміравіч.

## *Смольня*

У Смольню Якуб Колас прыехаў 19 верасня 1911 года. Сям'я ж Міцкевічаў асталявалася тут у 1910 годзе, калі ён сядзеў у мінскай турме. Дзядзька Антось купіў сялянскую хату на Уздзеншчыне, у вёсцы Яршы, і па Нёмане прыгнаў бярвеннямі ў Смольню. Набыў яшчэ крыху лесу — і хата атрымалася на дзве паловы.

У Смольні ўлетку 1912 года адбылася першая сустрэча будучых народных паэтаў Беларусі — Якуба Коласа і Янкі Купалы. Наязджаючы сюды ў 1911—1914 гг., пісьменнік працаваў над паэмамі «Новая зямля» і «Сымон-музыка», напісаў многія вершы і апавяданні. Смольненская сядзіба знайшла адлюстраванне і ў трылогіі «На ростанях». 30 красавіка, у год сваёй смерці, Якуб Колас наведаў Смольню ў апошні раз.



8 чэрвеня 1967 года тут быў адкрыты філіял Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, да якога потым далучыліся сядзібы ў Акінчыцах (1982), Альбуці (1990) і Ластку (1997).



**Вольга КАЗЛОВА**

# ЭПІСТАЛЯРНАЯ СПАДЧЫНА ЯКУБА КОЛАСА ПЕРЫЯДУ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Беларускае літаратуразнаўства можа ганарыцца навуковымі напрацоўкамі, прысвечанымі жыццю і творчасці класікаў нацыянальнай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Нашчадкі ўдзячныя Карскаму Я. Ф., Гарэцкаму М. І. і інш. за першыя біяграфічныя і літаратуразнаўчыя матэрыялы, прысвечаныя Якубу Коласу. Даваеннае літаратуразнаўства не мела манаграфічнага характару выданняў пра жыццё і творчую працу класікаў беларускай літаратуры. Пасля выгнання нямецка-фашысцкіх акупантаў з нашай зямлі беларускія вучоныя, пісьменнікі пачалі адраджаць і засяваць сваю літаратурную ніўку. У першую чаргу паклапаціліся пра ўвекавечанне памяці Янкі Купалы і далейшую распрацоўку творчасці Якуба Коласа. Былі створаны падручнікі па гісторыі беларускай літаратуры для школ, у якіх аўтары падалі слушныя біяграфічныя нататкі пра Я. Купалу і Я. Коласа.

Вучоныя АН БССР Фіглоўская Л. І., Барысенка В. В., Барсток М. Н., Семяновіч А. А., Пшыркоў Ю. С. прыступілі да распрацоўкі асобных праблем спадчыны Якуба Коласа. Свежы подых жыццяпісу Коласа прынесла манаграфія Ю. С. Пшыркова «Жыццё і творчасць Якуба Коласа» (1951 г.). На рускай мове выйшлі манагарфіі Я. Мазалькова, прысвечаныя Я. Купалу і Я. Коласу. Адзначаныя работы пашырылі біяграфічны гарызонт пісьменніка-грамадзяніна Якуба Коласа.

Новай хваляй распрацоўкі спадчыны і жыццяпісу Народнага песняра Якуба Коласа сталі зборнікі літаратуразнаўчых артыкулаў, успамінаў, тэзісы навуковых канферэнцый. На гэтых працах быў закладзены фундмент і збудаваны «Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа» М. І. Мушынскага.

Напрацаваны матэрыял скарыстоўваецца новымі пакаленнямі навукоўцаў-коласаўцаў. Самастойныя дыпломныя працы выхаванцаў універсітэтаў рэспублікі сведчаць аб тым, што надышоў час папоўніць скарбонку. Тое, што ўчора было звыклым, сёння набывае гістарычную каштоўнасць. З гэтых пазіцый хочацца падзяліцца назіраннямі са шматгадовага збору матэрыялаў, прысвечанага Якубу Коласу.

У памяці майго пакалення назаўсёды застануцца векапомныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны (1941—1945 гг.).

Фашысцкая навала была бязлітаснай для насельніцтва Беларусі ўсіх узростаў. Яна праглынула кожнага чацвёртага. У цяжкія гады плячо да пляча Янка Купала і Якуб Колас ішлі дарогамі вайны разам са сваім народам.

Улетку 1942 года заўчасна загінуў Янка Купала. Вестка аб яго смерці, як зімовы гром, калатнула беларусаў, як землятрус, адгукнулася ў памяці народаў усёй савецкай дзяржавы.

Страшнае паведамленне дайшло да Ташкента, дзе пасля другой эвакуацыі ваеннага часу Колас з сям'ёю знайшоў часовы прытулак. На пахаванні друга і таварыша па аб'ектыўных прычынах ён не быў — чыгуначная паездка да Масквы займала дзесяць сутак, а паветраная адсутнічала — ішла вайна. Колас паслаў спачуванне Уладзіславе Францаўне Луцэвіч і чакаў ад пісьменнікаў падрабязных звестак пра Купалу. Думкі, спачуванні, развагі свае ўвасобіў у вершы «Над магілаю друга. Памяці Янкі Купалы». У творы паэт выказаў усенародную скруху з пры-

чыны страты свайго песняра. Абавязковым рэфрэнам кожнай страфы «не забудзе цябе край» падкрэсліў ідэйны змест твора. У вершы спалучаецца рытміка дзвюх мелодый: гімна і рэквіема. Гімн гучыць у радках клятвы песняру:

Пакончыўшы з дзікай ардою,
З варожаю цемрай і злом,
Мы ўспомнім усёй грамадою
Цябе за жалобным сталом.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Успомнім як лепшага сына,
Аддаўшага дар песняра
Народу і роднай краіне,
Дар яркі, як золак-зара.

Мелодыя рэквіема, рытміка народных галашэнняў напаўняе строфы развітання з сябрам: «сышоў ты на вечны спакой, // Буйнейшы наш колас у жыцце, // Наш дуб лугавы над ракой». Якуб Колас у вершы «Над магілаю друга» мэтанакіравана скарыстоўвае рытміку рэфрэна заключных радкоў верша Янкі Купалы «На смерць Сцяпана Булата». Ідэяй купалаўскага твора ён як бы апладніў задуму свайго. Сыны нацыі, змагары за народнае шчасце, такія, як Сцяпан Булат, Янка Купала, не паміраюць, яны застаюцца жыць у памяці народа назаўсёды.

Колас у лісце з Ташкента Міхасю Лынькову ад 11/VII.1942 г. падае вельмі багатыя звесткі аб яго асабістых клопатах, а таксама ўкладзе рускіх пісьменнікаў і славутых вучоных па ўвекавечанні памяці Янкі Купалы — вечары, прысвечаныя юбілейнаму дню нараджэння народнага песняра: «Мы ад Акадэміі навук у дзень яго нараджэння 7 ліпеня наладзілі вечар. ...Вечар прайшоў надзвычай шчыра, цёпла. Уступнае слова сказаў Ліпатаў. Мая тэма — «Янка Купала і яго паэзія». За мною выступіў прафесар Бродскі — «Творчасць Янкі Купалы». Даклад быў бліскучым. Пасля Бродскага выступаў прафесар Піксанаў — «Янка Купала і Максім Горкі». Гарадзецкі зрабіў надзвычай цікавы даклад — «Купала і народная творчасць». Апошняй выступіла Эдзі Агняцвет... У. Ф. паслаў пісьмо і свой верш памяці Я. Купалы, арыгінал і пераклад С. Гарадзецкага.

Ліст Якуба Коласа — яскравае сведчанне патрыятычнага адзінства беларускіх і рускіх дзеячаў культуры, сведчанне глыбокай прафесійнай распрацоўкі спадчыны беларускіх класікаў. Аб вялікай павазе народаў СССР да дзеячаў нацыянальнай культуры гавораць шматлікія факты з эпісталярнай спадчыны Якуба Коласа.

Узімку 1942 года Колас сабраўся ў цяжкое для часу вайны падарожжа з Ташкента ў Маскву. Пасажырскія цягнікі саступалі дарогу франтавым эшалонам і цягнуліся вельмі марудна. Для паездкі ў сталіцу неабходна было дабіцца спецпрапуска, раздабыць білет на цягнік, з харчовых картак «эканоміць» сабойку. Аб уражаннях у дарозе Якуб Колас піша жонцы Марыі Дзмітрыеўне: «У нашым вагоне вельмі сімпатычны народ. Тут многа вайскоўцаў, сярод іх два палкоўнікі, мае землякі. Яны не раз былі ў Мінску. Ёсць аб чым пагаварыць з імі... Учора мяне запрасілі ў адно купэ пачытаць свае вершы. Да мяне ставяцца вельмі ўважна, і я тут у пашане».

У другім лісце мы даведваемся пра гаспадарчыя клопаты Коласа ваеннай пары, пра ўмовы жыцця і вынослівасць народа ў імя перамогі над ворагам.

6.II.1942 г. Колас піша Марыі Дзмітрыеўне: «Уже десятые сутки я в дороге, милая Маруся. Я здоров, провизия ещё есть... В дороге варил манку. Каши давно съедены. Рисовая скисла. Горячая пища также не проходит мимо меня. Мой кожух сыграл свою роль в дороге — ночью накрываюсь им, и мне тепло. По-прежнему люди ко мне внимательны» (Я. Колас. Збор твораў).

У Маскве пісьменнік сустрэўся з М. Лыньковым, П. Броўкам, А. Кучарам, К. Крапівой, М. Танкам. Колас пасяліўся ў гасцініцы «Масква». Як і ва ўсёй краіне, тут дзейнічала картачная сістэма харчавання. Дзякуючы клопатам на-

чальніка цэнтральнага партызанскага штаба, сакратара ЦК КП(б) Беларусі Панамарэнкі П. К. на Арбацкай вуліцы, якая была штодзённай урадавай трасай Сталіна, была адчынена сталоўка для беларусаў, камандзіраваных з фронту, партызанскіх зон, вайсковых заводаў. Яна зрабілася сапраўдным беларускім зямляцтвам.

У Маскве Колас адразу трапіў у вялікі кругаварот розных спраў (пісьменніцкія, выдавецкія, грамадскія, урадавыя, гаспадарчыя і іншыя).

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны Юрка прыехаў з-пад Беластока на вайсковыя стралковыя спаборніцтвы ў Мінск. Тут яго застала вайна. У першы дзень вайны ён атрымаў ад камендатуры назначэнне ў часць, забег дамоў, ішла бамбёжка, бацькоў ён не застаў. Прыслаў некалькі вестачак Юрка з фронту, і пасля жорсткіх баёў пад Гжацкам змоўк. Апошняе пісьмо было атрымана 21 верасня 1941 года.

У вайну дзейнічала на ўсесаюзным радыё перадача «Пісьмы з фронту і на фронт». Якуб Колас імкнуўся адшукаць сляды сына. Ён звярнуўся ў эфіры да ўсіх воінаў-франтавікоў з прамоваю і вершам.

28.II.1942 г. «Милый, родной мой сын Юрка!

Восемь месяцев прошло с тех пор, как расстались мы с тобой, мой родной. ...Я никогда не забуду и того письма, которое ты прислал мне из своей части... Ты писал: «Вот уже две недели, как я нахожусь в непрерывных боях. За это время я свыкся с войной. И не одну фашистскую голову расшибла моя батарея, голову подлых убийц, сжёгшых наши города и расстреливающих мирное население. Это — наша месть, и мстить мы будем жёстко». Мы знаем, какое тяжёлое, но в то же время и почетное испытание выпало на долю бойцов нашей Красной Армии, которая не дрогнула перед нашествием орд фашистского хищника. ...Придёт светлый день нашей победы... Перед Красной Армией, рядовым бойцом которой являешься ты, милый сын Юрка, преклонится всё человечество, весь прогрессивный мир, ибо она совершает и совершит величайший подвиг» (Я. Колас. Збор твораў).

У заключэнне Колас прачытаў верш «Голас зямлі», які з'яўляецца ўзорам публіцыстычна-лірычнага твора, — верш-зварот прарока-вешчуна да сыноў зямлі беларускай, якую закаваны ў сталь фашысцкі капыт імкнецца ператварыць у папялішча: «Я чую голас несціханы: // Зямля мая мяне заве // І кроіць сэрца мне на раны, // Звініць, як звон касы ў траве». Голас зямлі напоўнены сімвалічным папераджальным звонам касы, якая ачысціць гоні ад варожай погані і пустазелля. Пачуцці бацькоўскай радасці выклікае ў паэта поступ сыноў-ваяроў: «Шумяць гняўліва твае пушчы, // Трасуцца помстаю бары», — і глыбокай веры: «І дзень твой хмуры змрок расплюшчыць — // Ёсць у цябе багатыры», — пісаў Колас.

Рытміка, строфіка, усе паэтычныя сродкі верша падпарадкаваны пафасу твора — вера ў немінучую Перамогу над ворагам.

Хвалюючыя бацькоўскія пачуцці да роднага сына Якуб Колас неаднаразова выказваў у лістах да сяброў-пісьменнікаў. У лісце да Міхася Лынькова ад 3.12.1942 г. ён пісаў: «Пра свайго Юрку не ведаю нічога. Часам заплачу ціхенька па-старэчаму, ідучы адзін па вуліцы або лежачы ў бяссонныя часы. Няма яго, відаць, жывога...»

Зразумець Коласа-бацьку, зазірнуць у яго душу дапаможа верш «Бацьку Мінаю».

Сродкі інфармацыі паведамілі свету пра трагедыю камандзіра першай беларускай брыгады Героя Савецкага Саюза Шмырова Міная Філіпавіча (бацькі Міная). Акупанты ў студзені 1942 года здзейснілі страшэнную акцыю: знішчылі заложнікаў — дзяцей Міная: дачок Лізу (14 год), Зіну (7 год), сыноў Сяргея (10 год), Міхаіла (4 гады), сястру камандзіра Ганну, а калі палічылі, што гэтых ахвяр мала, то знішчылі і маці Міная Філіпавіча Алену Пятроўну, сястру Акуліну, цешчу Ганну Маркаўну.

Гэта жахлівая вестка была пакладзена ў аснову верша. У пісьме ад 29. VIII. 1942 г. Лынькову Якуб Колас паведамляе, што «вельмі цікавай была

твая сустрэча з бацькам Мінаем. Верш Куляшова, прысвечаны Мінаю, я чытаў. А ў мяне к гэтаму часу быў таксама напісаны верш «Бацьку Мінаю»... Я рад, што мой верш сыходзіцца з тваім апісаннем бацькі Міная».

Колас у сваім творы падаў агульначалавечае асмысленне трагедыі і подзвігу народнага мсціўцы, вялікага сына народа, бацькі. Колас адначасова канцэнтруе ўвагу на вобразе бацькі і на вобразе партызанскага камандзіра: «Нявінных дзяцей тваіх родных // згубіў люты кат... // Астаўся адзін ты, нябожа, // Без дзетак, сястры».

Бацька Мінай увасабляў «наш край» і ўвабраў ён у свой воблік самыя характэрныя рысы ўсяго народа — «прываблівы, мудры і скромны, // стойкі, як дуб». Перад варожай навалай «не ўмлеў»: «...Пазнала нямецкая скура, /// Што значыць твой гнеў, // Удар твой раптоўны і цвёрды».

Асацыятыўным параўнаннем Міная з багатыром-дубам, «што над Нёмнам // узносіць свой чуб», паэт падкрэсліў эпічную прыгажосць Міная — сына беларускага народа.

У творы арганічна спалучаюцца элегічныя матывы, пачуцці, выкліканыя трагедыяй сям'і Міная, з баладным пафасам.

Верш заканчваецца апафеозным зваротам-паклонам герою народа-змагара: «жывы наш Мінай. // Разгорнем рамёны мы шырай // І вызвалім край».

Твор Коласа мае вялікую гістарычную падсветку: у аснову сюжэта пакладзены гістарычны факт, вызначана геаграфічнае месца дзеяння — Беларусь, адлюстраваны агульнапрызнаны яе магутны партызанскі рух.

У час наведвання Масквы ў пачатку 1943 года Коласу пашчасціла пабачыць Міная, які знаходзіўся пры Цэнтральным партызанскім штабе. У лісце Марыі Дзмітрыеўне ад 15 лютага 1943 года ён паведамляе: «Ну, вот я и в Москве. Ехал ровно 10 суток... Меня встретил Лыньков, Кандрат, Горев, Шемпель. Устроился в тот же вечер в гостинице «Москва» № 714... У Шемпеля организовали небольшой вечер. Радио сначала пропело много белорусских песен в исполнении Александровской... Среди нас был «бацька Минай».

Прозвішчы прэзідэнта АН БССР А. В. Горава, вучонага сакратара прэзідыума АН В. І. Шэмпеля, пісьменнікаў Лынькова, Крапівы, народнай артысткі СССР Л. Александроўскай надаюць гэтаму лісту гістарычны адбітак часу, вызначаюць месца і ролю нацыянальнай інтэлігенцыі ў складаны час Вялікай Айчыннай вайны.

Гістарызм творчай спадчыны Коласа дзён векапомных можна праілюстраваць на прыкладзе сустрэчы з прататыпам яго даваеннага ўсенароднага любімага твора «Дрыгва» — Васілём Ісакавічам Талашом, які па выкліку партызанскага штаба Беларусі з авіяпляцоўкі Мінскага партызанскага злучэння Героя Савецкага Саюза Казлова Васіля Іванавіча прыляцеў у Маскву. Размясцілі Талаша ў 301-м нумары прэстыжнага атэля «Масква». Па даручэнні П. К. Панамарэнкі служба кінахронікі ТАСС рыхтавала эпізод сустрэчы Якуба Коласа з літаратурным героем яго аповесці, удзельнікам партызанскага руху дзвюх войнаў, Талашом. Пашчасціла быць сведкаю гэтага эпізоду ў жыцці Народнага песняра.

Здымкі праходзілі ў гасцінічным нумары. Атэль «Масква» знаходзіўся побач з Крамлём і іншымі высокімі дзяржаўнымі ўстановамі. На пляцоўках даху былі размешчаны зенітныя ўстаноўкі, што абаранялі сталіцу ад варожых авіяналётаў.

Памочнік ЦПШ П. А. Абрасімаў дабіўся спецдазволу на работу ў атэлі кінагрупы. Узначаліў яе малады рэжысёр і аператар Вайняровіч Іосіф Навумавіч. Грувасткая здымачная апаратура запоўніла хол трэцяга паверха і нагадвала франтавую камунікацыйную пляцоўку.

Талаш кансерватыўна ставіўся да парад і загадаў кінаапаратараў, не хацеў скідаць з плеч самаробны партызанскі кажушок, не мог спакойна трымаць сябе за сціплым пачастункам ваеннага часу — гарбатай, прыгатаваным дзяжурнай паверха Антанінай Зотавай. Радасць сустрэчы з шаноўным чалавекам і любімым пісьменнікам адчувалася ва ўсіх яго жэстах, рэпліках і бляску вачэй.



*В. І. Казлоў, С. А. Каўпак і Якуб Колас у перапынку пасяджэння Славянскага камітэта. 1945 г. Масква.*

Колас жа паводзіў сябе вельмі спакойна, стараўся заняць у гэтым эпізодзе другі план, вачыма шукаў некага сярод выпадковых назіральнікаў кіназдымак, а пасля закачэння звярнуўся з пытаннем да натоўпу: «Ці ёсць тут мае землякі?» Высветлілася, што ёсць! Пазней ён наведаў нашу сям'ю, што знайшла свой часовы прытулак на гэтым жа паверсе. У час гутаркі пісьменніка з маёй маці я атрымала незабыўную магчымасць пабачыць і пачуць Якуба Коласа. Да драбніц запомніўся знешні выгляд пісьменніка, запалі ў душу некаторыя дэталі гутаркі. Якуб Колас быў апрануты ў цёмнага колеру цывільны касцюм, з-пад пінжака віднелася цёплая сцёганка-жылетка. Пазней з ліста пісьменніка жонцы я даведалася, што ватнічак-паддзёвачку спецыяльна для халоднай лютаўскай паездкі ў Маскву пашыла Марыя Дзмітрыеўна. Тады здзівіла нас агульная элегантнасць знешняга выгляду хударлявага цывільнага чалавека, востры позірк і звычайны спакойны голас; адпрасаваны касцюм, наглянцаваны абутак вылучаў яго з натоўпу вайскоўцаў, запоўніўшых Маскву.

Як і ўсе даваенныя чытачы, мая маці Ефрасіння Яфімаўна зачытвалася аповесцю «Дрыгва», а ў вайну, калі атрымала магчымасць пагутарыць з жывым героем — дзедам Талашом, — закідвала яго шматлікімі пытаннямі па змесце твора. Мінуў час, і я ў сваёй працы са студэнтамі БДУ звярнулася да гэтага бясцэннага матэрыялу з жыцця Якуба Коласа і яго літаратурных прататыпаў.

Паездка Коласа з Ташкента ў Маскву адбілася ў яго эпісталярнай спадчыне, дзённіку, фотаматэрыялах, скупых нататках тагачаснага друку, у сучасных літаратуразнаўчых працах.

Гістарычную падсветку мае эпісталярны матэрыял, прысвечаны працоўнай дзейнасці акадэміка, віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР Якуба Коласа. У час вайны пад небам Узбекістана знайшлі спагадлівае месца працы пэўныя падраздзяленні АН СССР і частка супрацоўнікаў АН БССР. У Ташкенце Якуб Колас наладзіў і прадаўжаў творчую дружбу з акадэмікам У. І. Пічэтам, першым рэктарам БДУ. Ён прымаў Коласа ў 20-я гады на працу ва універсітэт і арганізаваў першыя навуковыя канферэнцыі, прысвечаныя выхаду ў свет новых твораў Я. Коласа. Па сведчанні сына Коласа Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча і шматлікіх дэталях эпісталярыя, дружба вучоных набыла новую сілу і мела вялікі плён у навуковай дзейнасці.

У сакавіку 1942 года Колас удзельнічаў у рабоце сесіі АН БССР, што адбылася ў Казані. Там апошні раз ён пабачыўся з Янкам Купалам. У лісце да Марыі Дзмітрыеўны 8.III.42 г. Колас паведамляе: «За сталом у аднаго з нашых знаёмых сустрэўся з Янкам. Нічога асаблівага не гаварылі, не сварыліся і не дружылі. Ён вярнуў доўг...» Гэта спатканне пакуль што не знайшло водгуку ў літаратуразнаўстве. Час забірае ад нас яго сведак. У паведамленні Коласа словам цесна, а думкам раздольна...

3.III.42 г. адбылася сесія Акадэміі навук СССР у Ташкенце, на якой Колас выступіў з дакладам «Векавая дружба беларускага і рускага народа і іх барацьба супраць нямецкай агрэсіі». У складаных умовах, выкліканых адсутнасцю ў бібліятэках Ташкента беларускіх матэрыялаў, рыхтавалася гэта мерапрыемства. Вялікую дапамогу і разгорнутую кансультацыю даў Канстанціну Міхайлавічу У. І. Пічэта, аб чым у лісце І. Ф. Клімаву ён і паведамляе: «Памог Пічэта У. І., узброіў гістарычнымі фактамі. Але ж факты трэба было ўціснуць у нейкую лагічную сістэму, даць ім кірунак, сагрэць іх чалавечым пачуццём і ажывіць духам...»

Ліст пралівае святло на методыку даследчыцкай працы Коласа. Ён імкнуўся не толькі да дакладнасці навуковай канцэпцыі, але і да напаўнення работы «жывым духам», «чалавечым пачуццём».

За непрацяглы ташкенцкі перыяд Якуб Колас напісаў шэраг артыкулаў для ўзбекскага перыядычнага друку, падрыхтаваў артыкул аб партызанскім руху на Беларусі, артыкул у зборнік да 25-й гадавіны Кастрычніка, уступны артыкул для аднатомніка Янкі Купалы, выступленне на Усеславянскім мітынгу ў Маскве, выступленне на вечары, прысвечаным Украіне, падрыхтаваў матэрыял пра Беларусь па просьбе прэсбюро Галоўнага палітычнага ўпраўлення Чырвонай Арміі і шэраг іншых. Звесткі гэтыя пачэрпнуты з эпісталярыя Канстанціна Міхайлавіча.

У ташкенцкі перыяд вакол Коласа згрупавалася кагорта беларускай інтэлігенцыі: вучоныя і супрацоўнікі АН, пісьменнікі, артысты, выкладчыкі школ і вышэйшых навучальных устаноў. Колас наводзіў і будаваў масты ўзаемасувязі са шматнацыянальнай інтэлігенцыяй, што знайшла ў час вайны прытулак ва Узбекістане. Канстанцін Міхайлавіч з дзяржаўнай адказнасцю ставіўся да кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі Беларусі. Аб гэтым таксама сведчыць яго эпісталярная спадчына. Неаднаразова перад членамі ўрада БССР узнімаў пытанне аб утварэнні новай структуры працы Акадэміі навук, выкліканай патрабаваннямі ваеннага часу. Віцэ-прэзідэнт патрабаваў усе сілы «сабраць у кулак».

У лісце Ц. С. Гарбунову, сакратару ЦК КП(б) па ідэалогіі, Колас смела і крытычна ацаніў стан АН: «Наша Акадэмія існуе зараз толькі на паперы. Ні прэзідэнта, ні сакратара няма. Няшчасныя супрацоўнікі жывуць самапасам. ...Або Акадэмію трэба пераводзіць у другое месца, або тут павінен быць прэзідэнцкі сакратар. Проста душа баліць за страшэнны заняпад нашай установы».

Эпісталярная спадчына значна пашырае біяграфічную і творчую прастору Якуба Коласа. Яна дае магчымасць чытачу і даследчыку прасачыць шлях, які ён адолеў у грозную гадзіну вайны, даведацца пра лёс членаў сям'і, саратнікаў па пяры, сяброў. Эпісталярый часу Другой сусветнай вайны сведчыць аб тым, што цэнтральнай тэмай творчасці пісьменніка была тэма Радзімы, а галоўным яе героем — воін Савецкай Арміі, партызан, магутны духам і воляю да перамогі — савецкі народ. Лісты Якуба Коласа працінае дзяржаўны клопат віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР аб ролі інтэлігенцыі ў набліжэнні дня Перамогі.

Юбілейныя клопаты з дня нараджэння Народнага песняра папярэджваюць нас аб тым, што час няўмольны і патрабуе ад коласазнаўцаў клопату збору і захавання ўсіх зярнятак яго біяграфіі і творчай спадчыны.



Алеся ШАМЯКІНА

# ПРАСТОРА Ў ТРЫЛОГІІ ЯКУБА КОЛАСА «НА РОСТАНЯХ»

«Трылогія Я. Коласа «На ростанях» — твор з незвычайна вялікім ахопам жыццёвых з'яў» пісаў Іван Навуменка ў кнізе «Духоўны воблік героя». Сцвярджаючы гэта, крытыка звычайна мела на ўвазе перш за ўсё паказ прадстаўнікоў усіх сацыяльных колаў тагачаснага (пачатак XX стагоддзя) беларускага грамадства і сацыяльна-гістарычныя змены ў ім. Пад гэтай шырынёй ахопу мелася на ўвазе таксама і прырода, але ёй адводзілася амаль службовая роля. Між тым прырода ў трылогіі паўстае з не меншай паўнатой, раскрываючы сваю прыгажосць, «салодкую паэзію» (Л. М. Талстой) у самых разнастайных паўсядзённых праявах. Усе поры года — вясна, лета, восень, зіма (і ўсе не адзін раз), — гадзіны сутак, амаль усе геаграфічныя часткі Беларусі (перш за ўсё Палессе, Случчына, Наднямонне), асноўныя прыродныя аб'екты — лес, поле, рака ў розных іх станах — самыя разнастайныя ландшафты, «ачалавечаны», «акультураны» гарадскі пейзаж — усё знаходзіць сваё месца на старонках трылогіі, адыгрываючы ролю зусім не службовую, а часта вызначальную ў агульнай канцэпцыі твора.

У трылогіі знайшлі адлюстраванне рэальныя мясціны, звязаныя з жыццём Я. Коласа. Гэта перш за ўсё вёска Люсіна (у тэксце трылогіі — Цельшына) Хатыніцкай воласці Пінскага павета Мінскай губерні (зараз Ганцавіцкі раён Брэсцкай вобласці). У працы «Аб сялянскіх пабудовах...» Я. Колас так вызначыў месцазнаходжанне вёскі: «Размешчана на паляне, якая мае форму правільнага круга, дыяметрам не больш за дзве вярсты. Вакол паляны цягнецца чорная двух'ярусная паласа лазы і леса. З паўднёвага боку праходзіць аднакалейная чыгунка... Да ўсходу і поўначы прымыкаюць балоты, якія цягнуцца бесперапынна ў межы Валынскай губерні, да горада Роўна. Мясцовасць галоўным чынам нізінная. У трох вярстах на ўсход ад вёскі цягнецца сярод лесу града пагоркаў...» (падаецца ў кнізе «З жыццяпісу Якуба Коласа: Дакументы і матэрыялы»).

З 1904 і да пачатку 1906 года Я. Колас працаваў настаўнікам у вёсцы Пінкавічы (у трылогіі — Выганы) Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. У 1952 годзе ён пісаў жыхарам Пінкавіч: «У маіх вачах і сягоння ўстаюць малюнкі Пінкавіцкіх аколіц, зарэчныя прасторы балот, зарослых чаротамі, і жыццярадасны народ...».

Пісьменнік прымаў удзел у аграрных хваляваннях мясцовых сялян, напісаў па іх просьбе петыцыю да мясцовага памешчыка Скірмунта. У якасці пакарання за гэта быў пераведзены на працу ў вёску Верхмень Ігуменскага павета (у наш час Смалявіцкі раён Мінскай вобласці). У трылогіі вёска Верхмень даецца пад назвай Верхань. Вёска некалі належала Агінскім, затым Манюшкам. «Мясцовасць лясістая, глебы лёгкія», — адзначае польскае даведачнае выданне.

Вялікае месца ў трылогіі займаюць ваколіцы Мікалаеўшчыны (у творы — Мікуцічы) Мінскага павета Мінскай губерні (зараз Стаўбцоўскі раён Мінскай вобласці), «родны кут» самога пісьменніка. Вёска Мікалаеўшчына вядома з пачатку XII стагоддзя, «здаўна знаходзілася на скрыжаванні важных сухапутных і водных (па Нёмане) дарог» — чытаем у працы «З жыццяпісу Якуба Коласа...».

Усе гэтыя непаўторныя куткі Беларусі падрабязна і з вялікай любоўю апісаны Я. Коласам.

Важна адзначыць, што прырода тут не фон дзеяння, як любяць гаварыць літаратуразнаўцы, адзначаючы функцыі пейзажу ў творы. У трылогіі яна навакольнае і ўсямерна ўзаемадзейнае з чалавекам асяроддзе, свайго роду метафара «дома», так шырока прадстаўленая ў творчасці сучасніка Я. Коласа — М. М. Прышві-

на. В. Д. Прышвіна (жонка М. М. Прышвіна. — **А. Ш.**) піша, што кніга «Лясны капёж» спачатку была названа М. М. Прышвіным «Мой дом». Прычым слова «дом» сімвалізавала ўсю вялікую прыроду і толькі ўключала ў сябе як нязначную дэталь — чалавечае жыллё — падкрэслівае В. Прышвіна ў кнізе «Наш дом». У Я. Коласа, бадай, у яшчэ большай ступені прырода — дом — Радзіма з акцэнтам на апошнім паняцці.

Значэнне малюнкаў прыроды ў трылогіі і ў плане структурна-кампазіцыйным вельмі вялікае. Змена пейзажаў лінейна звязвае тэматычныя сюжэтныя паслядоўнасці, якія ствараюць у сукупнасці змест трылогіі. Асноўнымі ж элементамі, якія ўласна і складаюць малюнкі прыроды, з'яўляюцца прамыя намінацыі месца і часу (часта стан надвор'я), наогул дэталі пейзажу, звязаныя з прасторавымі перамяшчэннямі і часам. Вялікае значэнне маюць таксама колер, гукавая арганізацыя і суб'ектыўная мадальнасць. Наяўнасць усіх гэтых кампанентаў у адзіным пейзажным апісанні сустракаецца не заўсёды, пераважаюць двух- і трохкампанентныя, у трылогіі ёсць пейзажныя малюнкі не толькі на некалькі абзацаў, а і на старонкі, у такім выпадку яны валодаюць усім устойлівым, дарэчы, для Я. Коласа, наборам кампанентаў, аднак і ў цэлым пейзаж пісьменніка вельмі дынамічны, маляўнічы і адухоўлены.

Пра разнастайнасць выкарыстаных у творчасці Я. Коласа сродкаў сведчыць хаця б той факт, што, па нашых назіраннях, у зборніку «Казкі жыцця» ў якасці дзеючых асоб выступаюць усе пароды дрэў, якія ў дзікім стане растуць на Беларусі, вялікая колькасць кустоў і траў. Не ўсё з гэтага арсенала ўвайшло ў трылогію, аднак і тут расліннае, скажам, царства паказана вельмі шырока, і наогул лес, дрэва спадарожнічаюць герою пастаянна, з'яўляюцца аб'ектамі самай пільнай увагі аўтара. Напрыклад: «Побач чыгункі стаяў высокі стары лес, таемны, пануры і важны»; «... дуб — мудрае дрэва, і не паддаецца ён на зман няпэўнай у пачатку вясны»; «Вельмі хацелася пабачыць Ядвісю і паказаць ёй гэту слаўную грушку, якую пасадзіў ён на памяць аб ёй»; «Лес пасвятлеў, пабялеў і пазбыўся свае хмурай панурасці пад белаю чысцюткаю пасцілкаю» і г. д.

У кожным выпадку падаецца не проста апісанне лесу, апісанне дрэва, а яго вобраз. Пра своеасаблівае ў чымсьці дрэва, як і пра цікавага, а, можа, проста старога чалавека, Якуб Колас мог бы гаварыць вельмі многа. І, магчыма, невыпадкова асноўныя героі «Казак жыцця» — дрэвы, наогул расліннае царства, а не жывёлы (фауна прадстаўлена ў асноўным птушкамі, як дарэчы, і ў трылогіі). Магчыма, гэта звязана з тым, што ў славян усё ж не было свяшчэнных жывёл, якія б узвышаліся над чалавекам, як у Егіпце, Індыі. Акрамя таго, жывёла залішне аўтаномная, жыве па сваіх законах. А ў дрэве, як не дзіўна, можна знайсці больш аналогій з лёсам чалавека. У той жа час у ім і больш таямнічасці, чым у жывёлы, а гэта таксама цікава для мастака.

«Я думаю, чалавеку без дрэва нельга, дрэва — душа чалавека. Чалавек, які вырас побач з дрэвам, заўсёды больш уразлівы. Ён пяшчотней сэрцам і дабрэй намерамі. Духам акрэпнуць чалавеку дапамае дрэва», — заўважае рускі пісьменнік Іван Васільеў.

Тут погляд пісьменніка дастаткова сучасны, і ўсё ж праглядвае ў гэтым непрыкрытая язычніцкая вера ў сувязь душы і дрэва. Гаворачы пра пантэізм Я. Коласа, наогул немагчыма абысці гэта пытанне.

Абагаўленне дрэў — з'ява вельмі старажытная, ёй 20—30 тысяч гадоў, не менш. Дрэва надзвычай многа значыла ў жыцці чалавека, адсюль — культ, абагаўленне. Беларусы як не да XX стагоддзя з дрэва рабілі амаль усё — ад лыжкі да храма. І наогул асабліва многа ад абагаўлення дрэў засталося ў нас, беларусаў. Вядомы рускі этнограф Д. К. Зяленін пісаў, што на Беларусі былі некаторыя дрэвы, якія нельга было секчы, напрыклад, помслівай лічылі рабіну. Нельга было секчы рыпучае дрэва, бо ў ім пакутуе душа чалавека, дрэва з нарастамі, бо ў жыхароў дома, у зруб якога ўвойдзе гэта дрэва, з'явяцца каўтуны і нарывы. Калі дрэва сухое — чалавек захварэе на сухоты і г. д. Прама і непасрэдна жыццеўстойлівасць дрэва звязвалася са здароўем і жыццём людзей.

Пра пакланенне лесу, дубам і ялінам як свяшчэнным дрэвам (магчыма, агульным для ўсіх індаеўрапейцаў), у якіх жывуць духі, пісаў яшчэ гісторык і пісьменнік Старажытнага Рыма Тацыт. Вясной гэтыя духі дрэў абуджаліся і разам з зялёнымі галінамі так званага «майскага дрэва» прыносіліся людзьмі ў вёскі, у дамы. Гэты абрад і зараз сустракаецца на Сёмуху.

У многіх еўрапейскіх краінах ужо адраджаецца старажытны і па сутнасці сваёй прыгожы звычай — у дзень нараджэння дзіцяці саджаць дрэва. Іх жыцці, лёсы становяцца звязанымі.

Паэтычныя адносіны да дрэў, якія ідуць ад міфалогіі, ад фальклору, перайшлі ў літаратуру, былі развіты рамантыкамі. Напрыклад, А. Міцкевіч пісаў пра лес: «Здесь повесть чудную, предание веков, мне дуб рассказывал, челом разрезав тучи…». У Пушкіна: «У Лукоморья дуб зеленый…» «Дубовый листок оторвался от ветки родимой» — выказваўся М. Ю. Лермантаў пра адзінокага падарожніка. Або: «На севере диком стоит одиноко на голой вершине сосна…». І зноў дуб («Выхожу один я на дорогу…»), ля падножжа якога паэт хацеў бы «забыться и заснуть». Талстоўскі дуб, прыназіранні якога ўваскрасае душой князь Андрэй; шолахаўскі — з ім аўтар «Лёсу чалавека» параўноўвае свайго героя. Лявонаўская елка. Рабіна І. Мележа. Сасна І. Навуменкі. І ў сучаснай літаратуры, напрыклад, у «Развітанні з Мацёрай» В. Распуціна лістоўніца, якая расце сярод вострава — своеасаблівы аналаг сусветнага дрэва. У сучасных паэтаў вобраз дрэва ўскладніўся і набыў мноства сімвалічных, сэнсавых адгалінаванняў. У Г. Пашкова: «Дуб — стагоддзяў ахоўнік...»

Аляксандра Твардоўскага маці нарадзіла на ўзлеску, пад елкай (быў сенакос), і яго прынеслі дамоў, усяго аблепленага шыпулькамі. Ён бачыў у гэтым падарунак лёсу і не раз абыгрываў гэты матыў у вершах.

Дрэва не толькі ўвайшло ў творчасць С. Ясеніна, яно, па сутнасці, стала цэнтральным вобразам яго «сацыяльна-этычнай утопіі» (В. Г. Базанаў). С. Ясеніна вельмі прыцягваў міф пра «вечнае дрэва», шырока распаўсюджаны амаль ва ўсіх народаў Зямлі. У гэтым міфе пра дрэва — сутнасць Сусвету, якая ўсё фарміруе, усё арганізуе вакол сябе. Гэта дамінанта: па вертыкалі — трохчасткавая, па гарызанталі — чатырохчасткавая. Дрэва аддзяляе свет касмічны ад свету хаатычнага, адначасова яно пасрэднік паміж Сусветам (прыродай) і чалавекам, месца іх перасячэння. Вобраз «сусветнага дрэва», «вечнага дрэва» ў сусветнай культуры вельмі важны і адлюстраваны амаль ва ўсіх відах мастацтва, рэлігіях (у тым ліку хрысціянскай), абрадах і г. д. Акрамя таго, С. Ясенін лічыў, што свяшчэнныя дрэвы яшчэ і ўвасаблялі сабой саюз, сям'ю як у вузкім, так і ў шырокім сэнсе слова. Ці не таму і Лабановіч пасадзіў грушку як сімвал свайго кахання да Ядвісі? Безумоўна, Я. Колас даволі далёкі ад складанай філасофска-мастацтвазнаўчай канцэпцыі С. Ясеніна, ён ідзе хучэй ад народных анімістычных уяўленняў, якія не менш паэтычныя. Але ўсё ж нельга не заўважыць, што ў Коласа дрэвы паўстаюць, як ні ў кога з пісьменнікаў, незвычайнымі. Ён умее паглядзець на дрэва як на індывідуальнасць са сваёй складанай духоўнай арганізацыяй. Дуб у яго мудры і магутны, і наогул характар яго даволі складаны. Адзінокая і самотная елка. Пяшчотная бяроза...

Сярод запісных кніжак А. П. Чэхава ёсць адна, да гэтай пары не надрукаваная. На вокладцы напісана «Сад». У ёй каля 200 назваў пасаджаных ім у сваім садзе ў Ялце дрэў і кустоў. Зараз гэты сад рэканструююць па яго нататках. А. П.Чэхаў падыходзіў да дрэў практычна, ствараў сад, як ствараецца мастацкі твор. А ў яго п'есах, апавяданнях вобраз саду не проста месца дзеяння, а свайго роду сімвал: прырода, якая сашчапілася з цывілізацыяй, арганізавана культурай. Гэта і мара. «Уся Расія наш сад», — гаворыць адзін з яго герояў.

Не так у Я. Коласа. У трылогіі лес — гэта вялікі ў сваёй сукупнасці свет дзікай прыроды, сімвал яе, якому тым не менш чалавек абавязаны сваім існаваннем. Але гэты сімвал настолькі шматзначны, што ён асацыіруецца і з жыццём беларускага народа. Лес як бы «дапамога» да пазнання галоўнага, што хвалюе пісьменніка, да нацыянальнай біяграфіі беларусаў, генетыка-гістарычных яе пракаранёў.

Лес стаў героем трылогіі і як яркі «прадстаўнік» беларускага пейзажу. Ёсць і іншыя прычыны, якія прымусілі Я. Коласа асабліва ўважліва і любоўна адносіцца да жыцця лесу.

Любіў Я. Колас апісваць і рэкі, вечныя спадарожніцы славян, пасяленні якіх заўсёды туліліся каля водных шляхоў. У ваколіцах Цельшына было некалькі невялікіх рачулак, але ў першай частцы трылогіі ім зусім не знайшлося месца: яны выводзілі за межы «замкнёнага свету» пінскага Палесся, акружанага з усіх бакоў «зубатымі цёмнымі палоскамі лясоў».

Вёска Выганы размяшчалася ў вельмі прыгожым кутку на ўзгорку над самаю Пінаю, прытокам Прыпяці. Від на зарэчную частку адкрываўся «надзвычай шырокі і прыгожы», але саму раку хутчэй можна было прыняць за затоку, «бо вада цячэ вельмі ціха», так ціха і павольна, як само жыццё палешукоў.

Герой трэцяй кнігі трылогіі — Нёман, адна з самых магутных і імклівых, любімых у народзе рэк Беларусі. «Глыбока ўнізе, пад зрывістым пясчаным берагам, струменіўся быстры Нёман, праносячы па чыстым жолабе веснавыя воды і падразаючы высокі свой бераг», адзначае пісьменнік. Нёман апісаны вясеннім: «Рака ўжо амаль што ўвайшла ў берагі. На лугавых нізінах сям-там яшчэ стаяла вада...» і летнім: «Як выцягнутае срэбнае вужышча з дзесяткамі, сотнямі, тысячамі прыгожа акругленых кален-нартоў, павіваецца, бы пасмейваецца на сонцы, стары наравісты Нёман у высокіх берагах, атуленых лозамі і пахучымі травамі-зеллем, далінамі-лугамі, палямі-ўзгоркамі з залатымі або беласнежнымі схіламі пяскоў... Смела скажу: мала дзе знойдзеце вы такія прыгожыя рэчкі, як Нёман».

У апісаннях прыроды Якуб Колас аддае перавагу буйным планам, ахопліваючы адразу даволі вялікую прастору. Яго пейзаж маштабны і дынамічны: «Пачынала цямнець. Побач дарогі пайшоў малады сакавіты хвойнік. Хвойнік скончыўся, выехалі на вясёлую палянку. Па краях стаяў рэдкі хваёвы лес. Збоку, направа, бегла чыгунка. Палянка змянілася зноў лесам. Лес, атулены мрокам і цішынёю, стаяў нерухліва. Заблісkалі першыя зоркі». Адбор аб'ектаў даволі скупы, але яны хутка змяняюць адзін аднаго, таму што найважнейшы ў трылогіі скразны вобраз дарогі мае на ўвазе хутказменлівыя малюнкі. Акрамя таго, шырокапрастаравае вырашэнне пейзажу адпавядае пэўным ідэйна-кампазіцыйным задачам пісьменніка. Аднак дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што Я. Колас умеў бачыць свет ярка і падрабязна. Гэта значыць, абагульняючы, не прапускаючы дэталі: «Дзень быў лагодны, ціхі. Сонца ўжо даўно мінула поўдзень. Прыпарвала. На далёкім захадзе, з-за зубчастых пералескаў выплывалі, як мядзяныя горы, клубястыя хмары, пафарбаваныя сонцам у чырванаваты колер. Як прыгожа і велічна выступалі яны над краем зямлі, уздымаючыся ўсё вышэй і вышэй! У іх звілістых клубках, у вычварных і невыразных абрысах таілася магутная сіла зямлі і сонца...» Тут даволі падрабязнае, з вялікай колькасцю вызначэнняў, апісанне адной прыроднай з'явы. Але агульная панарама зноў-такі вялікая.

У кампазіцыі кожнага канкрэтнага пейзажнага малюнка, калі ўгледзецца, няма нічога выпадковага: усё ўраўнаважана, нейкая незвычайная дыялектыка пераходу ад прыватнага да агульнага, ад дэталі да панарамы і наадварот. У выніку на першы погляд нявыйгрышная беларуская прырода становіцца бліжэй чытачу, набывае і манументальнасць, і ўрачыстую прыўзнятасць, і эпічную шырыню, і эмацыянальную глыбіню, што дазваляе звязаць вобразы прыроды і народа, прасачыць іх жыццё паралельна.

Натуральная канкрэтнасць адлюстравання прыроды выяўляецца ў колеравым каларыце, у гукавой гаме апісанняў. Фарбы пейзажаў трылогіі амаль пазбаўлены паўтонаў, яны простыя, чыстыя і вельмі рэалістычна характарызуюць менавіта беларускую прыроду. Самыя распаўсюджаныя колеры — сіні з адценнямі і зялёны: «сінія далі», «сінаватая смуга», «краявіды, атуленыя тонкаю павалокаю сінечы», «свежая зелень маладых лісточкаў», «пышна-зялёныя хвойнікі», «зялёны аксаміт траўкі» і г. д. Зелень пераважае зусім выразна, што і натуральна. Сіні колер надае апісанням пэўнае эмацыянальна-лірычнае адценне. Зрэдку сустракаюцца чорны, белы і шэры колеры: «гразь густая, чорная, як дзёгаць», «белыя і чысцюткія пу-

шынкі», «шэрыя ствалы хвоі» і г. д. Жоўты колер рэдкі — часцей за ўсё гэта жоўтыя пяскі, яшчэ радзей — карычневы, а чырвоны амаль не сустракаецца.

Жывапісцы — сучаснікі Якуба Коласа — вельмі любілі чырвоны колер як сімвал рэвалюцыйнай эпохі. Беларускі пісьменнік у дадзеным выпадку ішоў ад натуры: чырвоны насычаны колер — гэта ў прыродзе галоўным чынам агонь і кветкі, аднак, ці былі абсаджаны сялянскія хаты ў той час яркімі садовымі кветкамі? Што датычыцца агню, то Я. Колас аддаваў перавагу нябеснаму, хутчэй, сонечнаму агню. Сонца ў яго пейзажах — персанаж даволі часты і ўлюбёны. У яго характарыстыцы пісьменнік ішоў ад народнапаэтычнай традыцыі, не толькі адухаўляючы яго, але і надзяляючы азначэннямі, узятымі з фальклору, сярод якіх пераважае «залаты»: «залатыя косы сонейка», «залатыя праменні», «залатыя стрэлы сонца», «пазалочаны край неба» і г. д. Старажытны комплекс узаемазвязаных уяўленняў уключаў у сябе паняцці: «сонца — золата — агонь — святло — цень». У фальклоры, у некаторых старажытных і сярэдневяковых эпасах, паэмах, у тым ліку і ў «Слове аб палку Ігаравым», — сімволіка золата ахоплівае вялікую колькасць прадметаў і аб'ектаў прыроды, аж да жывёл, як адзначаў А. Рабінсон у артыкуле «Слово» в поэтическом контексте мирового средневековья», што друкаваўся ў часопісе «Вопросы литературы» (1985 г., № 6).

Беларускай прыродзе заўсёды патрэбны прамень сонца для таго, каб сціплая, скрытая ў сваіх непрыметных фарбах, яна засвяцілася асаблівай чароўнасцю і пяшчотнай прыгажосцю. Святло, колер — бачныя для Я.Коласа праявы зямной прыгажосці. Шырокая прасторавая адкрытасць, панарамнасць пейзажу, азоранага да таго ж вельмі часта сонечнымі промнямі ў спалучэнні з празрыстасцю і чысцінёй паветра, ствараюць радаснае светаадчуванне, надаюць усёй трылогіі ў цэлым аптымістычнае гучанне.

Прырода паўплывала на эстэтыку Я.Коласа, яго стыль. Невыпадкова для пісьменніка характэрны формы ўнутрана ўраўнаважаныя, гарманічна зладжаныя, спакойна апавядальныя. Гэтыя формы вынікаюць з цэльнасці ўспрыняцця свету беларускім селянінам, з гарманічнай упарадкаванасці «ладу» яго жыцця, знітаванага з жыццём прыроды, з гармоніі ў самой прыродзе.

Пейзаж Якуба Коласа заўсёды выяўляе паўнату жыцця ў разгорнутым маляўнічым апісанні, дзе агульнае, праўда, пераважае над прыватным, але дзе тым не менш адбываецца насычэнне яскраснымі прыкметамі, рэаліямі рэчаіснасці — колеравымі, светлавымі, прасторавымі, гукавымі (бадай, толькі эстэтыка пахаў у Я. Коласа паказана ў нязначнай ступені). Усё з усім знаходзіцца ў адзінстве. Як бы матэрыялізуецца паэзія лясоў, палёў, дарог, рэк. І ўся гэта вялікая разнастайнасць зліваецца ў адзіную мелодыю вечнай песні пра вечную прыгажосць, ва ўрачысты гімн прыродзе, роднай зямлі.

І на героя пейзаж часта ўздзейнічае як музыка. Вось чаму ў адзіным комплексным апісанні гукі прыроды займаюць даволі значнае месца. Цікава таксама тое, што ў першай аповесці іх мала, наадварот, лес часцей за ўсё паўстае «панурым», «маўклівым», «задумлівым», «таемным» і т. п. Тут, бадай, на першы план выходзіць святло, дакладней — «святло —цемра»: «Нізкае сонца ледзь прабілася скрозь макушы лесу. Неба праяснілася... Вісеўшы ўсе гэтыя дні туман развеяўся, усюды пасвятлела і павесялела». «Нявідная рука поўначы ціха праводзіць граніцы паміж ноччу і днём».

Амаль заўсёды пануе цішыня ў прыродзе, але калі чуюцца гукі, то яны таксама маркотныя або таямнічыя, як лес... «Вакол было ціха... Ветру не было, а дрот бесперастанку гуў прыемным звонам, ціхім, аднатонным і жаласным: як казка гэтых панурых лясоў і балот Палесся»; «Вакол было ціха і глуха»; «У лесе было ціха і спакойна».

Падобныя прыклады можна працягваць. У большасці сваёй яны сімвалічныя, адпавядаюць настрою героя і агульнаму каларыту прыроды рэальнага Палесся канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Сапраўды, калі прасторавае і колеравае вырашэнне пейзажу больш звязана з агульнай канцэпцыяй твора і яго філасофіяй, то гукавы рад адцяняе пейзаж псіхалагічны і надае ўсёй апавядальнасці асаблівы

лірызм: «І розныя думкі, лёгкія, як цені хваёвых галінак, журботныя, як курлыканне журавоў у небе, снаваліся ў яго сэрцы»; «Тысячы рознагалосых птушак напоўнілі паветра свістам, шчэбетам і спевамі. Вакол гаманіла адноўленае, маладое жыццё. Новае і кожны раз неяснае і чароўнае пачуццё прастору і волі абуджала людзям сэрца».

Музыка прыроды выклікае ў адказ музыку ў душы героя. Гэта аказваецца вельмі важным у цэласным разуменні твора, пра што сведчыць хаця б эпізод з лясным жаваранкам: «Лабановіч стаяў і слухаў, як прычараваны, гэты смутнарадасны гімн раніцы, што нейкім дзіўным водгуллем адбіваўся ў яго сэрцы. Здавалася, што ён ужо калісь перажыў тое самае, што звінела цяпер у душы, толькі ніяк не мог прыпомніць, калі гэта было...»

У жыцці чалавека, як, дарэчы, і наогул у жыцці, у свеце заўсёды застаецца нешта непазнанае, цьмяна ўлоўнае, чаго нельга растлумачыць рацыяналістычна. Размова ідзе не пра містыку, не пра ірацыянальнае, а пра зусім іншае. Загадкавай і цяжка ўлоўнай для тлумачэння бачылася, напрыклад, Расія рускім пісьменнікам XIX стагоддзя («…Какая же непостижимая, тайная сила влечет к себе»; «Умом Россию не понять…»; «Люблю Отчизну я, но странною любовью, не победит ее рассудок мой…»). Геніі класічнай рускай літаратуры так гаварылі пра адчуванне Радзімы, пра злучэнне прыроды з уласнай душой, сэрцам. Гэтае злучэнне, як і любоў да Радзімы, часам бывае проста немагчыма выказаць словамі, і тады на дапамогу прыходзіць музыка. Вось чаму пра песню ў сваім вядомым лірычным адступленні ў «Мёртвых душах» гаворыць М. Гогаль, вось чаму ў «Спеваках» І. Тургенева Якаў спяваў, «и от каждого звука его голоса веяло чем-то родным и необозримо широким, словно знакомая степь раскрывалась перед вами уходя в бесконечную даль». І яшчэ: « Русская, правдивая, горячая душа звучала и дышала в нем, и так и хватала вас за сердце, хватала прямо за его русские струны…». Дарэчы, і ў Я. Коласа песня ляснога жаваранка, быццам злучыўшы ў сабе ўсе тоны прыроды, «даходзіла да самых затоеных глыбінь сэрца і калыхала самыя тонкія струны душы». Я. Колас не выказваецца, як Тургенеў прама, але такая паралель, відаць, не выпадковая... Гэта той стан, які можна назваць адчуваннем Радзімы, зліццём з ёй. Адначасова гэта пачуццё дае чалавеку вялікую, ні з чым не параўнальную радасць: «Радуешся, што жывеш на свеце, радуешся, што ў цябе ёсць вочы, каб аглядаць прасторы і малюнкі зямлі, і вушы, каб слухаць разнастайныя гукі, несціханую музыку жыцця».

Радаснае ўспрыняцце жыцця — адна з самых адметных рыс светаадчування Я. Коласа. Выліваецца яно не толькі ў развагах героя і ў агульным, так сказаць, стылі яго жыцця, але і ў малюнках прыроды, якія напоўнены радасцю быцця і ўспрымаюцца аўтарам і героем як вялікі цуд, які яшчэ трэба пазнаваць і пазнаваць.

Сярод пэўнай часткі заходняй інтэлігенцыі яшчэ ў часы Я. Коласа шырока бытавалі настроі, трапна ахарактарызаваныя М. Горкім як «касмічны песімізм». Зусім супрацьлеглыя адносіны да свету былі ў самога М. Горкага, А. М. Талстога, М. М. Прышвіна, М. А. Шолахава, Я. Коласа. Безумоўна, не бяздумная, а мудрая і ўсёахопная радасць адухаўляла творчасць пісьменнікаў. Сучаснік іх — вядомы рускі мастак, паэт і вучоны М. Рэрых — лічыў радасць своеасаблівай мудрасцю, якая схіляе да творчасці, да дзеяння ў імя прыгажосці і дабрыні. Без радасці няма і шчасця. М. Прышвін запісаў неяк у дзённіку: «Магчыма, самае галоўнае... у мяне... упартая бясспрэчная («нягледзячы ні на што») радасць жыцця (ці сіла жыцця?), якая перамагае пошласць». І ў І. Буніна ёсць радкі, якія адлюстроўваюць асабістае адчуванне быцця, трапятанне сэрца, ахопленага радасцю:

> Нет, не пейзаж влечет меня,
> Не краски жадный взор подметит,
> А то, что в этих красках светит:
> Любовь и радость бытия.

Праўда, у адрозненне ад універсалізму І. Буніна і разумення радасці як сусветнай гармоніі ў М. Рэрыха і М. Прышвіна, Я. Колас больш лакальны і ў той жа

час больш сабраны. І ў яго ёсць падобныя выказванні: «Радасць была разліта ў прыродзе. Пульс гэтай жыццярадаснасці біўся кожны момант у кожным куточку гэтых вялікіх прастораў». Радасць, якую дорыць нам прырода, шматколерная і ўключае ў сабе ўсе адценні пачуццяў, увесь багаты спектр чалавечых перажыванняў. І, уласна, па тым, як чалавек адчувае прыроду, успрымае яе і адносіцца да яе, можна меркаваць, наколькі далёка ён пайшоў у сваім духоўным развіцці. Пастаянная адкрытасць свету, злітнасць з наваколлем дае самае моцнае адчуванне паўнаты жыцця, сведчыць пра маладосць і багацце душы, мастацкасць натуры. Жыць кожнай хвілінай сучаснасці, як жыве Лабановіч, — гэта і ёсць сапраўднае жыццё. Адчуванне паўнаты жыцця, уключанасць у яе пасякундны паток — адзін з самых старых ідэалаў чалавецтва. Але ў Я. Коласа не толькі такая радасць, хоць і яна дастаткова сведчыць пра духоўны патэнцыял героя. Тут радасць, якая адчуваецца чалавекам у прыродзе, арганічна звязана з «пачуццём прасторы і волі», г.зн. перад несправядлівасцямі грамадства адбываецца яднанне пачуцця прыроды з пачуццём свабоды. «Колькі хвілін стаялі на мосце настаўнікі — «валачобнікі», любаваліся Нёманам, яшчэ мнагаводным і быстрым, лугамі, полем і лесам. Шмат разоў бачыў іх Лабановіч, але ніколі не дакучалі яны, бо выразна гаварылі, хоць без слоў, аб волі, аб вялікіх прасторах зямлі, аб маладым жыцці.

— Эх, хлопцы! — прамовіў ён. — Як добра было б жыць на свеце, калі б чалавека не гналі, не крыўдзілі, не пазбаўлялі волі, не звязвалі крылляў».

Л. Талстой у канцы жыцця расчараваўся ў мастацтве. Але былі ў яго жыцці дзве сілы, якія, як два полюсы магніта, па-ранейшаму прыцягвалі яго сэрца: на адным полюсе — чалавечыя пакуты, на другім — прыгажосць прыроды. Калі пакуты чалавека — боль, то прыгажосць прыроды — вечная радасць. Адчуванне, што самая чыстая радасць — радасць прыроды, магчыма, не пакідала яго да смерці. Так і ў Я. Коласа: грамадства з яго воўчым законамі — адно, прырода — зусім іншае, хоць і яна, канешне, неадназначная. Але ў цэлым для Я. Коласа прырода — гэта свет гармоніі і прыгажосці, месца натхнення, прыстанішча шчасця і асалоды.

Такім чынам, узяты ў адзінстве погляд Я. Коласа на прыроду, чалавека, грамадства аказваецца надзіва шматмерным і шматаспектным нават у першым прыбліжэнні. З аднаго боку, прыхільнасць да зямнога, спрадвечнага, якое з'яўляецца вытокам усяго паэтычнага. Таму радасць, разлітая ў пейзажных апісаннях трылогіі, ёсць праява радаснага пафасу, даверу да пачуццёва-матэрыяльнага, аб'ектыўнага быцця, што дазваляе аб'яднаць стыхійна-матэрыялістычную дыялектыку Я. Коласа з матэрыялізмам М. Г. Чарнышэўскага («Прыгожае — ёсць жыццё»), з талстоўскім адчуваннем ідэалу як жывога жыцця. З другога боку, коласаўскі пантэізм уваходзіць карэннямі ў канкрэтна-гістарычную рэчаіснасць і непазбежна атрымлівае сацыяльную і нацыянальную афарбоўку. Малюнкі прыроды аказваюцца звязанымі не толькі з перажываннямі героя, але і з жыццём народа, а таксама асаблівым чынам напамінаюць пра вечныя праблемы быцця.

Аднак у трылогіі паказана менавіта нацыянальная беларуская прырода, прыведзеная ў разнастайнасці сваіх рэгіянальных пейзажаў. У працэсе іх злучэння ў адзінства пры адначасовым зліцці з душой героя адбываецца выхад на агульназначнае і вечнае. Яна — менавіта ў сваёй нацыянальнай праяве —далучае героя да глыбокай і бясконцай сутнасці быцця, дае яму магчымасць адчуць гэта ў сабе. У такой сваёй ідэальнай функцыі, у адкрыцці ўсеагульнага праз нацыянальнае прырода з'яўляецца важным эстэтычным выяўленнем коласаўскага аптымізму.

Такім чынам, паказаная Я. Коласам у росквіце або адміранні, у розных сваіх праявах прырода Беларусі, непрыметная, але па-свойму чароўная, пазбаўленая празаічнасці; у той жа час на яе як бы праліта, не аб'ядноўваючыся з ёй, адкрытая аўтарская душа, што надае асаблівы лірызм усяму апавяданню. Пейзаж, як ён паказаны ў Я. Коласа, нацыянальна дакладны, адухоўлены патрыятычным пачуццём аўтара. Тэма Радзімы аб'ядноўвае і замацоўвае ўсю разнастайнасць малюнкаў прыроды ў трылогіі «На ростанях».

Васіль ЖУРАЎЛЁЎ

# «ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ» ЯК АЛЬТЭРНАТЫЎНАЯ ПРАБЛЕМА Ў ТВОРАХ ЯКУБА КОЛАСА

Грамадская мадэль будучыні краіны з'яўляецца, можна сказаць, важнейшай адзнакай і праявай мастацкага ідэалу ва ўсіх творах нашых класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. На нейкіх этапах іх літаратурнай дзейнасці гэты ідэал, пераважна звязаны з палепшаннем сацыяльнага становішча простага чалавека і вырашэннем нацыянальнага пытання, быў настолькі блізкім, дарагім і значным, што на нейкі момант яны згодны былі нават ахвяраваць эстэтыкай літаратурнага слова дзеля вылучэння на пярэдні план сацыяльна афарбаванай мастацкай ідэі. Менавіта гэта прычына, як вядома, у многім і з'явілася першапачатковым матывам той «нашаніўскай» дыскусіі ў 1913 годзе, дзе асноўным абаронцам тэндэнцыі *сацыяльнасці* быў, напэўна, усё ж Янка Купала.

У гэтым сэнсе паказальным з'яўляецца і яго сурова-драматычны, заклікальна-пафасны і глыбокі, філасофска-роздумны верш «Перад будучыняй» (1922). На жаль, гэтаму вершу на працягу многіх дзесяцігоддзяў настойліва і ўпарта не дазвалялася, забаранялася ўваходзіць у выданні купалаўскіх твораў, нават тых выданняў, што прэтэндавалі называцца Поўным зборам твораў. І толькі вось у дзевяцітомным Зборы твораў паэта, падрыхтаваным калектывам супрацоўнікаў Інстытута літаратуры НАН Беларусі, гэты палымяны твор заняў нарэшце сваё законнае і пачэснае месца.

Праблема будучыні краіны і беларускага народа з'яўляецца актыўным сюжэтным лейтматывам і ў коласаўскай творчасці, а ў ягоных «Казках жыцця» гэта праблемнае пытанне выяўляе сваю прысутнасць у вельмі адчувальных і выразных мастацкіх прыкметах аўтарскай зацікаўленасці. І тут адразу варта падкрэсліць, што сама формула ідэалу ў семантычным яго вызначэнні ніколі не замыкаецца пісьменнікам у нейкія жорсткія межы аднамернага погляду. Такая аднамернасць, на думку аўтара, з'яўляецца вельмі непажаданай і ў чымсьці для чалавека нават небяспечнай.

У сваіх алегарычных апавяданнях Якуб Колас не спяшаецца рабіць крытычныя ці асуджальныя закіды ў адрас персанажаў, якія пэўны час падпадалі пад уплыў памылковых вонкавых сіл і настройваліся на ілюзорную, утапічную мадэль ідэалу. Пісьменнік, трэба меркаваць, улічваў, што *заўтрашні дзень*, а тым болей аддаленая ад бягучай сучаснасці жыццёвая перспектыва была і надалей шмат у чым будзе заставацца для людзей загадкай, terra incognita і прыносіць ім шэраг нечаканых і далёка не заўсёды прыемных «сюрпрызаў». Бо ідэал, як духоўна-інтэлектуальная з'ява, паводле разважанняў аўтара, адначасна знаходзіцца і выяўляе сваю сутнасць у двух вымярэннях — у межах адноснай стабільнасці і няспыннага, зменлівага руху. І таму, як лічыць пісьменнік, часта глыбока памыляецца той, хто ўяўляе жыццёвую формулу свайго «заўтра» ў закончаным, завершаным і непарушным выглядзе. Жыццё тут амаль непазбежна ўнясе свае карэктывы і павернецца да кожнага з нас нейкімі новымі гранямі. Не адчуваць і не заўважаць усяго гэтага нельга. Як вынікае з многіх алегарычных коласаўскіх навел, такая легкадумнасць і самазаспакоенасць рана ці позна можа адклікнуцца пэўнымі праявамі негатыву.

З маладым насеннем ліпы (казка-навела «Даль»), якому аднойчы дужа «захацелася кінуць тутэйшы грунт і перабрацца» туды, за гарызонт бачанага, ніякай бяды пакуль што не здарылася. Скарыстаўшы магчымасць задаволіць гэта сваё

жаданне, насенне ліпы было проста здзіўлена, што тая прыцягальная сіняя далеч, якая на адлегласці здавалася накшталт зямнога раю, зблізку паўстала ў іншым, больш празаічным і менш прывабным выглядзе: «Пазірае на ўсё маладое насенне і вачам сваім не верыць: няўжо гэта тыя самыя малюнкі, на якія глядзела яно так нядаўна? А дзе ж іх хараство? Дзе тыя гладкія абрысы, дзе грабяні, што так павабна выглядалі адтуль — з ліпы? А палоскі лясоў? Нават сама рэчка не такая, якою здавалася здалёк. Нейкі неспакой пачынаў агортваць маладое насенне».

Коласаўская казка «Даль» заканчваецца хоць і не на журботнай ноце, але і аптымістычнай гэту танальнасць не назавеш. Відаць, маладому насенню давядзецца прыкласці яшчэ багата духоўных высілкаў, каб усвядоміць, што само жыццё сурова і няўмольна запатрабуе ад кожнага насельніка зямлі ўменне адрозніваць вонкавыя і нярэдка падманлівыя (і заманлівыя) праявы рэальнасці ад яе сапраўднай сутнасці.

Гэта пытанне набывае актуальнае і праблемна-філасофскае гучанне ў такіх казках-навелах, як «Балотны агонь» (1913), «Чыя праўда» (1915), «Што лепей?» (1917), «Адзінокі курган» (1955), «Як птушкі дуб ратавалі» (1955) і інш. На думку Коласа, арыентацыя на ўяўную і падманлівую сваёю вонкаваю зіхоткаю прыгажосцю рэальнасць непажаданая для чалавека заўжды і ўсюды — і ў побытавай і ў быційнай сферы. Аднак асабліва ўважлівым, сканцэнтраваным, аналітычна падрыхтаваным і крытычна настроеным трэба быць, на яго погляд, кожнаму з нас тады, калі чалавек поўніцца жаданнямі як найхутчэй вырвацца з нейкай традыцыйна ўстаялай і не дужа спрыяльнай для яго інтарэсаў сферы і выйсці на новыя шляхі жыцця. У такія часіны эмацыянальных парыванняў і недастаткова выверaных аналітыкай крытычнай думкі жаданняў чалавек нярэдка бывае гатовы наўперад, апрыёры паверыць, што нешта кідкае, шматабяцальнае і зыркае ў сваім вонкавым і плыткім, непрацяглым «свячэнні» з'яўляецца сапраўдным сонечным святлом і зорным бляскам. І трапляе такім чынам у пастку падману і ў палон ілюзорных надзей.

У глыбокім філасофска-эстэтычным ключы асэнсоўваецца гэта пытанне (з разлікам, вядома, на актыўны духоўна-інтэлектуальны ўдзел чытача) у літаратурнай казцы «Адзінокі курган» (1955). Векавечнаму, старому адзінокаму кургану доўгі час здавалася, што ў мігценні далёкай і яркай зоркі, якая даўно трапіла ў поле яго засяроджанай рамантызаванай увагі, увасоблены ідэал найвышэйшай красы, радасці і шчасця. А здарылася, тое, чаго ён ніколі не чакаў. Ад гэтай яркай, зыркай і ва ўспрыманні на вялікай адлегласці такой прыгожай і прыцягальнай зоркі адарваўся такі ж прывабны з вонкавага выгляду «брыльянцісты кавалачак» і ўшчэнт раструшчыў стары векавечны курган, у адно кароткае імгненне пахаваўшы ўсе яго светлыя мары і надзеі. Шматзначным зваротам да чытача прачытваюцца тут у фінале твора такія аўтарскія словы: «Тое, што ты так горача любіў і да чаго так прагна імкнуўся, цябе і загубіла, мой друг стары».

Фінал мастацкага твора, які мы часта тлумачым, аналізуем і разглядаем як падагульняючы этап аўтарскай думкі (дарэчы, і небеспадставна), у дадзеным выпадку хоць і не губляе такой сваёй шмат у чым традыцыйнай асаблівасці, патрабуе ўсё ж больш цеснай спалучанасці з папярэднім рухам сюжэтных ліній гэтай казкі-навелы, каб наблізіцца да яе асноўнай ідэйна-эстэтычнай сутнасці. І тады нельга будзе не заўважыць, што ў фінале гэтага твора сказана толькі пра частку і, відаць, не самую галоўную той матывацыйнай сілы, якая катастрафічна паўплывала на лёс алегарычнага персанажа. Пра асноўную прычыну такога трагічнага выніку аўтар гаворыць нібыта між іншым у самым пачатку казкі: «Год за годам плыў час, праходзілі вякі, мяняўся выгляд зямлі... А курган, нямы сведка вялікіх змен і падзей, што адбываліся на свеце, стаяў, не прымаючы ўдзелу ва ўсіх гэтых праявах, стаяў маўклівы, строгі, замкнёны. За доўгія часы аброс ён густым, шчыльным дзірваном, сатканым з розных травінак, зёлак і кветак».

І вось тады, калі мы суаднясём і параўнаем толькі што працытаваную частку тэкста з фіналам казкі-навелы «Адзінокі курган», нам па-новаму адкрыецца галоўная скіраванасць аўтарскай думкі і нашмат паглыбіцца наша разуменне таго, што загінуў, пацярпеў катастрофу алегарычны персанаж усё ж не таму, што гора-

ча і безаглядна любіў свой ідэал, нязменна верыў у яго, «прагна імкнуўся» трапіць у зону святла далёкай прамяністай зоркі, «бачыў адну яе, толькі пазіраў на яе», а з той прычыны, што ў гэтай сваёй веры і *аднойчы выбраным напрамку сваіх жаданняў, памкненняў, інтарэсаў і ацэнак ён так і застыў у адным вымярэнні, наглуха замкнуўся, ад усяго адасобіўся і «стаяў, не прымаючы ўдзелу» ні ў чым, хоць навокал яго і ў свеце бурліла, кіпела жыццё, адбываліся вялікія змены, «мяняўся выгляд зямлі».*

У многім лейтматыўная думка Якуба Коласа ў «Казках жыцця» пра грамадскія ідэалы і сістэму прыёмаў іх рэалізацыі, як патэнцыяльна рухомую і дынамічную з'яву, мае выключна важнае ідэйна-эстэтычнае і тэарэтыка-метадалагічнае значэнне ў асэнсаванні важнейшых, у многім звернутых і ў наш час праблемных пытанняў і найперш — праблемы, звязанай з разуменнем і вытлумачэннем прынцыповых асноў нацыянальнай ідэі. Ідэя будучыні Беларусі і яе нацыянальна-дзяржаўнага ўладкавання знаходзіцца ў коласаўскіх «Казках жыцця», можна сказаць, на пярэднім плане аўтарскага інтарэсу.

Гэта праблема ў шэрагу сваіх аспектаў і на сённяшні дзень з'яўляецца не менш актуальнай і злабадзённай, чым у тыя гады, калі Янка Купала пісаў свой верш «Будучыня», а Якуб Колас ствараў цыкл алегарычных апавяданняў «Казкі жыцця». Нельга не сказаць і пра тое, што, нягледзячы на шырокі фронт работ у гэтым кірунку і з'яўленне цікавых тэарэтычных аргументацый, «індывідуальны партрэт» і адметны характар нацыянальнай ідэі ў многім маюць яшчэ пункцірны, эскізны характар і нясуць на сабе відавочную адзнаку прыблізнасці. Мастацкі вопыт Якуба Коласа, на наш погляд, мог бы аказаць тут неацэнную дапамогу пісьменнікам, філосафам, сацыёлагам, гісторыкам і наогул усім тым, хто па-сур'ёзнаму зацікаўлены ў заглыбленым асэнсаванні і вывучэнні гэтага складанага і ў многім лёсаноснага для краіны праблемнага пытання.

Чытаючы коласаўскія «Казкі жыцця», заўважаеш, што пісьменнік, прызнаючы неабходнасць апоры на нейкія трывалыя і ўстойлівыя традыцыйныя асновы рэальнасці, у той жа час падкрэслівае, што выхад на больш ці менш аптымальныя варыянты яе пазнання і асэнсавання магчымы толькі тады, калі свае ідэалы, планы і праекты чалавек аналітычна ўзаемазвязвае, карэкціруе і ўдакладняе ў адпаведнасці з няспынным рухам жыцця, яго абнаўленчымі працэсамі і навязной яго прыярытэтных запатрабаванняў. Іншы раз, як сцвярджае аўтар у навеле-казцы «Над прасторамі жыцця» (1927), грамадскія працэсы не тое што прапануюць, а настойліва дыктуюць чалавеку неадкладна ўзяцца за правядзенне сур'ёзнай і бескампраміснай «рэвізіі» свайго ўласнага «погляду на рэчы і на сваё прызначэнне», патрабуюць і абавязваюць вучыцца глыбей звязваць у адно цэлае мэту і магчымасці яе здзяйснення, каб не апынуцца на ўзбочыне рэальнасці ці ў бядотным становішчы.

І тут, як нам здаецца, мастацкая і філасофска-эстэтычная думка Якуба Коласа нярэдка выяўляе палемічную настроенасць у дачыненні да асобных прынцыпаў і палажэнняў марксісцка-ленінскай тэорыі, якая многае з таго, што дэкларавала і высока ўзнімала ў формах вуснага ці друкаванага слова, нярэдка катэгарычна адмаўляла на практыцы. Гэта тэорыя, напрыклад, ледзь не на першы план часта імкнулася вынесці ідэю дынамічнага, няспыннага і зменлівага руху жыцця, падкрэсліваючы, вылучаючы палажэнні, звязаныя з вызначэннем так званай *аб'ектыўнай* і *адноснай ісціны*. Поруч з гэтым звярталася ўвага і на тое, што там, дзе пазнавальная даследчыцкая думка скіроўвае свой інтарэс у заўтрашні дзень і зацікаўлена вырашэннем задач нейкага плана-праекта будучыні, то сам ідэал гэтай будучыні трэба таксама лічыць з'явай рухомай, зменлівай, незавершанай, *альтэрнатыўнай.*

Падобныя думкі і меркаванні не пярэчаць і сённяшнім падыходам да асэнсавання і вызначэння характэрных асаблівасцей ідэалу як рухомай, дынамічнай, зменлівай у сваім развіцці з'явы, веды пра якую ў чалавека не ў малой ступені маюць *адносны*, а іншы раз і цьмяны, прыблізны характар і якая знаходзіцца пад вельмі моцным пераўтваральным трансфармацыйным уплывам жыцця. Менавіта гэту

асаблівасць данай катэгорыі лічыць і яе галоўнай сутнаснай прыкметай «Навейшы філасофскі слоўнік», дзе можна прачытаць наступнае: «Якім бы дасканалым ні здаваўся ідэальны тып (іначай кажучы, ідэал. — **В. Ж.**) нейкай з'явы, ён з'яўляецца часовым, рэлятыўным і непазбежна змяняецца новым (курсіў мой. — **В. Ж.**). Тут жа адзначаецца, што такая вось патэнцыяльна арыентаваная на зменлівасць і абнаўленне асаблівасць кожнай ідэальнай мадэлі на нейкім этапе яе функцыянавання дае падставу для раўнапраўнага існавання і некалькіх іншых, у чымсьці падобных канструкцый. І, як заўважае аўтар артыкула «Ідэальны тып» В. Фурс, разглядаючы гэту праблему, да пэўнага часу неправамерна і «некарэктна ставіць пытанне аб тым, які з іх лепей адпавядае рэчаіснасці». На думку філосафа, «гэта пытанне наогул губляе сэнс: спрэчка паміж імі вырашаецца ў залежнасці ад таго, які ідэальны тып больш прадуктыўна працуе, забяспечваючы прырост навуковых ведаў».

На жаль, у непасрэдных паваротах да жыццёвай практыкі і канкрэтнага вырашэння многіх яе складаных пытанняў марксісцка-ленінская тэорыя такую асаблівасць ідэалу, як бліжэйшую мэту ці звернуты ў далёкую перспектыву пэўны стратэгічны план-праект, часта падавала ў звужана-схематызаваным і палітызаваным плане. Нярэдка многае з таго, што па логіцы рэчаў і ў адпаведнасці з законамі самога жыцця знаходзілася ў рухомым, абнаўленчым, зменлівым стане (а ў дадатак да ўсяго з'яўлялася шмат у чым цьмяным і невыразным у сваіх базавых асновах), гэта тэорыя ўзводзіла на вышэйшую ступень абсалютнай, аб'ектыўнай і неаспрэчнай ісціны.

Вышэйшай фазай у развіцці грамадства і ў пэўным сэнсе апошнім прыпынкам людскога шчасця на зямлі лічылася, як вядома, увасабленне ў жыццё камуністычнай ідэі. І на нейкім этапе маладой савецкай краіны немалая частка людзей, не вельмі абцяжараных аналітычна-філасофскімі роздумамі, глыбока верыла, што станцыя «камуна» і сапраўды той апошні і жаданы прыпынак, дзе трэба сысці і болей нікуды не спяшацца. Гэта сёння нехта ўсміхнецца ці паіранізуе з прычыны аптымістычна-наіўнай трактоўкі камуністычнай будучыні, намаляванай і «спраектаванай» у шырока вядомай у свой час немудрагелістай песеньцы:

Наш паравоз, вперед лети!<br>
В коммуне — остановка.<br>
Другого нет у нас пути,<br>
В руках у нас винтовка.

А былі ж гады, калі гэтыя словы ўспрымаліся многімі людзьмі вялікай краіны як завяршальны, этапны, выніковы рубеж і абсалютнае, поўнае здзяйсненне ўсіх мар і надзей чалавека і чалавецтва.

Не так ужо далёка адышоў ад сённяшняга дня і той час, калі так званая метадалогія сацыялістычнага рэалізму таксама ўхвальна ўзнімалася на самую вышэйшую прыступку эвалюцыі тэарэтычнай і мастацкай думкі. А таму, хто асмельваўся выказваць сумненні, даводзілася дорага за гэта расплачвацца. І нярэдка — уласным жыццём. Ну, а ў лепшым выпадку суровым і бязлітасным ганьбаваннем чалавека. Нават у часы вядомай «хрушчоўскай адлігі», калі ў савецкай краіне сталі адчувацца свежыя павевы духоўнасці і гуманістычнай цярпімасці, сацыялістычны рэалізм як метадалагічная сістэма знаходзіў досыць шырокае кола сваіх прыхільнікаў і абаронцаў, якія па-ранейшаму заклікалі лічыць гэту метадалогію адзіна правільным і вышэйшым этапам у развіцці мастацкай і тэарэтычнай думкі.

У сваіх «Казках жыцця» Якуб Колас, як мы ўжо гаварылі, устрымліваецца ад завышанай патрабавальнасці да чалавека, калі вонкавы збег акалічнасцей складваецца яўна не на яго карысць, каб пераадолець іх пры самым сканцэнтраваным напружанні ўсіх духоўна-маральных і фізічных сіл. Пісьменнік улічвае і прымае пад увагу тое, што далёка не ўсякая чалавечая свядомасць падрыхтавана да аналітычна-абагуленых ацэнак рэчаіснасці і выхаду з складаных жыццёвых перыпетый. Мастацкае слова Коласа звычайна настроена ў такім разе больш на падтрымку, спагаду, паразуменне і пошук пэўных дадатковых рэсурсаў, што маглі б хоць

крыху дапамагчы, паспрыяць і пасадзейнічаць чалавеку, які вольна ці міжвольна трапіў ці можа трапіць у палон нейкіх памылковых поглядаў.

У гэтай нашай гаворцы прыгадваюцца словы вядомага сучаснага філосафа А. Зотава: «Функцыя філасофіі, па сутнасці, тэрапеўтычная: вызваліць чалавека ад пакутлівых пытанняў, на якія не можа быць адказу, або ў тым, каб дапамагчы мусе выблытацца з мухалоўкі». Як нам уяўляецца, мы маем тут падставу ўвесці ў параўнальна-тыпалагічны кантэкст разважанняў знакамітых філосафаў і шэраг без усякага перабольшання глыбокіх і арыгінальных філасофска-эстэтычных разважанняў і меркаванняў Якуба Коласа ў «Казках жыцця» пра магчымасць рэальнай дапамогі чалавеку, які трапіў ці можа трапіць у складаныя і экстрэмальныя жыццёвыя абставіны. Мастацкая думка пісьменніка сапраўды даволі часта бярэ на сябе «тэрапеўтычную функцыю», скіроўвае сваю галоўную лінію на папярэджанне тых учынкаў і дзеянняў, якія чалавек робіць, належным чынам не ўзважыўшы ўсе «за» і «супроць» або недастаткова падрыхтаваны духоўна гэта зрабіць, і таму бывае гатовы паспешліва прыняць на веру нешта ілюзорна-падманлівае за шчырую, высакародную і дапаможную, спрыяльную яму сілу.

Такая з’ява наіўнага, «інсітнага» ўспрымання рэчаіснасці і некрытычнага стаўлення да яе звычайна ніколі не заставалася незаўважанай тымі, хто падобныя недахопы духоўнай недаспеласці чалавека ці проста залішняй яго даверлівасці не супроць выкарыстаць у сваіх вузка асабістых інтарэсах. Усё гэта, як відаць, Коласа вельмі хвалявала, непакоіла і знаходзіла ў «Казках жыцця» самыя разнастайныя сюжэтныя павароты. Нярэдка і з цяжкім, сумным і драматычным фіналам.

У казцы «Купальскія светлякі» (1925) усё заканчваецца нібыта добра. Фінал тут, як кажуць, шчаслівы. Чалавек, які працяглы час імкнуўся да свайго ідэалу, не збіўся з дарогі і, як гаворыць аўтар, «усё ж такі знайшоў кветку папараці». І на падман тут ніхто не паддаўся, хоць намаганні ў гэтым напрамку былі зроблены немалыя, пра што сведчыць і сюжэт твора.

Нейкі малапрыкметны з выгляду, але з амбіцыйнымі намерамі жучок-светлячок імкнецца пераканаць тут сваю «жучыную кампанію» ў тым, што менавіта яны, купальскія светлякі-аднадзёнкі, з’яўляюцца вышэйшымі формамі жыцця на зямлі і ўвасабленнем самага прамяністага і яркага святла-сонца. А калі раптам некаму гэта здасца няпраўдай, то на падобную людскую някемнасць і абмежаванасць не трэба, маўляў, звяртаць ніякай увагі і працягваць заставацца цвёрда ўпэўненымі ў сваёй вялікасці. Паслухаем, аднак, гэтага саманадзейнага аратара, які вылузваецца, выпінаецца з усіх сіл, каб толькі пачулі яго «красамоўства», а значыць, пайшлі за ім і прызналі яго верхавенства: «Ёсць многа на свеце агнёў, але яны аджылі свой час. Жыццё не стаіць на месцы, як казаў — вы чулі самі — і гэты дуб, і агонь павінен перайсці ў іншыя формы. Такімі формамі з’яўляемся мы, чуеце, жучкі? Мы!.. І што такое зоры ў параўнанні з нашымі агнямі? Бляск гнілякоў, балотны агонь!.. Або звярніце ўвагу — я не саромеюся сказаць гэта — на мой агонь: гэта адна, адна чыстая паэзія, паэзія вышэйшага гатунку! Вось што такое нашы агні... Мы ствараем новае хараство агнёў, у гэтым стварэнні мы адчуваем радасць. А нам — цьфу на сонца, на зоры, на месяц, на купальскія агні, што пазапальваны па лесе ў гэтую ноч. Каля іх сялянская дурнота спраўляе свае танцы. *Мы ж самі — сонца, зоры, месяц*» (курсіў мой. — **В. Ж.**).

Узнёслы, падманлівы пафас гэтай прамовы жучка-светлячка нікога, аднак, з яе слухачоў не захапіў. Людзі, паводле слоў аўтара, маглі слухаць і іранічна пасмейвацца з пахвальбы жучка-светлячка, але шлях у жыцці імкнуліся вызначаць па іншых, больш пэўных і надзейных арыенцірах: уважліва і ўдумліва *«пазіралі на зоры і па іх знаходзілі дарогу»* (курсіў мой. — **В. Ж.**).

У дадзеным выпадку тая сіла, што з’яўляецца ўвасабленнем і носьбітам ілюзій, утопій і заклікаў «у нікуды», не прайшла. На яе шляху паўстала актыўная і дзейсная духоўна-інтэлектуальная сістэма супроцьдзеянняў. Аднак дастаткова бывае ледзь-ледзь паслабіць такое супроцьдзеянне, як паказвае пісьменнік у шэрагу іншых сваіх твораў, і лакуна адразу ж запаўняецца. А той, хто павінен быў бы

трымацца нібыта надалей ад першых роляў у жыцці, нечакана-негадана выплывае на паверхню грамадскіх падзей, прапаноўвае свае паслугі «выратавальніка» ад усіх бедаў і няшчасцяў і нярэдка пачынае камандаваць і верхаводзіць.

З падобнай з'явай мы якраз і сустракаемся ў казцы «Цвіркун» (1955), напісанай Коласам напрыканцы жыцця. Сюжэт гэтага твора просты, аднак нясе глыбокую маральна-дыдактычную ідэю, асноўную сутнасць якой коратка можна было б сфармуляваць так: большасць сумленных людзей у сваёй душы звычайна асуджаюць розных выскачак і ахвотнікаў заняць не адпаведнае іх духоўна-інтэлектуальнаму патэнцыялу месца ў грамадскім жыцці, і ў той жа час гэтыя людзі нярэдка самі ж не вельмі задумваюцца пра вынікі, патураюць іх неспатольным амбіцыям. Пры гэтым не заўсёды надаюць значэнне якраз тым дэталям, што з першага погляду могуць здавацца дробязямі, але потым такія дробязі неаднойчы паварочваліся зусім іншым і далёка не дробязным бокам.

Казка-навела «Цвіркун», як і іншыя творы гэтага цыкла, дапускае розныя падыходы да яе трактоўкі. Аднак непажадана, як нам уяўляецца, выпускаць з-пад увагі думку, якая не вельмі прыкметна выяўляе сябе звонку сюжэтнай арганізацыі твора, але ў многім з'яўляецца ключавым звяном яго падтэксту. Паводле меркаванняў І. Я. Навуменкі, у названай казцы «пісьменнік нават не хавае намеру расказаць пра чалавека, якому незаслужаная слава ўскружыла галаву і які ў выніку хвалебных гімнаў у свой адрас страціў сувязь з тым асяроддзем, дзе ён быў сапраўды на месцы, быў патрэбен». З гэтымі словамі трэба пагадзіцца. Хацелася б толькі дадаць і сказаць, што ідэя коласаўскай казкі нясе ў сабе і яшчэ адзін вельмі важны, а можа, у нейкай ступені і дамінантны момант у разуменні і выяўленні галоўнай сэнсавай асновы твора.

Сапраўды, у казцы «Цвіркун» аўтар далёкі ад сімпатый да чалавека, які схільны да самаўзвелічэння і які не хоча, не жадае ці не ўмее, не здольны адрозніваць кампліментарнае, жартаўлівае, гумарыстычнае слова ад яго рэальнага сэнсу. І тое, што нехта, як той сімволіка-алегарычны цвіркун, вельмі лёгка паверыў у сваю вялікасць і выключнасць, у першую чаргу і адпаведным чынам, вядома, атэстуе і характарызуе самога гэтага персанажа. Але варта звярнуць тут увагу і на вонкавыя, пабочныя сілы дэтэрмінацыі і, у прыватнасці, на тыя ўздзеянні, што з'явіліся першым штуршком і сталіся фактычнай першапрычынай не ў меру завышанай цвіркуновай самаацэнкі. А такой першапрычынай, як заўважае аўтар, стаў *вецер*. Нібыта між іншым, але насамрэч імкнучыся расшырыць і паглыбіць падтэкставае значэнне выказанай думкі, пісьменнік самой танальнасцю мастацка-вобразнага слова падкрэслівае, што гэты алегарычны персанаж карыстаецца немалым аўтарытэтам і займае ў прыродным асяродку адметнае і ў пэўным сэнсе лідэрскае месца. Бо тыя некалькі мімаходзь кінутых кампліментарных, гумарыстычна афарбаваных слоў, з чаго тут і пачалося штучнае ўзвелічэнне, услаўленне звычайнага, ды яшчэ з вялікімі амбіцыямі шараговага чалавека, сказаў, як адзначае аўтар, *«не хто-небудзь, а сам вецер»* (курсіў мой. — **В. Ж.**). І ніхто яму не запярэчыў, нікому не прыйшло ў галаву ўсумніцца ці выказаць іншае меркаванне.

Такія з'явы ў жыцці, калі нехта, знаходзячыся на больш высокай ступені службовай іерархічнай лесвіцы ў грамадстве, самачынна прысвойвае сабе права валодання ісцінай у найболын поўным яе выяўленні, як можна здагадвацца, вельмі хвалявалі і непакоілі Коласа. І гэта быў непакой пісьменніка за лёс самой ісціны, якая ў жорстка замкнёных межах яе разумення і трактоўкі толькі адною, хай сабе і з адпаведнымі лідэрскімі здольнасцямі асобаю, часта нясе ў сабе небяспеку быць у чымсьці няпоўнай, недакладнай і схематычнай. У падтрымку такога меркавання нашага класіка, відаць, не лішнім будзе спаслацца на выказванне вядомага рускага літаратуразнаўца і філосафа М. Бахціна: «...Усякая ідэя жыве не ў ізаляванай свядомасці чалавека — застаючыся толькі ў ёй, яна выраджаецца». Гэтым самым ён сцвярджае, што ніхто не мае на гэтай зямлі падстаў прэтэндаваць на абсалютную паўнату і дакладнасць сваіх вывадаў, ацэнак, меркаванняў як цалкам прыдатнай на ўсе часы гатовай і непахіснай ісціны.

У многіх творах Якуба Коласа (і не толькі ў «Казках жыцця») падобныя пытанні часта становяцца важнейшымі лейтматыўнымі сюжэтнымі лініямі, за праблемны напрамак якіх звычайна «адказвае» галоўны герой твора. Аднак, выконваючы цэнтральную мастацкую функцыю і беручы на сябе асэнсаванне і вырашэнне найбольш цяжкіх і складаных задач, такія героі ў пераважнай большасці коласаўскіх твораў з'яўляюцца, гаворачы моваю метафары, адкрытай і талерантнай дэмакратычнай сістэмай у адносінах да бліжэйшай і больш аддаленай перыферыі — персанажаў другога плана і другарадных, не абмінаючы і не адштурхоўваючы ад сябе і слова нязгоды, пярэчання і дыскусійна-палемічную думку.

Тут варта нават заўважыць, што *«цэнтр» у творах Коласа нясе ў сабе энергію больш устойлівых і глыбокіх жаданняў і імкненняў духоўнага дыялога з «перыферыяй», чым сама гэта перыферыя»,* бо іншы раз нібыта і зусім слабыя яе галасы чуйна ўлаўліваюцца, пераасэнсоўваюцца, трансфармуюцца цэнтрам і нярэдка надаюць яму нешта істотна важнае, а часам і канцэптуальна новае. У коласаўскім разуменні галоўны герой і мае права на лідэрскую ролю найперш пры той умове, калі ён, апрача ўсяго, паставіўшы мэту сказаць людзям нейкае новае слова ці ўнесці ў жыццё абнаўленчага характару карэктывы, здольны нязменна і пастаянна карэкціраваць і духоўна абнаўляць самога сябе і самога сябе стымуляваць на сустрэчу з вопытам кагосьці *іншага.* У інакшым выпадку ўсякія памкненні і прэтэнзіі чалавека на лідэрскую ролю з'яўляюцца, на думку пісьменніка, неправамернымі.

Характрэныя ў гэтым сэнсе дзве такія навелы-казкі, як «На ўсё ёсць прычына» (1927) і «Як птушкі дуб ратавалі» (1955). Галоўнымі, цэнтральнымі персанажамі тут, як напрыклад, у тых жа трылогіі «На ростанях» ці паэме «Сымон-музыка» з'яўляюцца інтэлігенты. Але гэта іншая асаблівасць і ментальнасць інтэлігентнасці. І зусім іншае разуменне імі сваёй лідэрскай функцыі. Калі ў трылогіі «На ростанях» цэнтральны герой, бы той магніт, няспынна прыцягвае, трансфармуе і перапрацоўвае чужы вопыт, духоўна-інтэлектуальны пантэцыял навакольнага асяроддзя, каб з новымі сіламі выйсці насустрач жыццёвым запатрабаванням, то ў названых навелах-казках «На ўсё ёсць прычына» і «Як птушкі дуб ратавалі» інтэлігент не выяўляе фактычна аніякага жадання прыслухоўвацца да голасу кагосьці іншага. Бо лічыць, што ён сам нясе ў сабе ўсю паўнату ісціны ў вышэйшых адзнаках і формах яе аб'ектыўнасці.

Адзін з такіх алегарычных персанажаў казкі «На ўсё ёсць прычына» крумкач, якога імянуюць «прафесарам» ці нават «акадэмікам» (ды і сам ён, паводле слоў аўтара, зусім не супраць, «каб падтрымаць сваю рэпутацыю вучонага»), без асаблівых ваганняў і залішняй сціпласці заўважае, што ў абмеркаванні дыскусійнага і трывожнага для многіх пытання: «Чаму гарыць балота, нягледзячы ні на якія перашкоды?» — трэба поўнасцю даверыцца толькі яму і нікому іншаму. Ну і даверыліся, хоць у некага і былі сур'ёзныя сумненні наконт меркаванняў і рэкамендацый «прафесара» крумкача як прадухіліць бяду на выпадак вялікага пажару. Нехта нават у рэзкай форме адважыўся сказаць, што «крумкач — дурак». І якраз тыя, хто сумняваўся ці прапаноўваў разглядаць пытанне ў альтэрнатыўным плане, аказаліся ў сваіх меркаваннях і прадказаннях больш пераканальнымі і дакладнымі, чым «прафесар» крумкач.

Канешне, гэта ніякім чынам не зніжае планку высокай ацэнкі ні ў гэтым ні ў шмат якіх іншых коласаўскіх творах інтэлігенцыі як дзейснай, уплывовай і ў многім лідэрскай духоўна-інтэлектуальнай грамадскай сілы. Аднак пісьменнік на працягу ўсяго свайго творчага жыцця ў літаратуры заставаўся глыбока пераканааны ў тым, што аб усім ведае не нехта адзін, а ўсе і што там, дзе нейкая праблема на пэўным этапе заключае ў сабе многаварыянтнасць і альтэрнатыўнасць падыходаў да яе асвятлення і вырашэння, кожны голас набывае асабліва важную аргументацыйную каштоўнасць і павінен быць пачуты, улічаны і ўважліва прааналізаваны. Бо менавіта адзін такі голас, іншы раз быццам бы і сапраўды далёкі ці далекаваты ад цэнтральных праблемных ліній жыцця, здольны бывае ўнесці вельмі сур'ёзнае ўдакладненне і павярнуць ход думкі і канкрэтнай справы ў іншае рэчышча.

Мадэлюючы такія сітуацыі, Якуб Колас звычайна не скупіўся на пашырэнне мастацкай прасторы эпічнасці ў сваіх творах, «упаўнаважваючы» на пэўны час *негалоўных* герояў браць на сябе тыя функцыі, што пераважна знаходзіліся ў сферы кампетэнцыі *галоўных*. А ў некаторых творах пісьменніка мяжа паміж галоўнымі і негалоўнымі героямі амаль што сціраецца ды, можна нават сказаць, адсутнічае. І робіцца гэта, відаць, з мэтай зноў жа буйным планам вылучыць, падкрэсліць і завастрыць асаблівую ўвагу на тым, што пэўную, падчас, можа, маленькую, мізэрную, але ўсё ж важную і неабходную часцінку здаровага сэнсу для разумення нейкіх аспектаў ісціны нясе ў сабе бадай што кожны чалавек на зямлі.

На такой падкрэслена плюралістычнай і дыялагічнай аснове ўзаемадапаўняльнасці разных галасоў будуецца, напрыклад, сюжэт навелы-казкі «Што яны страцілі». Галоўных герояў, як іх разумее літаратуразнаўчая навука, тут няма. У абмеркаванні таго або іншага пытання дамінуе прынцып абсалютнага раўнапраўя. Выказаная кімсьці думка дапаўняецца іншым голасам, а ў сваю чаргу той голас з'яўляецца імпульсам, каб нехта іншы зрабіў пэўны дадатак, выказаў свой пункт погляду. Алегарычныя персанажы вядуць тут дыскусію на адвечную тэму аб вызначэнні ідэалу шчасця. І, як выяўляецца, кожны з іх бачыць і тлумачыць гэты ідэал па-свойму. Для кагосьці само жыццё і ёсць «самае большае шчасце на зямлі!» Некаму іншаму здаецца, што большага не можа быць шчасця, як адчуваць кожны момант, што ты вольны, можаш рабіць, што захочаш, можаш ляцець, куды табе зажадаецца. Выказваецца і шэраг іншых думак і меркаванняў, а ўзнятае пытанне застаецца ў многім адкрытым, хоць у асэнсаванні і вытлумачэнні яго былі прыкладзены вялікія намаганні.

«Казкі жыцця» Якуба Коласа перасцерагалі свайго сучасніка ад аптымістычна-утапічных уяўленняў аб навакольнай нацыянальнай рэальнасці і яе суіснаванні ў сусветным агульналюдскім кантэксце. Гэтыя творы, з'яўляючыся адметным і высокамастацкім літаратурным словам, запраграмаваны і на выкананне функцыі своеасаблівага папярэджання, бар'ера на шляху грамадска-палітычнай кан'юнктуры, якая часта ўнушала простаму чалавеку ружовую думку-ілюзію, што вялікія, цяжкія і складаныя праблемы можна адолець малымі сіламі і хуткімі тэмпамі. Пра многае гаворыць універсальна-глыбокая коласаўская думка, увасобленая ў сімваліка-алегарычную форму, і чалавеку нашага часу, дзе відавочныя і сур'ёзныя дасягненні тэхнічнага і камп'ютэрна-інавацыйнага прагрэсу нярэдка зусім блізка мяжуюць са спрошчанай і тэндэнцыйна прадузятай схемай міфалагізацыі жыццёвых працэсаў. Дарэчы тут будзе спаслацца на аўтара грунтоўнай і цікавай кнігі «Міфалогія. Нарысы» (2000) Т. І. Шамякіну: «Як быццам у XX стагоддзі павінен панаваць навуковы тып мыслення. Аднак на самай справе міфалагічны працягвае дзейнічаць і сёння. Толькі гэта ўжо не тлумачэнне прыроды, а зусім іншыя міфы. Большасць сучасных міфаў — палітычныя, сацыяльныя (напрыклад, колькі гадоў мы жылі з міфам пра светлую камуністычную будучыню, пра «правадыра ўсіх працоўных свету» — Леніна, пра «бацьку народаў» — Сталіна). І сёння большая частка насельніцтва — ва ўладзе міфаў, якія ўнушаюцца нам сродкамі масавай інфармацыі. Як ні дзіўна, існуе мноства міфаў, што ўбіваюцца ў галовы людзей яшчэ з маленства — астранамічных, біялагічных, гістарычных і г. д. І ім верацъ».

Працягваючы гэту думку, можна было б сказаць, што Якуб Колас у сімваліка-алегарычных «Казках жыцця» не настройвае чытача на песімізм і бязвер'е. Гэтыя творы прасякнуты глыбокай, узвышанай і светлай верай у жыццё і чалавека. Але пісьменнік вельмі хацеў бы, каб тое, у што чалавеку вельмі хочацца верыць, ён сур'ёзна і грунтоўна ўзважыў, прааналізаваў і падумаў, куды ён ідзе і куды яго клічуць ісці.



Ігар ШАЛАДОНАЎ

# ВЫПРАБАВАННЕ НА ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ

*(паводле апавяданняў Якуба Коласа 1920-х гадоў)*

Дваццатыя гады былі, бадай, самым плённым перыядам творчасці Я. Коласа. Менавіта яны сталі вызначальным момантам у мастацкай рэалізацыі пісьменнікам маштабнасці, грандыёзнасці рэвалюцыйных змен сацыяльнай рэчаіснасці. Мастак слова адразу зразумеў, што падзеі 1917 года шмат у чым прадвызначылі лёс народа і існавання кожнай асобы. Аднак узвышанасць і пафаснасць гэтага пералому быційнага ўкладу набывала ў яго вачах хутчэй драматычна-трагедыйны, чым пафасна-гераічны характар, бо грунтавалася на рэалізме прадбачання сапраўднай цаны гэтых перамен. Пісьменнік заўважаў, як галоўным арыенцірам для тых, хто стаў спарышом-стваральнікам экстраардынарнай сітуацыі, сталі не мэты, а сродкі — рэвалюцыйнае і контррэвалюцыйнае насілле, класавая нянавісць.

Доўгі час лічылася, што рэвалюцыйная тэма ў паслякастрычніцкі перыяд празаічнай творчасці Я. Коласа загучала ў 1921 годзе, з часу публікацыі апавядання «Хаім Рыбс», а затым двух вызначальных для рэвалюцыйнай тэматыкі твораў «Сяргей Карага» і «Крывавы вір» (1923 г.). Нам жа думаецца, што метафізічная напружанасць паслярэвалюцыйнага перыяду патрабуе найпершаснага звароту да мэтавай, сутнаснай устаноўкі: чалавек — гэта гучыць годна. Зыходзячы з дадзенай пасылкі, трэба першасную ўвагу звярнуць на апавяданне «Стары канакрад», якое было ўпершыню надрукавана ў 1918 годзе ў часопісе «Зажынкі» і мела падзагаловак «З турэмнага жыцця». Прытым падзагаловак адыгрывае тут надзвычай істотную ролю, бо фарміруе і акумуліруе важнейшую канцэптуальную формулу-лозунг рэвалюцыйнай Расіі: Расійская імперыя — турма народаў. Такі шырокі падтэкставы аспект у мастацкай прасторы малога апавядальнага жанру аўтар звязвае і замыкае на глыбінна-абвостраных пытаннях чалавечага быцця. У чым выяўляецца сутнасная прырода Чалавека? Што такое страх? На чым трымаюцца асноватворныя прынцыпы праўды: на пісанай літары закону ці няпісаных законах духоўнасці чалавека? Праз вобраз галоўнага героя апавядання старога канакрада Петруся Ігнатовіча, па мянушцы Чарнамор, мы нібыта пад мікраскопам пазнаём, дзякуючы аўтарскаму псіхалагічнаму аналізу, складаны ўнутраны свет чалавека, яго непрадказальную ўчынкава-дзейсную матывацыю. Я. Колас з першага радка прымушае нас пільна ўглядвацца ў драбнейшыя змены ўнутраных і знешніх праяў героя. «Я надта добра помню, як ён увайшоў першы раз у нашу камеру», — пачынае твор пісьменнік. А далей ідзе партрэтная характарыстыка героя.

Апавядальніка вельмі здзіўляюць, напрыклад, метамарфозы, якія занадта ўжо хутка адбываюцца ў паводзінах Петруся Ігнатовіча: «Цяпер у ім трудна было пазнаць ранейшага Чарнамора, прыбітага, няшчаснага, выглядаўшага такім казанскім сіратою, якому, здавалася, да смерці тры чвэрці. Цяпер ён... важна хадзіў... са швабраю на плячах, стаўшы калідоршчыкам, і якога ўжо сталі зваць Петрусём Ігнатовічам». Злодзей-рэцэдывіст хутка становіцца цэнтральнай фігурай турмы і знаходзіць у гэтым радасць жыцця. Даволі часта мы бачым яго вясёлыя вочы і чуем вясёлы смех. Пісьменніку важна ўведаць паднаготную душы чалавека, які, маючы гаспадарку, ладны кавалак зямлі, не перастае красці, знаходзіць у гэтай спрадвеку асуджаемай людзьмі і законамі справе асалоду. На пытанне: — А ты кінеш красці, як выйдзеш на волю? — адказвае адцягнена: — Думаеш, красці лёгка?.. Няма цяпер тое сілы, даўнейшага руху... Пры гэтым ён яшчэ ніжэй апусціў

галаву і ўздыхнуў. У гэтым уздыху чулася журба чалавека па страчаных гадах, а не раскаянне ў сваіх учынках». Я. Колас падае нам героя, які кіруецца страсцямі і пачуццямі ў ніжэйшай якасці іх праяў. Такія людзі, кандэнсуючы ў сабе магутны зарад стыхійнай энергіі пачуццяў, звычайна вызваляюцца ад яе ў нематываваных, ірацыянальных учынках. Аўтар як бы папярэджвае сваіх сучаснікаў, на нейкі момант захопленых такімі гістарычнымі выбухамі, пра небяспеку нематываваных, падсвядомых сіл чалавека, якія імкнуцца вырвацца на волю з-пад кантролю духоўнага і прававога поля чалавечнасці.

У апавяданні «Стары канакрад» пераплецены дзве роўнавызначальныя ідэі, якія характэрны для любога пераходнага моманту гісторыі — ідэя непрыняцця ўбоства жыцця і ідэя засцярогі ад прарыву джына чорных сіл разбурэння, здольных расхістаць духоўныя скрэпы чалавечага існавання. Я. Колас добра ўсведамляў, што рэвалюцыя — у пэўным сэнсе неабходная з'ява жыцця, якая абнаўляе быццё, спіхвае яго з банальных, плаўных шляхоў эвалюцыі, застою, нерухомасці. Яна нярэдка з'яўляецца стымулам для абнаўлення рэчаіснасці і стварэння новых форм. Але ў ёй схаваны універсальны закон узаемадапаўняльнасці — рэвалюцыя-эвалюцыя.

Згаданая думка знаходзіць выразны адбітак у дакастрычніцкай прозе Я. Коласа. Прыгадаем хоць бы апавяданне-алегорыю «Жывая вада», напісанае ў 1906 годзе. Пісьменнік успрымаў рэвалюцыю як адміранне старога, аджыўшага, непрадуктыўнага стану рэчаў і адносін. Аднак сваім удумлівым стэрэаскапічным позіркам пісьменнік-мысляр не мог не бачыць таго, што ўзровень духоўнасці народнага жыцця і шматлікія гістарычныя перашкоды ў існаванні роднага краю наўрад ці дазволяць хуткім, радыкальна-рэвалюцыйным шляхам усё перайначыць на новы лад і дасягнуць высакародных мэт. Больш таго, яму, глыбокаму знаўцу народнай псіхалогіі, хутка стала зразумелым тое, што новыя змены нярэдка спрыялі не паглыбленню, а паніжэнню маральна-этычнага патэнцыялу народа. Як мастак-псіхолаг ён канстатаваў факт трагічнага сімбіёзу-феномену «псіхалогіі» нізкіх матываў з феноменам «ідэалогіі» выхалашчаных гуманістычных мэт. У свядомасці людзей старыя звычкі маюць моцныя карані псіхафізічнай устойлівасці, і калі адна з ідэалогій напорыста змяняе іншую, чалавеку бывае не пад сілу хутка змяніць сябе і сваю прыроду. І тады ў яго характары часам адбываюцца трагічныя працэсы адмаўлення ад свайго «я», імітацыі, прыстасавання, хаця чалавек быццам бы і захоўвае ўсе папярэднія жыццёвыя ўяўленні.

Працэс чалавечай мімікрыі ці супраціўленне ёй, калі новы сімбіёз свядомасці паступова стане вызначаць дамінантную асаблівасць менталітэту цэлага пакалення, становіцца і асновай даследавання зменлівых рэалій жыцця ў творчасці Я. Коласа.

Апавяданне «Хаім Рыбс» (1921 г.) фактычна пачынае распрацоўку тэматыкі, звязанай з вымываннем духоўна-маральнага «азону» грамадскага жыцця ва ўмовах сацыяльных і палітычных змен у краіне. Аўтар тут быццам бы жадае паслабіць трагічна-іранічную настраёвасць і завостранасць твора праз прыём гумарыстычна-камічных сітуацый. Сам жа пісьменнік разлічваў на тое, што ўдумлівы чытач здагадаецца: галоўнаму герою Хаіму Рыбсу зусім не да смеху. І гэта, нягледзячы на тое, што пісьменнік завяршае твор такім сказам: «Хаім Рыбс успамінае ўсё гэта са смехам і любіць апавядаць, як ён быў квартальным».

Апавяданне «Хаім Рыбс» мае гістарычную абумоўленасць. Напісанае ў 1921 годзе, яно ў пэўным сэнсе выражала перадавы погляд на палітычна-эканамічнае жыццё краіны. НЭП рабіўся палітыкай кіраўніцтва краіны. Само жыццё абумовіла гэтыя новыя перамены і выявіла заганы пераносу метадаў ваеннага часу на эканамічнае будаўніцтва гаспадаркі ў мірны час. Я. Колас з уласцівым яму гумарам і ironiяй, з маральнай завостранасцю супрацьстаяння розных поглядаў на жыццё паказвае гэты паліфанічны працэс разумення новага ў жыцці. Твор шмат у чым пераклікаецца па сваёй сатырычнай накіраванасці з дарэвалюцыйным апавяданнем аўтара «Соцкі падвёў». Але ёсць тут і важная адметнасць: «Хаім Рыбс» вызначаецца большай псіхалагічнай і маральнай паглыбленасцю канфлікту.

У апавяданні «Хаім Рыбс» пісьменнік асуджае і выкрывае тыя метады кіравання, якія ператвараюць чалавека ў вінцік вельмі жорсткага механізму ўлады,

знішчаюць у ім пачуццё годнасці і самакаштоўнасці. Маральная завостранасць твора раскрыта ў канфлікце старога крамніка Хаіма Рыбса, які мае высокае пачуццё асабістага гонару і чалавечай павагі да людзей, з прадстаўнікамі ўлады, якім гэтых якасцей часта бракуе.

Аб тым, як зняважліва паставіліся да старога Хаіма, мы даведваемся ў самым пачатку апавядання: «Хаіма Рыбса выбралі завочна на гэту (квартальнага. — **І. Ш.**) пасаду. Што гэта была за пасада адразу і сам Хаім Рыбс не мог сабе растлумачыць». Такая няўвага да асобы чалавека, да яго думкі, яго гонару выклікае ў ім пачуццё гневу і крыўды. Гэта заканамерная рэакцыя чалавека, і аўтар іранічна і тонка падкрэслівае гэты момант.

Невыпадкова, што пры такім стаўленні да чалавека і да «ўскладзеных грамадой» на яго плечы абавязкаў ён адносіцца досыць абыякава. Хаім думае не аб тым, каб замацавацца на гэтай пасадзе, а пастанавіў «цвёрда змагацца, каб адкаснуцца ад свайго квартальніцтва» пасля знаёмства з першай атрыманай паперкай з воласці. А што гэтаму паспрыяла, мы можам здагадацца, прыгледзеўшыся да рэакцыі Рыбса ў час чытання дадзенай паперы: «Па меры таго, як чытаў Хаім Рыбс атрыманую паперу, твар яго змяняўся, бровы ссоўваліся ніжэй, вочы рабіліся злымі і, здаецца, самі сабой ускідаліся плечы». Недарэчнасць, некампетэнтнасць многіх загадаў і інструкцый не толькі адбівала ахвоту працаваць на пасадзе «квартальнага», але і прымушала чалавека (што горш за ўсё) прыстасоўвацца да гэтай заганнай сістэмы кіравання гаспадаркай і людзьмі. Шкоднасць такой з'явы паглыблялася яшчэ і тым, што людзі, якія выдавалі пастановы, не мелі ніякага ўяўлення пра сапраўдны стан рэчаў. Яны самі рабіліся заложнікамі сваіх загадаў; пісалі іх і праз акуляры такіх інструкцый глядзелі на жыццё. Вось чаму стары крамнік не паварухнуў, як кажуць, і пальцам, каб зрабіць хоць што-небудзь для сцвярджэння такіх парадкаў і стаў усялякімі хітрыкамі ўсіх пераконваць, што пасада квартальнага не для яго.

Гэта адмаўленне ад «квартальніцтва» з'яўляецца ў творы ўдалым прыёмам адмаўлення галоўнага — адмаўлення і выкрывання заганаў грубых метадаў кіравання. Чым больш імкнецца пазбавіцца ад сваёй пасады Рыбс, тым больш ярка акрэсліваецца маральная заганнасць кіруючых работнікаў.

Прасочым, як у дыялогу Рыбса з першым кліентам, маладым упаўнаважаным, паказана грубасць, фанабэрлівасць і нетактоўнасць апошняга.

«— Дык будзе падвода? Каб быць пэўным.

— А вы лепш зрабілі б, калі пайшлі пехатой. Гэта было б хутчэй.

— Не ваша гэта справа, як будзе хутчэй... Я патрабую падводу, і вы назначце яе. Праз пятнаццаць хвілін, каб мне была падвода! Вось мой мандат».

Паказальна яшчэ і тое, што кожны з гэтых праваднікоў новай улады лічыў сваю пастанову ці загад надзвычайнымі, экстраннымі і пагражаў за невыкананне рэвалюцыйным судом, ствараючы тым самым атмасферу агульнага страху, зацятасці, бяздумнасці. Таму Хаім Рыбс з разгубленасцю бярэцца за навязаную яму справу: «Прачытаўшы паперы, Хаім палажыў іх на паліцу і задумаўся. З чаго тут пачаць? Выслаць пяць падвод вазіць дровы. А дзе іх узяць? Ні аднае жывёлы няма дома: час рабочы, усе коні на полі... Станцыя патрабавала выслаць дваццаць пяць чалавек нагружаць вагоны. Адкуль жа ўзяць гэтулькі народу? Хто паслухае і хто пойдзе?».

Пытанні накшталт «Хто паслухае і хто пойдзе?», што ставіць перад сабой Рыбс, для мясцовага кіраўніцтва проста не існуюць. Для начальнікаў існуе толькі загад і сіла. Але ж гэта не вайна, і сяляне — не салдаты, а мірныя людзі, кожны са сваімі інтарэсамі, праблемамі і імкненнямі да лепшага ўладкавання ў жыцці. Сама логіка рэальнасці патрабуе далікатнага, цярплівага, удумлівага падыходу да разумення гэтых людзей. Якраз гэта і пайшло б на карысць не толькі агульнай грамадскай справе, а і саміх сялян, пра лёс якіх, здавалася б, так клапоцяцца праваднікі новай улады. Вось чаму такім сарказмам прасякнуты дыялог Рыбса з адным з прадстаўнікоў улады:

«— Маўчы. У гэтую ж хвіліну назначыць рабочых! Колькі даць міліцыянераў?

— Дваццаць пяць рабочых — дваццаць пяць міліцыянераў, — спакойна адказаў Рыбс.

— Да ты што? Насміхацца?!

— Іначай я не бяруся выслаць рабочых, — цвёрда заявіў Рыбс.

— На кожнага рабочага трэба па салдату; дваццаць пяць рабочых — дваццаць пяць міліцыянераў».

Настроенасць Хаіма Рыбса не ісці на змову з абставінамі, не прыстасоўвацца, захаваць сваю чалавечую годнасць вынікае з яго глыбінных духоўных якасцей. Пражыўшы доўгі век, ён заслужыў павагу да самога сябе і патрабаваў павагі да іншых. І не трэба думаць, што стары крамнік супраціўляецца савецкай уладзе. Гэта не так, ён добра бачыць тыя карысныя змены, якія яна прынесла мясцовым людзям, дала ім права адстойваць справядлівасць да сябе і іншых, бо нават у турме, апынуўшыся там за сабатаж, падвыпіўшы, Хаім паводзіць сябе досыць смела: «— Таварышы! — гукнуў Хаім Рыбс, — мяне пасадзілі сюды за вас, бо я стаяў на варце вашых інтарэсаў. Няхай мяне садзяць кожны дзень, я не пайду супраць свайго народу, не пашлю яго на работу».

Крамнік выступае супраць жорсткіх і грубых чыноўнікаў, якія дыскрэдытуюць новую ўладу. Ён супрацьстаіць заганным памкненням, якія нівеліруюць чалавечую вартасць асобы, робяць яе паслухмяным выканаўцам волі інструкцый, што вядзе да вялікіх маральных страт.

У сваім аналізе апавядання «Хаім Рыбс» І. Чыгрын піша: «Пры ўсім тым грамадзянская пазіцыя Рыбса застаецца даволі невыразнай. Чытач не памыліцца, калі скажа, што паважаны крамнік мястэчка Новы Стан яшчэ даволі цвёрда стаіць, так сказаць, паміж мінулым і сучасным».

Невядома, а чым жа яшчэ пацвердзіць выразнасць грамадзянскай пазіцыі, калі не абаронай спрадвечных маральных якасцей чалавечага жыцця, нежаданнем паддавацца «двайной маралі», супраціўленнем амаралізму татальна-бяздушнай улады, па меры магчымасцей змаганнем з прыстасавальніцтвам і няпраўдай. Іншая справа, што асоба Хаіма Рыбса хоць і ўяўляе пэўную сілу ў сваёй выкрывальнай скіраванасці, але вельмі яшчэ слабую сілу, каб супрацьстаяць, а тым больш перамагчы цынічны націск дзяржаўна-адміністратыўнага монстра.

Колас усё-такі знаходзіць магчымасць паказаць тую акалічнасць, што без належнага гуманістычнага стаўлення да чалавечай душы нельга разлічваць на эфектыўны паварот у практычных сферах жыцця.

Ён глыбока перакананы, што занядбанне спрадвечных народных асноў маралі падразае крылы самым высакародным мэтам, ідэалам і жаданням, стварае тупіковыя сітуацыі, штурхае чалавека на шлях няшчырасці, несумленнасці пры вырашэнні тых або іншых жыццёвых задач.

Заглыбляючыся ва ўнутраны стан чалавека, у складанасць яго душэўных перажыванняў, пісьменнік даволі паблажліва ставіцца да невялікіх ягоных слабасцей і хібаў. Але там, дзе парушаюцца вузлавыя прынцыпы ўяўленняў аб добрым і дрэнным, мастацкае слова Я. Коласа набывае вострую крытычную танальнасць з рэзкай асуджальнай і сатырычна-выкрывальнай публіцыстычнай адкрытасцю, як, напрыклад, у апавяданні «Хаім Рыбс».

У творах аб рэвалюцыі пісьменнік пераконвае свайго чытача ў тым, што трэба жыць па справядлівасці, што праўда можа перамагчы крыўду, а крыўда і зло заўсёды выклікаюць новае зло. На яго думку, толькі абапіраючыся на адвечныя нормы народнай маралі і этыкі, іх прагрэсіўны і глыбока гуманны сэнс можна будзе разлічваць на захаванне справядлівасці, праўды, чалавечнасці на ўсіх крутых паваротах гісторыі.

Гуманістычнай асновай коласаўскіх апавяданняў аб рэвалюцыйнай барацьбе была маральна-духоўная завостранасць канфлікту, яго глыбокая пранікнёнасць у фабульна-сюжэтны матэрыял, які ў сваю чаргу выяўляўся ў псіхалагічна заглыбленых характарах і мастацка-праўдзівай форме раскрыцця рэчаіснасці. Рэвалюцыя паказвалася не з параднага боку, але ў праявах яе жахлівасці і драматызму, як тая сіла, з якой не жартуюць і якая шмат у чым бязлітасная і жорсткая.

І таму пры аналізе апавядання «Хаім Рыбс» нас цікавіць, чаму ж аўтар вылучае тое месца ў творы, калі «арыштаваных у карк павыганялі з халоднай», дзе яны знайшлі прыхаваны міліцыяй буталь самагонкі. Наогул, атмасфера нейкай недагаворанасці, пераплеценай з пачуццём трывогі, пануе ў тэксце твора. Страх з'яўляецца пастаянным спадарожнікам героя. Ужо ў пачатку аповеду мы бачым, як у жыццё героя ўрываюцца выпадковасць, «хітры падвох жыцця», якія робяць Хаіма Рыбса чалавекам, несупадальным з самім сабой і з рэальным жыццём. Такой выпадковасцю ў творы выступае ананімнае прызначэнне Хаіма Рыбса квартальным, пасля якога і пачынаюцца нягоды маленькага чалавека, крамніка вёскі. Адчуванне чагосьці неспакойнага, змрочнага адразу, на ўзроўні падсвядомага ўзнікла ў героя, нават калі яшчэ нічога не трэба было выконваць. «А гэты агульны заняпад жыцця? Хіба можа ўсё гэта даваць страву для добрых думак». Трывога і неспакой толькі ўзмацняюцца пры рэальным сутыкненні з ускладзенымі абавязкамі: з'яўляецца пасыльны з выканкома, затым чалавек з мандатам, прадстаўнік улады і яшчэ цэлая куча паперак, кожная з якіх мела адно заканчэнне: «За невыкананне — рэвалюцыйны суд».

І суд гэты ў адрозненне ад прававога суда мала ўвагі звяртае на аб'ектыўныя і чалавечыя фактары, а кіруецца ў асноўным толькі неабходнасцю, якая вельмі часта ператвараецца ў гвалт, сілавы і псіхалагічны ціск на чалавека. Яркі прыклад гэтаму мы знаходзім у апавяданні, напрыклад, пры размове Хаіма Рыбса і прадстаўніка ўлады:

«— А дзе твае рабочыя для пагрузкі вагонаў?

— Ну, чаму яны мае, а не вашы?

— Ты многа гаворыш, а мала робіш. Чаму не высланы рабочыя?.. Як — хто паслухае?! Назначыць — і баста!..»

Асабістае прынцыповае несупадзенне з рэальным жыццём, горкае ўсведамленне немагчымасці зразумець яго, вырываецца з душэўным болем падчас дыялога-лаянкі з прадстаўніком улады:

«— А ты нашто?

— Я? Я не ведаю, нашто тут я».

Я. Колас усведамляе немагчымасць адкрытага спачування «маленькаму чалавеку», які ў новай сістэме сацыяльных прыярытэтаў ператвараецца ў злоснага сабатажніка, ворага народа. Празаік прыхоўвае трагізм героя праз камізм сітуацыі. Пададзена гэта ў эпізодзе знаходжання ў халоднай, куды трапляе квартальны. П'яная гулянка арыштаваных у халоднай як бы сцірае напружаны момант іхняга адасаблення ад жыцця. Толькі самагонны хмель стварае часовую ілюзію прымірэння з рэчаіснасцю. Пісьменнік праз дадзены прыём раскрывае асноўную падтэкставую мэту твора, паказвае, што толькі адурманеныя самагонкай людзі могуць знайсці хвілінна-падманную асалоду жыцця, сама ж рэчаіснаць ніякіх падстаў дзеля гэтага не дае. Усё гэта катастрафічна змяншае духоўна-маральную канцэнтрацыю пастаўленых рэвалюцыяй высакародных мэт справядлівасці, свабоды, роўнасці. Апраўданай у дадзеным плане з'яўляецца, на нашу думку, назва твора «Хаім Рыбс». Яна звяртае ўвагу на канкрэтнага чалавека, які ёсць першасны і самы непасрэдны мэтавы аб'ект любых сацыяльных змен, калі яны заяўляюць у сваіх праграмах гуманістычныя задачы і ідэалы. У творы Хаім Рыбс застаецца амаль адзін на адзін з дэфармаваным светам рэчаў і адносін, які правакуецца злосным монстрам — ананімнай, таталітарнай уладай, што нясе ў сабе самыя непрадказальныя, апакаліптычныя перспектывы на будучыню. Яе дзейнасць зацята працуе на негатыўную справу знішчэння ў чалавеку духоўнай ауры: сумленнасці, адказнасці, творчасці. У выніку такая ўлада можа адкрыцца злавеснай усмешкай Сфінкса. Усмешка героя твора ў канцы апавядання (Хаім Рыбс успамінае ўсё гэта са смехам...») — не што іншае, як люстэркавае адбіццё Сфінксавай усмешкі на чалавеку-імітатары, чалавеку-манкурту. Адсюль ідзе і разгадка сэнсавай недагаворанасці сюжэта, калі абмінаюцца падзеі, якія далей разгортваліся ў халоднай. Смех героя ёсць забыццё трагедыі, ператварэнне яе ў фарс-гульню, што толькі імітуе жыццё і можа паўтарацца бясконца і займальна. Вось чаму Хаім Рыбс і «любіць апавядаць, як ён быў квартальным».

Апавяданнем «Крывавы вір» Я. Колас спрабаваў разабрацца ў сутнасці такой трагічнай з'явы, як класавая барацьба ў час грамадзянскай вайны, паказаць, які жорсткі характар яна набывае, бяздумна і бязлітасна ламае, знішчае чалавечыя лёсы згодна з амаральнай формулай: «Хто не з намі, той супраць нас».

Пісьменніку вельмі важна паказаць, як стасуюцца маральныя крытэрыі жыцця да гэтай формулы, якім дэфармацыям яны падвяргаюцца. Так, аўтар вельмі тонка падкрэслівае казуістыку логікі сялян у час размовы пра разбураны дом пана Струкава. «Выходзіла так, што народ тут быў, як зазначаў кожны прамоўца, нікуды нЯварты, дрэнь народ, і ў той жа час вельмі слаўны, бо калі пагаварыць па чарзе з кожным гаспадаром, то ён выказваў сябе з найлепшага боку, усё можна б з ім зрабіць, але... народ у нас дурны, халерны народ».

Разумеючы ганебнасць свайго ўчынку, сяляне імкнуцца зняць віну з сябе і перанесці яе на «каго-небудзь», на «народ» ці на «кола гісторыі». А гэта можа прывесці, і ў большасці выпадкаў прыводзіць, да страты маральнай арыентацыі ў жыцці.

«Той, хто падманвае сам сябе і свой падман слухае, можа дайсці да таго, што ніякай праўды ні ў сабе ні навокал не зможа разгледзець», — гаворыць адзін з герояў рамана Ф. Дастаеўскага «Браты Карамазавы». Мысліцель Б. Паскаль наконт змены маральных арыенціраў пісаў так: «З якой лёгкасцю і задавальненнем робіць зло чалавек, калі ён верыць, што робіць добрую справу».

Ціск гуртавога ці класавага адзінства перашкаджаў узаемаразуменню, паслабляў магчымасці пранікнення ў гора другога чалавека, разумення яго болю, крыўды і праўды.

Калі наступае кульмінацыйны момант апавядання — вырашаецца лёс барчука Грышы, — мы наглядаем тую ж самую з'яву: агульная атмасфера варожасці перамагае над справядлівым прыгаворам. Класавая нянавісць не можа быць апраўданнем амаральных учынкаў, бо пазбаўляе барацьбу справядлівага характару і прыводзіць да абсурднай і небяспечнай кантамінацыі несумяшчальных паняццяў: аб праведнай мэце і неправедных сродках.

Дзед Патап, адзін з герояў апавядання, пад уплывам усеагульнай злоснай настроенасці, шматгадовай асабістай крыўды помсліва, жорстка і наўмысна выносіць смяротны прысуд маладому панічу Грышу. Тым больш прыкра, што зрабіў гэта Патап пасля наведвання царквы, «так як лічыўся чалавекам набожным».

Чаму так здарылася? Ці ва ўсім вінавата класавая нянавісць і душэўная глухасць старога Патапа? Думаецца, разгадкай могуць паслужыць словы Патапа пры апазнанні Грышы: «— Не, не наш! Наш з мужчынамі на немца пайшоў».

Больш за ўсё абурыла дзеда здрада Грышы тым рэвалюцыйным поглядам, якія ён выказваў, здрада свайму прафесійнаму доўгу, здрада людскому даверу. І перад дзедам быў ужо не ранейшы Грыша, якога ён хацеў бачыць, а зусім іншы.

Сваю здраду разумее і сам Грыша, і пісьменнік пацвярджае гэта яго развагай: «І ўсё ж самаадчуванне ў Грышы было трывожнае, бо ён выяўна цяпер стаў на шлях здрады. Нейкае ўнутранае пачуццё падказвала, што ён зрабіў нядобра. Нават быў такі момант, калі ён хацеў вярнуцца, каб далучыцца да сялян, але не мог перамагчы ў сабе нейкага страху».

Грыша не змог апраўдаць маладых моцных парываў рэвалюцыі, таму што на справе гэта зрабіць было нашмат цяжэй, чым на словах, бо словы не патрабавалі вялікіх душэўных і маральных высілкаў. Важкая прычына тут і ў супярэчлівасці становішча, у якім апынуўся герой, а таксама ў супярэчлівасці яго натуры і слабасці сілы волі.

Канфлікт паміж эмацыянальна-валявой сферай і духоўнымі арыенцірамі і ідэаламі абумоўлены тут перш за ўсё тым, што апошнія глыбока не ўвайшлі ў сэнсава-жыццёвыя перакананні Грышы. Аднак пры найбольшай вастрыні перажывання здзейсненага ўчынку, асабліва калі ёсць разуменне пачуцця віны і раскаяння, што гэты канфлікт залежыць не толькі ад супярэчнасці ў самой свядомасці героя, але і ад рэальнай жыццёвай сітуацыі.

Дабро і зло не існуюць у чалавеку адвольна, а выяўляюцца ва ўзаемаадносінах з навакольным светам, у практычных справах. Таму, што б ні гаварыў кожны

селянін пра сябе добрага ў час гутаркі каля дома пана Струкава, як бы ні ганьбаваў іншых, як бы ні абараняў рэвалюцыю, яе справядлівасць, гэта яшчэ не ёсць праяўленне дабра як жыццёвай справядлівасці і праўды.

Панічу не ўдалося па шэрагу акалічнасцей зразумець праўду змагання сялян, таму пісьменнік і даследуе працэс маральных адступленняў у дзеяннях героя. Спачатку ён ідзе на падман сялян, якія даюць яму магчымасць даказаць сваю вернасць народу на справе: «Было вельмі цяжка. Ён тлумачыў сабе гэта, як нядобры знак, што намеры выйсці з дому незаметна скончыліся няўдала. А ён сказаў, што ідзе на пазіцыі сам па добрай волі, рабіць раненым перавязкі. У вёсцы ведалі, вучыцца ён на доктара...».

Далей у самы рашучы момант, калі трэба было выступаць на пазіцыі, ён здраджвае і збягае з атрада. Збягае пад уздзеяннем страху ад жорсткасці рэвалюцыйнай рэчаіснасці і неразумення вытокаў гэтай жорсткасці ў віхурным перапляценні грамадзянскай вайны.

Сапраўды, рэвалюцыя ператвараецца ў крывавы вір, калі не знаходзіцца душэўных і разумовых сіл у супрацьлеглых бакоў для разумення сутнасці вырашаемага ёю пытання — закону сацыяльнай справядлівасці, які парушаўся вякамі.

У апавяданні старая пані толькі «і бачыла вакол сябе цёмны вір, які немінуча зацягне ў сябе яе жыццё». І яна не можа прыняць і зразумець сэнс новых падзей і таму спадзяецца на немцаў, якім «калісь не вельмі даўно, яна шчыра жадала ўсякага ліха, лічыла разбойнікамі, ворагамі чалавецтва, катамі, якіх трэба знішчаць». Цяпер жа яна жадае, каб немцы хутчэй прыйшлі сюды: «Ой, каб толькі прыйшлі».

Яе антыпатрыятызм можна зразумець толькі класавым падыходам, тымі страшнымі пераменамі, якія прынесла ёй рэвалюцыя. Але душэўная чэрствасць старой у адносінах да ўнука, якога яна не можа і не хоча ўспрыняць і зразумець, яе слёзы і праклёны прыводзілі да раздвоенасці душы Грышы, перашкаджалі яму свядома знайсці сваё месца ў жыцці. Таму старая пані становіцца ўскоснай забойцай свайго ўнука і нават прадракае гэта.

Грыша апынуўся ў моры жыццёвай рэчаіснасці блізка каля таго месца, на якім сышліся дзве варожыя хвалі, якія не могуць прыняць адна адну. Вось гэтыя хвалі і ўтвараюць той вір, які і зацягвае людзей, робіць іх вольнымі ці нявольнымі ахвярамі барацьбы, у многім залішне жорсткай і бязлітаснай.

Пісьменнік, захоўваючы гістарычную праўду, перадае момант сацыяльна-псіхалагічнай, класавай абумоўленасці рэвалюцыйнага насілля і яго жорсткую скіраванасць на сілавое, рыгарычнае вырашэнне праблем.

«Паны зноў сядуць па сваіх маёнтках і будуць зноў заводзіць свае панскія парадкі і законы... і будуць арыштоўваць вас і саджаць у астрогі. Мы самі павінны даць адпор нашым ворагам... Далоў контррэвалюцыю».

Гуманістычны пошук маральнай асновы чалавека пісьменнікамі 20-х гадоў звязваўся з такімі пытаннямі: ці павінен чалавек адмовіцца ад сябе ранейшага? Наколькі ён падрыхтаваны пайсці з адкрытай душой насустрач іншаму чалавеку і новым абставінам? Ад вырашэння гэтых праблем у многім залежала паспяховасць усталявання еднасці і міру ў грамадстве. Выразна загучала дадзеная праблематыка ў апавяданнях Я. Коласа 20-х гадоў («Пракурор», «Балаховец» і інш.).

Чалавек у гістарычным крызісе востра адчувае страту маральных арыенціраў, у яго ўзнікае няўпэўненасць у сабе, губляюць сэнс ягоныя папярэднія імкненні і дзеянні. Стан гэты доўжыцца да таго часу, пакуль чалавек не зможа знайсці ў сабе духоўныя сілы, каб успрыняць і набыць «новыя» маральныя якасці. Толькі рэальнае ўспрыманне каштоўнасці новай маралі, звязанае з практычнай дзейнасцю, можа вывесці чалавека з крызісу. Гэта зусім не выключае і той факт, што асоба мае права рабіць выклік усім сілам прыгнёту, якія імкнуцца ліквідаваць яе быційную сутнасць.

Герой апавядання Я. Коласа «Пракурор» Вядзёркін да рэвалюцыі быў «важнаю асобай» — пракурорам. Рэвалюцыя была сустрэта ім негатыўна. «Хіба ж можна «чэснаму» чалавеку служыць у гэтых расколаў».

Характарыстыка «чэсны» ўжыта аўтарам для таго, каб акцэнтаваць увагу на несумяшчальнасці маральных прынцыпаў пракурора і новай улады. Чаканне і спадзяванне Міхаіла Іванавіча на хуткую змену ўлады не спраўдзіліся. Пісьменніку ж важна іншае: раскрыць, як ідзе працэс унутраных светапоглядных змяненняў у свядомасці героя. Аўтар карпатліва вядзе даследаванне як праз канву роздумнай рэфлексіі, так і па лініі практычных учынкаў і дзеянняў. Мараль і этыка жыццёвых абставін часта патрабуюць карэкціроўкі абстрактна-роздумных уяўленняў герояў. Таму крах былых поглядаў сімвалічна і абумовіўся гукам «к-крах»: так ламалася дошка, якую былы пракурор палахліва краў для таго, каб сагрэць сваю кватэру.

У канцы апавядання мы сустракаем Вядзёркіна на пасадзе «саветслужа», ды і пазіцыя яго ўжо зусім іншая. Са слоў героя, «патрэбен быў час, каб перарадзіцца ў сваёй псіхалогіі, каб успрыняць, зразумець і ацаніць новыя змены». Здавалася, усё па Гётэ: «Усё ў свеце змяніў прагрэс. Як быць? Мяняецца і бес». Аднак Я. Коласа найперш хвалюе ў гэтым творы наступная акалічнасць: як магло здарыцца, што чалавек так хутка змог вытравіць з душы з малаком маці ўсмактаную хрысціянскую прававу мараль. Адсюль і назва «Пракурор». Вядзёркін з незразумелай на першы погляд паспешлівасцю імкнецца пазбавіцца такога, здавалася, нікчэмнага баласту, як сумленнасць, сорам, прыватная ўласнасць. «І толькі калі Міхайла Іванавіч цягнуў на санках дошкі на сваю кватэру, то яму прыпомніліся некаторыя выразы з яго пракурорскай прамовы: «Забыта чэснасць, забыты прынцыпы маралі, парушаны свяшчэнныя правы ўласнасці». Але Міхайла Іванавіч тут жа і папраўку зрабіў да сваіх старых прамоў: «А якая цяпер уласнасць? Яе няма: яе скасавалі».

Новыя рэаліі жыцця паставілі звычайнага чалавека перад прадоннем існавання — няма Бога, няма ўласнасці, — значыць, зніклі асэнсаванасць і трываласць быцця. У чалавека застаецца выхалашчаная, спрошчаная матэрыяльная абалонка з прымітыўнымі фізіялагічным запатрабаваннямі. Прыгадаем эпізод з рамана Ф. Дастаеўскага «Бесы», калі адзін сівы бурбон-капітан падчас размовы афіцэраў пра атэізм гучна выказаўся: «Калі бога няма, то які ж я пасля гэтага капітан». Менавіта, як для капітана яго званне, так і для Вядзёркіна пракурор — той стрыжань, які яднаў яго з Сусветам, законам рэчаў. Сваімі званнямі яны былі знітаваны з жыццём, і калі сувязь парываецца, застаецца бездань і страх перад ёю. Страх трымаецца не толькі на факце рэвалюцыі, якая іх кінула на дно сацыяльнага жыцця. Страх гэты ідзе значна глыбей, у самую анталогію чалавечага існавання — кожны існуе па волі выпадку, і сэнсу жыцця няма апраўдання. Пераадоленне быційнага абсурду дасягальнае толькі рыцару веры. Нясцерпна балюча і цяжка ў такія гістарычна-вызначальныя моманты простаму абывацелю, «маленькаму чалавеку». Яму нічога не застаецца, як бегчы, і гэтым выратоўвацца ад свабоды, ад самога сябе. У дадзеным гістарычна-сацыяльным кантэксце гэтыя ўцёкі ад культуры, гуманізму, свабоды — найлягчэйшы шлях у звышэкстрэмальных і жорсткіх абставінах. Культура і робіцца тым баластам, які перашкаджае чалавеку ў працэсе выжывання. Калі паветраны шар цярпіць катастрофу, то з яго пачынаюць скідваць розныя рэчы — баласт. Такім баластам у рэвалюцыйнай рэчаіснасці стала гуманнасць, культура з яе звышматэрыяльнымі праявамі ў выглядзе сумлення, гонару, сораму, спагады, любові да бліжняга і інш. У апавяданні ж вобразам-сімвалам баласту знікаючага сацыяльнага карабля становіцца гардэроб Міхайлы Іванавіча. «Гэты перагляд гардэробу быў да некаторай ступені чытаннем гісторыі самаго Міхайлы Іванавіча», бо яскрава нагадваў яму і жонцы малюнак мінулага жыцця.

Пісьменнік засяроджвае ўвагу на тым, што і пінжак, і сурдут, і жылетка — не проста рэчы, а праявы духоўнага станаўлення жыцця, тая матэрыяльная неабходнасць, з якой чалавек робіцца чалавекам, асобай. Калі ж чалавек апынуўся ў становішчы, калі ўсё яго мінулае жыццё — памылка, калі ўсё, што ён набыў матэрыяльнага, — крадзеж, а духоўнага — выдумка, міраж, глупства, то з чалавекам здараецца зрыў, няшчасны выпадак; ён, як хімічны элемент са стратай электрона, набывае новы стан, новую форму існавання. У новым стане яшчэ не існуе душэўных і духоўных сувязей і неабходна кіравацца цвярозым матэрыяльным падыходам і нічым больш. Трэба дровы для абагрэву — пайшоў і ўкраў, і

ніякіх сантыментаў. Форма такога існавання ператварае асобу ў пластылін і леніць з яго, што захоча. Таму напрыканцы герой і кажа: «Патрэбен быў час, каб перарадзіцца ў сваёй псіхалогіі, каб успрыняць, зразумець і ацаніць глыбокі сэнс Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі». Аўтарская пазіцыя канцэнтруецца ў роздуме над няпростымі калізіямі жыцця галоўнага героя.

Безумоўна, Я. Колас жадаў верыць у тое, што народ, да якога ён належаў і якому лічыў за гонар служыць, нясе свету ісціну і праўду, аднак рэвалюцыйная рэчаіснасць зацямняла ці зусім хавала ісціну і праўду жыцця, ператварала працэс змен у ірэальную, антыгуманную містэрыю. У такой містэрыяльнай прасторы чалавек шляхам розных утылітарызаваных метамарфоз ператвараўся ў фікцыю, спрошчаны механізм агульнай сацыяльнай фантасмагорыі.

Праверку на маральнасць і духоўнасць праходзіць і герой апавядання Я. Коласа «Балаховец» Іван Бадзейка. Вырашыўшы парваць са сваім злачынным мінулым, ён здаецца на міласць пагранічнікаў, дапамагае ім раскрыць і захапіць іншых бандытаў-балахоўцаў, расказвае аб сваёй дзейнасці ў бандзе. Усё гэта дапамагае яму вярнуцца ў родную хату, да бацькоў, дзе ён мае намер пачаць новае мірнае жыццё. Аднак гэта жыццё з роднымі і блізкімі людзьмі запатрабавала ад героя яшчэ большых духоўных сіл, якіх ён не змог у сабе знайсці таму, што душэўная праца не паглыблялася далей павярхоўных тлумачэнняў накшталт «вялікай часавай адарванасці ад родных і блізкіх яму людзей». Чэрствасць сэрца героя дайшла да такой ступені халоднага разліку, што ён спрабуе апраўдаць забойства нявіннага чалавека, дзіцяці, жанчыны. «Але ці мала ёсць такіх на свеце, што забівалі?». Герой не можа зблізіцца з людзьмі, нават з каханай дзяўчынай, таму што страціў на гэта маральнае права. Жаданне пайсці шляхам лёгкага і спрошчанага самаапраўдання і не магло прывесці да іншага. Унутраны голас уласнай хворай душы няспынна круціў у галаве думку: «Забіць чалавека — гэта значыць забіць самога сябе». Схаваць каінаў знак можна толькі ад люстэрка, а ад люстэрка душы немагчыма. Ён не знікае, застаючыся вечнай пакутай для забойцы. Адказнасць за свае ўчынкі герой імкнуўся перакласці на складанасць часу і зняць яе з сябе: «— Закруціўся, як трэска ў перавале, і не да таго берага прыстаў».

Людзі навокал не прымаюць Бадзейку-Балахоўца па той простай прычыне, што ён не можа ім душэўна адкрыцца. Шчырасць яго душы парушана ўчыненым, і разлічваць на шчырасць і спагаду іншых, без свайго кроку да іх, немагчыма. Настолькі ты з чалавекам збліжаешся, наколькі ты яму адкрыты. Адкрыцца ж Іван людзям да канца не мог — гэтаму быў перашкодай каінаў знак, які і аддаляў яго ад людзей. Гэта рабіла яго яшчэ больш злосным і жорстка-ганарлівым, што і прывяло да новага забойства і самазабойства, якое прадчувалася ім увесь час. Знак каінаў увесь час прысутнічаў у ім, і знішчыць яго магчыма было толькі шчырым пакаяннем ці самазнішчэннем. Не прымае і асуджае Бадзейку нават тое асяроддзе, якое ён раней лічыў сваім. Калі ён трапляе ў падвал пасля допыту ў пагранічнікаў, то яго там сустракае кампанія былых кантрабандыстаў, бандытаў, шпегаў. А адзін шляхціц «зрабіў даволі дзіўнае заключэнне пасля роспытаў Бадзейкі: «Бог шэльму меціць».

Так яно і сталася ў фінале апавядання, які сімвалізуе тую аксіяматычную думку, што мараль дзейнічае не заўсёды з аўтаматычнай безадказнасцю, што яе каштоўнасці хоць і не абсалютныя, але ўсё ж такі вельмі дзейсныя. Мараль так ці інакш пры любых абставінах мае вялікую ўладу над людзьмі. Яна заўсёды патрэбна чалавеку ў паводзінах і адносінах з іншымі. Гэта грунт унутранага свету асобы і спецыфічная атмасфера для супольнага людскога жыцця.



# ШКОЛЬНЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ



*Апошнім часам у беларускіх літаратурна-мастацкіх выданнях усё часцей разгортваюцца дыскусіі па праблемах дзіцячай літаратуры. Пісьменнікі і літаратуразнаўцы, настаўнікі і псіхолагі, вучоныя-прафесіяналы і звычайныя аматары нацыянальнага прыгожага пісьменства горача абмяркоўваюць тэматыку і праблематыку твораў для дзяцей і юнацтва, іх вобразную эстэтыку і стылёвыя асаблівасці, ролю ў станаўленні асобы. Гэта зусім натуральна. Бо менавіта мастацкая літаратура здольна самым плённым чынам уплываць на светапогляд сталеючай асобы, на фармаванне самасвядомасці і характару, на вызначэнне каштоўнасных арыенціраў і развіццё эстэтычнага густу. Вядомы беларускі пісьменнік і педагог Васіль Вітка слушна падкрэсліваў: «Маленства — самы адказны момант жыцця, стартавая пляцоўка чалавека. І ад таго, хто вёў дзіця за руку, хто адкрыў яму навакольны свет, будзе залежаць яго ўзлёт, лёс, будучыня і шчасце. <...> Маральнае аблічча асобы залежыць ад таго, якія крыніцы жывілі чалавека ў самыя раннія гады яго маленства».*

*Сёння перад дзіцячай літаратурай сапраўды паўстала нямала пытанняў, якія патрабуюць сур'ёзнай увагі... Якім запаветным словам кніга здольна прывабіць юнага чытача? Чаго дзеці чакаюць, калі разгортваюць старонкі пэўнага выдання? Якой у рэшце рэшт павінна быць сучасная беларуская дзіцячая літаратура? Даць адназначны адказ тут вельмі складана...*

*Рэдакцыя часопіса «Полымя» адкрывае новую рубрыку — «Школьныя даляглядны», у якой будуць друкавацца мастацкія творы, адрасаваныя не толькі непасрэдна дзіцячай і падлеткавай чытацкай аўдыторыі, але і здольныя паспрыяць канструктыўнаму дыялогу вучняў і настаўнікаў, дзяцей і бацькоў. У гэты «сшытак» таксама ўвойдуць публіцыстычныя і літаратуразнаўчыя матэрыялы, аналітычныя, аглядныя, палемічныя і дыскусійныя артыкулы, прысвечаныя розным праблемам літаратуры для дзяцей і юнацтва, крытычныя рэцэнзіі на асобныя творы. Спадзяёмся, што публікацыі «Школьных даляглядаў» будуць мець практычную карысць — выявяць набыткі на глебе беларускай дзіцячай літаратуры, дапамогуць угледзець перспектыўныя напрамкі і шляхі далейшага плённага развіцця...*

*Усіх патэнцыяльных аўтараў — пісьменнікаў, крытыкаў, настаўнікаў і метадыстаў — рэдакцыя заклікае да супрацоўніцтва. Прапаноўвайце юным аматарам айчыннай літаратуры новыя мастацкія творы, дзяліцеся сваімі поглядамі, абменьвайцеся думкамі і парадамі... Толькі агульнымі намаганнямі мы зможам узмацніць увагу нашых дзяцей да кнігі, да мастацкага слова, а значыць, паспрыяць выхаванню агульнай культуры, абуджэнню нацыянальнай свядомасці падрастаючага пакалення, ад грамадзянскай пазіцыі якога залежыць будучыня Бацькаўшчыны.*

**Міхась ЮЖЫК**

# ШТО ЧЫТАЦЬ ДЗЕЦЯМ?

Дзіцячая літаратура — рэч надзвычай сур'ёзная, і займацца ёю трэба адмыслова, аддаючы ўсю душу. Або не займацца зусім. У гэтым мяне пераконваюць некаторыя кнігі сучасных беларускіх празаікаў, адрасаваныя дзецям.

Адразу варта паразумецца, што такое дзіцячая літаратура, які яе дыяпазон. Бо, згадзіцеся, казка «Курачка-Раба» і «Востраў скарбаў» Роберта Стывенсана — гэта розныя ва ўсіх адносінах рэчы. Адна звернута да зусім маленькага чытача, другая — да чытача сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту, больш таго, «Востраў скарбаў» з ахвотаю чытаюць і ў сталасці…

Увогуле, для чаго патрэбная дзіцячая літаратура, навошта яе прыдумала чалавецтва? Попыт нараджае прапанову. А попыт на інфармацыю ў маленькіх людзей, якія пачынаюць спазнаваць свет, велізарны і неспатольны. Ледзь толькі пачаўшы размаўляць, малое імкнецца пашырыць свой кругагляд. І пашырае яго не толькі досведам рэчаіснасці, але і фантазіяй, уяўленнем, летуценнямі.

Адной з умоў дзіцячай літаратуры, крытэрыем адрознення яе ад дарослай, з'яўляецца яе этычны аспект. Кнігі для дзяцей абавязаны сцвярджаць дабро. Зло, якое абавязкова ў іх прысутнічае, супрацьпастаўляецца дабру і заўсёды асуджаецца, прайграе. Мова, якой пішуць кнігі для дзяцей, павінна быць максімальна простая і разам з тым вобразная, даходлівая. Недапушчальныя перагрузка тэксту метафарамі, расцягванне сказаў, захапленне ўстаўнымі канструкцыямі і г. д.

Менавіта гэтыя крытэрыі характэрныя для класічных узораў дзіцячай літаратуры, — кніг, якія на працягу дзесяцігоддзяў і нават стагоддзяў застаюцца запатрабаванымі і дзецьмі, і падлеткамі, і нават дарослымі. Калі паспрабаваць пералічыць найбольш вядомыя і папулярныя ў свеце казкі, то атрымаецца прыкладна такі спіс: «Чырвоная Шапачка» братоў Грым, «Снежная кралева» і «Брыдкае качаня» Ганса Хрысціяна Андэрсена, «Папялушка» і «Кот у ботах» Шарля Перо, «Аліса ў краіне цудаў» Льюіса Кэрала, «Маўглі» Рэдзьярда Кіплінга, «Чыпаліна» Джані Радары, «Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна» Аляксея Талстога, «Віні-Пух» Алана Мілна, «Кракадзіл Гена і яго сябры» Эдуарда Успенскага, «Прыгоды Нязнайкі» Мікалая Носава і іншыя.

А сярод твораў, у сюжэтах якіх дамінуюць рэалістычныя калізіі, увагу чытачоў прыцягваюць «Прыгоды Гекльберы Фіна» Марка Твена, «Востраў скарбаў» Роберта Стывенсана, «Пятнаццацігадовы капітан» і «Таямнічы востраў» Жуля Верна, «Рабінзон Круза» Даніэля Дэфо, серыя прыгодніцкіх раманаў Альфрэда Шклярскага, «Цімур і яго каманда» і «Чук і Гек» Аркадзя Гайдара, шматлікія апавяданні і аповесці Мікалая Носава, «Корцік» і «Бронзавая птушка» Аляксея Рыбакова і іншыя.

У нашай нацыянальнай літаратуры заслужанай любоўю юных чытачоў заўжды карысталіся і па-ранейшаму карыстаюцца сёння аповесці «Палескія рабінзоны», «У краіне райскай птушкі», «ТВТ» Янкі Маўра, «Міколка-паравоз» Міхася Лынькова, «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Чорны замак Альшанскі» Уладзіміра Караткевіча, «Паміж «А» і «Б» і «Як я быў вундэркіндам» Уладзіміра Машкова.

Названыя кнігі, несумненна, розныя па праблемна-тэматычных аспектах, аднак усім ім уласціва адно: яны сцвярджаюць дабро, услаўляюць лепшыя чалавечыя якасці – мужнасць, самаахвярнасць, справядлівасць, альтруізм, розум, духоўнасць... Таму, думаецца, з гэтым спісам могуць смела адпраўляцца ў бібліятэку тыя бацькі, што маюць за мэту прывіць свайму дзіцяці любоў да літаратуры, абудзіць цікавасць да свету, выхаваць сумленнага чалавека.

Памятаю, як у школе, у класе пятым ці шостым, мы перажывалі літаратурны бум не меншы, а значна большы, чым цяпер адбываецца з «Гары Потэрам». Тады гэта былі кнігі польскага дзіцячага празаіка Альфрэда Шклярскага. Купіць іх было немагчыма. Калі ж камусьці ўдавалася здабыць адзін з раманаў серыі пра адважных польскіх падарожнікаў, то кніга прыносілася ў клас і перадавалася з

рук у рукі з умовай — на адны суткі. За адзін вечар мы праглыналі раман у трыста старонак і ашчасліўлівалі ім наступнага аднакласніка ў прагнай чарзе чытачоў. Незабыўнае пачуццё, калі кніга літаральна ўсмоктваецца ў цябе, як вада ў апанаванага смагай вандроўніка. Ты нібы напраўду брыдзеш па джунглях Новай Гвінеі або пераваліваеш Гімалаі з Томкам Вільмоўскім, яго бацькам і вернымі сябрамі-паплечнікамі. Разам з захапляльным сюжэтам кніга рассоўвала для нас далягляды зямлі, паказвала краіны, народы, звычаі, адукоўвала, выхоўвала высакародства, якое самым натуральным чынам перадавалася нам ад нязломных палякаў — герояў васьмі паслядоўных раманаў Альфрэда Шклярскага. Тады я зразумеў, што значыць любіць сваю нацыю. Аказваецца, ці не кожная кропка на зямным шары ўганаравана нейкім выбітным палякам, героем, выгнаннікам з захопленай расійскім царызмам радзімы — так нам умела і далікатна даводзіў пры любой зручнай магчымасці аўтар.

Дарэчы, дзякуючы творам Астрыд Ліндгрэн, я жыва ўявіў і палюбіў Стакгольм — горад, над пакручастымі дахамі якога лёталі неразлучныя Малыш і Карлсан. Дзякуючы творам Марка Твена, перад вачыма паўставалі рэаліі амерыканскай культуры. Вось сіла дзіцячай літаратуры. Вось яе значнасць. І таму заўсёды балюча ўспрымаюцца халтурныя з'явы, калі маленькага чытача крыўдзяць і водзяць за нос, калі яго папросту падманваюць.

Дзіцячай чытацкай аўдыторыі прысвечаны творчы плён пісьменніка Аляксея Якімовіча. Юным аматарам прыгод і фантастыкі добра вядомы такія кнігі аўтара, як «Гордзіеў вузел» (1987), «Эльдарада просіць дапамогі» (1989), «Сакрэт Тунгускага метэарыта» (1993), «Пастка для пярэваратня» (1997), «Залатая дзіда» (2001) і іншыя.

Кнігі А. Якімовіча напісаны грунтоўнай, адаптаванай да дзіцячага ўспрымання мовай, у іх увасоблены цікавыя і змястоўныя гісторыі.

На маю думку, сярод тых, хто руплíва ўзараў самы складаны пласт літаратурнай глебы — дзіцячую літаратуру, — пісьменнік Уладзімір Машкоў. Яго творы пазбаўлены гераічна-фантастычнага складніку, яны цалкам рэалістычныя, адлюстроўваюць паўсядзённыя перыпетыі жыцця падлеткаў. Аднак жа як цікава выбудоўвае аўтар сюжэты, як адмыслова дэманструе спецыфіку ўзаемаадносін падлеткаў! На маю думку, гэта найвышэйшы пілатаж у дзіцячай літаратуры. Такія аповесці Машкова, як «Паміж «А» і «Б» і «Як я быў вундэркіндам», не маюць аналагаў у сусветнай дзіцячай класіцы. Па мастацкай сіле яны могуць быць пастаўлены ў адзін шэраг з рэалістычнай аповесцю Астрыд Ліндгрэн «Эміль з Лёнебергі», якая ўсё ж такі арыентавана на больш юнага чытача (да сёмага класа). Узгаданыя ж творы Машкова з ахвотай чытаюцца нават дарослымі. Яго творчасць патрабуе ўважлівага вывучэння і асэнсавання. Шырокі разгляд мастацкай манеры і асаблівасцей сюжэтаў не ўкладваецца ў рамкі нашага артыкула, застаецца толькі пашкадаваць, што Уладзімір Машкоў пісаў свае творы па-руску. Але, з іншага боку, дзякуючы гэтаму яны атрымалі розгалас на прасторах рэспублік былога Саюза, перакладаліся на мовы некаторых суседніх краін.

Аповесць Людмілы Рублеўскай «Пярсцёнак апошняга імператара» таксама можа быць пазначана як дзіцячая літаратура. Тым больш што кніга «Сэрца мармуровага анёла» (2003), у якую ўвайшла гэтая аповесць, выдадзена ў выдавецтве «Юнацтва» ў серыі «Бібліятэка прыгод і фантастыкі». У аповесці даволі цікавы дэтэктыўны сюжэт і шмат таямнічага. Нямала там і высакародных ідэй наконт лёсу беларускай нацыі, багата разважанняў пра культуру і мастацтва нашай краіны, пра ролю літаратуры ў жыцці чалавека. Але ж справа ў тым, што ідэі гэтыя даўно агучаны класікам нашай літаратуры Уладзімірам Караткевічам, роўна як і вынайдзены сюжэты (раманы «Нельга забыць», «Чорны замак Альшанскі»), якімі пісьменніца свядома ці несвядома ў сваёй аповесці карыстаецца. Асноўная памылка Рублеўскай у тым, што яна змяшчае ў гераічныя тыпажы Караткевіча (Антон Косміч, Андрэй Грынкевіч) жаночую душу — Магдаліну Дарбут, што выглядае ўжо зусім недарэчна. Мужчына і жанчына — гэта прыродныя антыподы. А таму тое, што ў Караткевіча высокае і гераічнае, у Рублеўскай набывае відавочныя карыкатурныя рысы.

Да таго ж пісьменніца перагружае чытача сваім культуралагічным досведам, дыдактычнымі развагамі пра высокае — добрае — вечнае, якія адно размазваюць дэтэктыўны сюжэт. Тэкст, увогуле пазначаны высокай культурай мовы, часам перанасычаецца дзіўнымі параўнаннямі, вычурнымі метафарамі, расцягнутымі лірычнымі адступленнямі.

Няважныя справы ў аповесці і з вызначэннем часу дзеяння персанажаў. Гэта тым больш насцярожвае, што Людміла Рублеўская пераходзіць у розныя часавыя пласты, у якіх цякуць паралельныя лініі аповесці. Пра тое, што аповед пачынаецца прыблізна з 1987 года, мы даведваемся, дзякуючы дэдуктыўнаму метаду, адно на 30-й старонцы. Уяўляю, як ламалі свае галовы юныя чытачы. Недзе пасярод аповесці гаворыцца, што галоўную гераіню «нейкая сіла цягнула да пісьмовага стала, і на паперу кладліся радкі чамусьці на беларускай мове». І гэта пасля таго, як мы цвёрда ўведалі, што Магдаліна Дарбут вучылася ў маскоўскім літінстытуце, затым перавялася на айчынны філфак і ўсё яе атачэнне, уключаючы жаніха, — беларускамоўная інтэлігенцыя. У такіх лагічных хібах трэба вінаваціць не толькі аўтара, а і рэдактараў кнігі.

Прыемна ўразіла аповесць Васіля Гігевіча «Марсіянскае падарожжа», што выйшла ў аднайменнай кнізе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» (1990). Гэта глыбокі, удумлівы твор навуковай фантастыкі, які можа быць смела рэкамендаваны чытачам старэйшага школьнага ўзросту. Адчуваецца, што аўтар грунтоўна вывучаў праблему, пра якую піша, перахварэў ёю. У аповесці я не заўважыў ніводнай фальшывай ноты, а таму невялікія агрэхі ў псіхалогіі персанажаў ніякім чынам не псуюць твор. Падкупляе абраная Гігевічам спавядальная манера пісьма: да нас звяртаецца адзін з апошніх ацалелых людзей з марсіянскай калоніі зямлян, хутка касмічны холад прыбярэ яго да сябе. А далей ідзе перадгісторыя марсіянскай каланізацыі, дзе ў ненавязлівай зграбнай форме выказваюцца думкі аўтара пра праблемы нашай цывілізацыі, пра тое, што чалавеку пагражае стацца марыянеткай у руках штучнага інтэлекту. Што, дарэчы, ужо адбываецца ў трэцім тысячагоддзі, як і прадказваў аўтар. Нельга не заўважыць выдатную беларускую мову твора, пазбаўленую хітрамудрых лексічных канструкцый, дыялектызмаў, флёру ды іншай мішуры, якая перашкаджала б чытацкаму ўспрыманню, парушала б гармонію сюжэта. «Марсіянскае падарожжа» — адзін з лепшых узораў навуковай фантастыкі, якія мне даводзілася чытаць.

Дзіцячая аповесць Валерыя Гапеева «Пастка на рыцара» (2002) пакідае двaістае ўражанне. З аднаго боку, яна мае арыгінальны дэтэктыўны сюжэт, напісана даходлівай мовай, прасочваецца неабыякавасць аўтара да праблем школьнікаў, веданне іх псіхалогіі. А з другога, відавочна, што ідэя, выбраная Гапеевым, свядома высоўваецца ім на пярэдні план, не прыхавана жыццёвымі рэаліямі, усё падпарадкавана гэтай высакароднай ідэі рыцарства (міжволі згадваем вялікага Сервантэса). Я вучыўся ў розных школах, і нідзе не толькі не думалі пераставаць крыўдзіць слабейшых, а рабілі гэта з адмысловай бязлітаснасцю. У «Пастцы на рыцара» дзейнічае падпольны ордэн, які сочыць у класе за парадкам і справядлівасцю. Гапееў імкнецца да жыццёвай праўды і адначасова ўводзіць ненатуральнага рыцара ў латах (не раўнуючы Дон-Кіхота), які б'е пасля школы пугай галоўнага хулігана класа. Пісьменнік намагаецца вырашыць праблемы рэальнасці з дапамогай фантастыкі. Тым больш расчароўваешся, калі напрыканцы рыцарам аказваецца самая слабая і нягеглая вучаніца класа. Гэта фантастыка, так бы мовіць, у квадраце. У дадзеным выпадку змешванне жанраў не прынесла карысці твору, які тым не менш мае досыць высокія мастацкія вартасці і, несумненна, будзе цікавы і карысны для маладых чытачоў.

Ёсць таксама ў беларускай літаратуры творы, напісаныя літаратарамі без свядомай арыентацыі на юнага чытача, але творы тыя, у сілу іх займальнасці, мастацкасці і прыстойнасці тону, могуць быць дзецям прапанаваны. Гэта некаторыя аповесці вядомага празаіка Анатоля Казлова (асабліва «Дзеці ночы» з кнігі «Незламаная свечка»), а таксама творы неардынарнага пісьменніка-фантаста Юрася Нератка (асабліва аповесці «Дыверсія» і «Мутант» з кнігі «Закуцце»). Выда-

тныя ўзоры прыгодніцкай прозы маюцца ў творчым арсенале Андрэя Федарэнкі. У аповесцях «Шчарбаты талер» і «Афганская шкатулка» пісьменнік развівае сюжэты, калісьці задэкларававаныя Робертам Стывенсанам і Маркам Твенам. Прычым робіць гэта таленавіта, з веданнем псіхалогіі падлеткаў, а галоўнае, з любоўю і павагай да чытачоў.

Не так даўно выйшлі ў свет кнігі казак Раісы Баравіковай «Казкі астранаўта» і Алены Масла «Таямніца закінутай хаты». Яны парадуюць чытача сярэдняга школьнага ўзросту як сваёй цудоўнай паліграфіяй, так і цікавым зместам. У казках Алены Масла пераважаюць прытчавыя матывы, увасабляюцца арыгінальныя сюжэты, якія, несумненна, здольны ўзбагаціць чытача і інтэлектуальна, і эмацыянальна. У казках Раісы Баравіковай, якія маюць іншаказальны, абагульняльны сэнс, чытач разам з героямі здзяйсняе цікавыя касмічныя падарожжы, далучаецца да неверагодных і захапляльных падзей.

Таксама можна рэкамендаваць чытачам кнігі і асобныя творы дзіцячай літаратуры Уладзіміра Ягоўдзіка, Міхася Пазнякова, Анатоля Зэкава, Алеся Бадака. А з тых, што выходзілі раней, — творы Паўла Місько, напрыклад, кнігі «Прыгоды бульбобаў», «Навасёлы».

Усебаковы аналіз дзіцячай літаратуры — па вялікім рахунку, справа навуковага інстытута. Я ж меў на мэце адно падзяліцца некаторымі сваімі суб'ектыўнымі меркаваннямі адносна агульнага стану сённяшняй беларускай дзіцячай літаратуры, прыцягнуць увагу да яе праблем, якія, несумненна, ёсць... Верагодна, хтосьці з маімі думкамі не пагодзіцца, хтосьці аспрэчыць асобныя сентэнцыі і прадставіць свае аргументы. Ад гэтага будзе толькі карысць.

**Лада АЛЕЙНІК**

# МАЙСТЭРСТВА ПАБУДОВЫ ПРЫГОДНІЦКАГА СЮЖЭТА

*(аповесць Андрэя Федарэнкі «Афганская шкатулка»)*

Працэс азнаямлення з літаратурнымі творамі — гэта адначасова працэс засваення маральных норм, грамадскіх каштоўнасцей і стэрэатыпаў сацыяльных паводзін, увасобленых у сюжэтах і вобразах. Мастацкі тэкст паступова, але няўхільна мадэлюе ў свядомасці чытача псіхалагічныя ўстаноўкі, якія ў пэўнай ступені рэгулююць і каардынуюць яго зносіны з соцыумам. Несумненна, у фарміраванні маральнай культуры асобы мастацкая літаратура здольна адыгрываць самую актыўную ролю. Адсюль вынікае выключная важнасць ідэйна-эстэтычных і тэматычна-праблемных аспектаў літаратуры, адрасаванай дзіцячай і падлеткавай чытацкай аўдыторыі.

Пісьменніку важна памятаць, што літаратура для дзяцей не павінна абмяжоўвацца забаўляльнай функцыяй: пажадана, каб яна ўздымала і вырашала маральна-этычныя праблемы, была носьбітам пазнавальнай інфармацыі, пашырала кругагляд і эрудыцыю чытача. Цалкам відавочна, што надзвычай спрыяльнай глебай, дзе магчыма нязмушана спалучыць усе пералічаныя якасці, з'яўляецца прыгодніцкі жанр, які ў асяродку юных чытачоў заўжды карыстаўся асаблівай папулярнасцю (прыгадаем, напрыклад, славутыя творы Джэка Лондана, Жуля Верна, Марка Твена і Фенімора Купера, у айчыннай літаратуры — Янкі Маўра і Уладзіміра Караткевіча). Тлумачыцца гэта найперш тым, што асобе падлетка ўласціва імкненне да ўсяго невядомага, нязведанага і небяспечнага, а задаволіць гэтую цікаўнасць і прагу вострых уражанняў дазваляюць менавіта творы прыгодніцкага кшталту. На жаль, сучасныя майстры нацыянальнага прыгожага

пісьменства да прыгодніцкага жанру звяртаюцца зусім нячаста, фактычна ігнаруючы перспектыўны літаратурны напрамак, які па-ранейшаму застаецца запатрабаваным дзіцячай чытацкай аўдыторыяй.

Адмысловымі ўзорамі ў галіне сучаснай прыгодніцкай прозы (канца XX — пачатку XXI стагоддзя) вызначыўся творчы плён Андрэя Федарэнкі. Папулярнасцю ў юных чытачоў карыстаецца аповесць «Шчарбаты талер» (1999), шматлікія апавяданні пісьменніка. Між іншым, сцэнарый, напісаны аўтарам па кнізе «Шчарбаты талер», стаў пераможцам у конкурсе на лепшы сцэнарый тэлевізійнага серыяла аб жыцці беларускай моладзі, аб'яўленага Міністэрствам культуры, «Беларусьфільмам» і Белтэлерадыёкампаніяй, па аповесці быў зняты мастацкі фільм «Тры талеры». У 2001 г. выйшла чарговая кніга Андрэя Федарэнкі пад грыфам «Для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту» — «Афганская шкатулка», куды ўвайшла аповесць з аднайменнай назвай і некалькі апавяданняў. Фактычна адразу кніга стала вядомай у асяродку школьнікаў, вучні чытаюць яе без прымусу, з натуральнай цікавасцю, ахвотна абмяркоўваюць на ўроках літаратуры. У чым жа сакрэт майстэрства пісьменніка, папулярнасці яго твораў?

Аповесць Андрэя Федарэнкі «Афганская шкатулка» мае традыцыйную для прыгодніцкай літаратуры сюжэтабудову. Нават вонкавы выгляд раздзелаў, да кожнага з якіх маецца своеасаблівая «анатацыя» — пералік асноўных эпізодаў фабулы, — нагадвае прынцып кампазіцыйнага афармлення твораў Янкі Маўра. Думаецца, падобны прыём акцэнтавання ключавых момантаў цалкам мэтазгодны: адклаўшы кнігу, перарваўшы чытанне, юны аматар прыгодніцкага чытва лёгка зможа ўзнавіць у памяці падзеі пры наступным звароце да твора. Апроч таго, лаканічныя «анонсы» раздзелаў дазваляюць больш пільна адсочваць саму паслядоўнасць калізій і логіку іх наступнага развіцця. Тым больш, што аснову твора складаюць не толькі захапляльныя перыпетыі, тайны і загадкі ў жыцці персанажаў, нечаканая павароты сюжэта, але і скрыжаванні некалькіх падзейных ліній.

Дзейныя асобы аповесці дыферэнцыруюцца на дзве ўзроставыя катэгорыі — падлеткі і дарослыя. Пралог твора найперш знаёміць з персанажамі дарослага ўзросту. Тут аўтар выкарыстоўвае прыём так званага сугестыўнага ўздзеяння на чытача. Сітуацыя разгортваецца ў палаце Падольскага ваеннага шпіталя, дзе з'яўляецца знявечаны Афганскай вайной салдат: «Прасціну сцягнулі і асцярожна пачалі перакладаць на ложак тое, што пад ёй знаходзілася... Гэта быў увесь у бінтах і ў гіпсе абрубак. У яго не было адной нагі і па плечы абедзвюх рук. Круглая, як шар, галава цалкам забінтаваная — з бінтоў выглядаў толькі нос, каб дыхаць, і рот, каб есці». Фізічны стан героя выклікае фактычна шокавае ўражанне і гэтым самым магнетычна прыцягвае ўвагу да сюжэта, інтрыгуе, вымушае суперажываць, абвастрае эмацыянальнае ўспрыманне.

Эфектыўна ўплывае на псіхалогію чытача і апавядальны прыём прамога аўтарскага звароту, дзе шматабяцальна прагназуецца перспектыва разгарнення загадкавых падзей. Перарываючы гісторыю на загадкавым эпізодзе, — калі скалечаны салдат перад смерцю шэптам перадае земляку нейкую таямнічую інфармацыю, — апавядальнік непасрэдна звяртаецца да ўяўнай аўдыторыі: «Вось тут перапыняецца нашая гісторыя. Усплыве яна аж праз адзінаццаць гадоў і на гэты раз месцам дзеяння выбера не далёкі Афганістан і не падмаскоўны Падольск, а беларускую вёску Вялікая Паляна; менавіта тут з'явяцца перад намі, як на экране тэлевізара, і старыя знаёмыя героі, і зусім новыя; менавіта тут наша таямнічая заблытаная гісторыя паступова раскруціцца, разблытаецца і пад канец ператворыцца проста ў гісторыю. Аднак не будзем забягаць наперад!» Гэты прыём забяспечвае стварэнне ілюзіі «датычнасці» да сюжэтных падзей, дазваляе чытачу адчуваць сябе калі не «змоўшчыкам», то своеасаблівым «саўдзельнікам» канфідэнцыяльнай сітуацыі.

Уводзячы чытачоў у кола персанажаў-падлеткаў, аўтар падкрэслівае іх «звычайнасць»: гэта такія самыя школьнікі, як і тыя, што чытаюць кніжку. Фактычна кожны чытач мае магчымасць нязмушана ідэнтыфікаваць герояў з кімсьці са сваіх равеснікаў — сяброў, знаёмых, аднакласнікаў або знайсці падабенства ўласна з

самім сабой. А гэтая «асабістасць» ва ўспрыемнасці твора, як вядома, яшчэ адзін дадатковы стымул дзеля ўвагі, зацікаўленага чытання. Можна сцвярджаць, што тыповасць персанажаў, іх спецыфічная пазнавальнасць — мастакоўскі прыём, накіраваны на заахвочванне юнага чытача. Інакш кажучы, — ненавязлівая матывацыя, якая дзейсна ўплывае на падсвядомасць і эмацыянальны стан. Але неабходна падкрэсліць, што, стварыўшы тыповыя вобразы падлеткаў, А. Федарэнка здолеў у роўнай меры прадэманстраваць і іх індывідуальнасць, адметныя асабовыя рысы характараў, адмыслова і рэалістычна раскрыць эвалюцыйную дынаміку светапоглядаў юнакоў.

У вобразах Ціма і Валіка ўвасоблены два асноўныя тыпы школьнікаў-падлеткаў. Іх сяброўства — гэта той выпадак, пра які прынята казаць «супрацьлегласці сыходзяцца»: «Дужа яны розныя. Адзін любіць простае, будзённае, другі — толькі штосьці незвычайнае. Цім — гэта неба, а Валік — зямля». Цім — няўрымслівы рамантык, схільны бачыць загадкавае ва ўсім навокал, генератар арыгінальных ідэй, завадатар у гульнях і прыгодах. Характар хлопчыка раскрываюць не толькі прамыя аўтарскія характарыстыкі, але і яркія дэталі, сэнсава-ёмістыя эпізоды: запіскі сябру Цім піша спецыяльным шыфрам, сярод школьных дысцыплін хлопчык з найбольшай ахвотай вывучае геаграфію — навуку пра далёкія краіны і цікавыя прыродныя працэсы, а ў незнаёмым барадатым чалавеку, на якога ніхто не звярнуў увагі, ён адразу ж западозрыў злачынцу.

Валік — ураўнаважаны «хатні» хлопчык, які аднолькава паспяхова вучыцца па ўсіх прадметах. Да фантазій сябра, аматара вышукова-следчых дзеянняў, схільнага ва ўсім бачыць штосьці непраўдападобнае, ён заўжды ставіцца з доляй скепсісу, бо «ёсць тысячы цікавых спраў акрамя «расследаванняў». У тым жа лесе на лыжах пакатацца, з трампліна на лыжах паскакаць. Хакей, шахматы, хутка камп'ютэры ў школе паставяць — новая забаўка... А то проста тэлевізар паглядзець — хутка Новы год, зімовыя канікулы, столькі розных перадач цікавых, хоць ты з ранку да вечара глядзі...».

Яўная розніца характараў не перашкаджае моцнаму сяброўству хлопчыкаў: Валік, хаця спачатку заўжды спрабуе лагічна абвергнуць довады Ціма наконт чарговай авантурнай задумы, урэшце амаль заўсёды пагаджаецца скласці кампанію сябру ў чарговых прыгодах. Факт гэтай супольнай еднасці, несумненна, павінны належным чынам вытлумачвацца ў творы, мець праўдападабенства. Бо інакш узнікае ўяўленне пра «няроўнасць» адносін, дзе адзін — лідэр, а другі — падначалены. Такая расстаноўка пазіцый не ўласціва натуральнаму сяброўству. Аўтар абгрунтавана вытлумачвае матыў паводзін Валіка, псіхалогію падлетка: «Ён успомніў, як учора не забіў гол, а Цім суцяшаў яго — адзіны з усёй каманды. Прыгадалася, як у тым годзе хварэў, а Цім кожны дзень прыходзіў да яго ў адведкі, расказваў, што новенькага ў школе, увогуле ў вёсцы... І яшчэ многа рознага дабра ўспомнілася, якое сябар яму рабіў. Ніколі ні на што не крыўдзячыся. Усё даруючы. А ён, Валік? Разныўся тут — «засмяюць», па міліцыях зацягаюць»... Мужчына называецца. Будучы салдат, абаронца Беларусі, які баіцца ўвязвацца ў гісторыю; а гісторыя ж і сапраўды цікавая! Чаму б за гэтым барадачом і не прасачыць? Чаму б не разнюхаць, што за ён? Каго хавае ў леснічоўцы?» Ход мыслення героя, матывацыя яго дзеянняў — важны элемент у структуры сюжэта. Праблема сяброўства, сяброўскіх узаемаадносін, заўжды актуальная для падлеткаў. Прыведзены эпізод адначасова выконвае сэнсаўтваральную і выхаваўчую функцыі: не толькі паглыбляе ўяўленне пра характары персанажаў, але вытлумачвае разуменне хлопчыкам маральнага абавязку, сумленнасці, уласна самога сяброўства. У артыкуле «Сацыяльна-псіхалагічная тыпалогія чытачоў-дзяцей (тып чытача, які пераходзіць ад дзіцячага да падлеткавага)» педагог і псіхолаг Л. Беленькая адзначала: «Адчужаючы» асобную падзею ад мастацкай сістэмы, дзіця разам з тым адчувае яе як самастойнае цэлае. Падзеі ў творы выступаюць як нейкія мікрасветы, што эстэтычна радуюць чытача, нясуць свае пазнавальныя і мастацкія функцыі. У кожным такім мікрасвеце ў розных вузлах сюжэта, у асобных падзейных сітуацыях дзеці імкнуцца знайсці і сфармуляваць свае «сэнсы».

Мысленне Валіка ненавязліва дэманструе важнасць узаемападтрымкі ў сяброўстве і ўмення саступаць, знаходзіць згоду.

Немалаважным аспектам дзеля актывізацыі ўвагі і падтрымкі неаслабнай цікаўнасці чытача з'яўляецца дынаміка разгортвання сюжэта. Пры гэтым абавязковай умовай з'яўляецца рэалістычнасць логікі, верагоднасць прычынна-выніковых сувязей паміж падзеямі. Удзел апавядальніка пазбаўляе гісторыю шматлікіх апісанняў, робіць фабулу максімальна канцэнтраванай — напоўненай фактамі, дынамічнай, захапляльнай. Менавіта апавядальнік выконвае ролю своеасаблівага праваднiка ў часе і прасторы, інфармуе чытача загадзя, апярэджваючы доследы герояў. Так, напрыклад, чарговая дзейная персона, загадкавы «барадач», які выклікаў падазрэнне Ціма, прадстаўляецца задоўга да таго, як будзе «выкрыты» юнымі вышукоўцамі: «...давайце зазірнём у таямнічую хатку-леснічоўку. Паглядзім, што там робіцца, і заадно пазнаёмімся з героем дарослым, які вось ужо два раздзелы нецярпліва прабіваецца на старонкі аповесці, патрабуючы да сябе ўвагі. <...> Пачнём з таго, што назавём імя і прозвішча дзіўнага чалавека — Барыс Крушынскі. Быў ён высокі і дужы. Веку меў гадоў трыццаць... <…> Упершыню аб'явіўся Крушынскі ў ваколіцах Вялікай Паляны ў верасні гэтага года. Купіў у лясніцтва закінутую маленькую хатку, сяк-так прывёў яе да ладу і пачаў жыць. Ніхто не ведаў, хто ён, адкуль, чаму так упадабаў тутэйшыя мясціны, чаму пасяліўся не ў вёсцы <...>, а ў глухім лесе... Загадка! Людзей Барыс Крушынскі ўпарта пазбягаў». Апроч таго, апавядальнік падкрэслівае, што Крушынскі «крута павярнуў сваё жыццё», перабраўшыся на жыхарства ў лес, імкнецца выправіць «ранейшыя памылкі», пачаць жыццё «з чыстага ліста». Інфармацыя, як відаць, вытрымана ў рацыянальных прапорцыях: дадзены пэўныя звесткі пра героя, якія, аднак, не адкрываюць сутнасці — перадумоў, што вымусілі яго «пазбягаць людзей». Такі ход аповеду не толькі не паслабляе цікаўнасць, а наадварот, — інтрыгуе, абвастрае адчуванне тайны.

Напружанай загадкавасці дадае сюжэту нечаканае здарэнне, якое неўзабаве адбываецца з Крушынскім: падчас палявання ён знаходзіць у лесе непрытомную дзяўчынку, амаль засыпаную снегам. Даволі працяглы час аўтар трымае чытача ў невядомасці, не вытлумачвае прычын і абставін, якія ледзь не прывялі да трагедыі. Прыём такога замоўчвання, утойвання фактаў стымулюе чытача да іманентнай інтэлектуальнай актывізацыі, падштурхоўвае да выпрабоўвання ўласных гіпотэз і пабудовы асабістых версій. Калі ж адкрываюцца абставіны, ахвярай якіх зрабілася трынаццацігадовая дзяўчынка Віка, і разгортваецца драматычная гісторыя яе лёсу, у аповесці актуалізуюцца вострыя грамадскія праблемы, якія для сучаснасці, на жаль, зусім не рэдкія. Лёс юнай гераіні ў многім тыповы для тысяч дзяцей з сацыяльна неўпарадкаваных сем'яў: «Бацькі ў яе не было, а быў айчым, які больш часу праводзіў па турмах, чым на свабодзе. <…> Не вытрымала маці. <…> Апусцілася, пачала лаяцца, зрабілася раздражнёнай, часцяком таксама спаганяла злосць на дачцэ, нібы тая была вінаватая… <…> Паступова дзяўчынка перастала з'яўляцца дадому. Бадзяжнічала, добра, што верасень быў цёплы. Ні ў якую школу, вядома, не хадзіла. Начавала ў парку на лаўцы, на вакзале, у падвалах, на паддашшах, у кінутых — на знос — дамах, нават аднойчы ў скірдзе саломы за горадам жыла цэлы тыдзень. Дома яе адсутнасць нікога не трывожыла». Гісторыя дзяўчынкі, як бачна, цалкам рэалістычная, даволі распаўсюджаная ў сённяшнім соцыуме.

Па сутнасці, у аповесці «Афганская шкатулка» — два сюжэтныя стрыжні, выяўленыя аднолькава выразна. Першы — дэтэктыўная гісторыя з пошукам скарбу, другі — гісторыя лёсу дзяўчынкі. Абедзве сюжэтныя лініі ўшчыльную набліжаны і няўхільна выводзяць чытача ў сферу праблем, якія палягаюць у плошчы этыкі і маралі. У адным выпадку пытанне маральнага вобліку асобы і чалавечай годнасці вырашаецца ў коле «дарослых» персанажаў, у другім — у асяродку падлеткаў. Неабходна адзначыць, што маральна-этычныя праблемы актуалізуюцца зусім нязмушана, не паслабляючы сюжэтнай інтрыгі, наадварот, па-свойму ўзмацняючы і завастраючы яе.

Разважаючы пра ідэйны змест літаратуры, пра яе ўплыў на духоўны свет чытача, рускі вучоны і асветнік Мікалай Рубакін ставіў перад мастацкімі творамі

пэўныя пытанні: «Што ты, кніга, можаш даць мне, асобе чалавечай, мне — такому, які я ёсць, майму розуму, майму пачуццю, майму жыццю, барацьбе, якую я вяду, працы, якую я раблю ці маю намер рабіць, у тых умовах, у якія мяне паставіў шчаслівы альбо злаўмысны лёс? Што ты, кніга, даеш увогуле асобе чалавечай?.. Ты, кніга, што, уласна ўяўляеш сабой і якому гаспадару служыш? І якія перамены ты плануеш і можаш прыўнесці ў маё і ўвогуле чалавечае жыццё? Якія твае намеры, мэты і сродкі? Мне, асобе чалавечай, далёка неабыякава, які адказ ты дасі на ўсе гэтыя пытанні». Вынікае заканамернае пытанне: што юны чытач мае магчымасць атрымаць ад кнігі Андрэя Федарэнкі?

Калі шляхі Крушынскага і Вікі, Ціма і Валіка ўрэшце перакрыжоўваюцца, адбываецца іх знаёмства, спакваля пачынаюць адкрывацца таямніцы, што доўгі час ахутвалі падзеі. Асобныя сюжэтныя звенні сплятаюцца ў шчыльны ланцужок фактаў, дзе кожны эпізод адмыслова займае сваё дакладнае месца. Неабходна падкрэсліць, што аўтар па-ранейшаму пільна захоўвае логіку фактаў і абгрунтавана вытлумачвае ўчынкі персанажаў. Зусім верагоднай, напрыклад, выглядае гісторыя скарбу — шкатулкі з каштоўнымі камянямі, якая патрапіла з Афганістана на Беларусь з грузам «Дзвесце» (у закрытай цынкавай труне), пра якую перад смерцю паведаміў калісьці ў Падольскім ваенным шпіталі скалечаны салдат. Не пазбаўлены праўдападабенства і другарадныя перыпетыі, што спадарожнічаюць асноўным сюжэтным падзеям. Але галоўнае — чытач літаральна ўвачавідкі назірае натуральную эвалюцыю светапоглядаў і мыслення персанажаў. Многія якасці характараў не былі зададзены першапачаткова, яны сфарміраваліся на вачах у чытача, па меры таго, як хлопчыкі праходзілі школу жыцця, рабілі выбар у тых ці іншых сітуацыях. Іх высакародныя ўчынкі не выглядаюць выпадковымі, не з'яўляюцца выкліканымі збегам абставін ці неверагоднымі здольнасцямі, яны — вынік усведамлення падлеткамі сваёй адказнасці за лёс іншых людзей, вынік унутранага сталення юных герояў.

Аўтар рэалістычна адлюстраваў тыя акалічнасці, што паступова ўплывалі на свядомасць дзяцей і пазней зрабіліся арыенцірамі ў дзеяннях. Найперш — гэта досвед самога Крушынскага: «Перабудова, канец Савецкага Саюза, вольны бізнес, лёгкія грошы, вясёлае, не вядомае раней жыццё… <…> Васіля наперабой завуць у розныя фірмы, абяцаюць залатыя горы. Пачаў ён з целаахоўніка, затым вырас да менеджэра, потым — да камерцыйнага дырэктара… Грошы шалёныя, замежныя паездкі, рэстараны, іншамаркі… <…> Вельмі хутка пайшлі ў Васі няўдачы. Сяброў у яго не было; там, дзе працуюць вялікія грошы, сяброў ніколі не бывае. Сям'ёю ён не абзавёўся. Пасады свае пагубляў, прычым у зваротным парадку: камерцыйны дырэктар — менеджэр — целаахоўнік — проста вартаўнік, пакуль не выгналі зусім. Пачаў наш Васіль піць, прадаў усё, што можна было… А тут яшчэ звалілі на яго нейкую махінацыю, з камп'ютэрнай тэхнікай звязаную, падставілі яго, і хоць следчыя разабраліся, што ён тут ні пры чым, аднак месяцы тры давялося пакачацца на нарах…» Рэалістычная гісторыя, якую герой распавядае падлеткам пра свайго знаёмца Васіля, што не толькі не займеў шчасця праз грошы, але наадварот страціў спакой і нажыў ворагаў (як высвятляецца пазней — гэта гісторыя лёсу самога Крушынскага) у вялікай ступені паўплывала на свядомасць падлеткаў. Неабходна падкрэсліць, што Крушынскі для іх — герой, аўтарытэтны старэйшы сябар, а яго асабісты прыклад, меркаванні і ацэнкі сітуацый — амаль узорныя, на якія хацелася б арыентавацца ў паводзінах. Таму гісторыя, распаведзеная ім, спрацоўвае, робіцца своеасаблівым эталонам для юных герояў у наступных дзеяннях.

Вядома, што сюжэты тых літаратурных твораў, што вылучаюцца верагоднасцю, жыццёвай праўдзівасцю, вымушаюць праробліваць чытачоў своеасаблівы «зваротны шлях» — ад літаратурнага твора да рэальнага жыцця. Як пісаў В. Бялінскі, «чытачы бачаць у яго асобах жывыя вобразы, а не прывіды, радуюцца іх радасцямі, пакутуюць іх пакутамі, думаюць, разважаюць і спрачаюцца між сабой пра іх значэнне, іх лёс, нібыта размова ідзе пра людзей, насамрэч існуючых і знаёмых ім». Інакш кажучы, знаходзячыся ў атмасферы захапляльных перыпетый сюжэта, чытач непасрэдна далучаецца да іх, нязмушана і, магчыма, неўсвядомлена перажывае працэс самаідэнтыфікацыі — суадносіць свае адчуванні з

пачуццямі персанажаў літаратурнага твора, пранікае ў іх эмацыянальныя станы. Таму ён непазбежна адчуе грэблівасць да адмоўных персанажаў аповесці: былога камандзіра, што служыў з Крушынскім у Афганістане, і ператварыўся ў сквапную істоту, да меркантыльнага доктара Пратасевіча і яго зяця, апантаных прагай нажывы, іншых. А вось станоўчыя героі — Крушынскі, Цім, Валік — якія клапоцяцца пра слабых і пакрыўджаных, імкнуцца да справядлівасці, цярпліва пераадольваюць цяжкасці і небяспечныя абставіны, кіруючыся адно альтруістычным памкненнем дапамагчы бліжняму, абавязкова выклічуць у чытача сімпатыю, жаданне быць падобным на іх. У гэтых вобразах — магутны выхаваўчы зарад, але дыдактычны пачатак замаскаваны, схаваны за перыпетыямі сюжэта, таму ўздзейнічае на чытача апасродкавана, не выклікаючы сустрэчнага супраціву. Апроч таго, супрацьпастаўленне персанажаў, якія знаходзяцца на дыяметральна розных пазіцыях этыкі і маралі, паступова выяўляе, што ключавымі якасцямі станоўчых герояў з'яўляюцца якасці духоўныя — міласэрнасць, спагада, дабрыня. Менавіта гэтыя якасці дапамагаюць героям атрымліваць перамогу ў шматлікіх складаных сітуацыях.

Такім чынам, аповесць «Афганская шкатулка» Андрэя Федарэнкі ўяўляе сабой не толькі ўзор мастацкага ўвасаблення адмысловага прыгодніцкага сюжэта, дасканалага кампазіцыйнага вырашэння твора, але, несумненна, здольна самым плённым чынам уплываць на фармаванне духоўнага свету юнага чытача.

**Алена МАСЛА**

# КЛЮЧ ДА РАЗУМЕННЯ ЖЫВОГА СВЕТУ

*Убачыўшы «Чырвоную кнігу ў казках і вершах», знаёмая настаўніца-філолаг сказала: «Такая кніга павінна была выйсці тыражом як мінімум разоў у дзесяць большым».*

*Пасля гэтую думку выказвалі шмат якія людзі. Розных па прафесійнай прыналежнасці, па ўзросце, усіх іх зацікавіла ідэя: праз казку, любімы многімі жанр, данесці чытачам звесткі пра расліны, якія аздабляюць нашу зямлю, пра жывёл, птушак, жамяру, грыбы — адным словам, пра рэдкіх і знікаючых прадстаўнікоў флоры і фауны Беларусі.*

Ці так ужо многа ведаем мы пра свет, які нас акаляе? Бярозу ад дуба, канешне, большасць людзей здольна адрозніць беспамылкова. Не пераблытаем і вераб'я з буслом... Але, калі задацца мэтай і наперакік назваць кветкі, дрэвы, птушак, жывёл, якіх мы можам пазнаць, сустрэўшы ў жывай прыродзе, не такі ўжо і вялікі спіс атрымаецца.

Парадокс ды й годзе. Працягласць адукацыйнага працэсу ўсё падаўжаецца, інфармацыйнае насычэнне прасторы павялічваецца. А элементарныя веды, да якіх абавязкова трэба аднесці і добрае веданне роднай прыроды, прыходзяць у заняпад.

Чаму? Прычын, відаць, багата. Адной з найсур'ёзнейшых, мне падаецца, можна назваць «кабінетнае» выхаванне чалавека. Ці не большасць школьнікаў вывучае тое, што расце ў двары ці суседнім лесе, па падручніках. Да спакусы спазнаваць свет, не выходзячы з пакоя, цяпер ужо далучана і сусветнае сеціва. І вось гэта мажлівасць — даведацца пра ўсё, не падымаючыся з крэсла, падаецца, моцна абкрадае чалавека.

Чаго варты набор ведаў без радасці жывога спазнання свету? Без мажлівасці прайсціся басанож па мурагу; набрысці, заглыбіўшыся ў лес, на сям'ю дзікоў або сустрэць ля стажка сена на паляне лася; назіраць цёплай ноччу за спакойнай гладдзю возера, расквечанага зоркамі белых лілей...

Усё гэта нараджае пачуццё, якое мае на мэце адукацыя па падручніках, але якое ніколі не з'явіцца, пакуль мы сядзім па хатах і спраўна грызём навуку дзеля высокага бала ў атэстаце — крэўнай і непадзельнай повязі з усім жывым на Зямлі...

І найпершай каштоўнасцю кнігі, другой з серыі «Чырвоная кніга ў вершах і казках», якая зусім нядаўна выдадзена РВУ «Літаратура і Мастацтва», але, думаецца, вельмі хутка стане бібліяграфічнай рэдкасцю, — якраз і з'яўляецца вось гэта пачуццё еднасці з усім светам; разуменне не проста яго біялагічнага існавання, але адушаўлёнасці, пачуццёвасці, спрычыненасці да лёсу людзей.

Гэту кнігу можна назваць чароўным ключыкам — і да таямніц прыроды, і да сэрцаў людзей.

Задумка расказаць пра сур'ёзнае — займальна, увасоблена ў згаданай кнізе выдатна. «Чырвоная кніга ў казках і вершах» зроблена такім чынам, што ў ёй можна знайсці і сціслыя, па-навуковаму лаканічныя звесткі — так, як яны падаюцца ў сапраўднай «Чырвонай кнізе», — і цікавыя казачныя гісторыі, якія робяць інфармацыю пра жывёльны і раслінны свет запамінальнай, бо пісьменнікі пашчыравалі, ствараючы яркія вобразы.

Да таго ж, побач з навуковай інфармацыяй у кнізе пададзены выявы «герояў» — дакладна так, як яны выглядаюць у прыродзе. І тут жа — выдатныя ілюстрацыі да казак і вершаў, выкананыя мастакамі Мікалаем Казловым і Наталляй Суставай.

Як вынік, інфармацыя не проста запамінаецца з лёту. Лёсы герояў казак выклікаюць перажыванне, учынкі іх — усмешку, шкадаванне, спачуванне... Адным словам, усю гаму пачуццяў, якой мы адгукаемся і на ўчынкі людзей.

Гэта вельмі істотны псіхалагічны момант. Асабліва, думаецца, ён здольны станоўча ўздзейнічаць на свядомасць дзяцей, пазбаўляючы іх магчымасці бясспрэчнага наследавання стэрэатыпнага мыслення, якое цягам шматлікіх мінулых дзесяцігоддзяў старанна ўбівалася людзям у галовы: чалавек — цар прыроды, якому дазволена звысоку глядзець на свет і мяняць яго згодна сваім уяўленням пра тое, што ў гэтым свеце добра, а што — кепска. Што толькі ён — жывы ў тым сэнсе, што перажывае, пакутуе ад страт. А звярам, птушкам, раслінам — душа не баліць, бо яны яе не маюць.

Што асабіста мне вельмі імпануе, — стваральнікі «Чырвонай кнігі...» сваімі творамі далучаюць чытачоў да думкі пра ***адушаўлёнасць*** усяго, што жыве і расце на Зямлі. Пры гэтым Чалавеку, асобе ***адухоўленай***, пакідаецца царскае месца ў сэнсе адказнасці за ўсё жывое на планеце.

Зямля нам усім і дом, і агульны храм, дзе нельга паводзіць сябе непрыстойна, шкодзіць, бяздумна разбураць, нішчыць... А раптам сапраўды: вось гэта, да прыкладу, расліна, касцянец пасценны, вырас на памяць пра палкае каханне — і як сведчанне таго, што «...праўда з'яўляецца на вытаптанай маной паверхні часу».

Прыведзены тут радок — «З казак бабулі Юстыны», створаных Людмілай Рублеўскай. Цыкл гэты, пачаты ў першай «Чырвонай кнізе ...», і тут працягвае тэму высакародства, самаадданага кахання. Паводле казак бабулі Юстыны, дзякуючы менавіта гэтым пачуццям, зямля расквецілася і згаданым ужо касцянцом пасценным, і чыставустам каралеўскім (якім стала ліра, пакінутая лірнікам), і ўвярэднікам скіпетрападобным («...дзіўныя кветачкі, залацістыя, як пер'і на капелюшы, ды падобныя да каралеўскага скіпетра — ганарлівыя, як той каралевіч-увярэднік»)...

Асаблівай цеплынёй вылучаюцца «Казкі з гербарыя», напісаныя Раісай Баравіковай. Звязаць у адно цэлае жыццё рэальнае і казачнае дапамагае пісьменніцы надзвычай сімпатычны герой з мудрагелістым імем Мупсякарнашжабулвак, а па-простаму Мупся.

«Людзі мяне не бачаць, а я ўжо даўным-даўно жыву тут і ведаю ўсё пра людзей, а найбольш пра расліны», — распавядае Мупся і не скупіцца на чарадзейныя гісторыі, якія пісьменніцы застаецца толькі занатоўваць.

Казкі, прапанаваныя Раісай Баравіковай, цікавыя, акрамя ўсяго іншага, і стварэннем названага героя. Яго дасведчанасць, дзякуючы яго абаяльнасці, для чытачоў — асабліва, думаецца, для дзіцячай аўдыторыі — проста неаспрэчная!

Акрамя таго, адна з гісторый — «Як Патрык і Хрысціна апынуліся ў пархавіку» — адметная сваёй канцоўкай. Яна сугучна тым народным павер'ям, якія папярэджваюць, напрыклад, аматараў крыўдзіць жаб: «Бародаўкі на руках вырастуць!» Разбуральнікам ластаўчыных гнёздаў прарочаць твар, пакрыты рабаціннем, а за забойства божых каровак наогул прадказваюць смерць...

Кранальная гісторыя закаханай пары — Патрыка і Хрысціны, якім давялося хавацца ад пераследнікаў у пархавіку, не запалохвае, а далікатна папярэджвае: не абыходзьцеся легкадумна з рэдкім грыбам, якога становіцца ўсё менш! Інакш ніколі не дачакаюцца закаханыя сустрэчы Паўднёвага ветру з Паўночным, каб выйсці з порхаўкі, у якой хаваюцца...

Кранае гісторыя «Рыжая чапля», створаная Віктарам Праўдзіным. Рэальнае жыццё, у якім адбываецца сустрэча хлопчыка Алеся з параненай чапляй, пераплятаецца з казачным сном, у якім Промнік расказвае Алесю пра тое, як Чапля ратавала зямлю. І як стала Сонечнай чапляй... Фінал гісторыі аптымістычны: прагнозы доктара, які сказаў, што чапля лётаць больш не будзе, не збываюцца. Птушка паднімаецца ў неба, як толькі Алесь выконвае наказ, атрыманы ў сне ад Промніка.

Гэта падзея ператварае казачны сон у рэальнасць. А, па вялікім рахунку, замацоўвае ў свядомасці чытачоў тое, пра што гаварылася вышэй: усведамленне повязі ўсяго жывога.

Да найцікавейшых казак зборніка, лічу, трэба аднесці казкі Генадзя Аўласенкі «Чаму пустальга на мышэй палюе», «Адкуль жук-алень узяўся» і «Чаму барсук амаль увесь час у нары сядзіць». Аўтар валодае здольнасцю гаварыць проста пра рэчы складаныя, мова яго твораў лёгкая, вобразы запамінальныя. Генадзь Аўласенка пачынае свае казкі апавядальна, з паведамлення сапраўдных звестак пра «герояў» сваіх твораў. А ўжо пасля дае волю фантазіі, з дапамогай якой стварае па-казачнаму пераканаўчыя сітуацыі, у якія трапляюць і пустальга, і алень, і барсук...

Безумоўна, аздабляюць зборнік вершы Віктара Гардзея. Яны па-добраму ўражваюць сваёй колькасцю: паэт творча «абжыў» самую вялікую колькасць «герояў» «Чырвонай кнігі...» Пустэльнік, барадатая няясыць, паўлінава вока малое начное, начніца натэрэра, гагара чорнаваллёвая, гогаль звычайны, трохпальцы дзяцел, кашаніль польская, стронга ручаёвая, падалірый — вось пералік тых, хто лётае, плавае і расце і каму пашчасціла быць апетым Віктарам Гардзеем. Каб выказвацца так паэтычна і лаканічна, як робіць гэта Віктар Гардзей, у невялікія вершы змясціць і апісанне знешняга выгляду, і звычак сваіх «герояў», яшчэ і казачнымі фарбамі падквеціць рэчаіснасць, як да прыкладу, у «Кашанілі польскай», — трэба па-сапраўднаму любіць гэты свет, тонка адчуваць яго душой.

Алесь Бадак прапаноўвае чытачам тры казкі «Нота «мі» для Квaквы», «Чаму Званочак Хмарку на дапамогу клікаў» і «Кураслеп лясны». Найбольш дасціпнай, вясёлай сярод астатніх цікавых казак падалася апошняя з названых. Гісторыя пра Белага Пеўніка, які знайшоў на падворку буквар і навучыўся чытаць, запомніцца і палюбіцца чытачам, бо напісана з вялікай цеплынёй і гумарам. Шкада толькі, што ў гэтай харошай казкі такая сухая навуковая назва. Гэта не супярэчыць канцэпцыі дадзенага зборніка, але дзеля дасканаласці твора трэба было б прыдумаць больш інтрыгуючы загаловак...

На роўных з дзецьмі адбываецца размова ў казках Анатоля Зэкава. Даходліва і проста расказвае пісьменнік і пра перажыванні малога Сіваграка, і пра свавольствы Чмеліка, які ў рэшце рэшт стаў паслухмяным, і пра Чарнушку Эфіопку, якая ажно ў Афрыку злётала, каб даведацца, што такое гэты загадкавы выралй...

Разам з героямі казак Анатоля Зэкава чытачы гуляюць, вандруюць, назіраюць жыццё і спасцігаюць адвечныя ісціны: трэба слухаць бацькоў; няма зямлі, лепшай за радзіму...

У кнізе змешчаны адзіны, але вельмі сімпатычны верш Уладзіміра Мазго «Дзівак-Сіваграк». Лёгкі, вясёлы, запамінальны. І, як і належыць у казках, гаворыцца ў ім пра птушыную нецярпячку, а гучыць напамінам і нам з вамі:

Калі справу робіш спехам,
Абярнуцца можа смехам!..

Пазнавальныя казкі прапануе чытачам Міхась Пазнякоў. Яны вучаць уважліваму, любоўнаму стаўленню да навакольнага свету.

Героі казак Віктара Шніпа «Паўночны кажанок», «Малы пагоніч», «Белая курапатка» трапляюць у складаныя, надзвычайныя сітуацыі. Лёсы ўсіх іх трагічныя, што надае сюжэтам напружанасці, выклікае спагаду і суперажыванне чытачоў. Падаецца, каб крыху больш аўтар выкарыстаў фактаў з рэальнага жыцця, пераўвасобіўшы дакладную інфармацыю ў казачныя абставіны і вобразы, творы толькі б выйгралі. У выпадку з казкай «Паўночны кажанок», напрыклад, дзеянне, так інтрыгуюча завязаўшыся, знаёміць з цікавымі героямі і раптоўна абрываецца... Гэта расчароўвае, таму што рамантычны пачатак, выпісаны прыгожаю мовай, багаты фантазіяй, абяцае гісторыю намнога даўжэйшую...

Зрэшты, справа няўдзячная — пераказваць змест кнігі. У выпадку, калі гаворка ідзе пра «Чырвоную кнігу ў казках і вершах», трэба знайсці гадзінку-другую і пачытаць яе абавязкова самім і сваім дзецям, унукам, каб пачуць дыханне жывога свету, лучнасць з ім. Ну, а працягам лагічным і абавязковым няхай стане сустрэча з лесам, лугам, полем; з уважлівым прыгляданнем і прыслухоўваннем да зямлі; з трапяткім разуменнем сваёй далучанасці да лёсу ўсяго жывога на Зямлі і сваёй чалавечай адказнасці перад ёй.

Думаецца, галоўнае, дзеля чаго шчыравалі стваральнікі «Чырвонай кнігі...» — у гэткай выснове.

А цяпер ад ідэй высокіх вернемся да рэчаіснасці, якая заключаецца ў скупых лічбах: наклад кнігі — тры тысячы экземпляраў.

Як па цяперашнім часе, лічыцца, што няблага.

Але ў выпадку з праектам, пра які мы гаворым, відаць, можна далучыцца да меркавання, што «...такая кніга павінна была выйсці тыражом як мінімум разоў у дзесяць большым».

Падаецца слушным, бо «Чырвоную кнігу...» мець хаця б адну на школу — якая дапамога настаўнікам, дзецям! Кніг цяпер выходзіць багата розных: і пра расліны, і пра жывёльны свет. Распісана-размалявана ўсё, дзе што за светам робіцца.

А тут — пра сваё, роднае, з чым побач жывём. Калі САМІ не напішам пра СВАЁ, НІХТО ЗА НАС ГЭТАГА НЕ ЗРОБІЦЬ!

Радуе, што, разумеючы гэта, стваральнікі «Чырвонай кнігі...» смела эксперыментуюць, ствараючы патрэбны, прыгожы, па-мастацку якасны прадукт.

Дарэчы, падаецца, па матывах казак са зборніка можна стварыць серыю цікавейшых мультфільмаў — чаму б не прапанаваць «Беларусьфільму» гэту ідэю?!

З «Чырвонай кнігай...» не сорамна пастукацца ў дзверы кабінета любой установы і падказаць:

***«Пагляздіце, якая важная справа зроблена. Без перабольшання, дзяржаўнага значэння, бо што можа быць важней за выхаванне свядомага стаўлення да жыцця на зямлі...***

***Дапаможыце зрабіць так, каб кніга гэтая дайшла да шырокага кола чытачоў!»***

**Алесь НАВАРЫЧ**

# ЖЫЦЦЁ І ДЗІЎНЫЯ ШТУКАРСТВЫ МАЦЕЙКІ, або РАБІНЗОН КУКУРУЗА, СЫН ПАЛЕССЯ

*Аповесць*

## *РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ,*

*у якім сын начальніка сельсавецкага ваенна-ўліковага стала Мацейкі Грышка Мацейка выяўляе першыя адхіленні ад нормы.*

### *1. Саламон*

Дзень быў як дзень, якіх бывае шмат у канцы жніўня. Хіба, можа, надта чысты, золісты, з халоднай расой. Начальнік ваенна-ўліковага стала Іван Мацейка выбраўся гэтым днём па грыбы. Устаў на досвітку, каб на ровары па сцежцы ўздоўж чыгункі дабрацца да грыбных мясцін перш, чым там з'явяцца столінскія грыбнікі — тыя вызбіраюць дарэшты ўсё, што нарасце за ноч.

Іван Мацейка прыехаў у лес не адзін, а з васьмігадовым сынам Грышкам, якога часцей называлі Мацейкам, або Мацеем — ад прозвішча, бо меў паважны, самастойны характар. Хадзілі па лесе, рэзалі грыбы. Развідняла, прыгрэла сонца. Крэазотавы смурод шпалаў ад недалёкай чыгункі змешваўся са жнівеньскай ранішняй вогкасцю. Сонца то хавалася за туманам, які падымаўся проста з лесу ў неба, то ажно прыпякала.

Хлопчык, Мацейкаў сын, шустра лётаў па пасадцы, ірваў грыбы з коранем за адсутнасцю нажа або клікаў бацьку, калі знойдзены грыб быў баравік і не варта было драць грыбніцу.

Стары Мацейка пазавіхаўся каля вывадка маслякоў, а потым гукнуў сына. Хлопчык не адказаў. Бацька гукнуў гучней — ціха.

«Каб не згубіўся, будзе клопату», — падумалася Мацейку, але тут ён убачыў, як недалёка ў падлеску мільганула сынава постаць. Пайшоў да яго, варочаючы галавой то направа, то налева. У гэтай мясціне сярод густога верасу, які толькі-толькі збіраўся зацвітаць, маглі гнездавацца баравікі.

І тут бацька пачуў сынаў голас:

— Паглядзіце на лілеі польныя, як яны растуць: яны не працуюць, не прадуць, але кажу вам, што і Саламон ва ўсёй славе сваёй не апранаўся так, як кожная з іх.

«Што ён балбоча?» — мільганула ў галаве.

— І калі траву польную, якая сёння ёсць, а заўтра будзе кінута ў печ, Бог так апранае, наколькі ж болей вас, малаверы! — завяршыў сваё гаварэнне сын.

— Што ты мелеш? — азваўся бацька, выходзячы на паляну, на якой перад купай нейкіх раслін з ліловымі кветкамі стаяў малы Мацейка.

— А ніц, нічога, — схамянуўся хлопчык.

— Як нічога? — здзівіўся бацька. — Нешта ж казаў, я ж не глухі.

— Гэта так, проста... — збянтэжана прамовіў хлопчык. — Сказалася — і сказалася.

Бацька хмыкнуў, цішком ды нішком пахадзіў за сынам. Той болей нічога не гаварыў. Праўда, калі знайшоў пад карчом ядлоўцу чысты баравік на тоўсценькай і высокай ножцы, паклікаў бацьку, а сам укленчыў перад знаходкай і ад радасці тоненька, натхнёна, з лёгкім падвывам заспяваў:

— Мы, белару-у-усы, з братняю Руссю...

«Гімн валіць...» — уздыхнуў стары Мацейка, пачухаў патыліцу і падумаў, што, відаць, хлопчык проста не выспаўся добра, таму і загаворваецца і абы-што, не да ме-

сца, спявае. І, відаць, гэтаму гаварэнню і спяванню не варта надаваць асаблівай увагі. Праўда, цікава, адкуль ён з Бібліі ведае? Гімн — ладна, чуў, штораніцы радзіва грае. А пра Саламона хто яму расказваў і дзе ён пра яго чуў?

## *2. Трэцяя сусветная вайна*

Прыехалі дахаты. Да кошыка падскочылі яшчэ двое хлопцаў — усяго ў начальніка ваенна-ўліковага стала іх было трое — сталі даставаць і перабіраць здабычу: халодныя баравікі, слізкія маслякі, лёгкія краснюкі, мятыя бабкі. Здымалі з грыбоў першыя пажаўцелыя лісточкі бярозы, выцягвалі ігліцу, якая пракалола грыбныя шапкі.

Тым часам згаладалы бацька дастаў з печы бляшаныя формы, у якіх калісь пяклі хлеб. Нацяпер,у гэтую раніцу, на бляхах у цесце былі запечаны маладыя пеўні. Узяў хлеба, вынес печаныя пеўні на ганак. Ад грыбоў свой лясны пах ідзе, цеста пад рукамі разломваецца, па-свойму пахне, ад маладых пеўнікаў свежы мясны дух падымаецца…

І толькі селі есці, тут жа, на парозе, пад лапатым клёнам, як недзе ў небе пачулася натужлівае гудзенне.

— Верталёт?! — абрадаваліся дзеці.

— Не, самалёт, — упэўнена сказаў Мацейка.

І праўда — нізка, цяжка гудучы, над вёскай праляцеў штурмавік. Вінтаматорны. Парадаваліся. Вось, самалёт праляцеў. Ды яшчэ так нізка. То ўсё высока-высока лятаюць, ледзь відаць у небе. Так, невялічкі крыжык, а тут во — і лётчыка можна ўбачыць.

Не паспелі з'есці аднаго пеўня, чуюць — ляціць другі самалёт. Потым — трэці. А там пайшло і паехала. Чацвёрты, пяты, шосты, сёмы…

Прывыклі, ускокваць перасталі. Другога пеўня даелі, дасталі з бляшанай формы трэцяга, а самалёты ляцяць і ляцяць… Налічылі і дваццаць, і трыццаць, а яны ўсё пруць і пруць. Нізка, з гулам, гудам, аж шыбы ў вокнах трасуцца. Што ж гэта здарылася?

— Вось, — сказаў дарослы Мацейка, прыхоўваючы ўсмешку. — Запамінайце: так пачынаецца трэцяя сусветная вайна.

— Як вайна? — апуджана здзівіліся дзеці.

— А вось так і вайна. Гэта ж на Чэхаславаччыну паляцелі. Бамбіць будуць.

## *3. Апакаліпсіс*

Малы Мацейка, што ездзіў у грыбы, раптам збялеў. Твар ягоны вырабіўся, што тая маладая кураціна. Збялеў, палажыў недаедзены кавалак у форму, у якой пеўні тыя запякаліся, лёг на траву.

— Зноў! Зноў прыступ… — абрадавана закрычаў меншы з братоў.

— Ну то што ўжо, паміраць будзеш? — спытаўся бацька, са смакам пераЖоўваючы кураціну. Крадком ад дзяцей ён глынуў з гляка, прыхаванага ў «выстэмпцы», «карчоўкі», і ў яго быў добры, жартаўлівы настрой.

— Раз вайна, — адказаў малы Мацейка, — то навошта жыць? Памру.

— Не прыдурвайся, — лагодна сказаў бацька.

— Не прыдурваюся, бо так і Барбара старая казала, што, калі будзе трэцяя сусветная вайна, то жывыя пазайздросцяць мёртвым. Лепш памерці адразу… Чаго чакаць: успышка злева, успышка справа?!

— Вайны не будзе, супакойся, — прымірэнча сказаў бацька.

— А бамбавозы? — спыталіся дзеці.

— Гэта Саветы войскі туды ўвялі, чэхаў пужаць. Амерыка збаіцца атамную бомбу на нас кідаць. Бо і ў нас ёсць што кінуць. Не бойцеся, хлапчаняты мае дарагія, вайны не будзе. Вось бяда толькі, што нашы абавязкова там, у Чэхаславаччыне, угідзяцца… Па поўную зашмаргу…

І тут малы Мацейка закаціў вочы і выдаў наступную фразу:

— Колькі славіла яна сябе і раскашавала, столькі аддайце ёй пакутаў і гора. Бо яна кажа ў сэрцы сваім: сяджу царыцаю, я не ўдава, і не ўбачу гора!

— Хто — яна? — усклікнуў бацька.

— Як хто? — здзівіўся хлопчык. — Краіна Саветаў, камунія. Вось за тое ў адзін дзень прыйдуць да яе кары, смерць, і плач, і голад, і будзе спалёна агнём, бо моцны Гасподзь Бог, які судзіць яе. І заплачуць, і загалосяць па ёй цары зямныя, што блудадзеялі і раскашавалі з ёю, як убачаць дым ад пажару яе, стоячы зводдаль…

— Перастань, Грыша, перастань…

— Дай, тата, скончыць. Дык вось… стоячы зводдаль у страху ад пакутаў яе і кажучы: гора, гора табе, вялікі горад Вавілоне, горад моцны! Бо ў адначассе прыйшоў суд твой.

— Хто табе Біблію чытаў? — затармасіў сына бацька.

— Канец свету блізка! — не мог спыніцца той. — Час выйшаў! Але не бойцеся, бо сказаў Гасподзь праз прарока: «Ад улады пекла я адкуплю іх, ад смерці пазбаўлю іх. Смерць, дзе тваё джала? Пекла, дзе твая перамога? Раскаянне ў тым не будзе ў мяне!»

— Грыша! — крыкнуў бацька сыну ў вуха.

— Ваісціну вам гавару: канец свету блізка! — урэшце скончыў хлопчык сваю прамову і задаволена заўсміхаўся, чакаючы, пэўна, адабрэння ці ўзнагароды за такую цяжкую работу памяці.

Узнагароды не было. Пазмрачнелы бацька схаваўся ў хату, а браты пакруцілі пальцамі каля скроняў.

### *4. Рабінзон Кукуруза*

Вечарам таго ж дня начальнік ваенна-ўліковага стала Іван Мацейка трымаў раду са сваёй жонкай.

— Нічога, мусіць, з яго не будзе… — казаў ён. — Гаворыць абы-што.

— Хай гаворыць. Усе дзеці часам абы-што балбочуць, — з рэзонам адказала жонка.

— Ты паглядзі! Закоціць вочы і, як ашаломак нейкі, пляце несусветную лухту.

— Што ж ён пляце? І ты часам абы-што пляцеш. Пастанеце каля крамы і пераліваеце з пустога ў парожняе. Амерыка, Англія, Саветы… Палітыкуеце ўсё.

Мацейка хмыкнуў і спахмурнеў.

— Ён, як і маленькі быў, яшчэ і гаварыць не ўмеў, а гэтак шпарка-шпарка балбатаў, — прымірэнча сказала жонка.

Начвус уздыхнуў.

— Я ж кажу табе: не ўмеў гаварыць, а хацелася. Яшчэ года не было, мармытаў, ды так хутка-хутка. Гэтак ён гаварыць хацеў. Але не ўмеў. Цяпер, на гэты раз, на што яму заманулася гаварыць?

— На вайну. Расказаў, што Саветы напалі на Чэхаславаччыну, а Амерыка, маўляў, заступіцца. Ну і прагаварыўся, што можа пачацца трэцяя сусветная вайна. Што Амерыка кіне бомбу на Кубу, а Саветы — на Амерыку… А тады і пачнецца. Вось ён і збялеў, упаў.

— Навошта ты расказваў яму пра гэтую вайну?..

— Навошта? — гмыкнуў Мацейка. — Навошта… Напраўду ж савецкія штурмавікі паляцелі ў Чэхаславаччыну.

— Дык навошта, пытаюся, дзецям у вушы ўводзіць пра гэты канец свету?! Ды яшчэ такому малому. Ён і так крыху прышаломкаваты, а ты…

— Ну, які ён ашаломак? Што ты вярзеш? Нармальны хлопчык. От часамі находзіць.

— Находзіць, — згадзілася жонка. — Пазаўчора таксама найшло.

Муж наструніўся.

— Што было? Чаму не расказала?

— Я заву яго, клічу: Грышка ды Грышка, — не адклікаецца. Падышла — сядзіць з драўлянай стрэльбай на дрывотні, на галаве дзедава кучомка…

— А дзе ён тую кучомку ўзяў?

— З шопы дастаў. Там старыя транты, што вясной выкінулі, а папаліць забыліся. Сядзіць гэтак. Пытаюся: «Грышка, чаму не адзываешся?» А ён: «Я не Грышка!» — «А хто ты?» «Рабінзон Кукуруза», — кажа.

— Стой-стой! — усхапіўся начвус. — Гэта яму старэйшы «Рабінзона Круза» прачытаў… Вось ён і ваабражае… Пайду пагавару з ім… Тут варта дазнацца, адкуль ён са Святога Пісання ведае.

## 5. «У Афрыку, у Азію»

Стары Мацейка пайшоў на вуліцу, знайшоў сына і спытаўся:

— Ты, Грышка, даўно чытаў што?

— З самага ранняга дзяцінства я больш за ўсё на свеце любіў жыццёвае мора, — адказаў Грышка. — Я зайздросціў кожнаму даросламу, які самастойна плаваў у гэтым жыццёвым моры, меў уласныя штаны і добры абутак. У мяне ўсяго гэтага не было.

— Як не было? — ашаломлена спытаўся бацька.

— Не перабівай… — адмахнуўся ад бацькі сын. — Цэлымі гадзінамі я выстойваў на вільчыку і, не адрываючы вачэй, глядзеў на грузавікі і аўтобусы, што праходзілі паўз нашу хату і адвозілі людзей у свет, пазіраў на даўжэзныя саставы, што адпаўзалі ў засмужаную далеч падпрыпяцкай альсы, спакутаванымі вачамі праводзіў крыжыкі самалётаў, што баразнілі высокі блакіт паляшуцкага неба.

Стары Мацейка ад неверагоднасці таго, што ён пачуў, не мог пераступіць з нагі на нагу — быццам і ногі адняліся.

— Маім бацькам гэта не вельмі падабалася. Яны ўвогуле не спадзяваліся, што ў іх будзе такая ўрода, як я. Бацька, дробны дзяржаўны службовец, хацеў, каб я зрабіўся ваенным лекарам, служыў у войску, лячыў вайскоўцаў і атрымліваў добрую палучку, — не міргаючы казаў Грышка.

— От ты даеш!.. Хопіць… — бацька з лагодай падступіўся да сына.

— Не-не, — адпіхнуўся ад бацькавых рук малы Мацейка. — Слухай, татка, далей: я марыў пра падарожжы ў людскім моры. Мне здавалася найвялікшым шчасцем блукаць па свеце. Бацька адразу здагадаўся, што ў мяне ў галаве.

— Калі гэта я здагадаўся? — У бацькі і рукі апусціліся. Ён са шкадаваннем глядзеў на сына, бо той выглядаў на вар'ята.

— А яшчэ тады, калі мяне не було, тады і здагадаўся. Ды не перабівай, татачка, я кажу — ён, гэта значыць, мой бацька, прыціснуўся да матчынага жывата вухам, у якім я знаходзіўся ў выглядзе маленькага зародачка, і сярдзіта сказаў: «Эй, ты! Я ведаю, што ты хочаш з'явіцца на свет. Гэта неразумна. Ты мусіш там астацца. Калі ты там застанешся, я буду табе добрым бацькам, але гора табе, калі ты адтуль збяжыш!» — і тут голас яго задрыжаў…

— Гэта ў мяне задрыжаў? — здзівіўся бацька. На гэты раз голас у яго сапраўды задрыжаў — ён быў перакананы, што яго серадольшанькі сынок Грышка ненармальны, звар'яцеў. А якому бацьку прыемна, калі ягоныя дзеці на вачах ператвараюцца ў ненармальных?

— Падумай пра хворую маці… — з замілаваннем, з акцёрскай выразнасцю праказаў Грышка. — Яна не вытрымае разлукі з табой… На вачах у яго блiснулі слёзы.

— У каго… слёзы? — на гэты раз ужо зусім безнадзейна, а разам з тым і баязліва запытаўся бацька. Ён глядзеў на свайго сына з поўным перакананнем, што хвіліна-другая — і ў хлопчыка пачнецца якая-небудзь трасучка, як і ва ўсіх такіх хворых. Менавіта так, са шкадаваннем, і глядзяць на безнадзейна хворых. Асабліва хворых на галаву.

— У каго, у каго… У бацькі. У цябе, тата. Слухай далей.

Стары Мацейка сціснуўся. Тое, што гаварыў ягоны сын, было поўным вар'яцтвам. «Як яго спыніць? — падумаў ён. — Пайду адыдуся, мо перастане».

Ён падняўся, каб ісці.

— Ён любіў мяне і хацеў мне дабра, — не звяртаючы ўвагі на рэакцыю бацькі, балбатаў далей Мацейка-малы. — Мяне падштурхвала хутчэй тая субстанцыя, што ахутвала мяне, клікала тая невядомая істота, што выношвала мяне, і запрашала мяне пазнаёміцца з сабой. Але толькі праз некалькі месяцаў, уласна кажучы, праз той тэрмін, які вызначае тэрмін выспявання плода ў істот высокіх, якія прысвоілі

сабе права вырашаць нешта ў жыцці; праз той тэрмін ад маёй размовы з бацькам я ўсё ж вырашыў уцячы ад іх. Выбраў час, калі маці была вясёлай і спакойнай, падышоў да яе і шанобліва сказаў: «Мне ўжо дастаткова часу, а ў маю пару позна ўжо быць аб'ектам мройнага палону. Калі б вы з бацькам нават і вырашылі не пускаць мяне нікуды, усё роўна было б позна і я ўцёк бы з палону вашай нявырашанасці. Мне так хочацца ўбачыць свет, пабываць у Афрыцы і Азіі!

— У Афрыцы і Азіі! — усклікнуў стары Мацейка і абхапіў галаву рукамі. — Якая Афрыка, якая Азія, сынок, што ты вярзеш?!

Але сынок гаварыў, як кажуць на Палессі, — шалаціў, — далей. Бацька пайшоў у хату, праз акно ўбачыў, што сын, не маючы слухачоў, пайшоў да вясковай крамы, якая размяшчалася побач з Мацейкавай сядзібай. Там стаялі мужчыны, чакалі, калі з абеду прыйдзе прадаўшчыца і прадасць каму цыгарэт, каму хлеба. Мацейка-малы падышоў да людзей, і было відаць, што ён ім нешта расказвае. Пэўна ж, такую самую лухту, што гаварыў і яму, бацьку.

«От што робіцца, — з болем і шкадаваннем падумаў стары Мацейка. — Здурнеў, дальбог, здурнеў. Трэба паказваць дактарам, гэтым неўрапатолагам, ці мо і самім гэтым, псіхіятрам… Скажу жонцы, каб пайшла забрала. Перад людзьмі сорамна…»

### *6. Каму патрэбен доктар?*

Калі маці падышла да крамы, Грышка працягваў сваю прамову не прамову, але спакойную і разважлівую гаворку. Мужчыны, якія стаялі пад дзвярыма крамы, нэндзячыся ад суму чакання, з нецікавасцю пазіралі на хлопчыка і, здавалася, ці не слухалі, ці проста не хацелі разумець таго, што той гаварыў.

— Прашу вас, угаварыце бацьку даць мне жыццё і выпусціць у жыццёвае мора хоць бы на кароткі час, для пробы; калі жыццё мне не будзе даспадобы, я вярнуся назад і больш ніколі не буду з'яўляцца ў гэты свет, так і застаўшыся вашай марай. Вы не зможаце прыдумаць у апраўданне анічога, каб не выпусціць мяне з вашай турмы… — заявіў Грышка.

— З якой турмы? — лена спытаўся адзін з мужчын, які, нарэшце, звярнуў увагу на падшыванца.

— З мамінага жывата, — не міргнуўшы вокам, праказаў малы Мацейка. Пры гэтым ён звярнуўся да маці, якая паспела падысці.

— Няхай мяне бацька выпусціць дабравольна, бо іначай я буду змушаны выйсці сам, без яго на тое дазволу. Ты, мамка, вельмі раззлавалася на мяне і сказала: «Здзіўляюся, як ты можаш думаць пра нейкія выхады ў свет пасля тваёй гутаркі з бацькам! Бацьку лепей ведаць, ці зможаш ты быць там, у тваім свеце, ці не. Зразумела, калі ты хочаш загубіць сябе, выскоквай хоць у гэты момант…

— Во дае! — гучна прашаптаў нехта з мужчын. Усе яны стаялі і тупа слухалі гэткае неверагоднае моўнае вычварэнства.

—…але можаш быць перакананым, — заўзята працягваў свой маналог Мацейка, — што мы з бацькам ніколі не дамо дазволу на тваё падарожжа. Дарэмна ты спадзяешся, што я стану табе дапамагаць.

— О шалоціць, як па-пісанаму… — зноў не вытрымаў адзін з мужчын.

— Не, я ні слоўка не скажу бацьку пра твае бессэнсоўныя мары, — натхнёна, з большым імпэтам працягваў Мацейка. — Я не хачу, каб у будучым, калі ў жыццёвым моры давядзеш сябе да нэндзы і пакут, ты мог папракнуць сваю маці ў тым, што яна патурала табе».

Мацейка змоўк, але толькі на хвілінку, бо правёў рукой па лбе, быццам аціраючы ад такога гаварэння пот, і паехаў далей, хоць маці ўжо і ўзяла яго за плечы, і адварочвала ад людзей:

— Потым, праз многа гадоў, я даведаўся, што мамачка мая ўсё, слова ў слова, перадала бацьку. Бацька засмуткаваў і сказаў ёй з уздыхам: «Не разумею, што яму патрэбна? Ненароджаны, у нашых марах, ён мог бы быць вечна шчаслівы. Мы любілі б яго, і ён бы жыў з намі да глыбокай старасці, ні ў чым не маючы патрэбы».

Маці тузанула сына. Мацейка змоўк. Маці, нібы апраўдваючыся на відавочнае вар'яцтва ўласнага дзіцяці, сказала:

— Гэта ён Рабінзона таго, Крузу пераказвае… Яму Толік, большанькі, чытаў, а ён усё запомніў.

— Во галава! — заківалі галовамі мужчыны.

— Калі ж ён кінецца падарожнічаць, ён перажыве страшэнныя нягоды і пашкадуе, што не паслухаў бацьку, — нібы ўзбадзёраны матчынымі словамі, працягваў Мацейка.

Маці развяла рукамі: маўляў, што рабіць? Не затыкаць жа прыполам рот.

— Не, я не магу яго адпусціць. Як толькі ён з'явіцца там, дзе яго не чакаюць, ён адразу зробіцца самотным, і, калі з ім здарыцца бяда, не знойдзецца сябра, які мог бы ўцешыць яго. І тады ён пакаецца ва ўласнай неразважлівасці, але будзе позна!

— Звазілі б вы яго да доктара, — сказаў нехта.

Мацейка змоўк і паглядзеў на таго, хто гэта сказаў. Паглядзеў і раптам сказаў:

— Вас, дзядзьку, самога да доктара трэба.

У такіх выпадках звычайна пішуць — «грымнуў рогат».

## *РАЗДЗЕЛ ДРУГІ,*
*у якім да Мацейкі перад тым, як яны з'ездзілі да лекара-псіхіятра, прыходзіць настаўніца пачатковых класаў.*

### *1. У засадзе*

Калі на вёсцы з'яўляецца новы чалавек, усе прыглядаюцца да яго паставы, ацэньваюць прычоску, адзенне, абмяркоўваюць нават даўжыню носа, чырвань твару і шыр крокаў. Так было і на гэты раз, калі Ніна Жывінская, маладзенькая настаўніца, пайшла па вёсцы набіраць дзяцей у першы клас.

Адцвітаў жнівень, бярозкі абсыпалі вясковую вуліцу сухім крылатым насеннем — блізіўся верасень, які адкрываў новы навучальны год, пускаў новую генерацыю ў непазбежнае жыццёвае плаванне.

Ніна Мікалаеўна адзелася і па-святочнаму, і не вельмі каб кідка. Усе сустрэчныя пачціва віталіся з ёй, бо бачылі ў руках прыгожа, але даволі сціпла апранутай маладой жанчыны сшытак і аловак, што азначала далучнасць да начальства, а жанчыны-мацяркі, у якіх меліся школьнікі-першагодкі, глядзелі на яе са скораным утрапеннем. Так глядзяць на стаматолагаў, ветэрынараў, калгасных старшынь і вясковых прадавачак, калі маюць пільную, непазбежную патрэбу.

Мужчыны, пасля таго як настаўніца праходзіла паўз іх у шаўковай з гузікамі пад шыю сукенцы, збіраліся купкамі і аж закурвалі — такая вучыцелька, маладая, гожая, стане таймаваць іхных жэўжыкаў. Ага! Тут рука трэба, каб і за шкірку добра ўзяць магла, бо *на іх жа шкура гарыць*. Глядзелі, прыглядаліся і дружна вырашалі: «Ёсць рука, ёсць.» Бо новая настаўніца была і высокая, і пры руках, і пры грудзях.

Трэба ж было такому здарыцца, што малому Мацейку ў той дзень бэмцнула ў галаву паласавацца. Слівамі, ды яшчэ чужымі. Праўда, у той год іх быў вал, ніхто не пільнаваў. Бяры, рві, еш, хоць расперажыся, толькі галін не ламай. Мацейка сядзеў на сліве, якая расла на чужой сядзібе, сядзеў у самай гушчыні, каб не бачылі; здымаў слівы, пакрытыя матава-фіялетавым пылком, і глытаў з каменьчыкамі, і рабіў гэта толькі таму, што гэта — глытаць з костачкамі, — забаранялася.

Убачыў незнаёмую жанчыну, якая пынілася каля кожнага двара і нешта выцікоўвала. Сшытак і аловак у руках выдавалі ў жанчыне ворага. Папера і аловак выклікалі асацыяцыі з начальствам, з падаткавымі агентамі, поштай, з сельсаветам, міліцыяй, гэта значыць, дзяржаўнымі інстытуцыямі. А гэта было чужым, няродным; бо яно, як казаў бацька, азначала падаткі, павесткі, позвы ў суд. Ці хоць бы штрафы за ненавязаных сабак — так было за Польшчай, або прымусовая падпіска на «Сельскую газету» ці хоць бы на мясцовую газетку, у якой часам друкавалі партрэты даярак ці камбайнераў.

Чырвоныя кветкі на гладкіх плечуках жанчыны паблісквалі на сонцы шаўковым пераліваў. Мацейку раптам зарыхцілася стрэльнуць у гэтыя плечы з рагаткі. Ну надта ж зручная ў яго пазіцыя. Ды ён, як індзеец, у сапраўднай засадзе! А гэта — «бледнатварая»!

Няўрымснік заклаў у скуранaчку — мяшэчак рагаткі — цвёрдую, яшчэ недаспелую слівіну. Прыцэліўся, расцягнуў гуму і... гэп! Так цэлка прыпячатаў жанчыне ў спіну, што бедная аж уздрыгнула. Не дзіва, што ўздрыгнула. Добра, што не войкнула.

Азірнулася, паціраючы спіну — няма нікога. Разгледзелася і зразумела, што стралок мог сядзець толькі ў слівовым зарасніку. Прадыхнула, напоўнілася гневам. Што, ісці разбірацца, шукаць крыўдзіцеля?

Настаўніца была ад прыроды чалавекам не толькі асцярожным, але і кемлівым. Яна зрабіла абхадны манеўр. Нібыта пайшла прэч, добра-такі адышлася, перайшла вуліцу, завярнулася і, трымаючыся плота, каб навіслыя галіны сліўняку хавалі яе, падышла да таго месца, адкуль, як меркавала, быў здзейснены злачынны стрэл. І выглядзела хлопчыка, які з пачуццём выкананага абавязку і з выглядам поўнай беспакаранасці чвякаў пераспелымі слівамі, седзячы на галіне. Рагатка ягоная была заткнута ў нагрудную кішэньку кашулі.

— Злазь, — сказала настаўніца.

Мацейка, як пачуў гэтае слова, ледзь не самлеў. Каб грымнуў з яснага неба гром, так бы не спужаўся. На табе, яго абхітрылі! Ён сціснуўся ў камячок, каб быць меншым, захацеў ператварыцца ў мыш, у камара, у тлю! Але змог толькі затуліцца за ствол слівы, спадзеючыся, што яго не будзе відаць. Дзе там!

Жанчына ў шаўковай сукенцы ў чырвоныя кветкі стаяла зусім недалёка — як рукой падаць. Нават духамі пахла ад яе. Што рабіць? І драла не дасі, бо ўбачыць твар, пазнае потым, раскажа бацькам — і тады што?!

Ніне Мікалаеўне ўжо і не балела, але было ўсё яшчэ крыўдна, і яна хацела нават стрэсці нягодніка з дрэва, каб злавіць ды выпытаць імя, каб потым паскардзіцца бацькам. Але каб злавіць, трэба было пералазіць цераз плот, а яна была настаўніца. Што ж, перацярпела боль, сцерпіць і крыўду. Ніна Мікалаеўна сказала, і сказала зусім лагодна, наступнае:

— Злазь, хлопчык, пазнаёмімся.

Мацейка нічога не прыдумаў лепшага, як замерці, не варушыцца, не дыхаць нават — а галоўнае, не выдаваць свой голас.

— Хлопчык, злазь, я цябе бачу.

«Маўчаць, толькі маўчаць!» — круцілася думка ў галаве Мацейкі.

— Хлопчык, як цябе завуць? — ласкава спытала настаўніца.

І што ж вы думаеце? Тады і прагучала фраза, якая потым зрабілася шырокавядомым вясковым анекдотам.

— Мяне няма, — вось што сказануў Мацейка. Сказануў, быццам пяці- або чатырохгадовы хлапчучок, дзіця неразумнае.

«Нешта не тое, — падумала настаўніца. — Мо які такі... З затрымкай развіцця?!»

І пайшла па сваёй справе. А Мацейка-меншы, які і не падазраваў, што абстраляў з рагаткі сваю першую настаўніцу, сазлізгнуў са слівы і агародамі пабег дахаты. А там яго чакала бяда і гора. Бо тое, што ён стрэльнуў з рагаткі, як яму падалося, прывяло да непрадбачанага, страшэннага для ягонай уласнай свабоды і волі наступства — яго забралі ў школу. Пасадзілі на цэлы дзесятак гадоў на драўляную лаву, на якой не паварушыцца, не азірнуцца, ён патрапіў у сапраўдную турму, няволю, пазбыўся самага каштоўнага ў жыцці — абсалютнай, неабмежаванай дашкольнай бесклапотнасці.

## 2. Рэкрут

У Мацейкаў двор Ніна Мікалаеўна ўвайшла, хутчэй уплыла ў сваёй сукенцы, — ветрык гуляў з чырвонымі кветкамі на тканіне, — ужо з навіной, што хлопчык, які мусіць ісці з гэтай хаты ў школу, не зусім сябруе з галавой — языкі суседак-добраахвотніц падгулялі.

Дарослы Мацейка, як убачыў настаўніцу, уставіў у рот муштук «Беламорканала», каб выглядаць самавіцей. А Мацейка-меншы, як убачыў чужога чалавека, а галоўнае — пазнаў тую самую жанчыну, якой прыпячатаў сліўкай у плечы, хацеў даць лататы, але бацька паспеў злавіць яго. Ён ведаў сынавы выхілкі. Было часам і такое, што ягоны сынок, як яшчэ меншы быў, калі бачыў чужых людзей, з панічным страхам бег хавацца: уцякаў на гарышча, ляцеў на вышкі, бывала, залягаў у бульбу, а часцей знікаў у хаце, каб знайсці сабе прытулак пад ложкам. Пад ложкам, асабліва пад бацькавым, пачуваўся асабліва ўтульна і абаронена. Калі потым распытвалі, чаго ён так апудзіўся, Мацейка, не міргнуўшы вокам, адказваў:

— Я думаў — гэта немцы!

Але тут не вырвацца з бацькавай рукі. Ці трэба казаць, што душа Мацейкава, калі ўбачыў абстраляную нядаўна з рагаткі жанчыну, зменшылася да памераў наўнет мізэрных. І так ён сябе кепска адчуваў, быццам то і не душа ў яго была, а так, мышыная кацёлка — нагэтулькі ён паскудна сябе адчуваў. А горай ад усяго было тое, што гэтая самая рагатка, як прыўкраса злачынства, тырчэла ў яго з нагруднай кішэнькі. Схаваць яе, вырваць з кішэні — толькі прыцягнуць большую ўвагу.

Настаўніца павіталася, спытала прозвішча, перапытала, ці гэта і напраўду ёсць той хлопчык, якому споўніцца сем гадоў.

— Гэты і ёсць, — уторкнулася ў гутарку маці, якая выйшла з хаты. — Ён, ён. Яму якраз у школку ісці, калі возьмеце.

Мацейка быў пастаўлены пасярод двара. Выбраў момант і перапраівіў рагатку за пазуху, але, відаць, настаўніца паспела заўважыць ягоны рух. Хлопчык стаяў босы, у кароткіх, да калень, штанцах, стаяў і глядзеў у зямлю. Яму страшэнна казытала ў носе: пахлі нязвыклыя гарадскія жаночыя духі, і нібыта ад іх прабівалася, шукала свой шлях запозненая сляза раскаяння.

— Ну, што, Грыша, у школу хочаш? — нахілася да яго настаўніца, называючы яго паводле сапраўднага імені.

Мацейка сморкнуў носам і аж задыхнуўся гарадскім нязвыклым водарам. Прыгожа апранутая, гарадскога выгляду жанчына ў цэлым воблаку незвычайнага паху. Вучыцелька! Ён абстраляў вучыцельку! Сорам ахопліваў яго. Пачынаў паўзці ад ног і паднімаўся ўсё вышэй і вышэй. Ён адчуваў, што можа здарыцца самае сарамлівае, што можа здарыцца з дзіцём у ягоным узросце — пацячэ кранік. Але слёзы выратавалі — яны паліліся з ягоных вачэй ручаямі. О! Якое шчасце!

— Малаваты яшчэ, — сказаў бацька. — Яму сем будзе толькі праз два месяцы. Чаго ж ты, сынку, плачаш?

— Ад... ад шчасця, што ў школу бяруць, — заікаючыся, ледзь выціснуў з сябе хлопчык.

— Малайчына! Нічога, добра, — паблажліва сказала чамусьці абрадаваная настаўніца. — Што месяцаў не хапае — не бяда. Абы развіты быў, талковы.

— Развіты ён у нас і талковы, — усхадзілася маці. — Лічыць умее, чытаць навучаны.

— Чытаць умее?! — узняла броўкі настаўніца. — Гэта кепска...

— Чаму кепска? — здзівіўся Мацейка-старшы. Менавіта ён і падвучваў Грышку чытаць.

— Яны, як навучаныя, дык круцяцца, слухацца не хочуць, — патлумачыла настаўніца. — Яно потым добра, а спачатку... Неслухі такія.

— Не. Ён у нас паслухмяны, шкоды не робіць, — сказала маці. — Гаваркі такі, як пачне гаварыць...

Уга! Лепшы бы яна маўчала, маці. Нават і бацька строга зірнуў на яе.

— Чытаць ён нядобра чытае, пыкае яшчэ, — папраівілася, зразумеўшы бацькаў позірк, маці. — У яго памяць, як у прахвесара. Вунь «Рабінзона Круза» яму старэйшы брат прачытаў, дык усім, дзякуй Богу, расказвае, не шкадуе.

Пачуўшы імя Рабінзона, Мацейка-меншы раптам загаварыў. Ён зразумеў, што цяпер менавіта ў гаварэнні адзінае ягонае ратаванне.

— І ўсё ж праз некалькі месяцаў я ўцёк з роднага ўлоння, — сказаў Мацейка-меншы.

— Што? — перапыталася здзіўленая настаўніца. — Адкуль-адкуль ты ўцёк?

Яна не проста здагадвалася, яна бачыла, што гэты во хлопчык і ёсць той разбэшчанец, які ўсадзіў ёй сліўкай у плечы. Але не гэта яе турбавала. Яна баялася ўзяць у клас якога-небудзь, мякка кажучы, разумовага недаростка.

— З улоння! — патлумачыў стары Мацейка. — З нутрыны, значыцца...

— Зрабілася гэта так, — прадоўжыў падахвочаны бацькам малы Мацейка. — Рэч была ў тым, што ў маці не зусім было ў парадку здароў'е. Пакуль яна ездзіла па дактарах, прайшло столькі часу, што маё жаданне збегчы стала настолькі магутным, што ўцёкі зрабіліся непазбежнымі. І вось, не спытаўшыся ні ў бацькі, ні ў маткі, — у нядобры час! — 2 лістапада 1960 года я на дзевятым месяцы жыцця сеў на карабель, які адпраўляўся ў Свет.

— Што? Як гэта? — спыталася наўнет здзіўленая настаўніца.

— Гэта ён так, — сказала маці. — У яго часам бывае, ад хвалявання. Ён, бачыце, свой дзень нараджэння гэтак во, можна сказаць, спамінае... Рыхтык бо другога лістапада нарадзіўся.

— Гэта быў дрэнны ўчынак: я без ніякага шкадавання пакінуў мары маіх бацькоў...

— О, хораша гаворыць, — паківала галавой настаўніца. Чамусьці сум быў у яе ў голасе.

У Мацейкі ад сораму і страху зашчаміла ў вачах... Ён гаварыў, але каб толькі не выдаць сябе, каб настаўніца не прызнала ў ім абстрэльвальшчыка. Здрадлівая слязінка навісла на ніжняй вейцы.

— Пра-пра-пусціў міма вушэй іх парады, парушыў сыноўні... Сыноўні доўг, — выціскаў з сябе Мацейка. Слёзы бобам цяклі па шчоках — ад сораму, ад стыдоцця за непрыгожы ўчынак. — І мне вельмі хутка давялося раскаяцца ў тым, што я ўрабіў, зрабіў... вырабіў...

— Ну, не хвалюйся, — страсянуў бацька за плячук.

— А як у яго са здароўем? — з ледзь адчувальным холадам у голасе запытала настаўніца.

— Ён у нас здаровы, — выступіла маці. — Не хварэў, далібог, ані разочку.

— Ага, добра, — згадзілася настаўніца. — Ясна. Дык гэта, каб ведалі, што з даведкай трэба... Усім кажу, каб з даведкай, што ўсё добра. Даведка абавязковая, такі парадак. Усе прыносяць...

Ніна Мікалаеўна гаварыла няпраўду. Анікому, аніводнай сям'і не казала, каб мусілі мець медычную даведку на дзіця. Дактары прыязджалі ў школу самі, рабілі агляд.

Такім чынам, візіт да дактароў для Мацеек зрабіўся непазбежным. І ён адбыўся, чым выклікаў ў Мацейкі-старога вялікае падазрэнне, што на свеце ненармальных людзей болей, чым ён думаў.

## *3. Доктар па мазгах*

У бальніцы, перад доктарам-псіхіятрам Мацейка-меншы не сказаў ні слова. Маўчаў, і ўсё. Як заняло. Ані слова не прамовіў. Як бацька ні прасіў сына расказаць пра Рабінзона ці хоць пра што, малы ані слова не рэкнуў. І рота не раскрыў. І не дзіва — перад тым, як ехаць у райцэнтр, маці строга наказала не вярзці абы-чаго.

— Бывае, — сказаў раённы псіхіятр, калі паглядзеў хлопчыка і выслухаў Мацейку-бацьку. — Нічога страшнага... Як дамо рыцыны — пройдзе. У сэнсе — загаворыць.

Сказаў і ўважліва паглядзеў на пацыента. Пацыент — малы Мацейка — прапусціў слова «рыцына» міма вушэй.

— Начамі не гаворыць? Не ходзіць? — спытаўся лекар.

— Не. Спіць як забіты. Асабліва, як набегаецца.

— Абы фізічна здаровы, з дзецьмі бывае, перарасце, — казаў доктар. — Ну чаго, хлопчык, сташ насуплены як мыш на крупы?

Мацейка не вытрываў, пасміхнуўся і ад ніякаватасці і звычайнай дзіцячай сарамлівасці адвярнуўся.

— Ну, во, рэагуе, — абрадаваўся псіхіятр. — Карацей, нічога страшнага.

— Як, лекарко, нічога страшнага. А раптам таго, — і стары Мацейка, каб не бачыў сын, крутануў злёгку пальцам каля скроні.

— Ды ну, — махнуў рукой псіхіятр, і раптам ні з сяго, ні з таго выразна праказаў: — У выніку паглыбленага клопату партыі расце дабрабыт...

— Га? — няўцямна рэкнуў Мацейка-бацька. — Якая партыя? Які дабрабыт? Чый?

— Што? — перапытаў псіхіятр і некаторы час глядзеў на старога Мацейку, потым лыпнуў вачыма, перавёў позірк на радыёрэпрадуктар. — Гэта радыё... Гэта, гэта... не я...

— А-а, — разумеючы, працягнуў Мацейка. — Бывае... Дык вось, мы думалі, што ён проста так, шалота, як у нас кажуць. Гэта значыць шалоціць, меле абы-што. Увагі не звярталі, думалі, як і вы кажаце, што перарасце. А тут чым больш робіцца, тым горш...

— Надоечы аднаго таксама прывялі, — задуменна сказаў на гэта псіхіятр. — Лавіў рыбу ў лужыне. З жэрдачкі вудзільна зрабіў і відэлец заміж блешні прывязаў. Гадоў дванаццаць, у школу ходзіць. Паглядзеў я таго хлопчыка, самы нармальны хлопчык.

— А чаму наш такі?

— Магу сказаць: эканоміка зрабілася эканомней, дасягненні больш дасягнутымі... Шырокія народныя масы... вышэй трымаць сцяг сацыялістычнага спабор...

Стары Мацейка зірнуў на радыёрэпрадуктар, перавёў позірк на псіхіятра. Той, чырвоны, праз сілу не здолеў авалодаць фразай, якая самахоць вылазіла з ягонага рота:

— ...спа-бор-ніцтвы... Халера! Выбачайце, заядае... Наслухаюся гэтага радыё... Цьху, зараза... Дык вось, бачу, вы — інтэлігентны чалавек. Магу сказаць... Па сакрэту, — зрабіўшы таямнічы выгляд, сказаў псіхіятр. — Ёсць такі вучоны, Фрэйд называецца, калісь нават забаронены быў, дык ён сцвярджае, што нараджэнне з'яўляецца першай жыццёвай небяспекай і правобразам усіх наступных. Менавіта сам працэс народзінаў і першыя адчуванні пры гэтым працэсе ўнушаюць нам страх. Перажыванні пры нараджэнні застаюцца ў нас, мяркуе гэты Фрэйд, верагодна, у тым афектыўным выразе, якое мы называем страхам.

— А-а-а, — зрабіўшы выгляд, што ўсё зразумеў, сказаў Мацейка-бацька. — Ці не той гэта аўстрыйскі жыдок, які залячыў свайго лепшага сябра какаінам?

— О, я не памыліўся, вы чалавек напраўду інтэлігентны. Адкуль вы гэта ведаеце?

Дарослы Мацейка зрабіў таямнічы выраз і паказаў на радыё.

— Галасы? Вы слухаеце?

Стары Мацейка кіўнуў і прыклаў палец да рота.

— Ясна. Вось вы казалі, што расказвалі свайму хлопцу пра вайну з Амерыкай. Вы ж самі і справакавалі гэтым прыступ неўратызму. Дык вось, хлопчык баіцца не таму, што вайна будзе, але баіцца рэшткаў таго, што ён нарадзіўся. Зразумелі? Таму так і гаворыць. І няхай гаворыць. Абы не рабіў нічога... Вось ужо калі рыбу спінінгам пачне з лужыны вывуджваць, гэта ўжо складаней.

Даведку доктар выпісаў, што з Мацейкам усё нармальна. На развітанне, — не паспелі яшчэ малы і стары Мацейкі зачыніць дзверы кабінета, як псіхіятр заляскаў далонямі па баках і гучна, пранізліва пракукарэкаў.

Чаму ён так зрабіў, ні стары, ні малы Мацейкі не зразумелі. Пэўна, доктар хацеў пажартаваць, каб выклікаць сваім учынкам у дзіцяці-маўчуна прарыў эмоцый, але лекарава «кукарэку» нібы перагрэтая пара выштурхнула наведвальнікаў з кабінета. Як толькі дарослы Мацейка зачыніў за сабой дзверы, тоўстая мястэчковая санітарка, якая шаравала швабрай лінолеум, схіліла галаву набок і сказала:

— Бяды?! Паспрабуй павучыся шаснаццаць гадоў?! Тут і нармальны чалавек не вытрымае. Ды яшчэ на студэнцкім харчы... Папярэдні лекар вальс з наведвальнікамі танцаваў.

### *4. Нараджэнне адбылося!*

Стары Мацейка выйшаў з бальніцы са складанымі пачуццямі. З аднаго боку, даведка ляжала ў кішэні, ды і псіхіятр абнадзеіў. А з другога... Мацейка-старшы расказаў не ўсю праўду прадстаўніку лячэбнай установы. Лавіў і Грышка рыбу. Нават не з лужыны, а з... дрывотні. Зрабіў вудзільна з нейкай палкі, пачапіў нітку, да той ніткі прывязваў трэскі і з крыкам «клюе!» паторкваў трэску-рыбіну. Потым падсякаў, з добрую мінуту вывуджваў, потым здымаў трэску-рыбіну з кручка і насаджваў новага чарвяка. Чарвякі былі не ўяўныя, а самыя нармальныя дажджавыя чырвоныя чарвякі. Гэта і пужала — сумесь рэальнасці і гульні. Тады ён, стары чалавек, падыграў дзецям — прывязваў да ніткі не трэскі, а цэлыя паляннякі і крычаў радасна:

— Грышка, цягні сома!

Але вось, калі Грышка прывалок кош трэсак на кухню і загадаў маці, каб засмажыла ўлоў, бацька чарговы раз пераканаўся, што з сынам нешта не ў парадку.

Добра, жонка спрытна выкруцілася — сказала, што рыбу згатуе на вечар, а на абед будуць есці звараны з раніцы бульбяны суп — крышаны.

Да аўтобуса, які ішоў на родную вёску, заставаўся час. Старому Мацейку рупіла пахадзіць па магазінах, купіць што, але Грышка, намаўчаўшыся ў псіхіятра, стаў гаварыць. Яго быццам прарвала — гаварыў і гаварыў. Прахожыя звярталі ўвагу на хлопчыка, і добра было хоць тое, што сын гаварыў нягучна — у трох-пяці кроках ужо нельга было разабраць, пра што ён гаворыць. І не перабіць, не спыніць. Даводзілася, калі бачыў людзей, пераводзіць сына на другі бок вуліцы. Купіў марожанае, і, пакуль Мацейкаў рот быў заняты ласункам, дайшлі да аўтастанцыі.

— Не паспеў я крыху выйсці ў гэтае невядомае мне мора, як адразу падзьмуў страшэнны, люты сівер, — сказаў Грышка, калі абсмактаў палачку ад марожанага і шпурнуў яе ў сметніцу.

Стары Мацейка павёў сына ў скверык за будынкам аўтастанцыі.

— Я пайду білет куплю, — сказаў Мацейка-старшы.

— Уга, — матлянуў галавой Грышка. — Тое яснае і вольнае адчуванне спакою і ўтульнасці парушылася цьмяным, бледным, але рэзкім і вельмі непрыемным пачуццём, якое ахоплівае ўсю тваю істоту аж да дрыжыкаў, калі ты ўпершыню расплюшчваеш вочы ў халодны лістападаўскі надвячорак, калі неба пакрыта хлюпасткімі хмарамі, і тады ўвесь свет здаецца асклізлым і непрыемным. Больш ніколі ў жыцці мне не давялося адчуць такога моцнага непрыемнага пачуцця.

«Точна дзень народзінаў успамінае, — згадзіўся ў думках з лекарам Мацейка-старшы. — Галава-ўрач! Спецыяліст, куды ні кінь, хоць і кукарэкае».

— У-а! У-а! — раптам гучна, голасна, на ўвесь скверык, — ды дзе там, — на ўсю аўтавакзальную плошчу закурняўкаў, як нованароджанае дзіцятка малы Мацейка.

«Усё, нарадзіўся, слава табе, Госпадзі! — абрадаваўся і Мацейка-старшы. — Мо балбатаць перастане. Пайду па білет».

І напраўду, калі бацька вярнуўся ў скверык з купленым білетам, Грышка сядзеў на лавачцы сцішаны, задаволены і здзіўленымі вачанятамі азіраў свет, у які, як ён усвядоміў упершыню ў жыцці, прыйшоў. І першае, што ўбачыў пры гэткай новай сваёй свядомасці — бляшаную шыльду раённай аўтастанцыі, сінія рылатыя аўтобусы і вялікую глыбокую калюжыну проста пасярод прыстанцыйнай плошчы, у якой з выглядам важнага раённага начальніка ляжала вялізная пярэстая свіння, па якой хадзіла чарнабокая заклапочаная сарока.



Пятро САБІНА

# ДРУГІ ХЛЕБ

Самахвалавічы — прыгожа размешчаны непадалёк ад Мінска на беразе Пцічы гарадскі пасёлак. Пятнаццаць хвілін хапіла, каб даехаць сюды на аўтамабілі са сталіцы. Многіх ён прыцягвае, захапляе цішынёй, утульнасцю і гарманічнай паяднанасцю з экзатычнай прыродай, на ўлонні якой з душэўным камфортам можна цудоўна адпачыць. А вось для шматлікіх уладальнікаў прысядзібных і дачных участкаў, гаспадарак усіх форм уласнасці Самахвалавічы ў першую чаргу цікавыя тым, што ім тут прапануюць на любы густ у сакавіку-красавіку і кастрычніку-лістападзе высакаякасныя насенную і харчовую бульбу, пасадачны матэрыял пладовых і ягадных культур, насенне гародніны знакамітай беларускай селекцыі. Недасведчаных чытачоў, пэўна, зацікавіла: хто ж распараджаецца ўсім гэтым вялізным селекцыйным багаццем? З прыемнасцю паведамляем: Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па бульбаводстве і плодаагародніцтве. Створаны ён на базе Інстытута бульбаводства НАН краіны. У Самахвалавічах ягоны штаб, навуковы патэнцыял з матэрыяльна-тэхнічнай уласнасцю. Цэнтр з'яўляецца заснавальнікам Інстытута пладаводства, Інстытута агародніцтва — яны размешчаны ў самым блізкім суседстве, поруч, на адной пляцоўцы — і Талачынскага кансервавага завода.

НПЦ — галоўны вытворца арыгінальнага насення і пасадачнага матэрыялу высокапрадукцыйных сартоў бульбы, пладовых і гароднінных культур уласнай селекцыі разнастайных груп спеласці і гаспадарчага прызначэння з далікатэснымі смакавымі якасцямі, высокай устойлівасцю да стрэсавых фактараў знешняга асяроддзя і распаўсюджаных хвароб, а таксама добрай лёжкасцю. Настойліва ажыццяўляе практычную рэалізацыю сваіх распрацовак непасрэдна ў сельскагаспадарчым сектары. Навуковым забеспячэннем яго вучоных карыстаюцца 185 бульбаводчых гаспадарак, 177 — пладаводчых і 50 — буйных па агародніцтве. Сюды ўваходзіць і выпрацоўка агратэхнічнай стратэгіі, забеспячэнне насенным матэрыялам і тэхналогія вытворчасці таго або іншага віду прадукцыі. У межах рэспублікі цэнтр супрацоўнічае з усімі вопытнымі станцыямі, падтрымлівае цесную сувязь з Горацкай сельскагаспадарчай акадэміяй, акадэмічнымі ўстановамі і 30 НДІ васемнаццаці краін свету.

Буйнамаштабныя матэрыяльныя сродкі цэнтр накіроўвае на будаўніцтва трох селекцыйна-гібрыдных модуляў у Самахвалавічах па бульбаводстве, пладаводстве і агародніцтве, для абнаўлення лабараторнай базы, што значна павысіць узровень тэарэтычных навуковых распрацовак. Прадугледжана паскоранае развіццё многіх напрамкаў даследаванняў па біятэхналогіі, імунітэце, селекцыі, насенняводстве.

За вырошчванне бульбы беларусы ўзяліся ўсур'ёз у сярэдзіне XVIII стагоддзя пры каралі Аўгусце III Сасе перш на Гродзеншчыне, пазней у Полацкім ваяводстве. Дарэчы, займаліся гэтым спачатку нямецкія спецыялісты — іх Аўгуст, сам саксонец, запрасіў падымаць разбураную вайной і палітычнымі катаклізмамі эканоміку Каралеўства Польскага і саюзнага з ім Вялікага княства Літоўскага. Але гэта былі занадта сціплыя спробы.

Толькі бліжэй да сярэдзіны XIX стагоддзя, ужо ў часы Расійскай імперыі, бульба пайшла ў наступ на сялянскія палеткі. У 1840 годзе ў адной са справаздач па Гродзенскай губерні гаварылася: «Бульба займае першае месца ў ліку вырашчанай гародніны, спрыяе харчаванню народа, пракармленню жывёлы і ўгнаенню палеткаў». А ў канцы пазамінулага стагоддзя чыноўнікі рапартавалі аб поўным укараненні культуры: «гарох, частку ячменю, авёс сяляне збываюць, а бульбай харчуюцца амаль круглы год».

Сёння бульбу садзяць ва ўсім свеце. І, здаецца, ніхто не ўяўляе сабе, як гэта можна пражыць без бульбы, вельмі смачнага, каштоўнага прадукту. Яна, на шчасце, пластычная, расце на самых разнастайных глебах, мірыцца з непастаянствам клімату, толькі не пераносіць марозу. Бацвінне яе гіне нават пры невялікіх замаразках.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі бульба, як ні ў якай іншай рэспубліцы былога Саюза, вельмі добра прыжылася ў Беларусі. Яе вывядзенню шмат увагі надавалі вучоныя, пад яе вялікія плошчы адводзілі калгасы і саўгасы. Яна да гэтага часу з'яўляецца першаснай і галоўнай культурай на прысядзібных участках. Па сутнасці бульба — наш ярка выражаны нацыянальны прадукт. Без яго не абыходзіцца ні адна сям'я. Нездарма ж беларусаў з даўніх часоў называлі бульбашамі. Мы не крыўдуем на гэта, наадварот, ганарымся, што нам так даспадобы бульба, незаменная ў нашым меню, і можам прыгатаваць з яе больш за сотню вельмі смачных і спакуслівых страў.

Велізарная заслуга ў развіцці бульбаводства ў рэспубліцы належыць выдатнейшаму селекцыянеру Пятру Іванавічу Альсміку.

Нарадзіўся Пётр Іванавіч 27 студзеня 1907 года ў вёсцы Вялікая Выдрэя Лiозненскага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1929 годзе «на выдатна» закончыў Сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках і атрымаў званне вучонага агранома вышэйшай кваліфікацыі. З першых дзён вучобы Пётр Іванавіч актыўна ўключыўся ў работу і быў адным з актыўных членаў Навуковага таварыства. Улічваючы вялікую схільнасць да даследчыцкай работы, па рэкамендацыі Навуковага савета ён накіроўваецца малодшым асістэнтам на Навазыбкаўскую сельскагаспадарчую вопытную станцыю. Альсмік выбраў аб'ектам для доследаў бульбу пад уплывам вядомага вучонага, вялікага аматара гэтай культуры прафесара У. У. Вінера.

У 1931 годзе Пётр Іванавіч пераходзіць на пасаду навуковага супрацоўніка аддзела селекцыі насенняводства Беларускай занальнай вопытнай станцыі па бульбе, а праз тры гады робіцца старшым навуковым супрацоўнікам. Ужо ў першых сваіх навуковых працах «Бульба і дынаміка яе росту» і «Стандартныя для Беларусі сарты бульбы», выдадзеных у 1933 годзе, П. І. Альсмік заявіў пра сябе як таленавіты даследчык.

З 1935 года Пётр Іванавіч загадвае лабараторыяй селекцыі і насенняводства бульбы Беларускай станцыі паляводства, якая ў 1937 годзе была рэарганізавана ў Дзяржселекцыйную станцыю і знаходзілася ў в. Зазер'е Пухавіцкага раёна.

Вынікам практычнай навуковай дзейнасці ў даваенны перыяд з'явілася вывядзенне і раяніраванне двух гатункаў бульбы з добрымі гаспадарчымі якасцямі — Беларускі 5780 і Беларускі 746—36.

З верасня 1939 года да мая 1940 года П. І. Альсмік — у радах Чырвонай Арміі, удзельнічаў у вызваленні Заходняй Беларусі і змагаўся на фінскім фронце. У гады Вялікай Айчыннай вайны — член спецгрупы партызанскага атрада Мінскага падпольнага гаркома. Дзякуючы супрацоўніцтву Пятра Іванавіча з партызанамі ўдалося прадухіліць вываз у Германію і захаваць лепшыя ўзоры селекцыйнага матэрыялу, за што ў 1944 годзе ён узнагароджаны медалём I ступені «Партызану Вялікай Айчыннай вайны».

Пасляваенныя гады для Альсміка былі перыядам найбольш інтэнсіўнай навуковай дзейнасці. Сапраўдны талент вучонага і моцная воля давалі сілы і ўпэўненасць шляхам селекцыі пераадолець такое небяспечнае захворванне, пакінутае вайной, як рак бульбы.

У кароткія тэрміны выкананы шырокі аб'ём доследаў генафонду, дадзена тэарэтычнае абгрунтаванне селекцыі на ракаўстойлівасць і, як вынік, створаны шэраг высокаўраджайных ракаўстойлівых гатункаў: Працоўны, Партызан, Звеннявы, Агранамічны, Зазерскі. Гэтыя гатункі атрымалі шырокае распаўсюджанне ў вытворчасці, а гатунак Зазерскі каля 70 гадоў займаў вядучае месца на пасяўных плошчах рэспублікі.

За вывядзенне новых каштоўных гатункаў бульбы П. І. Альсміку, аднаму з першых вучоных-селекцыянераў, прысуджана Дзяржаўная прэмія III ступені СССР.

Валодаючы вялікім эксперыментальным матэрыялам, абвостраным пачуццём новага і унікальнай здольнасцю глыбокага аналізу ўласных даследаванняў і даследаванняў сусветнай навукі, Пётр Іванавіч распрацаваў шэраг буйных фундаментальных пытанняў селекцыі, якія з'яўляюцца да гэтага часу вызначальнымі ў практычнай рабоце селекцыянераў. Ён стварыў перспектыўныя напрамкі селекцыі бульбы на якасць і, у першую чаргу, на павышэнне ўтрымання сухіх рэчываў. Распрацаваная ім тэорыя паэтапнай селекцыі з ужываннем прымнажаючых скрыжаванняў дазволіла давесці ўтрыманне крухмалу ў клубнях да 29—30 працэнтаў. Практычным увасабленнем гэтых распрацовак з'явілася стварэнне высокаўраджайных гатункаў з высокім утрыманнем крухмалу — Лошыцкі, Тэмп, Разварысты, Беларускі крухмальны, Вярба. Гэты гатунак у 1995 годзе на гатункавыпрабаваннях у Швецыі па ўтрыманні крухмалу заняў першае месца сярод лепшых сусветных аналагаў і забяспечыў збор крухмалу звыш 10 тон з аднаго гектара.

Пра высокі ўзровень навуковых даследаванняў, іх завершанасць і практычную значнасць гаворыць той факт, што прапанаваная Альсмікам дысертацыя «Асноўныя пытані селекцыі бульбы ў Беларусі» на саісканне вучонай ступені кандыдата навук прынесла яму вучоную ступень доктара навук.

З моманту арганізацыі ў 1956 годзе Беларускага НДІ пладаводства, агародніцтва і бульбы ўся далейшая навуковая дзейнасць Пятра Іванавіча была непасрэдна звязана з гэтым інстытутам, дзе ён узначальваў селекцыйную работу па бульбе.

У гэтым жа годзе ён выбіраецца членам-карэспандэнтам УАСГНІЛ, у 1966 — сапраўдным членам (акадэмікам) АН БССР, у 1979 — сапраўдным членам (акадэмікам) УАСГНІЛ, у 1968 — зацверджаны ў званні прафесара.

За плённую працу ў галіне селекцыі бульбы ў 1966 годзе Пётр Іванавіч Альсмік удастоены звання Героя Сацыялістычнай Працы, у 1972 — яму прысвоена званне «Заслужаны дзеяч навукі БССР», а ў 1984 — ганаровае званне «Лепшы вынаходнік сельскай гаспадаркі СССР».

Пётр Іванавіч вядомы як выдатны селекцыянер, які стварыў 30 гатункаў, што шырока выкарыстоўваліся не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі. Гатунак Тэмп у былым Саюзе займаў 460 тыс га, а Лошыцкі звыш 150 тыс. га. Гэта велізарныя, рэкордныя плошчы. Аднак кола пытанняў, якія ўздымаў Альсмік, ахоплівае ўсю галіну бульбаводства і напрамкі навуковых доследаў: фізіялогію, генетыку, біяхімію, імунітэт і ахову, насенняводства, тэхналогію, механізацыю і эканоміку апрацоўкі культуры.

Глыбокай павагі і захаплення заслугоўвае плённая навукова-арганізацыйная праца Пятра Іванавіча на пасадзе намесніка дырэктара вопытнай станцыі, загадчыка аддзела селекцыі, старшыні секцыі бульбы Заходняга аддзялення УАСГНІЛ, кіраўніка саюзнай тэматыкі па бульбе, члена шэрага навуковых саветаў. Ён неаднаразова выбіраўся дэпутатам саветаў рознага ўзроўню.

Пётр Іванавіч падрыхтаваў школу таленавітых селекцыянераў, сярод іх Мікалай Ганчароў, Ірына Сямёнава, Ніна Тамчук і інш. Ім апублікавана звыш 100 навуковых работ, тэматыка якіх усебакова ахоплівае ўвесь спектр навуковых і арганізацыйна-тэхналагічных праблем бульбаводства. Значнай падзеяй у селекцыйнай навуцы быў выхад у свет манаграфіі «Селекцыя бульбы ў Беларусі», за якую Пётр Іванавіч быў узнагароджаны залатым медалём Мічурына.

Заслугі П. І. Альсміка ў развіцці сельскагаспадарчай навукі і яго асабісты ўклад у тэорыю і практыку селекцыі атрымалі шырокае прызнанне ў краіне і за мяжой. Ён быў ганаровым членам Акадэміі сельскагаспадарчых навук ГДР і актыўным прыхільнікам развіцця міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне селекцыі. Пётр Іванавіч узнагароджаны ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі, ордэнам Дружбы Народаў, трыма ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Айчыннай вайны II ступені, ордэнам «Знак Пашаны», чатырма залатымі і трыма сярэбранымі медалямі ВДНГ СССР, многімі медалямі, дыпломамі і граматамі.

Сто год з дня нараджэння Пятра Іванавіча Альсміка ўрачыса адзначыў сёлета калектыў Навукова-практычнага цэнтра НАН Беларусі па бульбаводстве і плодаагародніцтве. Многа цёплых, пранікнёных, кранаючых слоў было сказана з вялікай удзячнасцю ў адрас выдатнага вучонага тымі, каму пашчасціла з ім працаваць. Да такіх людзей належыць і старшы навуковы супрацоўнік НПЦ Людміла Васільеўна Незаконава. Да ўсяго яна яшчэ і захавальніца мемарыяльнага музея П. І. Альсміка.

Ён месціцца ў будынку былога Навукова-даследчага інстытута бульбаводства і плодаагародніцтва, у якім вучоны працаваў з 1964 па 1992 гады. У аснову экспазіцыі пакладзены прадметна-храналагічны прынцып. Яна складаецца з двух буйных раздзелаў і адлюстроўвае асабістае жыццё Пятра Іванавіча, яго навуковую, навукова-педагагічную і грамадскую дзейнасць. Сярод экспанатаў шырока прадстаўлены матэрыялы з Нацыянальнага дзяржаўнага архіва Беларусі, Мінскага абласнога дзяржаўнага архіва, а таксама з бібліятэк, прыватных збораў і калекцый. Захаваліся кнігі вучонага, яго запіскі, асабістыя рэчы, дзяржаўныя і ўрадавыя ўзнагароды. Пётр Іванавіч быў вялікім аматарам-фатографам. Яго здымкі, зробленыя, дарэчы, на высокім прафесійным узроўні, гэта тыя ж гістарычныя дакументы, у якіх паэтапна адлюстравана цэлая эпоха селекцыі ў асобах. У асноўным здымаў Пётр Іванавіч на вопытных участках, у лабараторыях — выхопліваў цікавейшыя моманты з працоўнага жыцця сваіх супрацоўнікаў. І гэтыя фота сёння унікальныя, бясцэнныя. Углядаючыся ў іх, апаноўвае хваляванне,

яго немагчыма суняць. Перад вачыма паўстае жывая нітка людскіх характараў, лёсаў, працоўнага самаадданага подзвігу ў некалькіх пакаленнях, роданачальнікам якіх быў ён, незабыўны, дарагі кожнай неабыякавай душы селекцыянера, Пётр Іванавіч Альсмік.

Людміла Васільеўна ганарыцца, што была вучаніцай выдатнага і знакамітага вучонага, доўгі час працавала поруч з ім. Вучнёўства гэта дало вельмі шмат, можна сказаць, зрабіла рэвалюцыйны пераварот у свядомасці, унесла ў жыццё пэўнасць, развеяла ўсе сумненні, што іншы раз закрадваліся і нямала дакучалі, падштурхнула да сапраўднай творчасці, надало апантанасці ў дасягненні мэты.

Расказвае Людміла Васільеўна пра сваю працу селекцыянера з хвалюючым пачуццём і захапленнем. Слухаючы яе, узрушана радуешся: «Божа, якая шчаслівая гэта жанчына! І яна, каб і хацела, не можа схаваць, што так яно і ёсць сапраўды. Колькі ў яе голасе душэўнай цеплыні, святла. Не кожны так чалавека можа любіць, як яна сваю работу». А ў дзявоцтве жартам недаўмелася б каму-небудзь сказаць, што стане селекцыянерам. Вучылася на любімым біяфаку Беларускага дзяржаўнага універсітэта. На апошнім курсе выйшла замуж, а неўзабаве пасля таго, як атрымала дыплом, нарадзілася дзіця. Пагадавала малечу, уладкавала ў садок, і — шукаць работу. У першы ж дзень пераканалася, што па спецыяльнасці яе знайсці не проста. Абзваніла сяброў-аднакурснікаў, і яны не суцешылі — там, дзе працавалі, таксама вакантных месцаў не знайшлося. Успомніла, што некалькі дзён назад чытала аб'яву ў газеце: Інстытуту бульбаводства і агародніцтва патрабаваліся малодшыя лабаранты. Удакладніла адрас і без доўгіх разваг паехала туды. Далі згоду ўзяць. Адразу ж без ваганняў напісала заяву. Было гэта ў 1971 годзе.

— Калі праўду сказаць, — дзеліцца ўспамінамі Людміла Васільеўна, — то я, калі ўладкавалася ў інстытут на працу, думала, што яна будзе для мяне часовай, папрацую крыху, каб не сядзець без справы, а як толькі знайду работу па спецыяльнасці, — звольнюся. Мяне засмучала, што не маю ніякага дачынення да сельскай гаспадаркі. Але сустрэўшы тут цудоўнейшых вучоных, людзей вельмі далікатных, чулых у абыходжанні, спагадлівых, адкрытых, адданых навуцы, якія акружылі мяне увагай і стараліся з кранаючай добразычлівасцю дапамагчы, зразумела, калі пакіну гэты калектыў, то потым буду вельмі шкадаваць. Дзякуючы Альсміку, я перагледзела свае погляды на сельскую гаспадарку, палюбіла селекцыю, якой без ваганняў вырашыла прысвяціць сваё жыццё.

— Цудоўны быў час, Людміла Васільеўна...

— Сапраўды, цудоўны. Мы, маладыя, прыйшлі ў інстытут, калі калектыў быў у росквіце, калі да яго ставіліся з вялікай павагай за выдатныя, авангардныя дасягненні не толькі ў Саюзе, а і за мяжой. Вялікая заслуга ў гэтым Пятра Іванавіча Альсміка. Пры ўсёй яго таленавітасці, адукаванасці і славутасці ён заставаўся дабрэйшай душы, простым і абаяльным чалавекам — інтэлігент старой загартоўкі, якога адрознівалі выключныя працалюбства і працаздольнасць. З удзячнасцю ўзгадваю цудоўнага нашага селекцыянера Іосіфа Адамава. Аддаючы яму ў рукі гатунак, былі ўпэўнены, што ён будзе размнажацца і будзе атрымана насенне добрай якасці. Сорт залежыць ад таго, як вядзецца насенняводства, як ён размнажаецца, якой якасці насенне.

Зінаіда Дзмітрыева, Зоя Рамнёва... Як нам, аспірантам, хораша было з імі. Калі б хто іншы раз паназіраў, як праходзілі ў нас палявыя вопыты, пэўна, не зразумеў бы, што да чаго. Жартуем, спяваем, сцэнічныя нумары выкідваем. Карацей, імправізуем хто на што здатны, каб не было млявасці, застыласці ў рабоце, каб яна была вясёлай і захапляла. Усё гэта рабілася па ініцыятыве нашых любых педагогаў — Зінаіды Аляксандраўны і Зоі Іванаўны. Яна атрымлівала ў нас заўжды дружную падтрымку. І як вынік — навуковы матэрыял засвойваўся на ляту. Нашы мілыя жанчыны маглі цярпліва выслухаць нашы іншы раз недарэчныя ідэі, абмеркаваць іх і знайсці рацыянальнае зерне.

Мы прымалі ўдзел у цікавых канферэнцыях, нарадах, сустракаліся з цудоўнымі спецыялістамі УІРа імя М. І. Вавілава ў Ленінградзе — вядомымі акадэмікамі, прафесарамі. Яны прыадкрывалі нам заслону таямнічасці ў пытаннях селекцыі, паказвалі багацейшую калекцыю дзікіх і культурных відаў разнастайных раслін, сабраных з усяго свету. З Масквой, Кіевам былі цудоўныя ўзаемаадносіны. І наогул, па тым часе шырокае супрацоўніцтва ажыццяўлялася і з замежнымі навуковымі ўстановамі Балгарыі, ГДР, Югаславіі, Кубы і іншых краін. Нас не баяліся пасылаць за мяжу, і мы былі рады гэтаму. Узаемаабмен навуковымі ідэямі, напрацоўкамі вельмі шмат значыў для нас.

Пасля абароны дысертацыі ў НДІ бульбаводства і плодаагародніцтва Людміла Васільеўна мела поўную свабоду для навуковай працы. У калектыве, які стаў род-

ным, яна знайшла сваё прызванне, для яе тут многія служылі прыкладам, і яна з уласцівай ёй сур'ёзнасцю і настойлівасцю імкнулася даказаць, што таксама чагосьці варта, чалавек невыпадковы. Старалася з максімальнай карысцю скарыстаць час на ўчастках селекцыйнага гадавальніка, нярэдка зазірала ў лабараторыі НДІ, затрымлівалася ў бульбасховішчах. Працэс вывучэння новага гатунку даволі працаёмкі. Гэта не кабінетная работа. Бясконцыя назіранні за раслінамі, іх параўнанні і супастаўленні з вясны да восені, ацэнка селекцыйнага матэрыялу па розных параметрах, адбор і шмат іншага.

Не існуе такога гатунку, які б спалучаў у сабе ўсе станоўчыя прыкметы, чаго заўжды чакаеш. Нешта праяўляе сябе больш, нешта на сярэднім узроўні... А хочацца лепшага. Селекцыянер у пастаянным пошуку яго, гэтага лепшага.

У інстытуце — багатая калекцыя бульбы з розных краін, у тым ліку і зусім новыя «форм», якія служаць донарамі пры стварэнні ўласных гатункаў. Наогул метад донарства вельмі спрыяе селекцыі. Але ў працэсе скрыжаванняў атрымліваюцца гібрыды з патрэбнымі ўласцівасцямі, бо бярэцца менавіта той гатунак-донар, які багаты нехапаючай для гібрыда якасцю, прыкметай: або стойкасцю да хвароб, або ўраджайнасцю ці холадавынослівасцю бацвіння. Загадзя адабраныя донары паскараюць працэс стварэння новых гатункаў. Усё пад рукой.

Шляхам гібрыдызацыі і строгага адбору ў інстытуце было створана шмат новых гатункаў. Гэты шлях абрала для сябе і Людміла Незаконава. Хаця, хто сказаў, што ён для яе адзіны. Толькі сам селекцыянер ведае, як ён ішоў да поспеху.

Тое, што бульба заўладарыла ўсім светам, верагодна, і нарадзіла ўпэўненасць у пэўнай незаменнасці гэтай расліны. Была, ёсць і будзе! Яна, зрэшты, непераборлівая, устойлівая, аднолькава смачная, як і ўраджайная.

А між тым біялагічныя законы робяць сваю справу: бульба мяняецца, хаця і размнажаецца вегетатыўным шляхам. Распаўсюджваючыся ў новыя для яе раёны свету, бульба іншы раз безабаронная супраць хвароб і шкоднікаў, з якімі сустракаецца ўпершыню. Сёння амаль 80 працэнтаў гэтай культуры пакутуюць ад вірусных хвароб, у выніку чаго рэзка зніжаецца ўраджайнасць.

Вучоныя вымушаны шукаць бязвірусныя чыстыя «формы» бульбы. Таксама задача не з простых.

Аднак несумненна адно: гатунак, нават самы добры, не павінен, за рэдкім выключэннем, культывавацца больш як 8 ці 10 год. На змену яму павінен прыходзіць новы гатунак, з лепшымі ўласцівасцямі і ўраджайнасцю, «падагнаны» да ўмоў таго або іншага рэгіёна краіны.

Словам, поле дзейнасці ў селекцыянераў па бульбе больш чым шырокае.

Людміла Незаконава ўлічвала многія фактары пры стварэнні новых сартоў. Пад яе непасрэдным кіраўніцтвам і з яе ўдзелам выведзены гатункі Скарб і Дэльфін, якія займаюць каля 50 працэнтаў плошчы ў Беларусі. Яны вельмі даспадобы многім спажыўцам.

Востра стаяла пытанне стварэння гатункаў устойлівых да нематоды. З Інстытутам бульбаводства Германіі вызначылі сумесную тэму. Абменьваліся вопытам, праводзілі гібрыдызацыю — год у немцаў, год дома. У іх з'явіліся цікавыя гібрыды, якія спалучалі ў сабе ўстойлівасць да нематоды і вірусных захворванняў. А гібрыды Людмілы Васільеўны адрозніваліся добрымі смакавымі якасцямі і павышаным утрыманнем сухіх рэчываў. Была ўзаемная зацікаўленасць у новым гатунку, і ў выніку з'явіўся Скарб — разварысты, смачны. А яшчэ ў яго вельмі прывабны таварны выгляд. Знешнасцю Дэльфін яму крыху саступае, а вось па смаку можа паспрачацца.

Гатунак Крыніца Людмілы Васільеўны па смакавых якасцях можна аднесці да далікатэсаў. Але ён патрабуе пэўнай творчасці ў вырошчванні. Дзіна — сярэдняранні гатунак, апетытна спажыўны. Талісман не атрымаў шырокага распаўсюджання толькі таму, што ў яго сеткавая лупіна, але ён для душы. У добрага гаспадара, які належным чынам зможа яго падаць, не залежыцца, будзе на расхоп. Дубрава — гатунак не капрызны, ураджайны і пікантны на смак. Маг адпавядае назве, бо прызначаны для вытворчасці бульбяных прадуктаў: чыпсаў, пюрэ, гарніраў. Адведаўшы іх, абавязкова з'явіцца добры настрой. Гатунак цікавы тым, што можа скарыстоўвацца на працягу ўсяго перыяду захоўвання, якое нават не патрабуе кандыцыянераў.

І апошні гатунак, які Людміла Васільеўна прапануе спажыўцу, — Янка. Дастаткова ўраджайны і смачны. Мякаць не грубая, сярэднеразварысты, форма авальная, устойлі-

вы да вірусаў. А ўвогуле ён недастаткова яшчэ сябе паказаў. Часу на гэта яму не хапіла. Можа так спадабацца, што пальчыкі абліжаш.

Трэба сказаць «вялікае дзякуй» Людміле Васільеўне Незаконавай за яе тытанічную працу, у выніку якой наш стол стаў намнога багацей і спажыўней, і пажадаць ёй новых, яшчэ больш паспяховых здабыткаў на ніве селекцыі.

Георгій Іванавіч Піскун працуе над стварэннем крухмальных гатункаў. Пад яго кіраўніцтвам з'явіўся Здабытак, які сёння рэкардсмен у рэспубліцы па назапашванні крухмалу.

Актыўна і плённа працуюць селекцыянеры Наталля Ганчарова, Іван Калядка, Вадзім Маханько. Іх гатункі таксама перспектыўныя і шматабяцаючыя.

У сучасны момант у бульбаводстве дзейнічае прынцып мэтавага выкарыстання ўраджаю. І таму селекцыя вядзецца ў трох напрамках: сталовая бульба, сталовая — для перапрацоўкі на бульбапрадукты, тэхнічная — для атрымання крухмалу.

У 70—80 гадах мінулага стагоддзя кожны трэці гектар у Савецкім Саюзе быў заняты гатункамі бульбы беларускай селекцыі. Гэта велізарныя плошчы. Потым, пасля распаду Саюза, сувязі сталі рушыцца, і цяпер нам трэба новымі гатункамі заваёўваць рынкі ўжо суверэнных дзяржаў. Вялікая работа вядзецца па гатункавыпрабаванні ў Расіі (25 гатункаў на выпрабаванні), Украіне, Арменіі, Малдове, Узбекістане і іншых. Некаторыя нашы гатункі таксама добра ўкараніліся і ў асобных краінах Еўрасаюза.

Якія ж перспектывы вырошчвання бульбы сёння ў Беларусі? 80 працэнтаў плошчаў займаюць айчынныя гатункі і 20 — замежнай селекцыі. Сярод прыярытных першае месца ўпэўнена займае Скарб — адзін з першых беларускіх гатункаў з цудоўнай лёжкасцю, высокаўраджайны і выдатным таварным выглядам.

Рынак сёння патрабуе, каб бульба была з з гладкай лупінай, вельмі маленькімі «вочкамі», добра захоўвалася. Калі раней у Беларусі дамініравалі гатункі з белай мякаццю, то сёння спажывец аддае перавагу гатункам з жоўтай мякаццю і разнастайнай ступенню разварыстасці. Ёсць спажыўцы сталовых гатункаў, якія не прызнаюць разварыстую бульбу, ім трэба, каб яе можна было пасля варкі рэзаць нажом, а іншыя хочуць цалкам разварыстую. І гэтыя густы ўлічваюцца.

НПЦ НАН Беларусі па бульбаводстве і плодаагародніцтве можа прапанаваць сёння і раннія гатункі, якія праз 35—40 дзён пасля ўсходаў даюць добры ўраджай. Яны цудоўна падыходзяць для прыгатавання сухога бульбянага пюрэ, чыпсаў.

Пашыраецца селекцыя вывядзення тэхнічных гатункаў для атрымання крухмалу, бо патрэбы яго з кожным годам растуць. Звязана гэта з тым, што крухмал — універсальная сыравіна для атрымання харчовых прадуктаў, глюкозы, паперы, тканіны, сінтэтыкі і інш. Нават касмічныя караблі НАСА не змогуць без яго паляцець у космас. Вельмі важным з'яўляецца тое, што ў нас захавалася, нягледзячы на розныя катаклізмы, школа беларускай селекцыі. У Расіі ў многіх абласцях распачынаюць жыццё свае селекцыйныя школы. Але каб стварыць новы гатунак, ім спатрэбіцца ад 20 да 30 гадоў. А ў НПЦ працуюць трэцяе, чацвёртае, і ўжо прыйшло пятае пакаленне беларускіх селекцыянераў. Школа, традыцыі захоўваюцца. Трэцяе пакаленне — людзі пажылыя, вопытныя, якія з'яўляюцца непасрэдна вучнямі Пятра Іванавіча Альсміка, чацвёртае — людзі ва ўзросце 40 год, а пятае — учарашнія выпускнікі ВНУ.

Чаму патрэбна такая пераемнасць? На падрыхтоўку селекцыянера, каб ён больш-менш свабодна сябе адчуваў у асяроддзі, патрабуецца як мінімум 10 гадоў. А на стварэнне гатунку, ад скрыжавання да ўключэння ў Дзяржрэестр, — 12 гадоў.

Сёння стварылася унікальная сітуацыя — у НПЦ з'явіліся прамыя канкурэнты. На рынак Беларусі пастаўляюць для выпрабаванняў у вялікай колькасці бульбу Галандыя, Германія, Польшча. У Дзяржрэестры 72 гатункі, роўна палова з іх — замежныя. Хоць яны па многіх пазіцыях і саступаюць нашым, але ж як-ніяк 20 працэнтаў нашых плошчаў адваявалі, і таму селекцыянерам трэба добра паднатужыцца, каб захаваць сваё поле ў нялёгкай канкурэнтнай барацьбе.

Радуе, што ўвасоблена ідэя Альсміка па ўсёй Беларусі, у разнастайных зонах, на вопытных станцыях праводзяцца экалагічныя выпрабаванні бульбы.

Ураджайнасць і захоўванне бульбы цалкам залежаць ад нас. Дзе розум, добрыя рукі, клопат пра палетак і гатунак — толькі там поспех.

## *Садам цвісці*

Сістэматычная навукова-даследчая работа ў галіне пладаводства ў Беларусі атрымала шырокае развіццё ў 20-я гады XX стагоддзя. Яе пачатак быў звязаны з утварэннем па ініцыятыве акадэміка Мікалая Вавілава 10 кастрычніка 1925 года пад Мінскам у сядзібе «Лошыца-1» Беларускага аддзялення Усесаюзнага інстытута прыкладной батанікі — першая ў рэспубліцы спецыялізаваная навукова-даследчая ўстанова ў галіне пладаводства, у сучасны момант Інстытут пладаводства НПЦ НАН Беларусі па бульбаводстве і плодаагародніцтве. Аддзяленне адыграла вялікую ролю ў вывучэнні сусветных калекцый пладовых і ягадных раслін і іх суродзічаў.

Ідэю стварэння ў Лошыцы аддзялення падтрымаў акадэмік, прафесар, наш зямляк, Васіль Васільевіч Пашкевіч. Ён прыклаў многа намаганняў для развіцця навукі памалогіі. Даследаваў пладовыя культуры не толькі ў Заходняй акрузе, як тады называлі Беларусь, а таксама ў Астрахані і Цэнтральнай частцы Расіі. Васіль Васільевіч быў чалавекам вельмі адукаваным, выступаў за развіццё садаводства іменна ў Беларусі з моманту ўзнікнення яе як маладой рэспублікі. Вельмі спрыяў у зборы калекцыйных узораў і атрыманні іх з розных навуковых устаноў. Усе вопытныя станцыі УІРа пастаўлялі пасадачны матэрыял, чаранкі або саджанцы, у Лошыцу.

Сфарміравалася калекцыя, і пачаліся першыя доследы ў галіне селекцыі. Іх праводзілі муж і жонка Сюбаравы — Эма Пятроўна і Аляксей Яфімавіч (дырэктар аддзялення). Была пастаўлена мэта — стварыць для маладой Беларускай рэспублікі такія гатункі, якія былі б высокапрадукцыйныя, штогод маглі даваць ураджай і добра захоўваліся. На той момант аснову складалі народныя гатункі, якія не вызначаліся лёжкасцю, а ўсе інтрадуцыраваныя з Заходняй Еўропы і паўднёвай часткі Украіны мелі плады добрага тэрміну захоўвання, але недастаткова зіматрывалыя ва ўмовах Беларусі. Дрэвы псаваліся марозамі і хутка гінулі.

Прыцягваліся ў селекцыю лепшыя пладова-ягадныя культуры Заходняй Еўропы і мясцовыя з тым, каб спалучаць прыкметы якасці, прадукцыйнасці і лёжкасці. Добры вынік селекцыі быў атрыманы пазней, на другім этапе з прыцягненнем гатункаў канадскай селекцыі.

Такім чынам яшчэ да вайны быў сфарміраваны селекцыйны фонд — 3 тыс. гатункаў-узораў, у тым ліку 500 па яблыні, з асноўных пладовых раёнаў СССР і 47 замежных краін. На аснове гэтага фонду былі выдзелены гатункі, якія і сёння культывуюцца — Беларускі сінап, Мінская, Сіруэл. Былі створаны першыя гатункі грушы — Калгасніца, Беларуская, Позняя, якая да гэтага часу культывуецца не толькі ў Беларусі, а ў Прыбалтыцы і Расіі. Палепшана Сюбаравым. Гэты гатунак адзін з лепшых менавіта па зімастойкасці і штогоднім плоданашэнні. Эма Сюбарава, скарыстаўшы сеянцы Драгана жоўтыя, Напалеон і іншыя заходнееўрапейскія гатункі стварае першую зімастойкую чарэшню. Абараніла дысертацыю па гэтай культуры, і ёй адразу ж прысвоена ступень доктара навук.

Стваруюцца гатункі вішні Сеянец 1, Навадворская, Кісцевая.

У 50-я гады з утварэннем інстытута пладаводства расшыраецца ў цэлым і аддзел, прыцягваюцца маладыя супрацоўнікі, развіваецца напрамак па цытаэмбрыялогіі, па гадавальнікаводстве, пладова-ягадныя падзяляюцца на культуры.

Жыццё не стаіць на месцы, сёння набываюць іншы імпульс новыя даследаванні у Інстытуце пладаводства НПЦ НАН Беларусі па бульбаводстве і плодаагародніцтве. Кіраўнік аддзела селекцыі пладовых культур інстытута доктар сельскагаспадарчых навук Зоя Аркадзьеўна Казлоўская бачыць галоўную мэту ў атрыманні таварных гатункаў, каб яны захаплялі знешнім выглядам, былі смачныя і не саступалі сусветным стандартам. Цяпер межы адкрыты, паступаюць тавары з розных краін свету. І адпаведна — высокая канкурэнцыя. Але людзям заўжды было вялікай радасцю культываваць сады. І дзякуй Богу, што магчымасць такая ёсць.

Аналізуючы гістарычную даведку, Зоя Аркадзьеўна прыходзіць да высновы, што садаводства ў Беларусі развівалася, калі панавалі мір і спакой. У ваенныя ліхалецці сады знішчаліся. Як толькі ўсталёўваўся мір і людзі станавіліся на ногі, зноўку пачыналі садзіць сады. Так было і ў сярэднія вякі, і ў XVIII—XX стагоддзях. Поўнае разбурэнне і знішчэнне гадавальнікаў назіралася ў Першую сусветную і грамадзянскую вайну. У 1925 годзе выходзіць Дэкрэт аб стварэнні інстытута і развіцці гадавальнікаў,

у 1932 годзе зацвярджаецца Рэестр, якія гатункі лепей за ўсё культываваць. Бурнае развіццё садаводства назіралася ў 30-я гады. Вялікая Айчынная вайна зноў усё перакрэсліла. І толькі ў 50-я гады па-ранейшаму буйна зацвілі-запладаносілі сады. Але раптам... На гэты раз без вайны ліха знайшлося. Выходзіць пастанова ЦК КПСС: Савецкі Саюз пракорміць садавінай Малдова, Украіна, поўдзень Расіі. Улады фактычна закрываюць праграму па чарэшні, як культуры для Беларусі неперспектыўнай (70—80-я гады). Усюды па рэгіёнах правяраючыя адзначаюць пладова-ягадную стабільнасць. Сапраўды, хіба магла беларуская чарэшня тады спаборнічаць з паўднёвай. І ў той жа час, калі Беларусь стала самастойнай, высвятляецца: навуковую работу па чарэшні ў нас не згортвалі, праводзілі насычанае скрыжоўванне. І ў выніку мы сёння маем такія гатункі гэтай культуры, што па якасці не саступаюць паўднёвым, а марозастойкасцю — пераўзыходзяць. Нашы людзі з вялікай радасцю даведаліся пра гэтую навіну і цяпер смела могуць на сваіх прысядзібных, дачных участках культываваць беларускую чарэшню і збіраць свежыя плады, якія ўтрымліваюць у дастатковай колькасці вітаміны і іншыя спажыўныя рэчывы, бо яны не пацёртыя, не апрацаваныя ядамі. Не сакрэт, што пры перавозцы праз мяжу для знішчэння каранцінных «аб'ектаў» плады падвяргаюцца фумігацыі.

У інстытуце калекцыя яблык налічвае больш за 1200 узораў. Прычым толькі за апошнія гады звыш 400 гатункаў завезлі з розных краін — Чэхіі, Германіі, Польшчы, Расіі, Украіны, Прыбалтыйскіх краін, нават з далёкага Ірана і вывучылі ў нашых умовах. Асабіста Зоя Аркадзьеўна тры разы ездзіла ў камандзіроўку ў Іран. Насенне і ўзоры прывезла адтуль. Аддзел атрымлівае пылок з гэтай краіны з мэтай паляпшэння якасці сваіх гатункаў. Справа ў тым, што высакаякасныя гатункі, скажам, ва ўмовах Францыі не праблема атрымаць — там доўгі вегетацыйны перыяд. А ў нас кароткі. І ў гэтым уся складанасць. Але і яна вырашаецца праз насычанае скрыжаванне. Скрыжавалі селекцыянеры два гатункі, атрымалі патомства. Ацанілі яго і для гэтых дзяцей яшчэ ўзялі пылок ад лепшых бацькоў. Такім чынам ужо некалькі пакаленняў утварылася. Для паляпшэння якасці да мясцовых гатункаў сібірскія падключаюцца. Усё робіцца для таго, каб спалучыць да пяці прыкмет — устойлівасць да хвароб, маразоў, веснавых замаразкаў, фарміраванне якасці ў кароткі вегетацыйны перыяд, атрыманне таварнага плода — афарбаванага, сакавітага, прыемнага смаку. Праўда, усе гэтыя спалучэнні за адзін прыём немагчыма. Дзякуючы таму, што настаўнікі Сюбаравы і іх паслядоўнікі Каваленка, Мацвееў, Сямашка і іншыя пакінулі багатую селекцыйную спадчыну, працэс намнога паскараецца.

— Мая непасрэдная справа як селекцыянера, — распавядае Зоя Аркадзьеўна, — гэта селекцыя яблыні, але я дванаццаць год аддала сліве хатняй. У яе гібрыдны фонд, які я стварыла з удзелам маіх калег, уваходзяць: Далікатная, Кромань, Чарадзейка, Венера. Сёння ў мяне ёсць маладыя, таленавітыя памочнікі па яблыні — Галіна Маруда, Сяргей Ярмоліч, Таццяна Гашэнка. З імі прыемна працаваць — разумеем адно аднаго з паўслова.

Я з'яўляюся кіраўніком усіх селекцыйных праграм — па грушы, вішні, сліве, яблыні. Магу сказаць, што сёння ў курсе спраў усіх апошніх падзей. Нядаўна прыехала з міжнароднага сімпозіума па генетыцы і селекцыі пладовых раслін, які праходзіў у іспанскім горадзе Сарагоса. Больш за 150 удзельнікаў з самых розных краін свету сабраліся там. Амаль усе краіны Еўропы былі прадстаўлены. Акрамя таго — Карэя, Японія, Індыя, Іран, ЮАР і многія іншыя. Вельмі бурнае развіццё адбываецца ў галіне садаводства ў сувязі з тым, што малекулярная генетыка атрымала вялікі штуршок з дапамогай новых прыбораў, адкрыццяў. Зараз селекцыянерам адкрываюцца новыя магчымасці ў паскарэнні селекцыйнага працэсу. Мы можам цяпер даведацца аб прыкметах маленькай раслінкі яшчэ да ўступлення яе ў пладанашэнне і скарачаць колькасць сеянцаў на першым і другім годзе жыцця. Раней жа кожнае семечка трэба было пасеяць і чакаць 15 гадоў, пакуль дрэва дасць тры ўраджаі, каб вызначыць, з чым далей працаваць. Вызначыўшы, размножыць на падвоі і ацаніць. Для гэтага патрабавалася яшчэ 15 гадоў. І толькі тады гатунак можна было аддаць на гатункавыпрабаванне. А з прыцягненнем новых ведаў па фітапаталогіі, генетыцы мы можам адбіраць расліну па ўстойлівасці ўжо на другім годзе жыцця і бракаваць 50 працэнтаў раслін.

Пры выкарыстанні карлікавых падвояў скарачаецца перыяд выпрабаванняў на якасць пладоў, што вельмі важна. І такім чынам мы зможам атрымаць гатунак і пера-

даць яго на дзяржгатункавыпрабаванні праз 18—23 гады замест 40—45, што было раней, калі скарыстоўвалі толькі насенныя падвоі і высрошчвалі расліны з семечка і тэстыравалі ў дарослым стане.

Мы ўжо зараз спрабуем спалучаць устойлівасць з якасцю на новым узроўні. Мэта самая ўдзячная — атрымаць гатунак у значна карацейшы тэрмін, каб, размнажаючы на новых хуткаплодных карлікавых падвоях, ужо пасля высадкі ў сад праз год атрымліваць яблыкі. І штогод. Аналагічная селекцыя для грушы і костачкавых.

Калі людзі ўпершыню прыязджаюць да нас у інстытут і бачаць у нашым садзе маленькія дрэвы, два метры ростам, і яны ўсе ад вярхушкі да зямлі ў яблыках — вачам не вераць. Пасадзілі, і — у першы год зацвілі. Фантастыка! Калі такое было.

Дасягненні сапраўды фантастычныя і, што асабліва важна, не застаюцца незаўважанымі, а ўжо запатрабаваны, хутка распаўсюджваюцца. У Самахвалавічы прыязджае мноства людзей з розных куткоў Беларусі, індывідуальныя, калектыўныя садаводы, і на прамілы Бог просяць: «Прадайце!» І, вядома ж, з пустымі рукамі ніхто дамоў не вяртаецца. Просьбы ўсіх жадаючых набыць прышчэпы або чаранкі выдатнай беларускай селекцыі задавальняюць у інстытуце. І ўзаемны гонар адчуваецца пры гэтым: школа якая! Ды такой на ўсёй постсавецкай прасторы каб і хацеў, не знойдзеш. Толькі тут яна захавалася, дзе, як боская непагасная свечка, захоўваюцца традыцыі і ад пакалення да пакалення селекцыянеры перадаюць адно аднаму жыццём адмераныя і для ўпрыгожвання зямнога жыцця кожнага з нас свае бясцэнныя набыткі.

## *Ад кропу да кавуна*

Нідзе не даводзілася бачыць такога багацця гародніны на любы густ, як у Інстытуце агародніцтва. І не дзіўна, тут практычна сабраны ўсе яе віды, якія вырошчваюцца ў Беларусі. Мала таго, кожны з гэтых відаў мае яшчэ і мноства гатункаў. І ўсё вось гэта загадкавае , поўнае таямнічасці, дзівоснае багацце расце ў гадавальніках. Сваё падарожжа па іх пачаў з капусты. Некалькі дзялянак занята ёй. Аўтар гатункаў, паважаны Мікалай Гарадзілаў, ухваляе мой выбар:

— Капуста — першая спажыва для беларуса. У самыя галодныя гады толькі і ратаваліся ёй, ды бульбай упрыкуску. Яна ніколі не пераводзілася ў сялян. Яе ахвотна вырошчвалі за смак і карысць, і за тое, што не патрабавала асаблівага догляду. Да ўсяго яна ўраджайная і марозаўстойлівая. Ужывалі ў сырым выглядзе, а ў вараным, ды яшчэ з баравічкамі — нічога смачнейшага ў свам жыцці не еў. І з квашанай капустай нішто не можа параўняцца. Умелі, да таго ўмелі яе квасіць, што цэлыя легенды пра гэта хадзілі. Абавязкова трэба было дачакацца, калі на небе з'явіцца маладзік і да таго ж на тыдні мужчынскі дзень выбраць. Квасілі па-рознаму, кожная гаспадыня старалася дагадзіць мужу, бо калі капуста не ўдалася — літасці не чакай, горшай ганьбы не бывае. Заквашвалі і ў качанах. Адрэжаш, бывала, кавалачак ад яго, калі добра ўлежыцца ў бочцы, пакладзеш у рот, і такая асалода адразу па ўсім целе — зубы чачотку адбіваюць, а ў вачах рай свеціцца! А капусны расол! Апракінеш конаўку і свежанькі, як агурочак, замест каня воз пацягнеш. Капуста — упрыгожанне любога стала. З ёй год да ста расці нам без старасці!

Мікалай Аляксандравіч з любасцю паказвае свае гатункі, вельмі стрымана нахвальвае:

— Вось гэта — Жнівеньская. Сярэдняранняя. Укосная, я вам скажу. Ужо збярэш, дык збярэш. Лепш за ўсё яе летам смакаваць у свежым выглядзе. Не капуста, а цымус. За вушы не адцягнеш! А далей вунь там пайшлі — Надзея, Мара, Зімовая. Гатовы вершык, ці не праўда? Столькі ў ім лірыкі. Напеўна і так і гэтак — што спераду назад, што ззаду наперад. Добрыя гатункі, з імі у вас усе стасункі.

Шчырай усмешкай дзякую Гардзілаву. Наступны ўчастак Леаніда Мішына. Ён непераўзыдзены спецыяліст па таматах і перцы.

Здаецца, памідоры ведалі заўжды. Але доўгі час разглядалі як дэкаратыўную расліну: у Германіі — як пакаёвую, гаршчочную, у Францыі — як лепшае ўпрыгожанне альтанак, у Расіі вырошчвалі ў аранжарэях сярод кветак. У ежу іх не ўжывалі, лічачы неядомымі і нават атрутнымі. І толькі ў Расіі ў XVIII стагоддзі памідоры пачалі вырошчваць як гародніну.

Расказваю пра гэта Мішыну, а ён у контрнаступленне:

— У сярэднія вякі з усіх спецый, якія завозіліся загадкавымі краінамі Усходу, перац цаніўся найбольш высока і каштаваў вельмі дарага. Яго цёплы і духмяны смак упрыгожваў найбольш скаромную ежу, перац спрыяў пераварванню мяса, асабліва «вытрыманага» мяса буйнай дзічы, якая падавалася на стол вяльмож. Толькі яны маглі дазволіць сабе набыццё гэтай спецыі, расплачваючыся за яе з аптэкарамі золатам. У тую эпоху гаварылі «дарагі, як перац», і перац служыў нават разменнай манетай. Прыкметай асаблівай раскошы лічылася мець запасы перцу на выпадак, калі раптам ён закончыцца.

Сёння, як самі ведаеце, перац ужо не з'яўляецца рэдкасцю нават у нас, у Беларусі, і за яго не трэба раскашэльвацца золатам.

Тройка, Залацісты, Алеся, Кубік-К, Вожык — вось «залаты арсенал» выведзеных Леанідам Аляксандравічам гатункаў. Мне ўсе спадабаліся. Залацісты ў тым ліку. Сярэдняспелы, буйнаплодны, і смак — усенародны. І глядзіцца — не надзівіцца! А памідоры Мішына... Старт $F_1$, Шторм $F_1$, Ранні — 310, Аранж... Не буду прасіць Мішына даваць ім характарыстыку. Скажу толькі, што самая пераборлівая гаспадыня носам каля іх не стане круціць. З заплюшчанымі вачыма можна браць любы і не памыліцца.

Да каго яшчэ забегчы? Да Веры Налобавай. Гурочкі яе расхвальваюць. У Мікалая Купрыенкі цыбуля з часнаком рэкорды б'е. А ў Галіны Янкоўскай, чуў, гарох Гарынец, боб Юсцін, фасоля Зінуля на выстаўку міжнародную просяцца. Баюся толькі, каб да ўсіх паспець, ды на ўсё паглязець, дык і дня не хопіць. Гэта вам не батанічны сад, дзе можна не спяшацца.

Селекцыя, як і належыць, вызначальная ў Інстытуце агародніцтва. На сённяшні дзень раяніравана 66 гатункаў, занесеных у Рэестр і дапушчаных для выкарыстання на тэрыторыі Беларусі. 27 гатункаў праходзяць гібрыдныя выпрабаванні. Акрамя таго, інстытут сур'ёзна займаецца насенняводствам, распрацоўкай тэхналогій для прамысловага, прысядзібнага і дачнага агародніцтва, вытворчасцю насення, а таксама стварэннем машын для пасеву, догляду і ўборкі культур.

Вялікае значэнне надаецца супрацоўніцтву з гаспадаркамі Мінскай і Гродзенскай вобласці, дзе наладжана вытворчасць цыбулі сявок. Гэта, можна сказаць, адна са стратэгічных задач. Вырашана пашырыць вытворчасць, падключыць да яе новыя калектывы, каб поўнасцю выцесніць імпарт гэтага насення ў рэспубліку. Навошта даваць зарабляць валюту замежным фірмам, калі можна з поспехам раскруціцца самім.

Разглядаецца ў інстытуце і праект вытворчасці кавуноў.

— Вырошчваннем кавуноў з поспехам займаюцца фермеры ў Гомельскай вобласці, — расказвае намеснік дырэктара інстытута Мікалай Купрыенка. — Іхнія кавуны па якасці не саступаюць паўднёвым. Мы вывучаем іх вопыт. Магчыма, яшчэ і дыню на нашы палеткі завярбуем. Яна меней капрызная. Тэхналогія ўжо адпрацаваная. Спачатку гатовыя гатункі кавуна павінны сябе паказаць у нашых умовах. Ёсць сякія-такія напрацоўкі і з украінскім Інстытутам агародніцтва і бахчаводства, і з расійскімі калегамі. Калі задума дакажа сваю перспектыўнсць, то не выключана, што і селекцыю распачнём.

Распрацавана інстытутам сумесна са спецыялістамі камбіната «Бярэсце» Брэсцкага раёна безсубстратная тэхналогія вырошчвання таматаў — гідрапоніка. Апрабавана — і вынікі радуюць. Вялікая заслуга ў гэтым дырэктара інстытута Аляксандра Аўткі. Усе машыны, створаныя для агародніцтва, яго.

Калектыў інстытута ў пастаянным творчым пошуку, імкненні да новага, перадавога. Гэта пацвярджаюць выстаўкі, у якіх ён з поспехам штогод прымае ўдзел. Вельмі «ўраджайным» на іх быў мінулы год. Міжнародная выстаўка агародніцтва прынесла тры сярэбраныя медалі, а расійскія — «Дзень Расійскага поля» і «Цяпліцы Расіі» — тры залатыя.

Вельмі сімвалічна, што сёлета Талачынскі кансервавы завод, які для НПЦ з'яўляецца своеасаблівым палігонам па выпрабаванні тэхналогій і навуковых распрацовак, на плошчы 344 га пасадзіў сад. Гэта не толькі ў недалёкім будучым экалагічна чыстыя плады і ягады, а рэальны прыклад упэўненасці ў заўтрашнім дні.



Алесь КАЎРУС

# СЛОВА ДАЎНЯЕ І СУЧАСНАЕ

*Па старонках твораў Цішкі Гартнага*

Споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Цішкі Гартнага — пісьменніка, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, сучасніка і паплечніка Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ягоная творчая спадчына — паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка — важкі ўнёсак у беларускую літаратуру, адна з крыніц, якімі сілкуецца беларуская літаратурная мова. Варта нагадаць, што ў першым акадэмічным тлумачальным слоўніку (ТСБМ) вялікая колькасць самабытных даўніх слоў і фразеалагізмаў падаецца са спасылкаю на цытаты з твораў гэтага арыгінальнага аўтара. Разам з тым яшчэ застаецца не ўведзенай у навуковы і практычны ўжытак значная частка лексічнага і граматычнага матэрыялу, выкарыстанага ў тэкстах Цішкі Гартнага.

Як вядома, Цішка Гартны быў рана (у 30-я гады мінулага стагоддзя) выключаны з літаратурнага працэсу. Натуральна, ён не мог удзельнічаць у падрыхтоўцы новых выданняў сваіх твораў. Таму мова пісьменніка «спынілася», «застыла» на ўзроўні таго часу, калі з'яўляліся першапублікацыі яго твораў. Ды, як кажуць, няма ліха без дабра. Пэўная «закансерваванасць» мовы Цішкі Гартнага мае і станоўчы бок: зберaглася адметнасць жывога народнага і індывідуальна-аўтарскага слова. Зразумела, адзначаная асаблівасць мовы пісьменніка не павінна быць страчана і надалей — для новых пакаленняў чытачоў і даследчыкаў.

Знаёмства з выданнямі твораў класікаў беларускай літаратуры паказвае, што ў тэксты ўносіцца нямала разнастайных моўных правак.

Бадай ці не галоўны фактар, які «ўзаконьвае» лінгвістычнае ўмяшанне выдаўцоў у аўтарскі тэкст, у тым ліку Цішкі Гартнага, — неаднаразовыя змены беларускага правапісу (пры гэтым нярэдка і граматыкі): у 1933, 1957 гадах, новыя змяненні рыхтуюцца ў нашы дні.

Такім чынам, праз дзесяцігоддзі ўкладальнікі зборнікаў, рэдактары і карэктары «падводзілі» мову пісьменнікаў пад літаратурныя нормы, якія дзейнічалі ў той ці іншы перыяд. Пры гэтым норма часам разумелася вельмі своеасаблівa, калі не сказаць — спрошчана, прымітыўна.

Праблема якасці кніжнай прадукцыі надзвычай актуальная ў нашы дні, калі з'явілася шмат выдавецтваў, а іх рэдактарска-карэктарскі корпус аслаблены — ці праз аб'ектыўны няхват кваліфікаваных спецыялістаў, ці праз недаацэнку гэтага важнага звяна ў выдавецкай справе.

Разгледзім некаторыя моўныя факты з розных выданняў твораў Цішкі Гартнага, якія сведчаць пра адыход ад аўтэнтычнага тэксту, што ў сваю чаргу вядзе да культурамоўна-мастацкіх страт.

У тэксце — не толькі даўнім, але і новаствораным — могуць быць незразумелыя словы, якія рэдактар і карэктар часам разглядаюць як апіску, памылку друку і сэнсава збліжаюць з болей пашыранымі, вядомымі словамі.

Герой апавядання «Трэскі на хвалях» Сідор Браварка расказвае: «І я адным-адзін, як **струц**, увесь астатні час прабадзяўся. Чуць нуда не зарэзала...» Так было ў першапублікацыі (Полымя. 1923, № 3—4) і ў прыжыццёвым «Зборы твораў» (т. 2, 1929). А вось у зборніку «Выбраныя апавяданні» (1962) і ў пазнейшых выданнях *як струц* замяняецца на *як струк*.

Праўка чыста механічная, бо калі б хоць крыху ўнікнуць у змест урыўка, то няцяжка заўважыць, што параўнанне *як струк* тут не падыходзіць, дый, уласна, у такіх кантэкстах яно не ўжываецца ў беларускай мове. Струк звычайна не адзін,

на каліве іх некалькі. І ён не перамяшчаецца сам (як таго патрабуе створаны пісьменнікам вобраз). Наяўнае ў «Краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны» (1970) І. Бялькевіча слова *струк* са значэннем 'франт' таксама не пераконвае ў дарэчнасці зробленага выпраўлення.

Беручы пад увагу прыроду і структуру мовы Цішкі Гартнага — тое, што ў ёй, апрача ўласна беларускай лексікі і аўтарскіх наватвораў, ёсць запазычанні з рускай, польскай, украінскай моваў — варта і звярнуцца да апошніх.

Выяўляецца: слова *струць* было вядомае ўкраінскай мове ў канцы XIX — пачатку XX ст. У слоўніку Б. Грынчэнкі яно перакладаецца на рускую мову: *дуракъ*. Напэўна, гэтае слова мае сувязь і з польскай мовай, у якой ёсць дзеяслоў *struć* 'атруціць', а таксама фразеалагізм *chodzić, wyglądać jak struty* 'быць замучаным, прыгнечаным, атупелым'.

Можна меркаваць, што пісьменнік браў слова *струц* з жывога беларускага маўлення (на жаль, слоўнікі далёка не поўна фіксуюць лексіку і фразеалогію беларускіх гаворак). Пакуль у нас не хапае дадзеных, каб акрэсліць яго значэнне. Што павінны рабіць у падобным выпадку рэдактар і карэктар? Пакінуць няяснае слова непарушаным.

Калі ўбачым па-за кантэкстам слова *дзядзіна*, дык, відаць, большасць з нас яго зразумее: 'дзядзькава жонка'. Той, хто не валодае нормамі беларускай літаратурнай мовы, можа нават падумаць, што гэта прыметнік са значэннем 'дзядзькава'.

Але прачытаем сказ: «З вялікім натугам стараўся Сідор адцягнуць думкі ў іншы бок, каб занядбаць здань, і тады, калі гэта ўдавалася яму, ён спатыкаўся з зачараванай **дзядзінай** варожасцю, якая таксама прыгнятала яго душу» («Трэскі на хвалях» // Завяўшая краса. 2001).

Напэўна тыя, хто рыхтаваў рукапіс да перавыдання, успрынялі слова *дзядзінай* у пададзеных вышэй значэннях. Менавіта гэтак расчытваючы сказ, яны не спыніліся нават перад тым, каб не памяняць канчатак у іншым назоўніку: замест *варожасці* (як было ў аўтара) напісалі *варожасцю*.

Але ж насамрэч у творы ні дзядзіна, ні дзядзька не згадваюцца.

Дык які сэнс тоіцца ў слове *дзядзінай*? Адказ, хоць і не проста, але знаходзіцца. У гэтым выпадку слова *дзядзіна* належыць вымаўляць з націскам на галосным *і* (параўнаем польск. dziedzina), яно абазначае 'абсяг'. Іншы варыянт — *дзедзіна* з націскам на першым складзе — змяшчае «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (Коўна, 1924) В. Ластоўскага. Такім чынам, пісьменнік выказаў думку: «...ён спатыкаўся з зачараванай **дзядзінай** [абсягам] варожасці». Як бачым, праўка тут збоку рэдактара ці карэктара не вымагалася. Патрабавалася звычайнае — зразумець, што напісаў аўтар. А калі гэта не пад сілу — пакінуць сказ у аўтарскай рэдакцыі.

Нельга не прызнаць таго, што рэдактар і карэктар, выконваючы свае непасрэдныя прафесійныя абавязкі, выступаюць у пэўнай меры ўнармавальнікамі мовы рукапісу. Але паспяхова спраўляцца з гэтай роляй можна толькі ў супольнай працы з самім аўтарам. У варунках, калі магчымасць творчага кантактавання з аўтарам выключана, рэдактар і карэктар мусяць скіроўваць свае намаганні на тое, каб дасягнуць ідэнтычнасці рыхтаванага выдання з аўтарскім тэкстам.

У 20-я гады мінулага стагоддзя словы *правіловы*, *правіловасць*, *неправіловы* кадыфікаваліся як літаратурныя. Іх змяшчае «Беларуска-расійскі слоўнік» (Мн., 1926) М. Байкава і С. Некрашэвіча (далей: БРС-26). Верагодна гэта калькі польскіх слоў *prawidłowy, prawidłowość, nieprawidłowy*, якія праніклі ў беларускую мову.

Паказальна, што ў першай публікацыі апавядання «Трэскі на хвалях» (Полымя. 1923, № 3—4) яшчэ былі словы *неправідловы*, *неправідлова* з характэрным для польскай мовы гукавым спалучэннем *дл*.

[Плаха:] Ведаеце, Сідор Гарасімыч, я нядаўна сам трымаўся вашых поглядаў, але пасьля ... пазнаў, што яны зусім **неправідловыя**...

[Андрэй:] Сідор зусім **неправідлова** судзіць, скажу я вам.

Ужываліся словы *неправідловы*, *неправідлова*, як і *скрыдлы*, *прасцірадла*, таксама ў іншых творах Цішкі Гартнага.

Пачынаючы ад зборніка «Трэскі на хвалях» (1924), у прыведзеных вышэй сказах-ілюстрацыях (і ў іншых) даюцца словы ў абеларушанай форме: *неправіловы, неправілова* — без гука *д.* Так і ў першым «Зборы твораў» (т.2, 1929).

У «Выбраных апавяданнях» (1962) паданалізныя словы набылі ўжо новы выгляд: *несправідловыя* (*погляды*), *несправідлова,* гучаннем і значэннем наблізіліся да беларускіх слоў *несправядлівыя, несправядліва.* Але ж у пісьменніка яны выказвалі значэнне ‘няправільны’, ‘няправільна’. І што яшчэ горш — гэтыя штучныя вытворы, якіх няма ні ў польскай, ні ў беларускай мовах, як і не было ў аўтарскім тэксце, пашырыліся ў сучасных выданнях твораў Цішкі Гартнага («Насустрач сонцу», 1978; «Завяўшая краса», 2001).

У беларускай мове пачатку XX стагоддзя ўжываліся лексічныя запазычанні з рускай мовы. У прыватнасці, *выабражаць*, *выабражэнне.* У такой форме яны адзначаны ў творах Цішкі Гартнага. «Зося, нядаўна паўстаўшы ў яго **выабражэньні,** раптам сышла з памяці, затуліўшыся вобразам Ганны» («Сокі цаліны» // Збор твораў. Т. 3, 1932). «Якія зьмены зрабіліся! Цяжка **выабразіць!**» («Трэскі на хвалях» // Полымя. 1923; Збор твораў. Т. 2, 1929).

Зразумела, гэта яшчэ не беларускія, але ўжо і не рускія словы. У выданні ж 1962 года і наступных *выабразіць, выабражэнне* выпраўлены на *ваабразіць, ваабражэнне.* Напрыклад: «Якія змены зрабіліся! Цяжка **ваабразіць**!» («Завяўшая краса», 2001). Словы амаль аднавіліся да рускіх.

Падобнае адбылося з дзеясловам *сузнаваць* і назоўнікам *сузнанне.*

«Антось адчуваў гэта і **сузнаваў**, што віна за труднае становішча ў вялікай долі падае на яго».

«Усё гусьцей і гусьцей апляталі Платона гэтыя думкі. Зацягвалі ў сябе, як дрыгва, зачынялі яснасьць **сузнаньня**». Гэта сказы з апавядання «Трэскі на хвалях» (выданні 1923, 1924, 1929 гг.).

Укладальнік зборніка «Выбраныя апавяданні» (1962) успрыняў і асэнсаваў гэтыя словы як русізмы і паправіў іх на *сазнаваць, сазнанне*, паводле адпаведных рускіх слоў. Аднак ужытыя Цішкам Гартным словы хутчэй за ўсё з беларускай мовы. БРС-26 падае іх аднакаранёвікі *сузнавацца, сузнанне*, перакладаючы апошнія на рускую мову: *сознаваться* (*в вине*), *сознание* (*вины*). Трэба мець на ўвазе і тое, што пісьменнік не выкарыстоўваў уласна рускіх слоў *сознавать, сознание* ў значэнні ‘ўсведамляць’, ‘усведамленне’, а ўжываў іх адпаведнікі (магчыма, індывідуальна-аўтарскія) *адзнаваць, адзнанне.*

Словы *сузнаваць, сузнанне* для Цішкі Гартнага не былі выпадковымі, ён ужывае іх у пазнейшых творах. Напрыклад, у апавяданні «Калгаснік Трыхон Жаролца», напісаным у 1932 годзе, сустрэлася слова *сузнаваць.*

Спынімся яшчэ на двух словах, так ці інакш звязаных з рускай мовай. Цішка Гартны ўжываў прыметнік *перадстаячы* (калька рускага *предстоящий*): Сампсоніеўскі праспект гудзеў голасам **перадстаячых** боек... («Сокі цаліны», выданні 1932, 1958, 1988 гг.). — Скажэце, Павел Сымонавіч, заўтра прыдзеце на конфэрэнцыю сялян? — мэрам бы чакаючы сабе ўцехі ў **перадстаячай** конфэрэнцыі сялян, з асобнай цікавасьцю зьвярнуўся Сідор да Паўлюка («Трэскі на хвалях», выд. 1923, 1924, 1929 гг.).

У «Выбраных апавяданнях» (1962) і зборніку «Завяўшая краса» (2001) папраўлена: *...у* ***прадстаячай*** *канферэнцыі...* Слова страціла яскравую фанетычную рысу старажытнаўсходнеславянскай і сучаснай беларускай мовы — поўнагалоссе ў прыстаўцы.

У апавяданні «Трэскі на хвалях» некалькі разоў ужыты русізм *іспалкомцы* (супрацоўнікі выканкама). Хоць ён не меў і не набыў статусу літаратурнага слова, выпраўляць яго на *іспалкомаўцы*, як гэта зроблена ў «Выбраных апавяданнях» (1962) і наступных публікацыях, не трэба было.

Нельга прыняць такіх правак, калі рэдактар ці карэктар, кіруючыся сваім, часам суб’ектыўным густам, замяняе адзін дапушчальны варыянт на другі.

У першадруку было: «Але пракідкі і дасціпны Сідор адчуваў сябе **ваўком** у засадзе...» («Трэскі на хвалях»). У выданні 1962 года і пазнейшых падаецца слова-

форма *воўкам*. Паводле ТСБМ, абодва варыянты нарматыўныя. У праўцы не было патрэбы.

У прыжыццёвым выданні рамана Цішкі Гартнага «Сокі цаліны» (Збор твораў. Т. 3, 1932) ужываецца слова *елка:* «Смуглымі камякамі між густых **елак** ціснуўся змрок». У пасляваенных выданнях гэтага твора *елка* выпраўлена на *ёлка.* Папраўка не мае пад сабою грунту, бо варыянт *елка* сучаснымі слоўнікамі вызначаецца як асноўны.

А ці ж можна апраўдаць замену літаратурнай формы слова на нелітаратурную?

У сказе «...Юста нібы ачнулася, хапілася за мешалку і пачала мяшаць **цэбры»** пад выпраўленне трапіла апошняе слова. Укладальнік зборніка (1962) напісаў *цабры.* Гэтая дыялектная форма перанесена і ў наступныя выданні.

Яшчэ прыклад. «Перад Сідорам усталі вобразы яго студэнцкага жыцця ... пачосткі, **балі,** вечарыны» (Збор твораў. Т. 2, 1929). Падкрэсленае слова ў пасляваенных выданнях набыло форму *балы*. Праўда, у зборніку «Завяўшая краса», 2001), апрача гэтае формы (с.78), захавалася ў іншым месцы (с.85) першапачатковая, ўнармаваная — *балі.*

Рэдагавальнікі ўбачылі загану ў сказе: [Мірон:] Але ты паспрабаваў бы шчыльна **стыкнуцца** з жыццём — іншае запеў бы... (Збор твораў. Т. 2, 1929).

Слова *стыкнуцца*, як не часта ўжывальнае сёння (у ТСБМ яно дадзена з паметай «размоўнае»), укладальнік «Выбраных апавяданняў» (1962) «паднавіў», замяніўшы ў ім прыстаўку — *сутыкнуцца*. Адбыўся сапраўдны гвалт над словам, якое, дарэчы, ужываецца і ў іншых творах Цішкі Гартнага.

Слова *застаноўлівацца* не мае літаратурнага статусу : «Праходжыя вуліцаю **застаноўліваліся** перад хатаю...» (апавяданне «Трэскі на хвалях», публікацыі 20-х гг.). У выданні 1962 года папраўлена: «Прахожыя вуліцаю **застанаўліваліся** перад хатаю». Дзеяслоў *застаноўліваліся* мае падтрымку ў народных гаворках (параўнаем *устаноўліваць*). Апрача таго, варыянт *застанаўлівацца* не падаецца слоўнікамі літаратурнай мовы. Які сэнс такой замены?

Ужытае Цішкам Гартным слова *праходжы* адлюстроўвае фанетычныя асаблівасці беларускай мовы (найперш чаргаванне *д: дз': дж)*. Выпраўляць яго на *прахожы* нельга было і дзеля захавання аўтэнтычнасці аўтарскага тэксту.

Замена нават адной літары (гука) у слове або яе ўстаўка ці пропуск вядзе да з'яўлення новага слова. Рэдактар і карэктар самачынна ўлучаюцца ў супольны з аўтарам працэс моватворчасці. Гэта можна паказаць і на такім прыкладзе.

— ...Хоць бы гэты Плаха: яшчэ нядаўначка выступаў і супроціў працоўнае школы, і супроціў беларускае мовы, і... а гэта ўжо — цягне за Андрэем. Куды — і гаварыць не дае! — **заспавядалася** Марыля.

*Заспавядалася* тут абазначае 'пачала споведзь (шчыры аповед)'. У выданні 1962 года і наступных слова падпраўлена: *паспавядалася*, што значыць 'скончыла споведзь'.

Разгледзім яшчэ прыклад, калі прадыктаваныя меркаваннямі нармалізацыі моўнага сродку выпраўленні могуць прывесці да змены яго значэння.

«Сідор ... яхідным **возіркам** абвёў канцылярыю» («Трэскі на хвалях», публікацыі 20-х гг.). У «Выбраных апавяданнях» (1962) слова *возіркам* падправілі на *позіркам*, мяркуючы, што першага няма ў беларускай мове ці яно недапушчальнае ў літаратурным ужытку. Але ж слова *возірк* неаднойчы сустракаецца ў рамане «Сокі цаліны» (там ужыты і фразеалагізм *без азірку* 'без аглядкі'), у творах іншых пісьменнікаў. Яго падае ТСБМ з паметай «абласное» і тлумачыць: 'погляд, позірк убок, назад'. Выходзіць, *возірк* адрозніваецца ад блізказначнага слова *позірк*.

Разгледжаныя прыклады, апрача ўсяго, сведчаць, як гэта рызыкоўна рабіць праўку без усебаковага разгляду моўнага факту.

Як вядома, у мове персанажаў шырэй, чым у мове аўтарскай, ужываюцца дыялектныя, гутарковыя, прастамоўныя ды іншыя стылістычна абмежаваныя словы, словаформы і сінтаксічныя канструкцыі. З іх дапамогай ствараецца маўленчая ха-

рактарыстыка дзейных асоб. Таму ў такіх выпадках праўкі не заўсёды з'яўляюцца мэтазгоднымі і апраўданымі ў мастацкіх адносінах.

Антось, герой апавядання «Калядная каробка» (выд. 1924), гаворыць: «Пэўна, каб быў рамясьнікам, та было б лепей, але што ж зрабіць, калі бацькі **не наўчылі**».

Сучаснымі рэдактарамі ці карэктарамі зроблена выпраўленне: *навучылі*. Што ж, можна чакаць, што яны «паправяць» і Янку Купалу, у прыватнасці яго афарыстычны радок «**Наўчыўся** я слоў беларускіх ад маці».

У мастацкім творы выкарыстоўваюцца ўласныя імёны, якія ўжываліся ў апісваны час. Сідор Браварка, персанаж апавядання «Трэскі на хвалях», кажа да прысутных у бяседзе: «Я не спадзяваўся, прызнаюся адкрыта, што ўсё так перайначылася і тут, у Вікурах <...> Як быццам бы я сяджу ў тым жа **Мінску** ці **Гомелі**...» («Завяўшая краса», 2001).

Твор датуецца 1923 годам, таму зусім правамерна аўтар напісаў: «сяджу ў тым жа **Менску** (варыянт *Мінск* афіцыйна зацверджаны ў 1939 годзе) ці **Гомлі**» (гутарковая форма). Зробленае выдавецкімі супрацоўнікамі выпраўленне (*Мінск*) — стылёвая загана, так званы анахранізм (ужыванне слова, якое не адпавядае лексічнай норме мінулай эпохі).

Вядома, якія цяжкасці паўстаюць пры ўжыванні (скланенні) беларускіх прозвішчаў на *-а*. Нават сёння, калі ёсць сфармуляваныя граматыкамі правілы ўжывання такіх прозвішчаў і яны не адно дзесяцігоддзе засвойваюцца праз навучанне ў школах і ВНУ, у моўнай практыцы адхіленні ад кадыфікаваных нормаў нярэдкія. Напрыклад, побач з нарматыўнымі ўжываннямі: *ганарыцца Скарынам*, *мы ўдзячныя Скарыну* можна пачуць і прачытаць: *ганарыцца Скарынай*, *мы ўдзячныя Скарыне*.

Спробы падвесці ўжо гістарычныя напісанні прозвішчаў і імёнаў у творах Цішкі Гартнага пад сучасныя граматыкі, уніфікаваць іх не далі станоўчага выніку. У першай публікацыі апавядання «Трэскі на хвалях» чытаем: «А потым, мне здаецца, яшчэ нельга судзіць аб усім па **Андрэі** і **Пласе**».

У выданні 1962 года і наступных выпраўлена: «...судзіць аб усім па **Андрэю** і **Плаху**». Разам з тым прозвішча *Плаха* ў творным склоне пакідаецца з ранейшым канчаткам назоўніка жаночага роду: [Агнэса:] Я таксама часта спрачаюся і з Андрэем і з Макарам **Плахаю**...

Такое непаслядоўнае, бессістэмнае выпраўленне ўжытых аўтарам слоў яшчэ больш намнажае варыянтнасць, якой і без гэтага хапае ў тэкстах Цішкі Гартнага. Дарэчы, формы тыпу *па Андрэі* як варыянтныя ўжываюцца ў цяперашні час у мове мастацкай літаратуры і СМІ. Дый у зборніку «Завяўшая краса» (2001), з якога цытуецца апавяданне «Трэскі на хвалях», ёсць падобныя формы імёнаў: «Якаў Гузік не ведаў, як праламлялася ў **Яўсеі** значанне яго мянушкі «Гаспадар».

Пад выпраўленне трапілі словаформы фактычна ўсіх часцін мовы.

Варыянтнасцю склонавых формаў характарызуюцца лічэбнікі. Пэўны этап станаўлення гэтай часціны мовы адлюстраваны ў творах Цішкі Гартнага. Напрыклад, там шырэй, як цяпер, ужываюцца формы творнага склону з канчаткам *-ма*: ...Жыццё было для яе **саракма** пакутамі; **Шасцярма** ў кампаніі: Рыгор і Зося, Сёмка і Вольга, Гэля і Пятрусь, яны са смехам і жартамі пайшлі ўздоўж вуліцы; магчыма, Петрусю інкрымінуюць удзел у сходзе ўпаўнаважаных — тады дадуць адміністрацыйную высылку з **трыццацьма** трыма пунктамі («Сокі цаліны»).

Ёсць іншыя адметныя формы і ўжыванні лічэбнікаў: **Абаімі** валодаў уздымны настрой; ...Праляжала каля **дзвёх** гадзін («Сокі цаліны). Каля **дваццацёх** чалавек сарваліся з месцаў; У **дзвёх** каморках ... стаяла каля шасці сталоў; [Юрка:] Быў надоечы сход і выбраў мяне ды яшчэ **двох** суседзяў; [Андрэй:] Даўно ўжо? [Сідор:] Ды вось амаль не **паўтара** гады («Трэскі на хвалях»).

У пасляваенных выданнях выдзеленыя словы «асучаснены» адпаведна: *абодвума, дзвюх, дваццаці, дзвюх, двух, паўтара (года)*.

Падобныя формы лічэбнікаў у творах Цішкі Гартнага, як і Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Лукаша Калюгі ды іншых аўтараў, што пісалі ў мінулым, ідуць з жывой народнай і тагачаснай літаратурнай мовы. Яны не павінны падганяцца пад сучасныя правілы, якія да таго ж часта «ўдакладняюцца».

Паспець за зменамі, што адбываюцца ў мове, асэнсаваць іх і адэкватна адлюстраваць у тэксце надзвычай складана. Апошнім часам, напрыклад, лічэбнікі тыпу *пяцьсот* у родным склоне пачалі ўжываць з канчаткам *-а*: *не хапіла* ***пяціста*** *рублёў.* Хоць правіла патрабуе (а яно не адмененае): *не хапіла* ***пяцісот*** *рублёў.* Своеасаблівае спалучэнне (сутыкненне) гэтых дзвюх нормаў бачым у сказе з апавядання Цішкі Гартнага «Свае блінцы»: [Вінцусь Шавель:] А, бач, я хачу адбудаваць млін у сваім мястэчку; будынак ёсць, ёсць розных прыладаў досыць, а вось пусціць — не хапае якіх-колечы **двухста — пяцісот** рублёў...

Звернем увагу на неапраўданыя праўкі формаў дзеяслова. Прачытаем кароткі дыялог з апавядання «Трэскі на хвалях».

— Юрка! — прашаптала тая [Марыля.] — Пачуем, што скажа!

— Не, годзе! **Ідзем!** — папрасіў Сідор Марылю.

Выдзелены дзеяслоў ужыты ў форме загаднага ладу першай асобы множнага ліку, як і *хадзем*, *бярэм*, *нясем*. Таму выпраўляць яго на *ідзём* (гл. зб. «Завяўшая краса», 2001) рэдагавальнікі тэксту Цішкі Гартнага не мелі права. Праўда, у гэтым зборніку ёсць і «някратаныя» правільныя формы загаднага ладу, напрыклад: «Хлопцы жартавалі: — **давайце запяем** вясельную» («Праводзіны»).

Не было дастаткова падстаў рэдкае дзеепрыслоўе *скрыпячы* («Праходзілі людзі, **скрыпячы** па сьнегу нагамі») замяняць на *скрыпучы.*

Як адзначае «Граматыка беларускай мовы» (1962), некаторыя дзеепрыслоўі з націскам на апошнім складзе, якія ўтвораны ад дзеясловаў другога спражэння, маюць суфікс *-учы* / *-ючы*/: *імчучы*, *сплючы*, *дрыжучы*, *хрыпучы*. Аднак далучаць да гэтай групы дзеепрыслоўе *скрыпячы* (замяняць суфікс *-ячы* на *-учы*) няма перш за ўсё практычнай патрэбы: яно дакладна перадае адпаведнае значэнне, успрымаецца недвухсэнсава, прынамсі, не аманімічнае прыметніку. Параўнаем: Здароў, **скрыпучы** мяккі снег! (М. Багдановіч).

Перавагу форме *скрыпячы* трэба аддаць і з той прычыны, што яна здзейсненая, ужытая самім аўтарам.

Калі ісці такім шляхам — відазмяняць ужытыя пісьменнікам словы, папраўляючы ці замяняючы прыстаўкі, карані, суфіксы і канчаткі, то ў выніку мова твораў Цішкі Гартнага можа аддаліцца ад таго аб'ектыўна і суб'ектыўна абумоўленага стану, у якім яна паўставала на этапе інтэнсіўнага станаўлення беларускай літаратурнай мовы.

Як паказвае аналіз моўных фактаў, у выпадку разавага ўжывання зацемненага слова (тыпу *дзядзіна, струц*) рабіць нейкія папраўкі ў ім або ў кантэксце, дзе яно ўжыта, без ведама аўтара ці за аўтара недапушчальна. Іншая рэч — апіска, памылка друку. Каб яе вызначыць, трэба ўзяць пад увагу блізкагучнае і блізказначнае слова, што выкарыстоўваецца не адзін, а некалькі разоў.

Так, напрыклад, у творах Цішкі Гартнага кінуліся ў вочы словы *ўпінна, упінкі:* Калі ж маці замаўчала, Сёмка **ўпінна** праказаў: — А чаму ж ува ўсіх будзе каробка, а ў вас не? («Велікодная каробка»). Калючкі і **ўпінкі** ў Сідоравай гутарцы, накіраваныя на савецкі лад і яго парадкі, падабаліся Марылі («Трэскі на хвалях»).

Наяўнасць у падобных кантэкстах Цішкі Гартнага аднакаранёвых слоў *упічны, упічнасць, упічышча, упікі* («Сокі цаліны»), *упічна* («Шукаючы працы»), *упічлівы* («Калгаснік Трыхон Жаролца») дае грунт лічыць, што ў прыведзеных вышэй сказах-ілюстрацыях павінны быць словы *ўпічна, упічкі.* Першае з іх пацвярджаецца раннімі публікацыямі апавядання «Велікодная каробка» (Полымя. 1923, № 3—4; «Выбраныя апавяданні», 1926): «...Сёмка **ўпічна** праказаў...» Што да слова *ўпічкі,* то яно «згубілася» ўжо ў першай публікацыі — было перайначана на *ўпінкі.*

Каб разабрацца яшчэ з адною такой апіскай (памылкай друку), якая прайшла амаль праз усе выданні рамана «Сокі цаліны», уважліва прачытаем урывачак.

«Вобраз стражніка, мігнуўшы ў раскалыханым выабражэнні, **дапоўніў** Рыгору пра ўмоўнасць яго хаценняў. Над ім вісела дазорнае вока дбайнага начальства. І двухдзённае ўхіленне ад стрэчы з ім не выбаўляла яго ад пільнага дагляду... Сённяшні візіт паліцэйскага **дапоўніў** пра той агідны хвост, які цёгся з Рыгі да Смагіна» («Сокі цаліны». Том 1, 1957).

З будовы і сэнсу сказаў відаць, што дзеяслоў *дапоўніў* у іх не на сваім месцы. Гэты дзеяслоў-выказнік патрабуе прамога дапаўнення, напрыклад: ***дапоўніць** кошык бульбай.*

У тэксце Цішкі Гартнага *дапоўніў* — вынік скажэння слова *дапомніў,* якое шырока, паслядоўна ўжываецца ў творах пісьменніка са значэннем 'напомніў'. Заўважаная апіска ёсць ужо ў выданні 1932 года. Там у цытаваным фрагменце першы раз надрукавана *дапоўніў,* другі — *дапомніў* (правільна). Потым карэктары ці рэдактары «ліквідавалі» разнабой — абодва словы падалі ў адной, няправільнай форме — *дапоўніў.*

Да апісак «са стажам» трэба аднесці і наступную. У апавяданні «Гаспадар» («Завяўшая краса», 2001) чытаем: «[Якаў Гузік:] Па-ягонаму, выходзіць, што мы не павінны мець **жаданага** рэжыму на прадпрыемстве. Кожны, як захоча, гэтак мусіць рабіць».

Калі ўдумацца ў змест рэплікі персанажа, то заўважаем, што тут апіска — падкрэсленым словам заменена ранейшае *жаднага.* Як паказвае знаёмства з творамі Цішкі Гартнага, пісьменнік часта ўжывае гэтае слова. Яно падаецца і ў ТСБМ са значэннем 'ніякі, ніводны'. У першай публікацыі апавядання (Полымя. 1928, № 1) ужыта слова *жадны.* А пачынаючы ад зборніка «Гаспадар» (1930), пайшла ў наступныя выданні апіска — *жаданы.* Апрача таго, ужо сучасныя карэктары паставілі коску пасля слова *па-ягонаму,* памылкова аднёсшы яго да пабочных слоў.

Замацаванне апіскі ў якасці сапраўднага слова можа мець адмоўныя вынікі і для разумення твора, і пры выкарыстанні мовы пісьменніка для навуковых і практычных мэт.

Дазволю згадаць ужо прыводжаны мною ў друку прыклад. У рамане Цішкі Гартнага «Сокі цаліны» (Берлін, 1922) ёсць мясціна: «Яна [Гэля] яшчэ выдавала сябе бядоваю жартаўніцаю. Заўсёды над кожным яна **адпальвала** якую-небудзь **штуку.** Паджартавала яна і над Зосяю».

У наступных выданнях у фразеалагізме *адпаліць штуку* слова *штука* нейкім чынам абярнулася ў *шутку.* Распісвальнікі тэксту рамана «Сокі цаліны» (1957) падалі картку-слова *шутка* ў картатэку Інстытута мовазнаўства АН БССР. Падобным шляхам туды трапіла яшчэ адна *шутка* — ад перакручанага выразу *не штука* з верша Максіма Танка.

Гэтыя два нібыта ўжыванні слова *шутка,* а таксама няправільна зразуметае слова *шутка* ў паэме Якуба Коласа «Сымон-музыка» (там яно абазначае 'авечка') з'явіліся для ўкладальнікаў ТСБМ аўтарытэтным матэрыялам, якім яны праілюстравалі наяўнасць у беларускай літаратурнай мове слова *шутка* (папраўдзе ж яго там няма).

Працуючы над артыкулам, і я ледзь не папаўся на такі кручок.

У замалёўцы «Завяўшая краса» ўвагу запыніла слова *цудосны.*

«Змяркалася. Шэры, маркотны від пустога поля, **цудосны** воблік бору, мокрыя, гнілыя калы ў плоце навявалі цяжкія думкі на Ганулю і сціскалі грудзі».

Адразу было падумалася, што *цудосны* — індывідуальна-аўтарскі наватвор і яго значэнне і форму трэба выводзіць з падобных слоў рускіх (з коранем *чуд-,* напрыклад, *чудовищный*) і польскіх (з коранем *cud-*).

Аднак, дзякуй Богу, удалося ў пару змагчы гэтае «былопадуманне» ці, кажучы стражэй, спыніць этымалагічна-словаўтваральны пошук. Бо ён стаў непатрэбны, калі паглядзеў першую публікацыю. Там надрукавана: «жудосны воблік бору» (Наша Ніва. 1911, № 39).

Сучасная публікацыя замалёўкі (зб. «Завяўшая краса», 2001) выдаецца вялікай колькасцю перайначванняў першадрукаванага тэксту: на плошчы 0,6 кніжнай старонкі іх не менш за 6. У прыватнасці, сказ «На **двары імжыў** дробны восенны дожджык» цяпер набыў выгляд: «На **дварэ імшыў** дробны восенны дожджык».

На ўзроўні культуры выдання гэтага твора, як і ўсяго зборніка «Завяўшая краса», відаць, негатыўна адбілася тое, што з адносна невялікім рукапісам (15,47 улік. арк.) працавалі аж чатыры карэктары. Натуральна, яны не маглі ўвайсці, заглыбіцца ў мову і стыль пісьменніка, адчуць і зразумець іх самабытную адметнасць.

Прыклад можа быць яшчэ адным напамінкам рэдактару і карэктару: як мага меней рабіць легкадумных правак, рыхтуючы рукапіс да друку.

Заўважаюцца зыначанні аўтарскага тэксту Цішкі Гартнага і ў дачыненні сінтаксісу і пунктуацыі.

У цяперашні час словазлучэнні тыпу *за два прапробленых дні* кваліфікуюцца як такія, што не адпавядаюць граматычнай норме. І ўсё ж правіць яго на *за два прапробленыя дні* (зб. «Завяўшая краса») рэдактары ці карэктары не павінны былі.

Апавяданне «Трэскі на хвалях» пісьменнік пачынае сказам: «У канцылярыі ... **таўклося** процьма людзей» (Збор твораў. Т. 2, 1929). Тут граматычна ўсё правільна: дзейнікам выступае спалучэнне **процьма людзей**, гэта значыць 'многа, шмат людзей'. Да такога дзейніка выказнік дапасуецца ў форме ніякага роду адзіночнага ліку.

Дыпламаваныя апрацоўшчыкі тэксту (складальнік зборніка, рэдактар, карэктар) палічылі за дзейнік толькі адно слова *процьма* і дапасавалі да яго дзеяслоўвыказнік у форме жаночага роду: «У канцылярыі ... **таўклася** процьма людзей» («Выбраныя апавяданні», 1962; «Насустрач сонцу», 1978).

Цішка Гартны ад пачатку сваёй творчасці актыўна карыстаўся складанымі іменнымі выказнікамі, у якіх выказальнае слова стаіць у форме творнага склону: «...Скора з'явіцца і к нам цёплая жывіцельная вясна, **прыедзе вясёлай**, маладой, на светлым, белым кані...» («Думкі беларуса»). «Неба **было чыстым** — ні хмурынкі» («Калгаснік Трыхон Жаролца»).

У цяперашні час лічыцца непажаданым аддаваць перавагу такой форме выказніка. Відаць, кіруючыся гэтым, карэктары, доўга не думаючы, змянілі форму творнага склону *зацікаўленым* на *зацікаўлены* (назоўны склон): «Але ён [Трыхон] быў **зацікаўлены** сведкаю далейшага ўшчынку пасляабедзеннай працы: прайшло ў пагон, да пшанічнага поля некалькі гаманлівых жанок ... бразнуў дзвярыма ў сырні поўны лысы Міхась Смуглы... («Калгаснік Трыхон Жаролца»).

Праўка (калі гэта не проста апіска) прывяла да разбурэння сэнсу сказа. У першапублікацыі апавядання («Беларусь калгасная». 1932, № 1) было: «Але ён быў **зацікаўленым** сведкаю далейшага ўшчынку пасляабедзеннай працы...»

Ад разумення граматычнай будовы сказа непасрэдна залежыць правільнасць пастаноўкі знакаў прыпынку.

[Ліба:] Усё ж ты, Рыгор, асцярожлівей... Навошта, **канешна**, лезці жыватугам... («Сокі цаліны»). Тут *канешна* карэктарамі ўспрынята як пабочнае слова і таму выдзелана коскамі. У сапраўднасці ж гэта прыслоўе ў ролі акалічнасці, сінанімічнае слову *абавязкова.* Параўнаем: «Навошта **абавязкова** лезці жыватугам». Такім чынам, у паданалізным сказе коскі пастаўлены памылкова.

Коратка падагульнім. У мастацкіх тэкстах, у тым ліку Цішкі Гартнага, адлюстравана як актыўная, так і пасіўная з сучаснага пункту гледжання лексіка і фразеалогія беларускай мовы.

Рэдактары і карэктары ў працы над рукапісам часта абапіраюцца не на ўвесь слоўнік літаратурнай і народна-дыялектнай мовы, а на свой уласны лексікон, які не заўсёды вызначаецца належным багаццем. І гэта вядзе да неапраўданага зыначвання аўтарскага тэксту.

Зніжае якасць рэдагавання і карэктавання тэксту звужанае разуменне нормы — пераважна як нормы літаратурнай. А між тым існуюць яшчэ моўныя нормы пэўнага пісьменніка, нормы мясцовых гаворак, а таксама індывідуальна-аўтарскія і агульналітаратурныя заканамернасці спалучэння і выкарыстання гэтых нормаў і моўных сродкаў у мастацкім творы. Усё гэта трэба ўлічваць у працы з тэкстам.

І яшчэ адно, не менш важнае. Для таго каб забяспечыць належны ўзровень публікацый літаратурнай спадчыны, выдавецтвам патрэбна высокакваліфікаваная дапамога збоку тэкстолагаў. Пры пэўных умовах яна магла б ісці з Інстытута літаратуры НАН Беларусі.



Тамара КРУЧЭНКА

# ЛЕКІ ГАЮЧЫЯ РОДНАГА СЛОВА

...**П**рыснілася бацькоўская хата. Ды так выяўна, што, здавалася, Кацярына навобмацак адчувала кожную масніччыну падлогі, засцеленай матулінымі дыванамі. Ступіла на іх з дарогі ў абутку і тут жа спахапілася, стала разувацца. І прачнулася. На гадзінніку — пачатак сёмай. А яшчэ трэба ўправіцца па гаспадарцы, самой прыбрацца, каб у восем быць у школе. «У выхадныя з'езджу да бацькоў, адведаю. Ды і Свету з Валодзем заадно», — падумала заклапочана. І чаму перыядычна ён сніцца ёй, гэты сон пра родныя Мікулічы? Даўно няма там бацькоўскай хаты. І бацька з маці — Іван Андрэевіч і Любоў Іосіфаўна — як перасяленцы з Брагіншчыны атрымалі кватэру ў Жлобіне, там жа ўладкаваліся яе дачка і сын. «Душа мая крыляе там, бо сумуе па карэннях роду... Трэба неяк выбрацца і з'ездзіць. Прайсці вуліцай, пастаяць каля елачак... Яны так выраслі на той радыяцыі! Па іх цяпер толькі і пазнаеш, дзе была бацькоўская сядзіба...»

Яна подбегам управілася па гаспадарцы. Уласна, гаспадарка — адно найменне: свінчо і куры. І тую, напэўна, прыйдзецца збываць, бо цэлымі днямі ў школе, дакладней, гімназіі. Тут, у двары навучальнай установы, якая стала для Кацярыны Саладухі другім домам, разам з дзецьмі яна стварыла сапраўдную беларускую сядзібу. З калодзежам, млынком, такім дамашнім плятнём з гліянымі гладышамі. Гнуткія хлабысцінкі сланечніку цягнуцца да сонца на невялікім гародчыку, на клумбах — бутоны цюльпанаў, нарцысы. Гэтая лапінка зямлі і сапраўды прыцягвае да сябе, дорыць адчуванне бацькоўскага гнязда. У любові да свайго куточка — вытокі патрыятызму, любові да ўсёй Радзімы. Тут, на Лоеўшчыне, дзеці падпітваюцца ім змалку. Фарсіраванне Дняпра ў кастрычніку 1943-га — яскравая старонка гісторыі СССР, без якой не абыходзіцца на ўроку ніводзін настаўнік.

Кацярына Іванаўна прысела пад імправізаваным бусліным гняздом, згадала, як ладзіла яго з дзятвой, усміхнулася. Вясна набірае моцы, усё прыгажэйшай становіцца іх сядзіба. Міжволі падумалася, што і сама ўжо ўрасла ў лоеўскую глебу, не адарвацца.

А пачыналася ўсё з вучобы ў педагагічным вучылішчы (цяпер гэта каледж). Якая яна тады была юная, натхнёная... Ступіла на дняпроўскі бераг менавіта ў парку, там, дзе ў абрыве, як слоены пірог, — геалагічны разрэз зямлі, напластаванні стагоддзяў, рэшткаў раслін, жывёлін, прадметаў побыту. Душа ўзвіхнулася: якая старажытная зямля! З вышыні адчула сябе птушкай: захацелася, распасцёршы крылы, пакружляць над заліўнымі аксамітавымі лугамі ў міжрэччы, над блакітнай гладдзю Дняпра і Сожа: тут нашы рэкі зліваюцца ў адзіную плынь. Хораша, вольна... «Мой родны кут, як ты мне мілы!» — выгукнула тады на ўсе грудзі! Хацелася, каб і на другім беразе пачулі, на зямлі братэрскай, украінскай. Па вечарах у Лоеве было чутно, як там дзяўчаты спяваюць: «Місяц на небе, зіронькі ззяюць...»

Пасля вучобы ў Мазырскім педінстытуце накіравалі яе ў Стара-Лутаўскую пачатковую школу на Лоеўшчыне. Была ў адной асобе і настаўніцай, і дырэктарам, і тэхнічкай. Выкладала ў чатырох класах, дзе займалася ўсяго 14 вучняў. Няпроста было, але ж з якой павагай ставіліся да «вучыцелькі» вяскоўцы! Калі па вуліцы ішла, старыя здымалі шапкі, віталіся. У такой атмасферы і дзеці выхоўваліся паважлівымі. Не забыць Кацярыне тую зімовую рыбалку, на якую яе запрасілі лутаўчане на возера Глушэц. Не бяда, што ўлоў яе быў тады небагаты — вяскоўцы шчодра, ад шчырага сэрца сыпанулі ёй у кош плотак і акунёў...



Праз год Кацярыне прапанавалі пераехаць у Лоеў, на працу ў бібліятэку. На кватэру ўладкавалася да Марыі Рыгораўны Масленкі, настаўніцы беларускай мовы ў СШ № 2. Любіла з ёй доўгімі зімовымі вечарамі правяраць вучнёўскія сшыткі, раіцца па самых розных пытаннях. Неяк на сустрэчу з лоеўскімі чытачамі прыязджаў народны пісьменнік Іван Шамякін, спыняўся ў сваёй далёкай родзічкі Марыі Рыгораўны, і Кацярына Іванаўна мела магчымасць зблізку прыгледзецца да класіка айчыннай літаратуры, пачуць яго своеасаблівы наказ на выкладанне ў школе свайго Слова.

...Кацярына Іванаўна зірнула на гадзіннік. Заставалася дваццаць хвілін да пачатку ўрокаў. Школьны двор усё больш ажываў галасамі. Саступіла вучням любімую лаўку пад буслiным гняздом. «Хай палюбуюцца нашай сядзібай», — з такой думкай пайшла рыхтавацца да чарговага ўрока літаратуры ў сваім 9 «А». У праграме значылася «Новая зямля» Якуба Коласа. «Мой родны кут, як ты мне мілы!» — радкі запомніліся назаўсёды. Іх хацелася прамаўляць і прамаўляць. Напісана проста, па-сялянску мудра. На тысячагоддзі наперад. «Вось як цяпер, перада мною ўстае куточак той прыгожа, крынічкі вузенькае ложа...».

На першым уроку, калі прыступілі да біяграфіі пісьменніка, Кацярына Іванаўна правяла апытанне: што вучні чыталі самі пра Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча, што іх асабліва захапіла з творчай спадчыны пісьменніка. Большасць школьнікаў называлі «Новую зямлю», некаторыя — раман «На ростанях».

Мова твораў... Родная наша беларуская мова, якой Францішак Багушэвіч заклікаў не цурацца, каб не ўмерлі. У наш імклівы век мабільнай сувязі, Інтэрнету — як ні горка, яна па-ранейшаму больш шануецца ў правінцыі. Яшчэ не стала сродкам зносін большасці нацыі. Ды і ці стане? Жывём жа на Гомельшчыне, у прыгранiччы, дзе перапляліся сцяжыны-пуцявіны і лёсы беларусаў—рускіх—украінцаў. Усе мы спажываем мову найперш слухаючы тэле- і радыёперадачы, чытаючы кнігі беларускіх пісьменнікаў. Да гонару Кацярыны Іванаўны Саладухі, яна з першых урокаў стараецца навучыць дзяцей правільна размаўляць па-беларуску. Каб у будучым выпускнікі гімназіі былі актыўнымі носьбітамі свайго роднага слова. Дабіцца гэтага вельмі складана, бо ў рэдкім доме тут, на памежжы Беларусі, ёсць беларускамоўны асяродак. Ды настаўніца ўпэўнена: праз выхаванне цікавасці да духоўнай спадчыны народа, яго мінуўшчыны мэта можа быць дасягнута.

Урокі мовы часта пачынаюцца з наведвання этнаграфічнага музея гімназіі — беларускай хаты. Такой, як у Лоеўскай гімназіі, няма нідзе. Гэта сапраўдная скарбніца мінуўшчыны. Збіралі дзеці экспанаты сумесна з настаўнікамі ў вандроўках па раёне. Першыя «цаглінкі ў фундамент» закладвала тагачасная настаўніца роднай мовы Надзея Адамаўна Давыдзенка. Ездзілі па вёсках, адшукалі такія рарытэты! Куфар вельмі старажытны, станок-самапрадку, кораб, драўляную біклажку, ільняныя мужчынскі і жаночы касцюмы. Глядзіш, якую тканіну танюткую, бялюткую выраблялі продкі са спаконвечнага нашага даўгунцу на прымітыўным абсталяванні. І ў сэрцы спее гордасць, што ў гэтай справе мы застаёмся прафесіяналамі і сёння, не страцілі майстэрства, а, наадварот, усё ўдасканальваем яго.

Кацярына Іванаўна зрабіла свой падарунак беларускай хаце — прывезла бацькоўскі самавар. Ён заўсёды грэе душу ўспамінам пра родны дом у Мікулічах.

*«Школа — гэта маё жыццё. Хай цяжкае, непрадказальнае, ды ўсё роўна любімае і цікавае. Гэта мая вялікая любоў да дзяцей. Нішто жывое не можа жыць без цяпла і святла. Любоў — гэта тая жыццесцвярджальная сіла, якая саграе ўсё і ўсіх», — так сфармуліравала Кацярына Іванаўна сваё жыццёвае крэда.*

Давайце паслухаем і іншыя яе маналогі пра час і пра сябе.

*— З мамінай навукі ўзяла дабрыню... Мая Любоў Іосіфаўна заўсёды шчыравала на зямлі, была звеннявой у калгасе «Чырвоны Кастрычнік», яна Герой Сацыялістычнай Працы. Драма матулінага жыцця — лёс брата Валодзі, ён інвалід. Ды і сама матуля ў свой час каласком вока пашкодзіла, не бачыць. Яна зараз зусім слабенькая. З'езджу да іх у Жлобін, наплачуся.*

*— 1 Мая 1986-га мы прыехалі ў Мікулічы, каб дапамагчы бацькам у сяўбе. Мама ўжо ведала, што блок узарваўся на АЭС... Пытаюся: «Мама, мо не будзем сеяць?» Ды ці ж ёй, век працаваўшай на зямлі, тая радыяцыя магла быць перашкодай? Пазней да нас перасялялі з вёсак, што былі бліжэй да станцыі. Сям'я з Камарына (маладзейшыя за маіх бацькоў) прыжылася ў нашым доме, падружыліся мы з імі, бы радня...*

*— З дзяцінства іграла на гармоніку, хаця музычнай школы не наведвала. У бацькоў складнавата было з грашыма, каб прыдбаць інструмент. Брат Вася (ён зараз жыве ў Крыме) мяне падвучыў: плач, прасі, каб купілі гармонік. Плакалі мы з ім удваіх, ды так шчыра і жаласліва, што мара ажыццявілася. І вось брат шыбуе на першую змену ў школу, замыкае гармонік у футляры. Я ж падгледзела, дзе ён хавае ключ, адмыкаю і іграю колькі хачу. А тут неяк Вася нечакана ўранку вяртаецца са школы і застае мяне... Пазней у педвучылішчы адолела баян, нават спевы выкладала нейкі час...*

*— У кожнага чалавека ёсць свая «смакавінка»... Я ўсіх дзяцей люблю. Але больш шкадую тых, што пакрыўджаны доляй. Сёння шмат няшчасных сем'яў, у якіх п'юць бацькі. І калі дзіця мне кажа: «Я не вывучыў, бо бацька прыйшоў п'яны, і мы вымушаны былі хавацца ў дрывотні», — дазваляю падрыхтавацца і ў наступны дзень адказаць. Уявіце, як жыць таму юнаму чалавеку, калі і дома ён беспрытульны, ды яшчэ і ў школе ім пагарджаюць. Галоўнае, каб было імкненне да ведаў. Пагадзіцеся, што не кожны з тых, у каго былі салідныя поспехі ў вучобе, становіцца ў жыцці сапраўдным чалавекам. Я па сваіх аднакласніках бачу. Некаторыя выдатнікі сапсаваліся, апусціліся. А «серадdespite»... А «серадняк» акрыялі, сталі сапраўднымі людзьмі. Пэўна, дабрыня настаўніцкая падтрымала.*

*— Пытаюцца вучні ў мяне: «Кацярына Іванаўна, а што вы маеце на ўвазе, калі патрабуеце ад нас «смакавінку» ў адказе?.. Кажу ім: «Гэта нешта настолькі незвычайнае, якое я буду чакаць, як ласы кот, зажмурыўшы вочы...»*

*— За ўсё маё працоўнае жыццё гэты 9 «А» самы лепшы. Вучні з высокім балам паспяховасці — 9,3. Яны вельмі арганізаваныя, дружныя. Па-добраму зайздрошчу, што яны такія раскаваныя, выказваюцца на ўсе тэмы, не саромеюцца задаваць пытанні.*

*Мы іншай загартоўкі. Выхоўваліся ў больш спартанскіх умовах, не мелі такой шыкоўнай вопраткі, не каштавалі такіх экзатычных фруктаў... А перад настаўнікамі заўсёды неяк сябе адчувалі скавана, стаялі ледзь не па стойцы «смірна!» Бо тое, што гаварыў педагог, успрымалі як непарушны закон.*

*Я цяпер сама ў многім рухаюся за сваімі выхаванцамі. Яны ўсе здольныя — адзінаццаць дзяўчатак і шэсць хлопцаў. Яны ў мяне пішуць рэцэнзіі на ўрокі, ацэньваюць веды адно аднаго. Ацэньваюць так іншым разам, што не падкапаешся, няма аргументаў, каб абараніць таго, хто стаіць каля дошкі...*

*Выдатна асвоілі камп'ютэр, добра фатаграфуюць. Калі патрабуецца штосьці аформіць ці для ўрокаў, ці для пазакласнай работы, мне няма неабходнасці наймаць спецыяліста. І дзеці, і бацькі падключаюцца ахвотна. Мы ўсе разам, быццам адна сям'я.*

*— Матэрыялаў у мяне шмат не толькі пра добра вядомых пісьменнікаў, але і тых, хто менш знаёмы, менш вывучаўся раней... Стараюся, каб былі партрэты Кірылы Тураўскага, Міколы Гусоўскага, Элаізы Пашкевіч, Лесі Украінкі, сучасных пісьменнікаў-землякоў, на якіх Гомельшчына багатая. Цяпер столькі кніг выдаецца, столькі інфармацыі, не паспяваеш усё «праглынуць». Працаваць лягчэй настаўніку, бо цэлыя напластаванні матэрыялу, ёсць з чаго рабіць урок. Згадваецца, як мы вучыліся... У асноўным — дошка ды крэйда...*

*— Люблю творы Уладзіміра Караткевіча. У яго раманах — гісторыя нашай зямлі. Менавіта ён упэўніў нас, што трэба ведаць свае карані да сёмага калена, каб быць сапраўдным сынам сваёй Бацькаўшчыны... Але ж Караткевіч яшчэ і паэт цудоўны, якая ў яго лірыка кахання:*

*Рукі твае — сонечныя соты,*
*Але што заменіць дабрыню?*
*Што мне ў сонцы — без яго пяшчоты,*
*Што мне ў любых вуснах без агню?*

*— Маю навуку навучання скарыстоўвае дачка. Выкладае англійскую мову ў Жлобіне. Радуецца, што прыжылася ў яе мая методыка працаваць групамі. І ў яе дзеці калектыўна абараняюць праекты, ёсць у гэтым плён...*

Кацярына Іванаўна лічыць, што зацікавіць вучняў можна толькі пастаянна сілкуючы іх новымі звесткамі па тэме. Паступова павялічваючы аб'ём тэарэтычнага матэрыялу, яна збірае яго ў блокі для апорных канспектаў. А якія яркія, зрокава запамінальныя табліцы створаны настаўніцай з дапамогай вучняў. Напрыклад, для вывучэння тэмы па мове «Сказ». Розныя схемы, малюнкі, слоўнікі, крыжаванкі дапамагаюць працаваць самастойна, развіваюць арфаграфічную і пунктуацыйную пільнасць.

Урокі-лекцыі, урокі-семінары, урокі-залікі, урокі-дыспуты, урокі-агеньчыкі, урокі-прадстаўленні. Творчы падыход ва ўсім. Вывучаючы з дзецьмі творчасць Максіма Багдановіча, настаўніца правяла інтэграваны ўрок, на якім спалучыла мову, літаратуру, гісторыю, спевы.

Сёння, як вядома, ёсць шмат метадаў работы з вучнямі ў класе. Але Кацярына Іванаўна лічыць найбольш прадуктыўнымі ў методыцы выкладання парную, групавую, калектыўную дзейнасць. Тут яна падзяляе пазіцыю расійскага педагога Віталя Дзьячэнкі: прадметныя зносіны на ўроку дапамагаюць рабіць навучанне цікавым.

Кацярына Іванаўна дзеліць клас на групы з высокім, сярэднім і нізкім узроўнем ведаў, у якіх і працуе над тым ці іншым блокам тэмы. Дакладней, кожны персанальна выконвае сваю частку агульнага задання. Затым яны працуюць у пары, паступова беручы на сябе то ролю вучня, то настаўніка. Той, хто авалодаў сваёй часткай тэмы, вучыць іншага і стараецца ўзбагаціцца яго ведамі. Такая залежнасць, вядома ж, выхоўвае і адказнасць. Супрацоўніцтва дазваляе кожнаму вучню больш свабодна выказвацца, пазбавіцца напружанасці ў адносінах (не ўсе ў класе могуць праявіць свае веды, хаця яны і на ўзроўні). Больш увагі ўдзяляецца слабейшым вучням, але ж і моцныя пад кантролем. Паступова, засвоіўшы асноўны матэрыял, слабейшыя дзеці цягнуцца за больш адоранымі. Цікава, што стала добрым правілам для кожнай групы вучняў рэцэнзаваць адказы, ставіць адзнаку і абгрунтоўваць яе.

Выкарыстоўвае Кацярына Іванаўна Саладуха і такі прыём, пры якім вучням удаецца тройчы замацаваць веды па тэме. Вучань распавядае, як самастойна выканаў дамашняе заданне. Настаўніца, у сваю чаргу, знаёміць з узорам выканання. Затым вучань аналізуе, што ім не было першапачаткова ўлічана, што ўпушчана...

За тры дзесяцігоддзі работы ў школе яна многіх улюбіла ў прафесію настаўніцы роднага Слова. Алена Пікус, Ала Фарысева, Вольга Касцючэнка... Гэты спіс вучаніц, якія пайшлі па педагагічнай пуцявіне, можна працягваць. Ды і з цяперашніх выхаванцаў яе, цяпер ужо 10 «А», многія радуюць класнага кіраўніка.

— Цікава працаваць, калі вучні захоплены прадметам, — дзеліцца Кацярына Іванаўна. — Яна Каляда вершы піша, добра перакладае, ды і сачыненні творчыя. А якая сталасць думкі, глыбіня ў Юліі Юкоўскай! Марыя Краўчанка — лідэр алімпіяды па мове, піша вершы, апавяданні...

Два гады таму, да 500-годдзя Лоева, вучні К. І. Саладухі падрыхтавалі вусны часопіс «Нам засталася спадчына». Выступалі з ім не толькі ў сваёй школе. Сцэнарый у два дзесяткі старонак прысвечаны роднай лоеўскай зямлі. У ім ёсць такія радкі: «Спадчына — гэта наша мінулае, наша памяць». Сапраўды, цяжка ўявіць сабе чалавека без гісторыі, без кроўных сувязей з роднай зямлёй, без адчування сваіх вытокаў, без памяці, без роду і племені...

# ЯК СТВАРАЎСЯ ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН БССР

Нам дорага ўсё, што звязана з імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Поруч з несмяротнымі надрукаванымі творамі нашых класікаў асаблівую каштоўнасць маюць аўтографы, архіўныя дакументы. Ужо шмат зроблена не адным пакаленнем навукоўцаў, працаўнікоў Купалаўскага і Коласавага музеяў, архіваў і бібліятэк. Лепшае сведчанне гэтаму Поўны збор твораў Янкі Купалы — Дзесяцікніжжа вялікага народнага песняра (вызначэнне Міхася Мушынскага), куды ўключана ўсё вядомае купалазнаўцам, у тым ліку калектыўныя творы, службовыя і асабістыя дакументы, дарчыя надпісы, дакументы да Летапісу жыцця і творчасці. Распачата выданне Збору твораў Якуба Коласа ў 20 тамах, які задуманы як блізкі да поўнага. Наперадзе вялікая праца па выяўленні і выкарыстанні невядомых матэрыялаў Я. Коласа, якіх яшчэ шмат зберагаецца ў сховішчах і Беларусі, і іншых краін.

...Пра свой удзел у 1944 годзе ў працы журы па разглядзе тэкстаў і музыкі Дзяржаўнага гімна БССР Якуб Колас пісаў у дзённіку «Гаворыць Клязьма». Дзённік ужо даўно надрукаваны, праўда, са значнымі купюрамі. Вядомы і тэкст верша «Жыві, народ!», прадстаўлены Я. Коласам у журы. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь сярод матэрыялаў ЦК Кампартыі Беларусі і Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР знаходзяцца дакументы па гісторыі стварэння гімна ў 1944—1945 гадах. Гэта пратаколы і стэнаграмы пасяджэнняў, справаздачы і даведкі, рэцэнзіі і заўвагі, фінансавыя дакументы. Захаваліся і прапанаваныя паэтычныя тэксты — аўтографы і машынапісныя копіі. Публікацыя пачынаецца з тэкста Якуба Коласа і пяці тэкстаў, што прайшлі ў другі тур і на якія стваралася музыка.

Дакументы, што прапануюцца ўвазе чытача, сведчаць пра актыўны, нефармальны ўдзел Я. Коласа ў працы журы як намесніка старшыні. Асаблівую каштоўнасць маюць стэнаграмы, што даюць магчымасць стаць своесаблівымі сведкамі тых падзей, быццам бы пачуць жывы голас Якуба Коласа, яго заўвагі, рэплікі, даведацца пра саму манеру весці такое няпростае пасяджэнне. А сярод яго ўдзельнікаў — і дзяржаўныя мужы, і кампазітары, і калегі па пісьменніцкім цэху Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка. Асобы для палымянскіх чытачоў, як правіла, вядомыя, таму не загрувашчваем публікацыю біяграфічнымі даведкамі.

Пераказваць дакументы — справа няўдзячная. Дакументы трэба чытаць самому, не спадзеючыся ні на кога.

Некалькі слоў пра вынікі работы па стварэнні Дзяржаўнага гімна БССР у 1944—1945 гадах. Спашлёмся на публікацыі пачатку нашага стагоддзя (гл. артыкулы С. Крапівіна і В. Скалабана «Когда авторы будут вскрыты...» і «Гимн, раскрывшийся в оттепель» у «Советской Белоруссии» за 6 студзеня 2001 г. і 13 верасня 2005 г.). Быў зацверджаны варыянт гімна, напісаны кампазітарам А. Багатыровым на словы П. Броўкі і К. Крапівы. Бюро ЦК КП(б)Б разглядала гэтае пытанне 10 красавіка і 4 снежня 1945 года, прасіла ЦК ВКП(б) зацвердзіць Дзяржаўны гімн БССР і дазволіць надрукаваць яго. Але дазволу прыйшлося чакаць аж 10 гадоў. ЦК КПСС 8 жніўня 1955 года прыняў пастанову «Аб Дзяржаўным гімне Беларускай ССР». 1 кастрычніка 1955 года па беларускім радыё ўпершыню прагучала песня кампазітара Нестара Сакалоўскага на вершы Міхася Клімковіча «Мы — беларусы» ў якасці Дзяржаўнага гімна. У 1945 годзе яна была адхілена.

Тэксты друкуюцца паводле сучаснага правапісу на мове арыгіналаў, уніфікацыя не праводзілася, асаблівасці мовы захаваны. Рэдакцыйныя загалоўкі друкуюцца курсівам, перанесеныя з дакументаў — прамым шрыфтам.

*Віталь Скалабан*

# № 1–6
## *Тэксты, што абмяркоўваліся журы*

## № 1

*Тэкст Якуба Коласа*

Пад гоман бур пылаў наш сцяг змагання,
Пранесены з баямі ў нашы дні.
Мінула ноч. Іскрыстае світанне
Запальвае нам ясныя агні.

Жыві, народ свабоднае краіны!
Квятней ты, беларуская зямля!
Нам Леніным паказаны пуціны
І зорамі асветлены Крамля.

Прасторан шлях палётам быстракрылым,
Імкліў, як гром, разбег наш малады.
На грозны час навалы ўражжай сілы
Гартуем мы сталёвыя рады.

Жыві, народ свабоднае краіны!
Квятней ты, беларуская зямля!
Нам Леніным паказаны пуціны
І зорамі асветлены Крамля.

Рука ў руку з магутнымі братамі
Мы ў бой ідзем і ў бедах не адны:
Братэрства шчыт узносіцца над намі
І Сталінскаю дружбай мы сільны.

Жыві, народ свабоднае краіны!
Квятней ты, беларуская зямля!
Нам Леніным паказаны пуціны
І зорамі асветлены Крамля[1].

НАРБ. Ф. 4п. Воп. 47. Спр. 59. Л. 73. Арыгінал. Аўтограф Я. Коласа.

## № 2

*Тэкст Міхася Клімковіча*

**Дэвіз: «За Радзіму»**

### ГІМН САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

Мы, беларусы, з братняю Руссю
Разам шукалі к волі дарог,
У бітвах за волю, у бітвах за долю
Мы здабылі з ёй сцяг перамог!

Нас аб'яднала Леніна імя,
Сталін павёў нас к шчасцю ў паход!
Слава Саветам, слава Радзіме,
Слава табе, беларускі народ!

[1] *Перад тэкстам іншай рукою пазначаны дэвіз* «Не пагасне наша сонца».

У слаўным Саюзе люд Беларусі
Вырас, як волат нашых былін.
Вечна мы будзем вольныя людзі
Жыць на шчаслівай вольнай зямлі!

Нас аб'яднала Леніна імя,
Сталін павёў нас к шчасцю ў паход!
Слава Саветам, слава Радзіме,
Слава табе, беларускі народ!

Дружбай народаў мы назаўсёды
Нашы граніцы ў сталь закуём.
Ворагаў хмары грозным ударам
З нашых пратвораў прэч мы змяцём!

Нас аб'яднала Леніна імя,
Сталін вядзе нас к шчасцю ў паход!
Слава Саветам, слава Радзіме,
Слава табе, беларускі народ!

Варыянт першых радкоў:

З рускім народам к зорам свабоды
Век мы шукалі разам дарог.
І здабылі мы неапалімы
У бітвах за волю сцяг перамог!

У прыпеве магчыма дапусціць затакт:

Сталін павёў нас да шчасця ў паход!

НАРБ. 4п. Воп. 47. Спр. 59. Л. 69. Копія. Машынапіс.

## № 3

***Тэкст Кандрата Крапівы***

**Дэвіз: «Мы пераможам»**

### ГІМН БЕЛАРУСКАГА НАРОДА[1]

Мы роднай краіны адданыя дзеці,
Свабодны народ беларускай зямлі.
Зламаць не змаглі нас прыгнёту сталецці,
Мы ў бітвах свабоду сваю здабылі.

Прыпеў:

Пад сцягам савецкім да шчасця людскога
Ідзем мы у вялікі паход.
Красуйся, Радзіма, расці у перамогах!
Жыві, беларускі народ!

Вялікі Кастрычнік узняў нас на ногі
Расія — сястра нам руку падала.
Нас Ленін вучыў здабываць перамогі,
Са Сталіным наша краіна ўзрасла.

Прыпеў:

Пад сцягам Савецкім да шчасця людскога
Ідзем мы у вялікі паход.

[1] Варыянт тэкста, рэкамендаванага для напісання музыкі. Папраўкі ўнесены паводле заўваг журы. (*Заўвага дакумента.* — В. С.)

Красуйся, Радзіма, расці у перамогах!
Жыві беларускі народ!

Мы ворагаў знішчым, змяцем перашкоды, —
Нас дружба з'яднала у магутны Саюз.
У брацкім саюзе рэспублік свабодных
Да шчасця і славы ідзе Беларусь.

Прыпеў:

Пад сцягам Савецкім да шчасця людскога
Ідзем мы у вялікі паход.
Красуйся, Радзіма, расці у перамогах!
Жыві беларускі народ!

Варыянт другой страфы:

Вялі к перамогам нас Ленін і Сталін,
Расія-сястра нам руку падала,
Пад сталінскім сонцам мы шчасце пазналі
І шлях перад намі у промнях святла.

Варыянт трэцяй страфы:

Не зломяць нас буры, не спыніць нас вораг:
Савецкая дружба нам сілу дала.
Яснеюць над намі крамлёўскія зоры,
І мэту мы бачым у бляску святла.

НАРБ. Ф.4 п. Воп.47. Спр.59. Л.65 — 65адв. Копія. Машынапіс.

## № 4

***Тэкст Пятра Глебкі***

**Дэвіз: «Сталінград»**

## ГІМН БССР

З рускім народам свабоду і славу
Ты здабыла, Беларусь, у баях;
Ленін і Сталін цябе як дзяржаву
Вывелі смела на сонечны шлях.

Слаўся, рэспубліка, вечныя годы,
Дружбу народаў расці, памнажай!
Мы — твае дзеці — гатовы заўсёды
Жыць і памерці за родны наш край.

Роўная ў брацкім Саюзе між роўных
Дружных Савецкіх рэспублік-сясцёр,
Ты ўзрасла, расквітнела чароўна,
Людзям адкрыўся шырокі прастор.

Слаўся, рэспубліка, вечныя годы,
Шчасце народаў расці, памнажай!
Мы — твае дзеці — гатовы заўсёды
Жыць і памерці за родны наш край.

Мы за багацце тваё і за шчасце
Рынемся мужна на ворага у бой,
Грознай часінай цябе ад напасці
Армія наша заслоніць сабой.

Слаўся, рэспубліка, вечныя годы,
Славу народаў расці, памнажай!
Мы — твае дзеці — гатовы заўсёды
Жыць і памерці за родны наш край.

НАРБ. Ф.4 п. Воп. 47. Спр. 59. Л. 71. Копія. Машынапіс.

## № 5

*Тэкст Петруся Броўкі*

**Дэвіз: «Беларус»**

### ГІМН САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

1. Рэспубліка наша, прастор твой прыгожы:
У нівах шумлівых, лугах і барах.
Ад Буга да Нёмна, ад Нёмна да Сожа,
Ад Прыпяці вольнай да хваляў Дняпра.

Прыпеў:

Ленін і Сталін цябе, як дзяржаву
Стварылі, з'ядналі у магутны саюз.
Ты наша жыццё, наша радасць і слава,
Цвіці і навекі красуй, Беларусь.

2. У дружбе народаў пазнаўшая волю,
Айчына, ты маці сынам і дачкам.
Даў шчасце ў працы і ясную долю
Вялікі Кастрычнік ускрыленым нам.

Прыпеў.

3. Ніколі не быць Беларусі ў палоне,
Народ беларускі асілак-герой,
Мы ворагаў заўжды паб'ём і прагонім,
Мы рады ісці за радзіму на бой.

НАРБ. Ф. 4 п. Воп. 47. Спр. 59. Л. 58. Копія. Машынапіс.

## № 6

*Тэкст Петруся Броўкі*

**Дэвіз: «Баец»**

### ГІМН САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

Шуміць наша слава ў палях каласамі,
Барамі густымі і хвалямі рэк.
Зямля — наша маці, адвеку ты з намі,
Мы сэрцам адданым з табою навек.

Прыпеў:

Беларусь Савецкая, Беларусь свабодная,
Ты ў сям'і рэспублік — родная сястра,
Дык цвіці, магутная, сілаю народнаю,
Беларусь Савецкая — ясная зара.

Радзіма. Нямала ты зведала болю?
Вякамі гудзеў над табою віхор,
А Ленін і Сталін далі табе волю
І шлях твой праклалі да сонца і зор.

Прыпеў:
Беларусь Савецкая...

Зладзеі чужынцы цябе рабавалі,
Скарыць жа цябе не ўдавалася ім,
Мы ў бойках айчыну сваю адстаялі,
І ў бойках заўсёды яе адстаім.

Прыпеў:
Беларусь Савецкая...

НАРБ. Ф. 4 п. Воп. 47. Спр. 59. Л. 52. Копія. Машынапіс.

## № 7

### ПРАТАКОЛ № 1
### пасяджэння журы па разглядзе тэкстаў і музыкі Дзяржаўнага гімна БССР

5 мая 1944 г.

**Удзельнічалі:** члены журы тт. Якуб Колас, Кандрат Крапіва, М. Лынькоў, П. Броўка, Залатароў, Багатыроў, Л. Папкоў, нам. Старшыні СНК БССР тав. Кісялёў.

**Старшыня** тав. Якуб Колас.

1. **Слухалі:** Разгляд тэкстаў (Якуб Колас).
**Пастанавілі:**
а) Прыняць і дапусціць для напісання музыкі:
1. Дэвіз «За Радзіму» — пачатак «Мы, беларусы, з братняю Руссю».
2. –//– «Мы пераможам» –//– «Мы — знатнае племя славян працавітых».
3. –//– «Сталінград» –//– «З рускім народам свабоду і славу».
4. –//– «Беларус» –//– «Рэспубліка наша, прастор твой прыгожы».
5. –//– «Баец» –//– «Шуміць наша слава ў палях каласамі».
б) Адхіліць:
1. Дэвіз «За радзіму»
2. –//– «Шыпшына»
3. –//– «Шыпшына»
4. –//– «Сталінград»
5. –//– «Думка»
6. –//– «Беларус»
7. –//– «Спартак»
8. –//– «Віктар»
9. –//– «Зорка»
10. –//– «Радзіма»
11. –//– «Не пагасне наша сонца» Колас[1].
12. –//– «Слаўся, слаўся, Беларусь родная».
13. –//– «Мы пераможам».
14. –//– «Зямляк»

[1] Колас — *дапісана алоўкам.*

2. **Слухалі:** Аб заўвагах па пяці прынятых тэкстах (Л. Папкоў).
**Пастанавілі:**
1. Лічыць неабходным зрабіць падрабязныя заўвагі па пяці прынятых тэкстах.
2. Даручыць камісіі ў саставе тт. Я. Коласа, К. Крапівы і П. Броўкі зыходзячы з заўваг журы напісаць падрабязна свае заўвагі па кожным з пяці тэкстаў.
3. Прасіць т. Лынькова паведаміць пісьменнікам рашэнні журы і заўвагі па тэкстах.

Старшыня *Якуб Колас*

Члены журы:
*Кандрат Крапіва*
*М. Лынькоў*
*П. Броўка*
*Залатароў*[1]
*Багатыроў*
*Л. Папкоў*
*Ф. Пестрак*[2]

НАРБ. Ф. 4п. Воп. 47. Спр. 59. Л. 87—87адв. Арыгінал. Машынапіс.

## № 8

## СТЭНАГРАФІЧНЫ ПРАТАКОЛ
### пасяджэння журы па разглядзе прадстаўленных на конкурс тэкстаў беларускага гімна

г. Масква 5 мая 1944 г.

**Прысутнічаюць:** намеснік Старшыні СНК БССР тав. Кісялёў К.В., сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР тав. Папкоў, пісьменнікі і паэты Якуб Колас, Міхась Лынькоў, Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, кампазітары тт. Залатароў і Багатыроў.

**Старшынствуе** Якуб Колас.

**КОЛАС.** Паступіла 16 тэкстаў гімна на беларускай мове і 17 напісаны на рускай мове, вярней руска-беларускай, трошкі жаргонам. Які парадак разгляду мы прымем?

**ПАПКОЎ.** Я думаю, што мы пазнаёмімся з кожным тэкстам, а затым абгаворым і рашым, ці заставіць яго ці адхіліць.

**КОЛАС.** Супярэчанняў няма? Няма.

(Пятрусь Броўка зачытвае першы тэкст «Шыпшына» — «Гімн беларускага народа».)

**КОЛАС.** Якія будуць заўвагі?

**ЗАЛАТАРОЎ.** «Здзек» — ці прыгожа гэта гучыць?

**БРОЎКА.** Гучыць нармальна.

**[ЗАЛАТАРОЎ].** Прыпеў у разнастайным рытме. Можа, на справе штонебудзь выдзе, а пры першым знаёмстве карава выглядае.

Затым абзац апошні: «...Людзьмі прызналі нас, людзьмі назвалі нас...» Навошта такое самапрыніжэнне?

**БАГАТЫРОЎ.** Я таксама з гэтым зусім згодзен, хаця гэта ёсць і ў другіх тэкстах.

---

[1] *Подпісу няма.*
[2] Ф. Пестрак — *дапісана П. Пестраком.*

**ЛЫНЬКОЎ.** У мяне заўвагі такога парадку. Тав. Залатароў упаўне праў і мае права супярэчыць наконт гэтага радка — ...«Людзьмі прызналі нас, людзьмі назвалі нас...» Па-першае, зразумела, прыніжаем сябе, па-другое, атрымліваецца некалькі плаксіва, з гімнам гэта не вяжацца.

**БРОЎКА.** Я лічу, таварышы, што ў такіх выпадках, калі тэкст яўна не падыходзіць, мы павінны шчыра сказаць, што тэкст не падыходзіць.

**ЗАЛАТАРОЎ.** Вось гэта добра.

**[БРОЎКА].** І тут мы павінны ясна сказаць, што тэкст не падыходзіць. Ён бездапаможны. Ён не можа прэтэндаваць на гімн. Гэта песня часовага парадку і зроблена няўдала, нават збоку пісьменнасці зроблена карава.

...Саветы далі нам, калгасы далі нам
Права шчаслівымі быць...

Сантыментальшчына — «...Краіна ільноў сінявокіх, край шумных бароў, вазёр...»

Далей: «...З палкамі сваімі ідзем...» Якімі палкамі? Што гэта гімн рабочага, калгасніка? «...Касцямі ляжаць чужаніцы...» — гэта шаблон, больш якога і не прыдумаеш.

Затым зноў: «Нязломныя»?!

«…Людзьмі прызналі нас, людзьмі назвалі нас»?!

**БАГАТЫРОЎ.** Я падтрымліваю гэту думку.

**КРАПІВА.** Я таксама падтрымліваю. Тэкст прымітыўны і збоку логікі.

**КОЛАС.** Абараняць яго не бяруся. Значыць, мы яго адхіляем?

**А д х і л я е ц ц а.**

(Пятрусь Броўка зачытвае другі тэкст пад дэвізам «За радзіму» — «Гімн Савецкай Беларусі».)

**КОЛАС.** Якія будуць заўвагі?

**ЗАЛАТАРОЎ.** «Шугай» — ці гучна гэта па-беларуску, бо тры разы ў прыпеве паўтараецца. Па-мойму, гэта добры гімн. Вось толькі «шугай» мяне застанаўлівае.

**КІСЯЛЁЎ.** Змест тут вельмі расплыўчаты. Самі сябе хвалім. А зразумела, беларускі народ — герой народ, але скромнасці тут у гімне няма. Прыпеў таксама няўдалы. У цэлым тон хвалебны, потым рыфма цяжкавата.

**ЛЫНЬКОЎ.** Маленькая заўвага такога парадку. Тут аднаго моманту не хапае ў гэтым тэксце, аднаго з асноўных момантаў, аб якім мы гаварылі, асноўнай ідэі аб блізкасці, кроўным адзінстве з рускім народам. Аб гэтым моманце, як аб самым сур'ёзным недахопе гэтага тэкста, я і гавару. Гэта ідэя павінна быць падкрэслена. Пакуль што я не схільны астаўляць гэты варыянт, я за тое, каб яго адхіліць.

**БРОЎКА.** Якія недахопы ў гэтым тэксце па маёй думцы? Мая асабістая думка, што гімн павінен пачынацца адразу з гаворкі аб беларускім народзе, а тут адразу:

У грозных баях і ў творчасці слаўнай
Расце наш магутны Савецкі Саюз!

Выходзіць, што гэта гімн усяго Савецкага Саюза? Гэта асноўны недахоп.

Затым:

«Над пушчамі вольнай зарою шугай!». Чаму над пушчамі? Вельмі звужана. Мала сказаць у дзяржаўным гімне — «шугай над пушчамі».

Аднак, нягледзячы на гэтыя недахопы, якія можна выправіць, у цэлым, мне здаецца, гімн заслугоўвае таго, каб на яго музыку пісалі, бо ён такі напеўны і напісаны з пачуццём. Калі музыка будзе ўдалай, мне здаецца, усё асноўнае ёсць для таго, каб аўтар мог выправіць недахопы. Мая прапанова — пакінуць для музыкальнай работы.

**КРАПІВА.** Збоку зместу, збоку логікі тут ёсць некаторыя недахопы. Напрыклад, першыя радкі:

У грозных баях і ў творчасці слаўнай
Расце наш магутны Савецкі Саюз!
Дачкою любімай ў сям'і роўнапраўнай
Савецкіх рэспублік ідзе Беларусь!

Чыёй дачкой? Чыёй любімай?

**ЛЫНЬКОЎ.** Гэта верна.

**[КРАПІВА].** Затым:

...І знамя Саветаў і светлую долю
Нам Ленін і Сталін навекі ўручыў.

Калі Ленін і Сталін, то — ўручылі?

Апошнія два радкі:

І дружбай народаў навек згуртавалі
Нязломную крэпасць савецкіх граніц!

Гэта не паэтычна.

**ЛЫНЬКОЎ.** Без густу.

**[КРАПІВА].** Затым наконт мэты ў будучым, некаторых поглядаў у будучае. Мне здаецца, што тэкст не падыходзіць.

**ПАПКОЎ.** Я згодзен, што асноўнай ідэі, якая павінна быць у гімне, тут няма. Наш беларускі гімн павінен паказаць Беларусь. Беларускі народ герой. Праўда, я не згодны з Кузьмой Венедыктавічам наконт таго, што ён гаварыў аб скромнасці. Наадварот, і тэкст, і музыка павінны паказаць беларускі народ і васпяваць яго.

Але вось ідэі асноўнай тут няма. Гэты тэкст да звычайнай песні можа падысці, а для гімна, безумоўна, не падыходзіць.

**КОЛАС.** Я на скорую руку праглядаў тэксты і на гэтым у мяне пастаўлена літара «Л». Гэта я адзначыў, што тэкст з лепшых. Ён мне падабаецца ў агульнай плыні, але ў паасобных радках ёсць недарэчнасці.

Вось, напрыклад:

«У грозных баях і у творчасці слаўнай...». Тут аўтар хоча выразіць кантрасты, але гэта не атрымліваецца.

«І знамя Саветаў...». Гэта слова мы не ўжываем. Калі мы перакладалі рускі гімн на беларускую мову, мы біліся над тым, як бы абысці гэта слова.

Вось гэтыя дзве мае заўвагі. Увогуле, я лічыў бы так катэгарычна бракаваць яго не варта. Прымем умоўна, няхай музыка будзе напісана і аўтар прыме заўвагі для папраўкі. Так ён досыць паэтычны ўвогуле.

**ПАПКОЎ.** Можа быць, наконт ідэі дадаць. Давайце абгаворым другі варыянт.

**КОЛАС.** Прачытаем другі варыянт гэтага дэвіза і потым абгаворым абодва адразу.

(Пятрусь Броўка зачытвае наступны тэкст пад дэвізам «За радзіму» — «Гімн Савецкай Беларусі».)

**БАГАТЫРОЎ.** Мне гэты тэкст падабаецца. Я лічу, што ён падыходзіць для гімна. Тут рыфма вельмі добрая, змест, вобразы ёсць, а гэта самае важнае.

І гэты тэкст трэба адшліфаваць, а для музыкі, бясспрэчна, можна прымаць яго.

**КОЛАС.** Ну што ж, можна яго аднесці да ліку тых нямногіх тэкстаў, з якіх канчаткова будзем выбіраць. Думаю, што прыняць яго можна.

**ЛЫНЬКОЎ.** Гэты варыянт куды лепш, чым той, які мы першым разглядалі, ён выразней, палітычней, і тая ідэя, аб адсутнасці якой гаварылі наконт другіх варыянтаў, тут ясна выражана. Але ёсць некаторыя, па-мойму, недакладнасці, шарахаватасці, якія прыйдзецца аўтару выправіць. Скажам для вуха гучыць не зусім добра: «Разам шукалі к волі дарог...». Для вуха блізка гучыць «кволых»?!

Можа, трэба як-небудзь палепшыць гэты тэкст, каб ён не даваў прычыны для двухсэнсоўных гукавых злучэнняў. Далей, мне зусім не падабаюцца радкі: «Нашы граніцы ў сталь закуём...». Можа, замяніць гэта чым-небудзь?

**БАГАТЫРОЎ.** Нямнога ўстарэла.

**[ЛЫНЬКОЎ].** Не тое, што ўстарэла, але гучыць не зусім добра. Першы варыянт, зразумела, слабей. Гэта — адзін з лепшых, якія мы маем на сённяшні дзень.

**КІСЯЛЁЎ.** «...Як волат нашых былін» — які сэнс у гэтым слове?

**КРАПІВА.** Народ беларускі вырас, як волат, аб якім гаворыцца ў нашых былінах. У мяне адно прынцыповае пытанне, якое трэба абгаварыць, гэта наконт першага радка:

Мы, беларусы, з братняю Руссю
Разам шукалі к волі дарог...

Наконт слова «Руссю», якое адносіцца да мінулага часу. Лепш будзе ўжыць «Рускі народ», бо калі ў гімне саюзным гаворыцца аб вялікай Русі, то там гаворыцца аб стварэнні Савецкага Саюза. Я размяжоўваю паняцце рускі народ і Русь як дзяржава.

**КОЛАС.** Тут трэба было б проста аб'яднаць першы і апошні радкі. Першы радок не зусім удалы, а другі «к волі» — цяжкаваты радок для музыкі. Можа атрымацца такая штука, як з беларускім гімнам, калі спявалі «Ад веку мы спалі», то некаторыя пыталіся, якія дзве кумы спалі! Таму, калі мы прымем гэты тэкст, то аўтару прыйдзецца гэта выправіць.

**БРОЎКА.** Я думаю, паколькі гэта дэвіз і аўтара мы не бачым перад сабой, нам трэба прынцыпова вырашыць, ці пакідаем мы гэты дэвіз ці не. А калі музыка будзе напісана, аўтар выправіць гэтыя радкі.

**КРАПІВА.** ...Дружбай народаў мы назаўседы
Нашы граніцы ў сталь закуём.

Мне здаецца, гэта не зусім удала.
Апошні радок:

...Ворагаў хмары грозным ударам
З нашых прастораў прэч мы змяцём!

Гэтыя радкі зусім не на месцы.

**БРОЎКА.** Шліфоўка патрэбна. Але пакінуць для музыкі нада.

**ЗАЛАТАРОЎ.** ...Нас аб'яднала Леніна імя,
Сталін павеў нас к шчасцю ў паход!

Гэта тры разы паўтараецца. Калі б гэта не было ў прыпеве, не было б такога нажыму. Мне здаецца, што атрымліваецца бажба, біенне ў грудзі. Гэтую думку абавязкова трэба прывесці, але не ў прыпеве, які паўтараецца тры разы. Нельга так адносіцца да дарагіх для нас імён.

**КОЛАС.** Значыць, гэты тэкст мы прымаем, хай пішуць музыку.

**П р ы м а е ц ц а** (першы варыянт адхіляецца).

**ПЯТРУСЬ БРОЎКА** зачытвае наступны тэкст пад дэвізам «Радзіма» — «Гімн Савецкай Беларусі».

**ПАПКОЎ.** У мяне пытанне да кампазітараў: без прыпеву магчыма?

**ЗАЛАТАРОЎ.** Так.

**КІСЯЛЕЎ.** Абстрактная рэч.

Зямля, наша маці, навекі
Хай будзе прастор твой шчаслівы,
Дзе скрозь ад зары да зары —
Звіняць беларускія рэкі,
Шумяць беларускія нівы,
Гамоняць асілкі-бары.

Прырода ўвогуле. Гэта, вядома, цікава, але разам з тым незмястоўна. Затым «звіняць беларускія рэкі». Бубенцы могуць звінець, але рэкі?

Мы сэрцам Кастрычнік віталі,
І у сонцы пабачылі поле…

Вельмі цяжка ўспрымаецца. Увогуле мне асабіста гэта не падабаецца.

**КРАПІВА.** Мне здаецца, што гэты тэкст няўдалы, ён проста мала змястоўны, туманны, абстрактны.

Зусім няўдала гучаць радкі:

Хай будзе прастор твой шчаслівы…

Чаму прастор?!

І у сонцы пабачылі поле…

Чаму ў сонцы?! Вельмі прымітыўныя радкі.

Чужынцаў ты заўсёды паб’еш…

Прымітыўныя радкі.

Як волат нязломны жывеш!

Адрозніванне волата не толькі ў тым, што ён проста жыве, тут няма актыўнага пачатку. Нідзе не сказана нічога, што зрабіў сам беларускі народ. Яму далі волю, тое, другое, а што ён сам зрабіў? Мне здаецца, што гэты тэкст трэба адхіліць.

**ЗАЛАТАРОЎ.** У мяне вось запісана — для гімна занадта лірычны. Гэта не гімн, а песня. Затым рыфма наогул каравая і рытм цяжкі.

**БАГАТЫРОЎ.** Цяжкі, гэта больш усяго адхіляе.

**ЛЫНЬКОЎ.** Гэты варыянт у мяне у ліку тых, які я пакінуў бы для музыкі…

**КРАПІВА.** Але тут зместу няма.

**[ЛЫНЬКОЎ].** Гэта верна, і я схільны, каб на ім крыж паставіць.

**КОЛАС.** Па-мойму, нядрэнна напісана. Тут многа прыроды і г. д., але, можа быць, для гімна трошкі гэтага мала.

Затым:

Дзе скрозь ад зары да зары —
Звіняць беларускія рэкі,
Шумяць беларускія нівы,
Гамоняць асілкі-бары…

Ну, не заўсёды ад зары да зары звіняць рэкі і шумяць нівы, бо ўзімку нівы не растуць, рэкі замярзаюць.

Далей: «Не будзеш ты болей пакутнай...»

Гэта ўжо прароцтва, хто ж яго ведае. Мы да вайны таксама не ведалі такой пакуты і што ўперадзе таксама не ведаем.

Я лічу, што гэты тэкст не падыходзіць.

**Адхіляецца.**

(Пятрусь Броўка зачытвае наступны тэкст пад дэвізам «Зорка» — «Гімн Савецкай Беларусі».)

**ЗАЛАТАРОЎ.** Пачынаецца ён з чыста музычнага боку, а ён найбольш важны зараз, я павінен сказаць з-за такту.

Зямля Беларусі!
Мы сэрцам гаворым
З табой ад зары да зары.
Родныя нівы,
Рэкі, вазёры,
Нашы крыніцы, бары.

Рытм тут ломаны, тут 2—4 і далей 3—3. Увогуле гімн добры, складны, сцíслы, але я баюся, што на практыцы будзе цяжка музычна асіліць.

**КОЛАС.** Кампазітары павінны знайсці музыкальную форму.

**ЗАЛАТАРОЎ.** Верна, верна. Як вопыт гэта, вядома, вельмі цікава.

**БРОЎКА.** Не можа быць такога тэкста, на які б нельга было напісаць музыку.

**КІСЯЛЁЎ.** Павінен сказаць, што мне асабіста тэкст не падабаецца.

Зямля Беларусі!
Мы сэрцам гаворым
З табой ад зары да зары...

З зямлёй?! З дзяўчынай — так, з адушаўлёным прадметам. Адразу незразумела, а трэба, каб тэкст быў кожнаму зразумелы, трэба разлічваць на ўзровень простага чалавека, а тут як-та не даходзіць.

Далей: Вялікі Кастрычнік
Зялёныя далі...

З пункту погляду паэтычнага дапускаецца такая рэч? Трэба, каб гімн быў змястоўны і народу даступны, а тут гэтага няма. Гэта агульнае ўражанне неспецыяліста, аматара.

**ПАПКОЎ.** Мая думка, што тэкст безумоўна не падыходзіць. Няма выразнасці, і ідэйна ён не падыходзіць. Прыпеў недастаткова выразны і наогул не падабаецца.

**ЛЫНЬКОЎ.** У мяне адна заўвага такога парадку. Я чытаў, учытваўся і стольскі зорак знайшоў тут, што проста нібы я трапіў у планетарый, планетарны гімн.

Мы сэрцам гаворым
З табой ад зары да зары...
Ты сцягі нясеш, як зару...

І г. д.

Далей: Родныя нівы,
Рэкі, вазёры...

Што гэта, зварот? Мы з гэтымі рэкамі гаворым? Тады не з табой, а з вамі.

Так што я далучаюся да той думкі, каб адхіліць гэты тэкст.

**КОЛАС.** Я, таварышы, інакш гляджу. Увогуле гэты тэкст мне падабаецца. Ён паэтычны і напеўны. Хаця музыканты гавораць, што цяжкі для музыкі, але ён сам як-та просіцца на музыку. Тут, можа быць, некаторыя папраўкі ўнесці.

Мы сэрцам гаворым з табой ад зары да зары.

Гэта гіпербала далёкая, якую трэба паправіць. Я бы ўмоўна гэты варыянт прыняў. Тут, па-мойму, няма такіх вялікіх паправак і, нарэшце, можна зрабіць калі не гімн, то добрую песню.

**КРАПІВА.** Мы павінны сёння адабраць тэксты, якія падыходзяць для гімна, а што датычыцца да песні, то гэта справа зусім другая.

**КОЛАС.** Усё ж ён мне падабаецца.

**КІСЯЛЁЎ.** Трэба адхіліць яго.

**КОЛАС.** Галасую. Хто за тое, каб гэты тэкст адхіліць?

(Большасцю галасоў гэты тэкст адхіляецца. Пятрусь Броўка зачытвае тэкст гімна пад дэвізам «Спартак».)

**ЗАЛАТАРОЎ.** Тут ломаны рытм. У другім радку не хапае двух слоў, абавязкова іх трэба дадаць. Затым «Сцягам ірдзець» — не вельмі гучна. А так гімн нядрэнны.

**БАГАТЫРОЎ.** Мне здаецца, што адзін недахоп гэтага тэкста, што ён вельмі доўгі, трэба яго скараціць.

**КІСЯЛЁЎ.** «О Беларусь, нашай долі краіна». Пачынаецца з «О», клічніка, а гэта ўжо не гадзіцца. Затым прыпеў, нават чытаць карава, а спяваць — тым больш.

Далей:

Мы працярпелі ўсе буры, пажары
У цяжкіх змаганнях вякамі,
Нас не зламалі паны і баяры,
Наша зямля была з намі.

Чаму наша зямля была з намі?

**КОЛАС.** Наогул баяры тут не пры чым, мы ніколі іх не ведалі. Тут гэта слова зусім чужое.

**[КІСЯЛЁЎ]**. Далей:

Магутным Саюзам захопнікаў зможам,
Кроў іх пальецца ракою,
Мы Беларусі шлях сонца пралoжым
Сталінскай цвёрдай рукою.

Не падыходзіць для гімна.

Пойдзем з народам і к шчасцю без гора
Нас не сустрэне нягода,
Мы адстаім нашы пушчы, прасторы
Сілай і воляй народа.

Не канкрэтна. І ў цэлым не падабаецца.

**ЛЫНЬКОЎ.** «...Пойдзем з народам...» Хто гэта мы?! Алагізм паўнейшы.

**БРОЎКА.** Кузьма Венедыктавіч тут правільна, па-мойму, даў ацэнку гэтаму тэксту. Я лічу, што ён не лепш тых, якія мы адхілілі і яго трэба таксама адхіліць.

**КОЛАС.** Я таксама падтрымліваю такую думку, каб далей не ўдавацца ў крытыку.

**Адхіляецца.**

(Пятрусь Броўка зачытвае тэкст пад дэвізам «Мы пераможам».)

**БАГАТЫРОЎ.** Я лічу, што гэта добры тэкст для гімна. Тут ёсць вобразы, добры верш, на музыку яго можна добра перакласці, форма добрая.

**БРОЎКА.** Тэкст, па-мойму, падыходзіць для музыкі. Слова «сцяг» вельмі часта паўтараецца.

Са Сталінскай дружбай праз буры-навалы
Да шчасця і славы ідзе Беларусь.

Буры ўжо кончыліся... Гэта некаторы недахоп. Наогул тэкст прыемлімы і пакінуць яго для музыкі варта.

**КІСЯЛЁЎ.** «Мы — знатнае племя...» Хто нам даў такое прозвішча, што мы знатнае племя? Ці гісторыяй гэта дадзена ў якой-небудзь ступені, ці гэта прапанова паэта? Мы самі сябе, беларусы, так называем? Тут трошкі хвальба, а мы ж павінны ўлічваць, што наш гімн — гэта гімн, які будзе ведаць увесь Савецкі Саюз.

Затым:

Пад сцягам Савецкім да шчасця людскога
Мы выйшлі ў вялікі паход.

Не выйшлі, а ўжо ідзём. Дваццаць пяць год мы, беларусы ўжо ідзём, і, калі адлюстраваць некаторыя вынікі, дык, безумоўна, можна інакш сказаць. Папраўка тут патрэбна.

Нас Ленін і Сталін на бітву ўзнімалі
І вывелі з цемры на светлы прасцяг.
Мы з імі дзяржаву сваю збудавалі, —
Над намі Савецкі праслаўлены сцяг.

І не зусім тут таксама лагічна. «Узнімалі» — гэта фактычна правільна. Апошнія радкі — ні к сялу, ні к гораду прыклеены.

Далей: «Са Сталінскай дружбай праз буры-навалы...» — зноў дружба. Паўтараецца шмат разоў адно і тое ж слова.

**БАГАТЫРОЎ.** Гэта верна.

**[КІСЯЛЁЎ].** Наконт самога прыпеву.

Пад сцягам Савецкім да шчасця людскога
Мы выйшлі ў вялікі паход.
Красуй, наша доля! Расці ў перамогах,
Жыві, беларускі народ!

Само слова «доля» мне не зусім імпаніруе. Красуй, наша жыццё або шчасце, але доля... гэта трошкі абстрактна. Доля можа быць і не быць.

У цэлым гэта найбольш змястоўная рэч, чым многія, якія мы адхілілі, але каб дапусціць тэкст да музыкі, над ім трэба яшчэ папрацаваць.

**ПАПКОЎ.** Мая думка такая, што наогул гэты тэкст для музыкі можна прыняць. Безумоўна, у гэты тэкст трэба ўнесці рад паправак. Я згодны з Кузьмой Венедыктавічам, што яго трэба выправіць і адшліфаваць.

Возьмем першыя радкі: «Мы — знатнае племя...» Я хачу сказаць тут не аб тым, што гаварыў Кузьма Венекдытавіч, а наконт «племя». Мы ж, беларуская рэспубліка, з'яўляемся дзяржавай, а не племя...

**БАГАТЫРОЎ.** «Слаўнае племя» — гэта мне падабаецца, гэта добра, гэта гістарычна.

Ва ўсялякім выпадку — трэба дапрацаваць.

**КРАПІВА.** Ужо першы радок выклікае некаторае сумненне. Але наогул тэкст да музыкі можна дапусціць.

**П р ы м а е ц ц а.**

(Пятрусь Броўка зачытвае наступны тэкст пад дэвізам «Думка».)

**ЛЫНЬКОЎ.** Тэкст, як быццам меладычны, але мне здаецца, ён больш падыходзіць да песні, чым да гімна.

У прыпеве: «Цвіці, цвіці...» атрымліваецца сплашное цюканне. Наогул па размеры сваім ён не падыходзіць для гімна.

**КОЛАС.** Цікава, як музыканты глядзяць на такія аршынныя радкі.

**ЗАЛАТАРОЎ.** Гэта трохдольны памер. Ці можна гімн пісаць трохдольным памерам? Я вам дам даведку. Ёсць гімн польскі: 1, 2, 3; 1, 2, 3. Ёсць гімн англійскі, ён у часы Нікалая быў прыняты, а потым напісалі новы гімн і князь Львоў яго узяў і адхіліў Глінкаўскі. Па-мойму, трохдольны памер можна ўзяць, але шэсцвіе ў трохдольным памеры храмае...

**КОЛАС.** Гімн у шэсцвіе не спяваецца.

**БРОЎКА.** Па-мойму, гэта з сярэдніх тэкстаў. А што датычыцца «цвіці, цвіці» — гэта мяне не застанаўлівае, бо замест «цвіці» можна сказаць «красуй». Па-мойму, прыпеў нядрэнны. Калі можна напісаць музыку на такі размер, па-мойму, гэты тэкст варта было пакінуць. Можа, папраўкі патрэбны, але пакінуць трэба яго.

**КРАПІВА.** У тэксце ёсць недахопы. Раней за ўсё тут няма актыўнага пачатку. Што зрабіў сам беларускі народ? Гэтага тут няма. Затым асобныя месцы, напрыклад, апошні радок: «Паб'ём і прагонім заўсёды ад нашых палёў і бароў!» Некалькі прымітыўна сказана.

«Крамлеўскія зоры на нівы рассыпалі многа святла...» «Рассыпалі»?! Тут проста клінкі расстаўлены, каб трохдольны памер вытрымаць.

«Хай жа славіцца навекі вольны твой Саюз...» Чый Саюз?

**КІСЯЛЁЎ.** Ёсць прапанова — адхіліць. Вельмі цяжкі. Улічыце псіхалогію радавога чалавека.

**ЛЫНЬКОЎ.** Нават набіраць будзе цяжка гэтыя радкі.

**КОЛАС.** Па-мойму, цяжкавата.

**А д х і л я е ц ц а.**

***Працяг будзе.***

***Публікацыя і каментарыі В. Скалабана.***

Мікола МЯТЛІЦКІ

# «ВУСЦЯНСКІ МОЙ ГРУДОК»

Жнівеньскі дзень выдаўся надзвычай спякотным. Ужо за горадам на лёце дарогі дыхнула перагрэтым паветрам з акружных палёў, дзе, цешачы сэрца, пагодна шчыравала жніво. Над дарогай стаяла высакаватае сонца, ільснілася асфальтная гладзь. За Дукорай мільганула падсіненая нябёсамі стужка Свіслачы.

Міхась Канстанцінавіч пільна ўзіраўся ў дарогу. Семдзесят адзін год назад, па яго словах, тут ляжала ўхабістая брукаванка, па якой да Балачанкі было дабірацца добрыя тры гадзіны. Аднак тая дарога асабліва памятная малодшаму сыну Якуба Коласа, бо адкрыла хлапчуку цэлы свет маленства, наблізіла душу да сапраўднага хараства прыроды, такога жаданага і чутага ўсё жыццё. Тут, на Пухавіччыне, бывае зачаста. Часам гукае ў дарогу сяброў і знаёмцаў — пахадзіць, падыхаць водарам каля Свіслачы.

Са школьных гадоў помняцца коласаўскія радкі:

Грудок удалы я сабе абраў,
І часта ў вольныя часіны
Саджуся там каля хваіны,
Гляджу ды слухаю навіны,
П'ючы мяды лясоў і пахі траў.

Не славіцца багаццем мой грудок,
Але ён просты і адкрыты,
Сіўцом, чаборыкам спавіты,
Дзе пчолкі звоняць самавіта,
Збіраючы па кропельцы мядок.

З маленства жыло ў душы гэтае жаданне — наведаць услаўленыя народным песняром мясціны. Бо неаднойчы пяро класіка кранался акрасы іх у такіх дарагіх і чутых душы вершах, як «Вусцянскі груд», «Вусце», «Над Свіслаччу». І ў маім сэрцы шчымлівае пачуццё ўдзячнасці Міхасю Канстанцінавічу за гэту сумесную вандроўку. Такое ж пачуццё перажывае і Зіновій Кірылавіч Прыгодзіч, і шафёр Валодзя. Сягоння ўсе мы далучаны да лёсу вялікага Коласа, пройдземся ягонымі сцежкамі.

Спыняемся адразу ж на свіслацкім узбярэжжы. Зусім непадалёк ад бабруйскай трасы, усяго некалькі кіламетраў лясной дарогай — і вось яна, першая на дарозе мясціна коласаўскай пухавіцкай пабыўкі далёкага ўжо 1936 года. Міхась Канстанцінавіч паказвае, дзе стаяла непадалёк ад вёсачкі Падбярэжжа на хутары хата Андрэя Асіеўскага, а перад гэтым летам трыццаць пятага года Якуб Колас спыняўся з сям'ёй непадалёк ад Талькі ў вёсачцы Загібелька. Наступныя адрасы летніх пабывак былі усце, Беразянка і Балачанка. З балачанскім старшынёй калгаса Канстанцінам Сцяпанавічам Дзяткам пісьменнік сябраваў усё жыццё, вельмі цаніў яго за народную мудрасць.

Тут пясняр з вудай ранкам спускаўся да Свіслачы, засяроджана заміраў над плынню. Рослы дуб і сягоння стаіць на рыбацкім Коласавым месцы. Як даў-



*Свіслач каля Вусцянскага груда.*



*Міхась Канстанцінавіч успамінае...*

няга знаёмца, кратае яго Міхась Канстанцінавіч. А потым сцежкаю праз сасоннік падымаемся на амшэлы грудок — гэта, аказваецца, і ёсць літаратурна знакаміты Вусцянскі груд. На ім і зараз «гваздзічка белая рассыпана вакол», якую так любіла збіраць жонка паэта Марыя Дзмітрыеўна. «Дык вось які ты, кавалачак Коласавай зямлі! Колькі натхнёных думак дараваў ты народнаму песняру!»

Сцяжынай з груда кіруемся ледзьве праглазным гушчаром да тае мясціны, дзе плыткая Балачанка ўліваецца ў болей шырокую і спакойную Свіслач. Зараз над яе стромай, як дзесяцігоддзі назад, стаіць такі падобны воблікам на бацьку ўдумлівы сын, ясным паглядам акідвае сціхлы, поўны сонечнага святла, рачны плёс — узіраецца ў далёкую памяць.

Няпростымі былі сумнавядомыя трыццатыя гады ў лёсе Беларусі, падзеленай несправядлівай мяжой, за якой засталіся родныя мясціны песняра. І ён тут, на Пухавіччыне, шукаў рысы падабенства з родным Наднямоннем і знайшоў іх, пачэрпнуўшы сэрцам раскошнае хараство наваколля, знайшоўшы простых, шчырых людзей-знаёмцаў. Драматычна-пакутнымі былі 36—41-ы, былі гулагаўскімі. І на лясных сцежках, ля рачных стром сэрца паэта гаюча стыла ад перагрузак і бур, судакраналася з прыродай, тварыла-жыло. А сягоння, з гістарычнай аддаленасці, бачыцца намі, што ў лёсе сям'і Коласа гэтыя гады былі падобнымі да поўнай крыніцы: усе сямейнікі былі ў зборы на Свіслацкіх берагах. Тут пакінуў юнацкую радасць сярэдні сын Юра — вясёлы, улюбёны ў жыццё студэнт-географ, азартны паляўнічы. Збірала белыя гваздзікі на грудку каханая Марыя Дзмітрыеўна, клапатлівая маці і жонка. Іх у Коласа і родных адбярэ назаўсёды вайна. І будзе яшчэ адно, горка-самотнае ўзыходжанне песняра на Вусцянскі груд праз пяць вогненных год, у якіх застануцца гнеўныя антываенныя вершы Коласа. Тут, насупраць спаленай карнікамі Беразянкі, паэт падсумуе перажыванні і страты на нялёгкай пуціне свайго лёсу і лёсу народа:

Праз пяць гадоў я зноў наведаў Вусце,<br>
Прытулак дум, абраны мой куток,<br>
Дзе высіцца Вусцянскі мой грудок<br>
І вецер лёгенька гайдаецца на кусце.

...Грудок усё ж такі, як быў, прыветны,<br>
Гваздзічка белая, чабор на ім,<br>
Ды ўжо гляджу я поглядам другім,<br>
Як дуб стары, астаўшыся бяздзетным.

Не страціў і спатольнай веры ў магутныя сілы народа:

Я ведаю — загояцца ўсе раны:<br>
З пажарышч край паўстане, расцвіце<br>
Ва ўсёй сваёй красе і паўнаце, —<br>
Наш верны шлях, ён з праўдай павянчаны!

З жалоснай тугой прыгадаў і тую, з кім дзяліў радасць і смутак на дарогах жыцця:

І толькі мне адно сягоння горка:<br>
Няма таго, з кім думкі я дзяліў,<br>
З кім тут стаяў, з кім я шчаслівы быў, —<br>
Пагасла ты, яснюсенькая зорка.



*Гэта і ёсць Вусцянскі груд.*

...Урэшце Міхась Канстанцінавіч, надыхаўшыся прасторамі маленства, вяртаецца да нашай прымоўклай кампаніі. Ён, вядомы хлапчук-герой Коласавых «Міхасёвых прыгод», і сам няподаўна ўзяўся за пяро — напісаў і апублікаваў у шостым нумары за 2005 год часопіса «Полымя» дакументальную аповесць пра загінуўшага пад Масквой брата Юрыя Канстанцінавіча Міцкевіча. «За вас зямлі я памалюся...» — радком з бацькавай паэмы «Рыбакова хата», у якім даніна памяці сыну і жонцы, малодшы сын Коласа назваў свой твор — ліст наўздагон. Працытаванымі радкамі і хочацца завяршыць гэты хвалюючы рэпартаж: «Мы з табою часта хадзілі ўздоўж берага рэчкі, і аднойчы за першым паваротам яе ты знайшоў зацішнае месца. Кідалі кавалачкі бульбы, а ты толькі ахаў, як хутка іх перакатваюць рыбы і з'ядаюць. Як я ні ўглядаўся — нічога не бачыў. Бацька перайшоў на гэтае месца і добра прынадзіў. (...) Вырашыўшы свае студэнцкія справы, на лета 1937 года ты прыехаў у Вусце. Тыя часы засталіся самымі светлымі, самымі памятнымі».



*Балачанка. Тут рыбачыў Якуб Колас.*

**Міхась МІЦКЕВІЧ**

# «КРОПЛІ І СЛЁЗЫ» ЯКУБА КОЛАСА

Летась споўнілася пяцьдзесят гадоў, як не стала бацькі і роўна сто гадоў з першай публікацыі яго верша «Наш родны край». Пяцьдзесят гадоў ляжалі ў сямейным архіве напісаныя ў бальніцы «медыцынскія» вершы.

У апошнія гады жыцця Якуб Колас адчуваў страшэннае адзіноцтва, нягледзячы на тое, што поруч з ім жылі сыны, нявесткі і малыя ўнукі, што няспынна знаходзіўся пад увагаю і павагаю з іх боку. Канечне, горыч страты жонкі і сына паліла яго сэрца, і гэта знаходзіла адлюстраванне ў лістах да сваіх блізкіх і знаёмых, у яго творах. Так, у працягу работы над паэмаю «Рыбакова хата», прыгадваючы мінулае, паэт пісаў:

> Мой мілы сын! Мая Маруся!
> Нас разлучыў няўмольны лёс.
> За вас зямлі я памалюся
> І акраплю расою слёз.

Стан здароўя пагаршаўся — больш дваццаці разоў прыляплялася запаленне лёгкіх — вынік шасцідзесяцігадовога стажу захаплення куравам. Ён пачаў курыць з шасцігадовага ўзросту — бярозавую лістоту, лісты тытуню і іншую непатрэбшчыну. Некалі асілак — насіў чатырох семінарыстаў на сабе — цяпер з цяжкасцю хадзіў. Былі яўныя сімптомы аблітэрыруючага эндартэрыіту, а болі ў руках спраўна сведчылі аб перамене надвор'я. Яшчэ некалькі гадкоў таму рэдка хто мог разагнуць яго палец, а зараз войкаў ад болю, калі хто з наведвальнікаў, здароўкаючыся, са шчырасцю паціскаў руку. З куравам прыйшлося развітацца пасля таго, як прафесар Вінаградаў — у Крамлёўскай бальніцы — аглядаючы хворага, заўважыў: «Хочаце жыць — прыйдзецца кінуць цыгарэты». Як ні цяжка было адмовіцца ад застарэлай звычкі, але давялося. На змену ёй прыйшла чарка. Прыходзілася аберагаць яго ад яе. Але, едучы па справах, ён даручаў шафёру прыдбаць не так і многа — чацвяртушку. Звычайна скупы на словы, пасля прыёму яе, станавіўся такім мяккім, разгаворлівым. Паляпшаўся настрой, лягчэй станавілася на сэрцы, цяжкія думкі адыходзілі ўбок.

Непамерна высокі ціск крыві, частыя захворванні вымушалі класціся ў стацыянар, дзе адпаведныя лекі і іншыя сродкі станавіліся неабходнымі ўмовамі. Але і там працягвалася праца над творамі, выступленнямі, артыкуламі — ад журналістаў не было адбою. Канешне, у многіх справах дапамагаў сакратар — Максім Лужанін, выдатнейшы знаўца мовы і літаратуры.

У той жа час пранос спіртнога ў больніцу быў забаронены, хоць зрэдку наведвальнікі парушалі забарону і тое-сёе прыносілі для ўздыму настрою. Але пераважную большасць часу ў стацыянары даводзілася праводзіць на сухім пайку. Заставалася толькі адна магчымасць — упрасіць доктара, разжаліць яго сэрца чым-небудзь незвычайным: вершам, пасланнем, заўвагаю ў вершаванай форме. У большасці гэта былі экспромты, хаця над некаторымі з іх паэт працаваў, як звычайна: шматразовая праўка, перапісванне, аб чым сведчаць варыянты рукапісаў. Пераважная большасць з іх ніколі не друкавалася, але для цэльнасці ўражання аб перыядзе «стацыянарнага» жыцця Коласа варта прывесці і іх. Такім чынам атрымаўся цэлы цыкл «медыцынскіх» твораў, прысвечаных большаю часткаю доктару С. В. Ліаранцэвічу. Сам Колас пісаў:

***Дарагі Сяргей Іосіфавіч!***

Не так ужо турбуюць мяне
«флаконныя кроплі» (ды, сказаць
праўду, такі трошкі турбуюць),
як мне хочацца пакінуць след
свайго побыту пад Вашым началам.
«Слядоў» гэтых можа назбірацца
столькі, што іх з часам і выдру-
каваць можна пад назваю:
«Кроплі і слёзы».

***7. 10. 1955г.*** *Якуб Колас*

Дык хто ж гэты «Доктар дзівосны, доктар чарадзей, Сергій прэпадобны», якому прысвечаны дзесяткі пасланняў?

Я крыху ведаў Сяргея Восіпавіча, аднойчы быў у яго на кватэры. Яна знаходзілася ў чатырохпавярховым доме, што за бетонным мостам на Маскоўскай вуліцы, кватэра на чацвёртым паверсе, дзе не было нават санвузла. Доктар жыў бабылём, трымаў двух сабак. Ён, як і я, быў заядлым паляўнічым. Іншы раз мы сустракаліся на паляванні, ну і, канешне, дома, калі ён прыходзіў да хворага бацькі. Колас ведаў, у якіх умовах жыве доктар, і рабіў адпаведныя захады, каб добраму доктару ўлады выдзелілі кватэру з *удобствамі.* А пры атрыманні кватэры напісаў:

**ДОБРАМУ ЎРАЧУ**
**Ліо-РА-Чу**

Усе яно добра, калі яно ў меры...
Шчасліва жывіце на новай кватэры.

***23.8.1954 г.***

Сяргей Восіпавіч быў на 6 гадоў маладзейшы за Коласа. Скончыў ваенна-медыцынскую акадэмію, служыў як медык у арміі. Мне хацелася атрымаць больш грунтоўныя звесткі аб жыццёвым шляху гэтага цудоўнага доктара і чалавека. Але ў архіве лечкамісіі, дзе ён апошнія гады працаваў загадчыкам тэрапеўтычнага аддзялення, яго асабовай справы не засталося, у той жа час архівы нікуды не перадавалі. Мне пашанцавала адшукаць некалькі аматарскіх фотаздымкаў у сям'і Н. В. Гаравога, з якім сябраваў доктар. На паляванні яны былі неразлучнымі.

Працуючы ў Віцебску, як казаў мне Валянцін Ціхановіч (таксама заўзяты паляўнічы і рыбак), Сяргей Восіпавіч час ад часу выязджаў на раён, дзе два-тры дні без продыху прымаў хворых. А затым займаўся сваім любімым паляваннем. Аўтарытэт і павага да яго былі настолькі высокімі, што вяскоўцы самі не хадзілі ў гэты раён на паляванне і іншым не дазвалялі. Доктар быў выдатнейшым дыягностыкам. Да хворых запрашалі «свяціл зямлі Беларускай» — прафесараў, акадэмікаў, а пасля Сяргей Восіпавіч ціхенька падыходзіў да хворага кажучы: «А цяпер пагляджу я». Некалькі пытанняў, памацае, пастукае і выяўляе сапраўдную прычыну ці дзве прычыны, якія дзейнічаюць адначасова. Неяк я паскардзіўся, што з наступленнем лета ў мяне непарадак са страўнікам. Каб грунтоўна выявіць прычыну, казаў ён, трэба правесці адпаведныя аналізы, узяць сок і інш. Але гэта не вельмі прыемная працэдура. Лепш устрымайся ад аладак, смятаны, агуркоў і інш. Яго парады я выканаў, і мае хваробы зніклі. Аўтарытэт яго ў лечкамісіі быў настолькі высокім, што пасля таго, як яго не стала (перажыў ён Коласа на тры гады), ніхто не адважваўся заняць доктараў кабінет, які на гады фактычна стаў мемарыяльным. Сваю смерць ён сустрэў на любым сэрцу занятку — паляванні. Грудная жаба задушыла яго. На развітанне з гэтым непаўторным доктарам, тонкім псіхолагам, цудоўным чалавекам прыйшло мноства яго пацыентаў, знаёмых, сяброў, медыцынскага персаналу.

Хай жа вершы-прысвячэнні Якуба Коласа лягуць у вянок памяці вялікага доктара.

У стацыянар накіроўваліся на лячэнне многія дзяржаўныя і грамадскія дзеячы. Засталася фатаграфія Якуба Коласа з Канстанцінам Саннікавым. Да славутага рэжысёра Купалаўскага тэатра прыходзілі яго калегі-артысты. І час ад часу прыносілі з сабою чаканыя пасылкі. Але каб абслуга не заўважыла, «пасылку» хавалі пад вечка раяля, што знаходзіўся ў памяшканні адпачынку. Канешне, Саннікаў дзяліўся са сваім калегам па стацыянары. Заходзіў наведаць свайго рэжысёра акцёр тэатра Дзядзюшка. Напэўна, Колас прасіў яго прынесці нешта і яму. Але абяцання артыст не выканаў. У выніку з'явіўся досыць жорсткі верш «Неспагаднасць».

**НЕСПАГАДНАСЦЬ**

Добра чуў Дзядзюшка,
Што шаптаў на вушка
Яму нехта хворы.
Дзень за днём праходзіў,
А ён, той дабродзей...
Кінуў друга ў горы!
Дзядзюшка, Дзядзюшка,
Хоць бы чацвяртушка
Простае сівухі!
Ачарсцвелі душы —
Самі п'юць дзядзюшы...
А да хворых глухі.
Хворы.

***3. 09. 1954 г.***

Прыйшлося з «малітвамі» звяртацца да доктара, вымольваючы кроплі «амброзіі».

**МАЛІТВА**
**ДОКТАРУ ЛІ-ОР-ЧУ**

Будзь, маё слова, ты востра, як брытва,
Будзь, як агонь, ты гарача, малітва —
Месца знайдзіце вы ў доктарскім сэрцы
І для дабра адчыніце ў ім дзверцы:
Хай доктар парушыць доктарскі звычай
І хвораму трошкі «амброзіі» ўзычыць.

***У чэрвеньскія дні 1954 г.***

**ДОКТАРУ ЛІ-ОР-У**

*Псалом 111*

У святым стацыянары
Малюся я ўжо трэці раз.
Пашлі мне, Божа, добры час,
Ажыццяві ты мае мары!
А мару я аб той хвіліне,
Калі «амброзіі» прыму.

Няхай хвала будзе Таму,
Хто мне ў флакончык трошкі ліне.
О, доктар мой! Ці давядзецца
Цябе маліць чацвёрты раз!
Пачуй, а пачуй жа мой галас,
Няхай табе Бог усміхнецца.

***Побыт 11—17 мая 1954 г.***

Калі ж малітвы не даходзілі да адрасата, «малельнік» звяртаўся вышэй — з малітваю да Бахуса.

### МАЛІТВА БАХУСУ

О, Божа Бахус! Колькі дзён
На губе не было дабра твайго ні крошкі!
Ты доктару ўнушы, каб ён
Дароў тваіх мне ўзычыў трошкі.

Я аслабеў: мае крыві
Шмат высмакталі п'яўкі.
Я ж доктару скажу: жыві
І для свае і для мае папраўкі!

***Кастрычнік 1954 г.***

Калі ж доктар ішоў насустрач хвораму, з'яўляліся адпаведныя вершы — С. І. Ліаранцэвічу і Пажаданне доктару-паляўнічаму (*гэты верш друкаваўся*).

### С. І. ЛІАРАНЦЭВІЧУ

Без малітвы, без заявы
Добры доктар і ласкавы
Сам пайшоў насустрач мне.
Непатрэбны песні, Слава
І прамоў узнёслых лава —
Я ад іх у старане.

А вось чуласць, чалавечнасць —
Ім дарога проста ў вечнасць —
Больш за ўсё нам даражэй.
Хай агорне іх бяспечнасць,
Хай дарогу ў бесканечнасць
Ім асвеціць сонцавей.

***10.12.1954 г.***

### ЗАЯВА ДОКТАРУ-ПАЛЯЎНІЧАМУ

Калі мяне доктар не пусціць дахаты,
Дык дзень палявання будзе закляты,
Не будзе яму аніякае дзічы.
Ні качкі, ні бакаса,
Адно па калёні абмочыць раса.
Дык будзь жа, доктар, міласцівы,
І дзёнь палявання будзе шчаслівы.

І размашыстым почыркам з'ўлялася хвала бутэлечцы ці флакону, малітва флакону, а таксама падзяка яму.

### ПАЖАДАННЕ ДОКТАРУ-ПАЛЯЎНІЧАМУ

Мой друг, мой доктар чарадзей!
Прымі ты мае слова —
І шчырае яно і адмыслова,
Хоць і казаў так і раней.
Дык так — з удзячнасцю святой
Прымі яго, прымі яшчэ раз:
Няхай ганчак бяжыць праз верас

І гоніць зайца пад стрэл твой.
І будзь жа лёгкая рука,
Малітва ж радасці ўся поўна!
Няхай Сяргеўна ці Пятроўна
Скубе глушца, цецерука!
А мне — хай споўняцца жаданні —
Крышан для падмацавання.

***8.12.1954 г.***

Бутэлечка, бутэлечка,
Пузырок святы!
І за гэта «таквелечка»
Слова варта ты.

***11. 10. 1954 г.***

Няхай гэтаму флакону
Не будзе ні зносу, ні скону.

***15.05.1954 г.***

### МАЛІТВА СВЯТОМУ ФЛАКОНУ

Флакончык прыгожы,
Флакончык святы!
Прыйдзі да мяне ты, але не пусты.
Я ж потым, яй-права,
Каб я быў здароў,
На места былое
Цябе стаўлю зноў.
Прыйдзі ж, мая радасць,
З'явіся ты мне!
Няхай твая кропля
Мяне не міне.

***7. 10. 1955 г.***

***Дарагі Сяргей Іосіфавіч!***

Паведамляю Вас, што я не блазан,
Барыс Іпалітавіч мне супрацьпаказан.

***14.19.1955 г.***

Гэтыя два радкі з'явіліся, напэўна, пасля наведвання хворага акадэмікам-кансультантам Трусевічам Б. І.

### ПАДЗЯКА СВЯТОМУ ФЛАКОНУ

*(прысвячаецца С. І. Ліаранцэвічу)*

Дык дзякуй, Флаконе, мой дружа,
За кроплі, за боскі бальзам.
Ніякі на свеце твой зам
Не дасць такіх кропель. К таму жа
Бог Бахус стараўся тут сам.
То будзь жа, Флаконе, здаровы,
Да подзвігаў новых гатовы!
Красуй, яко «сельскі той крын»,
Зганяй маю смагу. Амін!

Сельскі крын — царкоўна-славянская выраза.
«Сельскі крын» — палявая кветка. Сяло — поле.
Заўвага флакона-мольца.

***10. 10. 1955 г.***

І ў хуткім часе з'яўляецца верш «Доктар дзівосны...»

### С.І.Л. — Чу

Доктар дзівосны,
Мой друг-галубок!
Ткуць вакол кросны —
Хтось знойдзецца злосны —
Ды дзякуй табе за «Слупок».

Не зробіць ён шкоды,
Падыме настрой.
А колькі ж тут асалоды.
З табой я заўсёды —
Я — прыяцель твой.

***17.10.1955 г.***
***12-я палата, тэрапія.***

У пачатку кастрычніка, напэўна, адбыўся кансіліум па стане здароўя хворага і «Свяцілы зямлі Беларускай» прызначылі яму сядзелку. Гэта было ўспрынята як замах на абмежаванне хворага, і ён выразным почыркам напісаў

каму адрасуецца, крышку горшым — само эпіграмнае прысвячэнне і зусім не каліграфічным — прыпіску. *P. S.* «Напісана незадоўга да смерці».

*Маім шаноўным дактарам —*
*Д. А. Маркаву, Б. І. Трусевічу і С. І. Ліаранцэвічу,*
*Свяцілам зямлі Беларускай.*

О, Дактары! Замахі вашы мелкі —
Відаць прывучаны да гэтага вы змалку:
Чаму, чаму замест сядзелкі
Вы не прызначаце ляжалку?

***5.10.1955 г.***

І ў гэты ж дзёнь з'явіўся верш «Няхай жыве чорт», напэўна, як рэакцыя на кансіліум, як рэакцыя на перакрыццё паступлення жыватворнай вільгаці.

**НЯХАЙ ЖЫВЕ ЧОРТ**

Нячысты дух завёў мяне ў пустыню
І кажа: я зламлю зямлі цвярдыню,
І выбухне фантан іскрысты,
Духмяны, моцны і празрысты
Ён зразу ў рай цябе закіне,
Ты толькі Сергію святому не маліся,
А мне тры разы пакланіся.
О, Сергію, што мне чыніць:
Няўжо спірытус толькі сніць?
Не — плюну лепш на абяцанку:
Я — рэаліст, калач Я цёрты —
Святыя абяцанкі — к чорту,
А з чортам лепш пайду на пагулянку!

***5.11.1955 г.***

У адной з апошніх «Казак жыцця» — «Як птушкі дуб ратавалі» — вельмі яўна праглядаюцца Б. І. Трусевіч і Д. А. Маркаў як прататыпы Крумкача і Дзятла. У рэдкім па жанры творы, як вядома, сілы прыроды, жывёльны свет набываюць рысы, характэрныя для людзей, грамадства. Тыя ці іншыя пытанні падаюцца ў алегарычнай форме. Так, паводле казкі Сарока (прататып нявесткі Коласа Зарыны) «зачычыкала, зашыкала, забоўтала на ўсе галасы:

— Чуеце, чуеце! Дуб старэе! Недалёка час, калі ён, небарака, рухне на дол! На крык сарокі адгукнуліся галкі, вароны, сіваваронкі, гарласты грач... Да іх далучыўся паважаны Крумкач. За даўгавечнасць, за веданне жыцця, за мудрасць адны называлі яго прафесарам, другія — акадэмікам.

— Кррак! — ціха пачаў сваю прамову Крумкач, так ціха, як звычайна пачынаюць свае выступленні акадэмікі на вучоных прэзідыумах.

— Ясна ўсім, шаноўнае птушынае грамадства, наш глыбокапаважаны дуб хворы: галава яго аблысела, у якім стане знаходзіцца сарцавіна дуба папрашу... пашукаць дзятла...

Дзяцел ... «агляд рабіў уважна, старанна, залазіў там-сям і ў самае дупло. Часамі ён, нібы доктар-неўрапатолаг, стукаў сваім доўгім і вострым дзюбам-малаточкам па дубовай кары, па галінках».

«— Тррак — звярнуўся з другою прамоваю да птушак Крумкач. Будзем лячыць дуб. Перш за ўсё — павесіць пасцілку, каб захаваць дуб ад паўночных вятроў. ...трэба ж і накрыць дуб...»

«Шырокая посцілка-заслона захоўвала дуб ад паўночных і сухіх усходніх вятроў, хоць яна замінала дубу пазіраць у далечы, у шырокі свет, што дужа вабіў старога дуба. Пазатыканыя шчыліны не прапускалі ў дуб ні вільгаці, ні кіслароду. А птушкі былі проста шчаслівыя, што так апекавалі дуб».

І вось прыйшла, паводле казкі, вясна. Вярнуліся з выраю буслы. «Яны не прымалі ўдзелу ў лячэнні дуба.

— Што сталася з ім? Буцьвець пачаў стары дуб і, здавалася, ледзь на нагах трымаўся».

«Разбурылі буслы заслону, скінулі з старой галавы дуба каптур, павыцягвалі канапатку з дубавых шчылін. Дыхнуў дуб свежага паветра і адразу стала лягчэй яму. А калі прайшоў дождж і напаіў сухое нутро дуба спажыўнай вільгаццю, ён зусім акрыяў...

— Дзякую вам, дзеці мае, — звярнуўся дуб да сваіх жыхароў, — адсланілі вы мне свет, і я нібы другі раз прыйшоў да яго.

А потым усміхнуўся і дадаў:

— Усюды і ва ўсім трэба мець розум і ведаць меру».

Як пераклікаюцца з апошнімі словамі казкі два радочкі прысвячэння доктару:

**С. І. ЛІАРАНЦЭВІЧУ**

Ва ўсім — і ў малітвах — трэба знаць меру
А добраму сэрцу і так я паверу.

***10.06. 1954 г.***

Ці з'яўляецца Сяргей Восіпавіч прататыпам бусла, можна толькі здагадвацца, а што прататыпам дуба быў сам аўтар — няма ніякага сумнення. Ведаючы гэтыя акалічнасці, магчыма, у чытача будзе большая зацікаўленнасць да «казак жыцця».

Па характары рукапіснага тэксту лёгка вызначыць, у якім стане нараджаўся той ці іншы верш. Выключна роўныя радкі, нібыта напісаныя пад лінейку з выразнымі літарамі, сведчылі аб звычайным, сур'ёзным стане. Калі ж літары гублялі яркую выразнасць, то, значыць, дзейнічалі кроплі амброзіі. Калі ж радкі нахіляліся, а літары выраслалі ў памеры ад звычайнага каліграфічнага почырку, то кропель было прынята з пераборам. Да такіх вершаў можна аднесці «Няхай жыве чорт», «Я і мой друг». На лісточку з чарнавікам гэтага верша ёсць яшчэ адзін экспромт яўна эпіграмнага характару, але невядома каму адрасаваны.

**Я І МОЙ ДРУГ**

*(Прысвячаецца маім апекунам)*

Я:
Скажы ты мне, браток,
Як жыць на свеце без парток?

Мой друг:
Параду даць магу адну:
Адзеньця гэтак, як У-НУ.

***8. 11. 1955 г.***

Далейшай апрацоўкі верша «Шапоча сцішаная змова» не было, як і не было загалоўка. Па даце верша «Я і мой друг» можна прыгадаць, што ён з'явіўся на свет 8. 11. 1955 г.

Шапоча сцішаная змова —
Пад смех няшчыры і дурны
І нібы з сэрца сходзіць слова
А я адказваю сурова:
Вы — крывадушныя лгуны!
Паслухаць — вам ва мне ўсе люба,
Я і такі, я і сякі,
Аднак у лужыне Якуба
Вы б утапілі, вахлакі.

***8.11.1955 г.***

У гэтыя ж дні з'яўляецца верш «Цяжкі час», прысвечаны дактарам з нагоды рэзкага абмежавання хворага.

### ЦЯЖКІ ЧАС

*(прысвячаецца дактарам,
якія мяне лячылі)*

Няпэўныя і зменлівыя лёсы,
І усё мяняецца на свеце:
Ты ўчора быў багат, паэце,
Сягоння ж ты без портак, босы.
К таму ж яшчэ і безгалосы.
Як так: ці голасу пазбавіў Бог,
Ці ты смяртэльна занямог?
Не, голас ёсць, магу крычаць
І мату прылажыць пячаць
Для сказа важкасці і слоў
Па адрасу пустых галоў.
Не бралі мойтак гандляры,
А воўкам вый, пясняр стары.
Праклясце долі, майму носу,
Уласнаму праклясце лёсу:
Свярбіць да болю, сукін сын,
А вынік свербу ўсё адзін —
Ну, хоць кідайся ты пад крыж:
Замест пітва падносяць шыш.
Няма ні права мне, ні волі,
Так цяжка не было ніколі —
Дык гэта ўсё да часу, да пары —
Папомніце мяне вы, дактары!

***7. 11. 1955 г.***

А праз некалькі дзён — з'яўляецца пасланне «Преподобному Сергію» і запытанне да яго ж.

### ПРЕПОДОБНОМУ СЕРГІЮ

О, Сергій препадобны!
Прымі даклад падробны.
Мала сплю без парашкоў,
З парашкамі горай,
Я прашу, каб я здароў,
Дапамогі скорай.

«Без музыкі, без дуды
Ходзяць ногі не туды».
Эх, вы, палкі-елкі!
Стопачку б гарэлкі.
А не можна — напляваць:
Сяк-так буду гараваць.

***14.11.1955 г.***

У хуткім часе ізноў нараджаецца пасланне С. І. Ліаранцэвічу — «Голас Бога».

### ГОЛАС БОГА

Утрацілі сілу малітвы:
Як ні малюся — маўчок!
І вострыя словы, як брытвы,
Ты лепей павесь на кручок.
І раптам у восеньскім ветры
Дае мне параду сам Бог:
«Не лезь ты ў дактарскія нетры —
У лес падавайся, на мох.
Ды захапі ты з сабою паўпляшкі
Гарэлкі або каньяку —

Я грэх адпушчу табе цяжкі,
Палёгку зраблю, бедаку.
Пасціў ты не мала і — годзе!
А піў, але ў меру, шмат лет.
Вазьмі дзвесце грам — не пашкодзіць,
Бо што без гарэлкі паэт?
Змоўк голас у подыху строгім,
Схіліліся дрэвы ўдалі.
Я стаў на калені прад Богам
Ілбом дакрануўся зямлі.

***20.11.1955 г.***

Апошні год жыцця паэта ў побыце ў стацыянары адзначыўся перапіскаю з другам-паляўнічым па тых жа матывах, добрымі пажаданнямі доктару з надзеяй на падтрымку і «Закляццем», калі надзеі заставаліся толькі надзеямі. Не засталіся без увагі дактары і медсёстры.

### ПАЖАДАННІ

*С .І. Л.*

Дай табе, Божа, друг-паляўнічы,
Набіць, ну, тры корабы дзічы!
Сабе ж я хачу на астатку
«Слупкоў» — агародзіць палатку.
Калі пад рукамі «Слупок»,
Тады ўсе хваробы набок!

***10.03.1956 г.***

### ЗАКЛЯЦЦЕ

*С. І.*

На галаву паў мне гнеў Божы,
Прапаў мой «слупок» агароджы,
Таксама і для весялосці.
Душа прагне помствы, адплаты:
Не Бог, а ты, друг, вінаваты —
Эх, злосці мне, болей бы злосці!
Дык чуй жа, мой друг паляўнічы:
Няхай жа не ўгледзіш ты дзічы
На Свіслачы, Волме, на Пцічы,
Ні зайца, ні качкі, ні бакаса.
Няхай жа яшчэ з паўдарогі
Табе змочыць боты і ногі
Па пояс і вышэй раса.
Няхай жа не стрэліш ні разу,
А стрэліш няхай дасі «мазу»,
Але не губляй толькі пса.

***12.03.1956 г.***

*P. S.* Тады страціць сілу закляцце,
Як вернеш «слупок» ты мне, браце.

Верш «Абвастрэнне» нарадзіўся ў тыя ж дні (*друкаваўся раней*), але гучыць як гумарыстычнае абгрунтаванне дактарамі стану хворых.

### АБВАСТРЭННЕ

У медыкаў добрых ёсць мудрае слова
На ўсякі выпадак, здарэнне:
Горш стане ад лекаў — вядома іх мова:
«Дык гэта ж, браток, абвастрэнне!»
Яно так і трэба і быць так павінна —
Цярпенне, галубчык, цярпенне!
Боль рукі мне ломіць заложна, няспынна
Я цешу сябе — абвастрэнне!
Але час праходзіць, палёгкі ж той мала,
Бярэ мяне часам сумненне —
Глядзі, каб у зямлю цябе не загнала
Дактарскае іх абвастрэнне!

***21.03.1956 г.***

А ў вершы «Занядбаны слупок» да друга-паляўнічага зварот ідзе ад парожнага «слупка». Доктар добра ведаў, калі можна запоўніць яго гаючай расою, а калі — не. Ён добра ведаў, колькі творчых людзей загінула ад частага і непамернага ўжывання спіртнога. Традыцыя частаваць госця як мага паўней нярэдка заканчваецца трагедыяй. І гэта трагедыя ад нашага невуцтва, бяздумных адносін да свайго арганізму.

Аднойчы Сяргей Восіпавіч наказваў: Міша, калі вам захочацца выпіць, дык лепш выпейце крыху гарэлкі, а не віна.

**ЗАНЯДБАНЫ «СЛУПОК»**

Ляжыць бездыханна «слупок» мой шкляны,
Забыты, хіба гэтак можна!
Ужо недалёка, сказаць, да вясны,
А ён, бедалага, парожны!
Ачніся, «слупок» мой, і акрыяй,
Гаючай расою наліся!
Ты ж, друг паляўнічы, зважай:
На голас слупка адгукніся.

***23. III. 1956 г.***

Апошні верш з гэтага цыкла «Я і сабака» мае аўтаэпіграмны характар.

**Я І САБАКА**

Адна ў мяне з сабакам рыса,
І я цяпер сабаку друг,
Бо хоць і розныя ў нас пысы,
Але адзін у нас ланцуг.

Вось сяду, скажам, у машыну,
Хачу сайсці, пастой, дружок!
А можа, раптам на хвіліну
Заскочаш, браце, у шынок!

***17. 04. 1956 г.***

Увогуле гэты цыкл вершаў сведчыць аб тым, што, нягледзячы на захворванні, цяжкі стан здароў'я, аўтар заставаўся верным духу сваёй творчасці, твораў, прасякнутых мяккім беларускім гумарам. Як не ўспомніць аўтаэпіграму, напісаную шмат раней — «Нос»: такога ж характару, як і большасць «медыцынскіх» вершаў:

Мой нос — вяшчун даўно прызнаны,
Калі ён зранку засвярбіць,
То так і ведай, мой каханы,
Што к вечару ты будзеш п'яны,
Дык як жа нос той не любіць?





# МЕТРЫКА
## *літаратурная*

**120**

гадоў таму ў мястэчку Суботнікі Іўеўскага раёна нарадзіўся **Пазняк** Янка (Ян Аляксандравіч), беларускі публіцыст, палітычны і культурны дзеяч.

З сялянскай сям'і. Меў музычную адукацыю (мажліва, скончыў кансерваторыю). Служыў арганістам у касцёле каля Вільні (1918—1920), а пасля ў Вільні ў Святаянскім касцёле, дзе ксяндзом быў А. Станкевіч, яго даўні сябра. Удзельнічаў у беларускіх гуртках хрысціянска-асветніцкага кірунку. У 1913—1915 гадах выдаваў у Вільні папулярную сярод католікаў газету «Беларус». З 1917 года прымаў актыўны ўдзел у «Хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці». Выступаў з артыкуламі на старонках газеты «Крыніца». Шмат ездзіў па вёсках, змагаўся за адкрыццё беларускіх школ, выступаў супраць нацыянальнага ўціску беларусаў праз польскі касцёл і асадніцва. У 1928 годзе на з'ездзе Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі быў выбраны сакратаром Прэзідыума БХД. З 1928 да 1936 года рэдагаваў газету «Беларуская крыніца». У 1936 годзе БХД была рэарганізавана ў Беларускае Народнае Аб'яднанне, прэзідэнтам якога быў абраны Я. Пазняк. У 1938 годзе рэдагаваў «Хрысціянскую думку». У 1939 годзе разам з У. Самойлам, А. Луцкевічам, В. Багдановічам быў арыштаваны рэпрэсіўнымі савецкімі органамі, вывезены з Вільні, і, магчыма, расстраляны без суда і следства.

Літаратурную дзейнасць пачаў з вершаў. Многія друкаваў пад крыптанімамі. Але найчасцей выступаў з публіцыстычнымі артыкуламі, якія вызначаліся эмацыянальнасцю і адначасова лагічнай абгрунтаванасцю тэзісаў, праніклівасцю і апантанай перакананасцю, што толькі на аснове хрысціянскай маралі можа быць дасягнута сацыяльная гармонія і справядлівасць у чалавечым жыцці і супольніцтве народаў.

Дакладных звестак пра час, месца і абставіны яго смерці пакуль што няма.

**100**

гадоў таму была створана **Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага**, прафесійны беларускі тэатр.

Створана І. Буйніцкім у яго фальварку Палевачы (Глыбоччына). Прапагандавала беларускае мастацтва, садзейнічала нацыянальна-культурнаму адраджэнню, развіццю народнай творчасці, узнікненню новых аматарскіх тэатральных калектываў. Узнікла на аснове традыцый беларускіх вечарынак і «сямейных» спектакляў. Паказы складаліся з 1—2 п'ес, дэкламацый вершаў А. Паўловіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, выканання народных песень і танцаў. Выступленні адбываліся пры дэкарацыйным афармленні ў стылі беларускага народнага выяўленчага мастацтва і ў беларускіх нацыянальных строях. Спектаклі вызначаліся жыццёвай праўдзівасцю, дакладнасцю паказу народных характараў і побыту. У рэпертуары былі пастаноўкі: «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Хам» паводле Э. Ажэшкі, «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага, «Сватанне» А. Чэхава і іншыя. Рэжысёрамі з'яўляліся І. Буйніцкі і А. Бурбіс. Найбольш адметнымі акцёрамі былі тыя ж І. Буйніцкі, А. Бурбіс, А. Забель (З. Абрамовіч), Крапівіха (Цётка)... Музычнай часткай кіраваў Л. Рагоўскі. Сярод спевакоў вылучаўся Я. Феакцістаў, а сярод танцораў І. Буйніцкі з дочкамі Вандай і Аленай, сярод музыкантаў Дз. Крывадубаў (Няленка) і І. Голер.

Існавала трупа з 1907 да 1913 года.

**95**

гадоў таму ў вёсцы Субачы пад Ваўкавыскам нарадзіўся **Субач** Ян (Іван Сямёнавіч; 1912 — ?), беларускі паэт.

Звестак пра паэта захавалася няшмат. Вядома, што ён разам з бацькам апынуўся на тэрыторыі Савецкай Беларусі. Жылі ў Мінску. У 1930 годзе скончыў школу і пайшоў працаваць грузчыкам на кандытарскую фабрыку «Камунарка». Быў членам Цэнтральнай літаратурнай студыі для маладых пісьменнікаў пры БелАПП(е) ў 1932 годзе. Сябраваў з П. Пруднікавым і З. Віталіным. З вясны 1932 года працаваў у аршанскай міжраённай газеце. У кастрычніку 1932 года выехаў да П. Пруднікава ў Ленінград. Працаваў грузчыкам у гандлёвым порце. У 1937 годзе скончыў філалагічны факультэт Ленінградскага педагагічнага інстытута імя А. Герцэна. Далейшы яго лёс пакуль нявысветлены.

Першая публікацыя з'явілася ў 1929 годзе ў газеце «Чырвоная змена» (верш і апавяданне).У 1932 годзе выйшаў з друку яго зборнік вершаў «Песні грузчыкаў», сааўтарам якой быў і П. Пруднікаў. Вершы былі тыповым узорам «ударніцкай паэзіі своеасаблівага паэтычнага авангарду» 1930-х гадоў. Пасля ад'езду ў Ленінград публікацыі Я. Субача ў беларускім перыядычным друку не з'яўляліся.

**70**

гадоў таму была створана **Беларуская дзяржаўная філармонія**.

## ЛІСТАПАД

**1**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Петрыцкае Брагінскага раёна нарадзіўся **Верамейчык** Уладзімір Міхайлавіч, беларускі паэт, педагог.

Вырас у настаўніцкай сям'і. У 1955 годзе скончыў Рэчыцкае педагагічнае вучылішча. Працаваў піянерважатым у Міхалкаўскай СШ Мазырскага раёна. Служыў у Савецкай Арміі (1956—1959). У 1964 годзе скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў завучам і дырэктарам Ведрыцкай васьмігадовай, а пасля рэарганізацыі — сярэдняй школы. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Першы верш надрукаваў у 1955 годзе ў рэчыцкай райгазеце. Аўтар паэтычных зборнікаў «Прыпяць», «Яснасць», «Люблю!», «Клянуся Прыпяццю». Пісаў таксама публіцыстыку, гумар і творы для дзяцей.

Памёр у 1999 годзе і пахаваны на могілках вёскі Ведрыч Рэчыцкага раёна.

**2**

— **40** гадоў таму выйшаў у свет першы нумар газеты **«Вячэрні Мінск»**.

**3**

— **125** гадоў таму ў засценку Акінчыцы (у межах Стоўбцаў) нарадзіўся **Колас** Якуб (Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч), беларускі паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, перакладчык, вучоны, педагог, грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай мовы.

Нарадзіўся ў сям'і лесніка. Праваслаўны, ахрышчаны ў Стаўбцоўскай царкве. Дзіцячыя гады прайшлі ў сядзібах Сухоўшчына і Альбуць непадалёк Мікалаеўшчыны, адкуль былі родам бацькі. У 1892—94 гадах вучыўся ў Мікалаеўшчынскім народным вучылішчы. У 1898 годзе паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, якую скончыў у 1902 годзе. Там жа пачаў пісаць вершы. Пасля працаваў настаўнікам Люсінскага народнага вучылішча ў Ганцавіцкім раёне. З 1903 года настаўнічаў у Пінкавічах. У 1906 годзе за ўдзел у рэвалюцыйнай прапагандзе пераведзены ў Верхменскае народнае вучылішча Смалявіцкага раёна. За ўдзел у нелегальным настаўніцкім сходзе ў Мікалаеўшчыне ў 1906 годзе быў пазбаўлены права працаваць настаўнікам. Зімой (1906—1907) жыў ва ўрочышчы Смольня і вёў прыватную школу. У 1907 годзе працаваў у газеце «Наша ніва» ў Вільні. У 1908 годзе зноў быў асуджаны за ўдзел у настаўніцкім сходзе і нелегаль-

ную работу на тры гады. Адбываў пакаранне ў мінскім астрозе. У 1912—1914 гадах працаваў настаўнікам у трэцім прыходскім вучылішчы ў Пінску. Падчас Першай сусветнай вайны жыў пад Масквой, настаўнічаў у сяле Старыкава. У 1915 годзе быў мабілізаваны. У 1916 скончыў Аляксандраўскае ваеннае вучылішча. Служыў у Пермі, пасля быў накіраваны на Румынскі фронт. Там захварэў і быў эвакуіраваны. Працаваў у школе на Куршчыне. У 1918 годзе звольнены з войска як настаўнік. У 1921 годзе па выкліку ўрада БССР прыехаў у Мінск. Выкладаў у Мінскім белпедтэхнікуме, у БДУ, на курсах настаўнікаў, займаўся навуковай дзейнасцю у Інбелкульце. З дня ўтварэння АН БССР (1929) быў яе нязменным віцэ-прэзідэнтам. У 1935 годзе ўдзельнічаў у Кангрэсе ў абарону культуры ў Парыжы. У Вялікую Айчынную вайну жыў у Клязьме, Ташкенце і Маскве. У снежні 1944 года вярнуўся ў Мінск. Быў членам ЦВК БССР, дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і БССР, з'яўляўся старшынёй Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру. Акадэмік АН БССР (1928). Узнагароджаны пяццю ордэнамі Леніна, ордэнамі Чырвонага Сцяга, Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі.

Пісаць пачаў на рускай мове. У друку дэбютаваў беларускім вершам «Наш родны край» 14 верасня 1906 года ў газеце «Наша доля». Першы зборнік «Песні жальбы» выйшаў у 1910 годзе ў Вільні. Пасля былі кнігі прозы «Апавяданні» (1912) і «Родныя з'явы» (1914). Выйшла шмат кніг вершаў і прозы, у тым ліку «Казкі жыцця» (1921), «Новая зямля» (1923), «Сымон-музыка» (1925), «На прасторах жыцця» (1926), «У глыбі Палесся» (1927), «Дрыгва» (1934), «Рыбакова хата» (1947), «На ростанях» (1955). Многія вершы Якуба Коласа пакладзены на музыку. Шмат твораў экранізавана і пастаўлена на тэатральнай сцэне. Пісаў таксама і для дзяцей («Міхасёвы прыгоды», «У старых дубах» ды іншыя). Аўтар пяці п'ес. Выступаў як крытык і публіцыст. Пераклаў на беларускую мову паэму «Палтава» А. Пушкіна, творы Т. Шаўчэнкі, М. Тычыны, А. Міцкевіча, Р. Тагора. Быў адным з рэдактараў «Русско-белорусского словаря» (1953). Неаднаразова выдаваліся яго Выбраныя творы і выходзілі Зборы твораў у 7, 12 і 14 тамах. Зараз выдаецца Поўны збор твораў Якуба Коласа ў дваццаці тамах.

Народны паэт Беларусі (1926), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1944), двойчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949).

Памёр у 1956 годзе і пахаваны на Вайсковых могілках.

**3**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Астрагляды Рэчыцкага раёна нарадзіўся **Палескі** Вячаслаў (Станкевіч Вячаслаў Пятровіч), беларускі драматург, заслужаны дзеяч культуры Беларусі.

Вучыўся ў Бабчынскай СШ, якая цяпер носіць яго імя. Скончыў у 1929 годзе. Пасля таго працаваў настаўнікам, у 1930—1932 гадах — літсупрацоўнікам у Гомельскай абласной газеце «Палеская праўда». З 1932 года — у «Савецкай Беларусі», у 1933—34 рэдактар маладзёжнага вяшчання Беларускага радыёкамітэта. З 1934 года — у газеце «Калгаснік Беларусі», адказны сакратар газеты «Советская Белоруссия» (1935—1941). Падчас вайны быў у Маскве ў беларускай рэдакцыі Усесаюзнага радыёкамітэта. Пасля вызвалення Мінска і да 1955 года быў намеснікам галоўнага рэдактара газеты «Звязда». З 1961 года — рэдактар Мінскай студыі тэлебачання, а з лістапада таго ж года — намеснік старшыні Дзяржтэлерадыё БССР, з 1965 да 1971 года — старшыня Дзяржтэлерадыё БССР. Мае шмат дзяржаўных узнагарод.

Першыя публікацыі зрабіў у 1926, а з вершамі дэбютаваў у 1928 годзе. Пісаў апавяданні, нарысы, публіцыстыку. Вядомы і як драматург. Выдаў кнігі «Разгон» (вершы, 1930), «Песня нашых сэрцаў» (п'еса, 1949), «П'есы» (1976).

Памёр у 1971 годзе.

**4**

— **120** гадоў таму ў мястэчку Капыль нарадзіўся **Гартны** Цішка (Жылуновіч Зміцер Хведаравіч), беларускі празаік, паэт, драматург, дзяржаўны і грамадскі дзеяч.

У 1905 годзе скончыў двухкласнае вучылішча ў Капылі. Працаваў пастухом і ў гарбарнай майстэрні. Быў сябрам мясцовай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі. Выдаваў рукапісныя часопісы. З 1912 года працаваў гарбаром на Ковеншчыне, а ў 1913 годзе перабраўся ў Пецярбург, дзе працаваў на заводзе «Вулкан». Б. Эпімах-Шыпіла ды іншыя сябры дапамагалі яму матэрыяльна і ўладкавалі на працу ў выдавецтва. У 1915 годзе быў мабілізаваны ў войска, але праз месяц быў адпушчаны. У 1916 годзе працаваў у Беларускім бежанскім камітэце і выдаваў газету «Дзянніца». А ўжо ў 1917 годзе быў адным з лідэраў Беларускай сацыялістычнай грамады. Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі — сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Наркамаце РСФСР. Некаторы час рэдагаваў «Дзянніцу», першую савецкую газету на беларускай мове. У 1919 годзе — старшыня часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі. З сакавіка 1919 года быў у арміі, ваяваў супраць дзянікінцаў, працаваў у штабе Заходняга фронту. У 1921 годзе пераехаў у Мінск. Быў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь», часопіса «Полымя», узначальваў Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Цэнтральны архіў БССР, быў намеснікам Наркома асветы БССР, загадваў выдавецтвам АН БССР. У 1923 годзе пленум ЦК КП(б)Б прыняў пастанову аб прысваенні Ц. Гартнаму звання народнага паэта Беларусі, аднак пастанова не была выканана. Быў членам ЦК КП(б)Б, членам ЦВК БССР. 16 студзеня 1931 года пастановай ЦКК КП(б)Б быў выключаны з партыі за нацыяналістычную палітыку. Праз год па хадайніцтве некаторых арганізацый меліся гэтае рашэнне перагледзець, але пакінулі ў сіле, а ўжо 15 лістапада 1936 года Ц. Гартны быў арыштаваны органамі НКУС. Не вытрымаўшы страшных катаванняў, скончыў самагубствам у Магілёўскай псіхіятрычнай лячэбніцы 11 красавіка 1937 года і пахаваны на ўскраіне Пячэрскага парку ў Магілёве (у 1989 годзе на гэтым месцы пастаўлены помнік).

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1908 годзе на старонках «Нашай нівы». Першыя апавяданні з'явіліся яшчэ ў дакастрычніцкі час. Пісаў п'есы і літаратурна-крытычныя артыкулы, а таксама публіцыстыку. Пераклаў на беларускую мову раман А. Фадзеева «Апошні з Удэге». Выдаў кнігі «Сокі цаліны», «Трэскі на хвалях», «Урачыстасць», «Зялёны шум», «Насустрач сонцу» ды іншыя. Выходзілі Выбраныя творы і Зборы твораў у чатырох тамах (1930—32 і 1987—89). Акадэмік АН Беларусі (1928).

Яго імем названы вуліцы ў Капылі і ў Мінску, да яго вобраза не раз звярталіся мастакі (П. Свентахоўскі, У. Стальмашонак), кампазітарамі напісаны песні на яго словы, Э. Ялугін напісаў пра яго дакументальную аповесць «Без эпітафіі», а Ю. Цвяткоў зрабіў па ёй аднайменны тэлефільм.

**10**

— **110** гадоў таму ў Бельску (цяпер Польшча) нарадзіўся **Браништэйн** Якаў Анатольевіч, беларускі крытык і літаратуразнаўца.

З 1914 да 1918 года жыў у Варшаве. У 1919 пераехаў у Савецкую Расію (г. Арол). Добраахвотна пайшоў у Чырвоную Армію, ваяваў у Туркменістане. У 1921 годзе працаваў у рэдакцыі газеты «Орловская правда». Скончыў літаратурны факультэт 1-га Маскоўскага універсітэта ў 1925 годзе, а пасля вучыўся ў Камуністычнай акадэміі (1926—30). У 1930—37 гадах быў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР, адначасна выкладаў у Мінскім пядінстытуце (прафесар). Выбіраўся адказным сакратаром СП БССР (1932—37). Аднак 6 чэрвеня 1937 года быў незаконна арыштаваны, а ўжо 28 кастрычніка прысуджаны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны ў 1956 годзе.

Друкавацца пачаў у 1918 годзе, а выступаць з літаратурна-крытычнымі артыкуламі з 1925 года (публікаваўся ў яўрэйскім часопісе «Штэрн»). Пісаў пра Я. Купалу, Я. Коласа, М. Зарэцкага, І. Харыка. У бальшыні з напісанага прытрымліваўся характэрных для таго часу вульгарна-сацыялагічных пазіцый. Выдаў кнігі літаратурных артыкулаў на яўрэйскай мове «Атака», «На замацаваных пазіцыях», «Творчыя праблемы ў яўрэйскай савецкай паэзіі».

**14**

— **195** гадоў таму ў вёсцы Крошын пад Баранавічамі нарадзіўся **Багрым** Паўлюк (Павал Восіпавіч ), беларускі паэт і мастак кавальскай справы.

Вучыўся ў пачатковай парафіяльнай школе, фундатар якой, ксёндз В. Магнушэўскі, абвінавачваўся ў патуранні сялянам-бунтаўшчыкам. Ведаў шмат паэтычных твораў на памяць (Эзопа, А. Нарушэвіча). Пісаць сам пачаў рана. Паводле слоў сведкаў, цэлы сшытак ягоных вершаў быў адабраны папячыцелем Віленскай навучальнай акругі М. Навасільцавым і рэктарам Віленскага універсітэта В. Пеліканам. У якасці пакарання быў здадзены ў рэкруты. Вярнуўшыся на радзіму ў сталым узросце, працаваў кавалём. У 1864 годзе ажаніўся з удавой-шляхцянкай К. Тышлоўскай. Дасягнуў выдатных поспехаў у кавальскім майстэрстве. Жырандоль Крошынскага касцёла, праслы на магільнай агароджы настаўніка і апекуна В. Магнушэўскага, агароджа на магіле самога паэта, выкананыя П. Багрымам, — узор сапраўднай мастацкай коўкі. Жырандоль — каштоўны помнік беларускага мастацтва XIX стагоддзя.

З вершаў маладога П. Багрыма, на вялікі жаль, захаваўся толькі адзін — «Зайграй, зайграй, хлопча малы», упершыню апублікаваны ў кнізе І. Яцкоўскага «Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды» (Лондан, 1854; Познань, 1858). Рукапісы П. Багрыма, забраныя на допыце, не захаваліся. Паэту-самародку прысвечаны шмат навуковых прац і твораў паэтаў і мастакоў (С. Гаўрусёў, А. Дыла, В. Іпатава, У. Караткевіч, М. Танк, З. Азгур, А. Марачкін, П. Сергіевіч ды іншыя). У 1985 годзе ў Крошыне адкрыты музей народнага мастацтва і рамёстваў імя П. Багрыма, дзе ёсць зала з экспазіцыяй, прысвечанай і самому легендарнаму паэту.

Памёр у 1891 (дата не зусім пэўная) годзе і пахаваны на могілках у вёсцы Крошын.

**14**

— **100** гадоў таму ў вёсцы Берасцяны Слаўгарадскага раёна нарадзіўся **Ларчанка** Міхась (Міхаіл Рыгоравіч), беларускі літаратуразнаўца і крытык, заслужаны дзеяч навукі Беларусі.

Скончыў Азярыцкую пачатковую школу. Працаваў на гаспадарцы. У 1922 годзе стаў першым камсамольцам у сваёй вёсцы. У 17 гадоў, скончыўшы Княжыцкую школу сялянскай моладзі, паступіў у Магілёўскі педагагічны тэхнікум. У 1929 годзе з другога курса перайшоў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака БДУ. У 1932—35 гадах вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры і мастацтва АН БССР. У 1936 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме: «Лірыка Якуба Коласа». Працаваў у тым жа інстытуце старшым супрацоўнікам і адначасна выкладаў ва універсітэце. З першых дзён вайны — на фронце. У 1942 годзе быў цяжка паранены, у 1943 годзе дэмабілізаваўся і вярнуўся ва універсітэт, які на той час быў у Маскве. З 1944 года ў Мінску. Працаваў загадчыкам кафедры, дэканам філалагічнага факультэта БДУ. Вучыўся ў дактарантуры Інстытута сусветнай літаратуры імя А. Горкага АН СССР (1952—55). Чытаў лекцыі па беларускай літаратуры ў Варшаўскім (1958) і Сафійскім (1960) універсітэтах.

Як паэт дэбютаваў у 1930 годзе, як крытык у 1932 годзе. У шматлікіх манаграфіях даследаваў праблемы станаўлення і развіцця рэалізму ў беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя, а таксама творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, П. Панчанкі... Складальнік хрэстаматыі для сярэдняй школы «Родная літаратура», адзін з аўтараў шматлікіх дапаможнікаў для студэнтаў («Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры», «Беларуская вусна-паэтычная творчасць», «Старажытная беларуская літаратура», «Беларуская народнапаэтычная творчасць»). Аўтар кніг «Яднанне братніх літаратур», «Жывая спадчына», «Літаратурнае пабрацімства славян» і ншых.

Памёр у 1981 годзе.

**14**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Лучнікі Слуцкага раёна нарадзіўся **Золак** Янка (Даніловіч Антон Міхайлавіч), беларускі паэт, празаік, журналіст, выдавец.

У 1928 годзе скончыў Лучнікоўскую сямігодку. У школе выдаваўся рукапісны літаратурны часопіс, дзе юнак змяшчаў і свае пачаткоўскія вершы. У 1930 годзе скончыў аднагадовыя настаўніцкія курсы ў Рагачове. Працаваў настаўнікам пачатковых класаў у Бабруйскім раёне. У 1930—35 гадах завочна вучыўся ў Мінскім педагагічным тэхнікуме. Зноў працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры і адначасна вучыўся ў аршанскім настаўніцкім інстытуце. Завязаліся знаёмствы з П. Галавачом, Якубам Коласам, В. Віткам, Р. Лыньковым, з якім давялося разам папрацаваць у бабруйскай райгазеце «Камуніст». Падчас вайны вярнуўся ў родную вёску, выкладаў у мясцовай сямігодцы. З адступленнем немцаў выехаў у Германію, працаваў у пачатковых школах у беларускіх лагерах для перамешчаных асоб, удзельнічаў у выданні часопісаў «Зважай», «Шыпшына». У 1952 годзе пераехаў у ЗША, дзе, зарабляючы на жыццё, не спыняў і грамадскай беларускай працы. Набыў друкарню і некаторы час рэдагаваў і выдаваў часопіс «Беларуская думка».

Выдаў зборнікі «За чужы грэх», «Агонь душы», а таксама Збор твораў у двух тамах (1981).

**16**

— **70** гадоў таму ў Полацку нарадзіўся **Лукша** Валянцін Антонавіч, беларускі паэт, публіцыст і драматург.

Пасля заканчэння сямігодкі вучыўся ў Полацкім лясным тэхнікуме (1952—56). Працаваў таксатарам Пензенскай аэрафотаўпарадчай экспедыцыі (1956—58). Быў інструктарам Полацкага гаркама ЛКСМБ, працаваў майстрам трэста № 16 «Нафтабуда». У 1961—73 — на журналісцкай рабоце (раённая газета, міжраённая, карэспандэнт Беларускага радыё, загадчык аддзела літаратуры і мастацтва «Чырвонай змены», адказны сакратар часопіса «На экранах Беларусі»). У 1976 годзе скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. З 1973 года старшы, з 1976-га галоўны рэдактар літаратурна-драматычных праграм Беларускага радыё. З 1980 года — дырэктар выдавецтва «Юнацтва».

Першы верш надрукаваў у 1956 годзе. Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў («Гарады нараджаюцца сёння», «Атава», «Споведзь», «Агонь і попел», «Сляды памяці», паэмы-хронікі «Белыя берагі»...) Выходзілі кніжкі для дзяцей («Аркестр», «Зялёная бальніца», «Лета круглы год», «Чароўны камень»...) Нямала выдаў і кніг публіцыстыкі («Наша полацкая прафесія», «Рамантыкі шасцідзесятых», «Полацк»). Многія яго вершы пакладзены кампазітарамі на музыку (І. Лучанком, У. Мулявіным, Э. Наско, К. Цесаковым, А. Чыркуном). Аўтар радыёп’ес, лібрэта оперы «Барвовы золак» (паводле «Палескай хронікі» І. Мележа). Аўтар інсцэніроўкі «Асоль» (па творах А. Грына). Выйшла кніга выбраных твораў у серыі «Беларуская паэзія XXI стагоддзя».

**18**

— **105** гадоў таму на хутары Падсосна на Шаркоўшчыне нарадзіўся **Машара** Міхась (Міхаіл Антонавіч), беларускі паэт, празаік, драматург і перакладчык.

У 1914 годзе скончыў Шкунцікаўскую народную школу і працаваў пісарчуком у канцылярыі Ігуменскай воласці. Пасля рэвалюцыі вучыўся ў адзінай працоўнай школе 2-й ступені ў Глыбокім, быў справаводам Германавіцкага валвыканкама (1918). Вясной 1920 года добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію, удзельнічаў у баях. Часць, у якой служыў, была інтэрніравана ў Германіі, і паэт 11 месяцаў адбыў у лагеры Зальцведаль у Саксоніі. Пасля падпісання Рыжскай мірнай дамовы быў перададзены Польшчы і праз некаторы час вярнуўся ў родную вёску Таболы. У 1923—25 гадах служыў у Польскай арміі. Пасля дэмабілізацыі прымаў актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху. У 1927 годзе рэдагаваў у Вільні прагрэсіўную газету «Наша воля». У 1928 годзе быў арыштаваны і чатыры гады адбываў пакаранне ў Лукішках. Пасля астрога зноў вярнуўся дахаты і перабіваўся часовымі заробкамі. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі кіраваў аддзелам народнай асветы ў Шаркоўшчынскім раёне. Быў выбраны дэпутатам народнага сходу ў Беластоку. У час вайны працаваў у газетах «Звязда», «Савецкая Беларусь», «Партызанскае сло-

ва», на радыё. Пасля вайны жыў у Мінску, працаваў у часопісе «Полымя» (1945—47), «Настаўніцкай газеце» (1947—49).

Першыя вершы надрукаваў у 1927 годзе. Першы зборнік «Малюнкі», перасланы праз сяброў з турмы, быў выдадзены ў 1928 годзе. Зборнік «З-пад стрэх саламяных» (1937) быў канфіскаваны польскімі ўладамі, а рукапіс зборніка «З ваколіц Сініх Балот» увогуле не быў надрукаваны. Агулам, патрыятычная лірыка ваеннага часу, якая склала зборнік «Беларусі», адносіцца да ліку лепшых творчых дасягненняў паэта. Пасля вайны выдаў шмат вершаваных кніг, у тым ліку двойчы Выбраныя творы. Многія яго вершы пакладзены на музыку кампазітарамі М. Аладавым, Ю. Семянякам, Д. Лукасам. Выступаў з творамі для дзяцей («Зязюльчыны слёзы», «Зелянушка і Кракатушка»). Пасля 60-х пісаў пераважна прозу, прынамсі тры раманы пра вызваленчы рух у Заходняй Беларусі («Крэсы змагаюцца», «Сонца за кратамі», «Лукішкі»). Перакладаў на беларускую мову творы П. Бажова, М. Гогаля, Г. Сянкевіча і іншых. Барэльеф М. Машары ў 1934 годзе зрабіў Я. Драздовіч.

Памёр у 1976 годзе.

**18**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Склімін Клімавіцкага раёна нарадзіўся **Кавалёў** Павел Нічыпаравіч, беларускі празаік, драматург, перакладчык.

Скончыў Мілаславіцкую сямігодку, а ў маі 1930 года педагагічныя курсы ў Магілёве. Працаваў настаўнікам і ў раённым друку. У 1936 годзе скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі. Працаваў у газеце «Звязда». Падчас вайны быў адказным сакратаром «Савецкай Беларусі» і загадваў ідэалогіяй партызанскага друку. У 1944 годзе быў памочнікам першага сакратара ЦК КП(б)Б. З 1946 года — адказны сакратар праўлення СП БССР. Быў галоўным рэдактарам часопісаў «Вожык» (1955—67) і «Полымя» (1967—72). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1978).

Першы верш надрукаваў у 1930 годзе. Да вайны выступаў пераважна з вершамі, артыкуламі і нарысамі. Пасля вайны пісаў прозу, блізкую да дакументалістыкі. Пісаў творы і для дзяцей. Найбольш адметныя яго рэчы — аповесці «Падзенне Хвядоса Струка», «Дзень першы, ноч апошняя», «Пакінь нас, трывога». Пісаў таксама гумар і сатыру.

Памёр у 1995 годзе.

**25**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Жылічы Кіраўскага раёна нарадзіўся **Замерфельд** Яўген Мацвеевіч, паэт, педагог і крытык.

Звестак пра яго засталося няшмат. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут (1939). Да вайны некалькі месяцаў бязвінна адседзеў у турме. Выкладаў у Барысаўскім педагагічным вучылішчы (1945—58) і ў сярэдніх школах Барысава (1958—74).

У друку пачаў выступаць з 1929 года з вершамі. Аўтар вершаў, апавяданняў, рэцэнзій і артыкулаў пра творчасць Якуба Коласа, А. Куляшова, Я. Маўра, Э. Самуйлёнка і іншых пісьменнікаў. Як пісаў у кароткай прадмоўцы да яго празаічных карацелек Я. Гаварушка: «Ён не стаў вядомым паэтам, мабыць, толькі таму, што педагагічная і літаратурная праца патрабавала поўнай аддачы сіл, а паэзіяй даводзілася займацца толькі ў вольны час». У аглядным артыкуле пра паэзію альманаха «Ударнік» П. Глебка, адзначыўшы глыбіню і апрацаванасць вершаў Я. Замерфельда, разам з тым і пакрытыкаваў яго за празмернае захапленне фармалістычным пошукам, адмоўна ацаніўшы гукапіс і алітэрацыі яго вершаў. Кніжак не выдаў.

Памёр у 1980 годзе і пахаваны ў Барысаве.

**26**

— **100** гадоў таму ў вёсцы Месціна Бярэзінскага раёна нарадзіўся **Скрыпка** Міхась (Міхаіл Аляксандравіч), беларускі паэт-сатырык, празаік і драматург.

З дзяцінства застаўся сіратой. Выхоўваў яго дзед. У 1926 годзе скончыў Багушэвіцкую сямігодку і Рагачоўскі педагагічны тэхнікум (1930). Працаваў на-

стаўнікам у школах на Рагачоўшчыне. Пасля працаваў на розных культурніцкіх пасадах у Сталінградзе і ў Асіповіцкім раёне. Завочна вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце (1937—41) У гады вайны быў на падпольнай партызанскай рабоце. Выходзячы з акружэння, патрапіў у палон і сядзеў у фашысцкім канцлагеры «Штатгарт», адкуль паспяхова ўцёк у 1944 годзе. Да канца вайны працаваў у органах СМЕРШ па рэпатрыяцыі савецкіх людзей і іншаземцаў, якіх вызваляла Савецкая Армія. У жніўні 1945 года ён прывёз у Асіповічы групу рэпатрыянтаў і сам застаўся тут, атрымаўшы прызначэнне на працу. Працаваў настаўнікам у многіх раёнах. У 1961—71 гадах быў намеснікам дырэктара бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.

Першыя вершы надрукаваў у 1927 годзе. Пісаў гумар і сатыру ў вершах і ў прозе, а таксама камедыі («Чорт памог», «Урач-гадалка»). Выдаў шмат зборнікаў («Мая хата не з краю», «Усяк бывае...», «Дзіва ў рэшаце», «Злазьце — прыехалі!», «Ад смеху не ўцячэш», «І з перцам і з сэрцам» і шмат іншых). Перакладаў на беларускую мову рускіх і ўкраінскіх паэтаў. Аўтар вершаваных подпісаў да шматлікіх сатырычных плакатаў.

Памёр у 1991 годзе і пахаваны ў Асіповічах.

**28**

— **60** гадоў таму ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна нарадзілася **Гарэлікава** Таццяна Іванаўна, беларуская пісьменніца.

Скончыла мясцовую сярэднюю школу ў 1964 годзе, пасля аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ (завочна, 1970). З 1968 года працавала ў школах бібліятэкарам, піянерважатай, арганізатарам выхаваўчай пазашкольнай работы ў Мінску. З 1979 года — намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі, а з 1980 года — сакратар Мінскага райкама КПБ. У 1983—85 гадах вучылася ў Мінскай вышэйшай партыйнай школе. З 1985 года — рэдактар аддзела прозы часопіса «Полымя».

Першае апавяданне надрукавала ў 1966 годзе. У 1978 годзе выйшла першая кніжка прозы «Дзе лес шуміць». Выходзілі і іншыя кнігі пісьменніцы, у тым ліку «Пры святле расстанняў» (1985).

**29**

— **60** гадоў таму ў вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна нарадзілася **Шах** Соф'я Мікалаеўна, беларуская паэтэса.

Дзяцінства і школьныя гады прайшлі ў гарадскім пасёлку Азарычы, дзе яна ў 1965 годзе скончыла сярэднюю школу. З 1965 года вучылася ў Мазырскім педагагічным інстытуце, пасля заканчэння якога выкладала ў школах Нараўлянскага і Калінкавіцкага раёнаў, а з 1977 года — у Азарыцкай школе-інтэрнаце. У 1977 годзе паступіла на завочнае навучанне на 3-ці курс дэфекталагічнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута, які скончыла ў 1980 годзе. У тым жа годзе пераехала на пастаяннае жыхарства ў Светлагорск, дзе працавала лагапедам у СШ № 6, а з 1983 года — у школе-інтэрнаце для дзяцей з замаруджаным псіхічным развіццём.

Дэбютавала з вершамі ў друку (на рускай мове) ў 1972 годзе ў Нараўлянскай раённай газеце. Пасля пачала пісаць па-беларуску. За гэты час выдала шмат паэтычных кніг. Першы зборнік «І не пакіне спадзяванне» пабачыў свет у 1989 годзе ў бібліятэчцы часопіса «Маладосць». Асаблівая заслуга С. Шах у развіцці і распрацоўцы санетнага жанру ў сучаснай беларускай паэзіі (за апошнія гады ёй напісаны тэматычныя цыклы і выдадзены каля дзесятка асобных зборнікаў вянкоў і вянкоў вянкоў санетаў).

*Аўтар рубрыкі Леанід ГАЛУБОВІЧ.*



## *ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!*

**Адкрыта падпіска на I паўгоддзе 2008 года.**

**індывідуальная льготная**
**для настаўнікаў (індэкс — 00471)**
**на 1 месяц — 4700 руб.**
**на 3 месяцы — 14 100 руб.**

**індывідуальная (індэкс — 74985)**
**на 1 месяц — 6600 руб.**
**на 3 месяцы — 19 800 руб.**

**ведамасная (індэкс — 749852)**
**на 1 месяц — 8800 руб.**
**на 3 месяцы — 26 400 руб.**

**ведамасная льготная (індэкс — 00727)**
**на 1 месяц — 7200 руб.**
**на 3 месяцы — 21 600 руб.**

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

***e-mail: polymya@bk.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-91.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *А. А. Губар*

Падпісана ў друк 30.10.07 г. Фармат 70 × 108 1/16. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 18,20. Ул.-выд. арк. 19,39. Тыраж 3430 экз. Зак. 2873.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 749852
льготны для ўстаноў Міністэрства культуры і
Міністэрства адукацыі — 00727
індывідуальны льготны для настаўнікаў — 00471

# Чытайце ў наступным нумары:

**Да 85-годдзя часопіса «Полымя»**
**«Часопіс «Полымя» — этапы творчага станаўлення»**
**«Круглы стол» сумесна з Інстытутам гісторыі і Інстытутам літаратуры НАН Беларусі**

**Тамара Кручэнка**
**Навум Гальпяровіч**
**Рагнед Малахоўскі**
Вершы

**Юры Станкевіч**
**Іван Капыловіч**
Апавяданні

**Тамара Аўсяннікава**
**«Я пісала табе пісьмо...»**
**Старонкі лёсу Яўгеніі Янішчыц**

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130-8068




